

Беларускі інстытут навукі і мастацтва



Міжнароднае грамадскае аб’яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету
“Бацькаўшчына”»

# МАКАР КРАЎЦОЎ (КАСЦЕВІЧ)

*Укладальнік*
*Лявон Юрэвіч*

Мінск, «Кнігазбор», 2021

УДК 78(476)(092)+929 Краўцоў
ББК 85.3(4Беи)
М15

Укладальнік
Лявон Юрэвіч

Навуковы рэдактар
Наталля Гардзіенка

Укладальнік выказвае падзяку
Міхасю Скоблу
за перададзеныя для выдання матэрыялы
з архіва даследчыцы Аляксандры Гесь

М15 **Макар Краўцоў (Касцевіч)** / уклад. Л. Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 216 с.
ISBN 978-985-7227-93-8.

Зборнік «Макар Краўцоў (Касцевіч)» — і першае кніжнае выданне выбраных твораў пісьменніка, і спроба першага аднаўлення яго біяграфіі. Аўтар слоў знакамітага «Ваяцкага маршу» («Мы выйдзем шчыльнымі радамі») да сёння застаецца асобай малавядомай не толькі шырокай публіцы, але і спецыялістам. Кніга адлюстроўвае разнастайную (паэтычную, літаратурна-крытычную, публіцыстычную, мемуарную) спадчыну Макара Краўцова (Касцевіча), а таксама распавядае пра пакручасты лёс творцы. У выданні выкарыстаны ўнікальныя архіўныя фотаздымкі.

**УДК 78(476)(092)+929 Краўцоў**
**ББК 85.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-93-8**



Пара нам зразумець, што сярод культурных народаў таленты растуць таму, што ведаюць цану ім гэтыя народы.

*Макар Краўцоў, 1934*

## Уступнае слова

*«Маладым і спадзеўным паэтам-лірыкам і публіцыстам»* назваў Макара Краўцова Максім Гарэцкі[1].

Не нашмат болей (але побач з якімі імёнамі!) гаворыцца пра яго і ў акадэмічнай гісторыі літаратуры: *«Акрамя прозы М. Гарэцкага, псіхалагізмам, чалавеказнаўчай скіраванасцю вылучаюцца апавяданні М. Краўцова "Маршлют", "Маскалёвы дзеці", у якіх па-мастацку даследуецца народны характар, у класічнай манеры распавядаецца пра народнае жыццё. Асобных адзнак свайго часу, заходнебеларускай рэчаіснасці ў іх пісьменнік не выяўляе. Ён паказвае вобразы, тыпы старой беларускай вёскі. […]*

*Крытыка ў Заходняй Беларусі 1920-х гадоў, першай іх паловы, была прадстаўлена даволі самавітымі імёнамі А. Луцкевіча, У. Самойлы, М. Косцевіча. Апошні свае літаратуразнаўчыя эцюды, крытычныя заметкі падпісваў псеўданімам "Светазар"»*[2].

Між тым нават толькі адным сваім творам Краўцоў заслужыўся на асобнае месца ў нашай літаратуры і гісторыі: *«Але пачатак "ваяцкай паэзіі" паклалі ня гэтыя вэтэраны "нашаніўскага адраджэньня", а тады яшчэ малады іхны пасьлядовец, Краўцоў Макар (Макар Косьцевіч), што пачаў друкаваць свае вершы ўсяго ад 1918 году. У тэй самай газэце "Беларусь", дзе зьявіўся й першы Жылкаў верш, але куды раней, бо яшчэ ў 1919 г. (№ 9) быў надрукаваны першы твор "ваяцкае паэзіі" — ведамы "Ваяцкі гімн" Краўцова Макара (пачатак — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"), тэкст якога (з музыкаю Ў. Тэраўскага) цяперака спраўляе ролю нашага нацыянальнага гімну»*[3].

---

[1] Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускае літэратуры. Вільня, 1921. С. 202.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 2. 1921–1941. Мінск, 1999. С. 223–224, 228.

[3] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 404–405.



Антон Адамовіч пісаў пра гэты гімн як пра верш *«моцны і ўпэўнены, запраўды баёвы й ваяўнічы»*, *«зырка нацыянальны ў зьмесьце»*, *«у якім упяршыню ў ваджэнскай лірыцы гэтак магутна прагучэў матыў нацыянальнае гордасьці ды ўпяршыню-ж высака ўзьняты быў нацыянальны сьцяг — "штандар наш бел-чырвона-белы", а таксама ясна азначаная канцавая мэта нацыянальна-рэвалюцыйнага руху — "нараджэньне жыцьця Рэспублікі свае"»*[4].

Меў рацыю Віктар Войтанка-Васілеўскі, напісаўшы да Вітаўта Тумаша: *«Заслужаным даюць мэдалі, ставяць помнікі. Сваім волатам наш Народ і Краіна пакульшто давала шыбеніцы на Лукішках, катаргу ў Сібіры»*[5].

Пісьменнік Макар Краўцоў гэтак і не дачакаўся зборніка хоць бы сваёй паэзіі. Сябра Рады БНР Макар Касцевіч, як і Тамаш Грыб, і Уладзімір Самойла, застаўся нават без уласнай магілы, не тое што помніка.

Але верым: кніжачка, якую трымае ў руках чытач, толькі першая з будучага шэрагу выданняў аўтара гімна Беларускай Народнай Рэспублікі, як і кніг пра яго.

*Лявон ЮРЭВІЧ*

---

[4] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. С. 405.

[5] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах. Мінск: Кнігазбор, 2017. С. 117.

*Раздзел I*

# ЁН

## ВЕРШЫ

### Раманс[6]

Ціха спаў стары лес недалёчка,
На балоце кулік чыркацеў,
Той вясны была цёмная ночка,
Што не вернецца зноў, каб хацеў.

Хутка недзе схавалася вёска,
Ўсё гусцела й гусцела імгла;
Твая мілая доўгая коска
Чорнай стужкай на плечы лягла.

Яшчэ зоркамі вочкі свяцілі.
Шчасце-моладасць грэла душу…
Тыя думкі, што нас засмуцілі,
Я дагэтуль, як шчасце, нашу.

«Нас нядоля ліхая злучыла
І ў наплыве сляпога чуцця
Ўсю атруту пазнаць навучыла»…
Дый заплакала ты, як дзіця.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

[6] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Беларускае жыцьцё. Менск, 29 лютага 1920, а таксама ў: Рунь. № 9–10. Менск, 4 ліпеня 1920. С. 9.



Было жудасна нам сярод ночы,
Лёд нядолі застыў каля нас.
Ты, як ангел, мне глянула ў вочы
І пачула: «Расстацца нам час»…

*1918, Менск*



✦ *Макар Краўцоў*

### Паварот да Горадна[7]

Ізноў я тут. Цябе вітаю,
Мой родны Горадзен стары!
Ізноў па вуліцах лятаю
Да самай позьняе пары.

Зь цябе нацешыцца няможна
Пасьля разлукі ў тры гады!
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі, сады.

Хрыбты мастоў пераламаных.
Ахвяры скончанай вайны,
Шкада мне вас, параскіданых,
Ўдалыя Нёмнавы сыны!

І ты — нямога пасяджэньня
Магутны замак — як жывеш?
Праб'е часіна адраджэньня —
Ізноў ты, мілы, загудзеш!

А ты… ты — Нёман бела-сіні…
Ой, як харошы, дарагі!
Старыя хвоі, як багіні,
Тваё бароняць берагі.

[7] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Звон. Менск, 19 кастрычніка 1919.

Цяпер нядоляй пілігрыма
Сюды загнаны незнарок,
Твой быстры бег лаўлю вачыма,
Гляджу і ўдоўж, і ўпапярок.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вітай жа, Горадзен, дзяціну
Тваіх муроў, твае ральлі,
Хоць ты прытулішчам будзь сыну —
Выгнанцу роднае зямлі!

## Ваяцкі гымн[8]

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой простор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

[8] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Беларусь. Менск, 30 кастрычніка 1919.



Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй!

*1919*

## На чужыне[9]

Нічога роднага… Чужое ўсё вакол…
Муры высокія, а ў іх чужыя людзі.
О, як жадаў-бы я ўзьняцца, як сакол,
Каб паляцець туды, дзе радасьней мо' будзе.

Дзе ўдасца, можа, мне нанова засьпяваць,
І струны лірныя крануць ізноў рукою,
І духу творчасьці бязь меры набываць,
Ад працы цяжкае ня ведаці спакою.

Дык да цябе, мой мілы, родны краю,
Імкне душа мая і рвецца ў вышыню,
Бо на чужыне, тут я ціха паміраю
Дый не жыву, а сплю і волю тваю сьню.

*Лодзь, 14.1.1921*

## Братом[10]

Праклёнства нейкага пячатка на Народзе,
Што засяліў абшар ад Нёмна за Дняпро
І кожныя сто год апошняе дабро
Губляе ў полымі вайны, ды годзе.

[9] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Наша Думка. № 7. Вільня, 18 лютага 1921. С. 4.
[10] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Наша Думка. № 24. Вільня, 17 чырвеня 1921. С. 3.

У згодзе хоча жыць з суседзямі, а тыя
З Усходу, з Захаду руйнуюць быт Яго,
Ў палон забраўшы, лічаць за «свайго»,
Забыўшы ўсе правы яго сьвятыя.

Ці-ж Ён такі, як вы, браточкі-ненажоры?
Ці мову вашу ён, ці звычаі пабраў?
Мо' не сваю зямлю Ён, скажаце, згараў,
Чужыя мо' калі таптаў разоры?

Славянскае братэрства нібыто нясеце
З Масквы або з Варшавы вы да нас;
Але-ж падумайце цьвяроза кожны з вас —
Ці не зашмат вы толькі нам даеце?

Маскаль, паляк пазнаў ужо, здаецца,
Як часам лёгка рвуцца рабства ланцугі…
Ці-ж Беларускі Люд такі ужо благі,
Што Волі Сам, бяз вас, Ён не даб'ецца?

Паверце, брацьця, шчодрыя на падарункі!
Навек рабамі стаць ня згодзімся і мы, —
Да вольнай працы выйшаўшы з турмы,
Па-людзку вашы «брацкія» аплоцім рахункі.

Бо працу любім мы і ўмеем мусі жыці,
Калі дасюль яшчэ ня ўмёрлі, бедакі,
Бо ліцавалі-ж нас на розныя бакі
І не самім сабе вучылі нас служыці.

Цяпер мы ведаем: Зямля нам Беларуска — маці!
Яе палон, разьдзел — часовая бяда,
Бо Беларуская мільённа грамада
Калі-нібудзь патрапіць-жа сказаці:

«Ва ўласнай хаце спалі мы адвеку;
Нас нежывымі ўжо лічылі мусі ўсе,
Бо хто хацеў толькі, то лазіў па страсе,
Пакуль пачуў: «Зямлі, свабоды трэба чалавеку»…



І мы Народ жывы — ня раб, а Гаспадар!
І роўнай зь іншымі заслужываем долі!
Мы трупамі усьцелем цяжкі шлях да Волі!
Хай соты можа з нас, а ўбачыць Яе твар!»

## Сьмейся, браце![11]

Сьмейся, браце беларусе,
Сум далоў гані!
Не кажы: «Я ўсіх баюся»…
Вечна не стагні.
Не паможа бядзе гора,
Ліха не памрэ.
Годзе зь сьлёз рабіці мора,
Засьмяяцца трэ'.
Каб разьвеяць непагоду
Нашага жыцьця,
Каб у рогаце свабоду
Нам пачуць хацяі!
Бо сьмяяцца толькі й можа
У сьвеце чалавек.
А ці-ж наш народ прыгожы
Зложаны з калек?
Не! Мы людзі, браце мілы,
Людзі, як і ўсе,
Тыя, хто нас часам сілай
Цісьне і трасе.
Не дарма-ж і мы гаруем —

[11] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Маланка. № 5. Вільня, 1 сакавіка 1926 г. С. 1. У «Маланцы» № 6 ад 2 сакавіка 1926 г. паведамлялася: *«Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню № 5 «Маланкі» ад 1 сакавіка с. г. сконфіскаваны за 1. Рысунак Ю. Ш. і надпіс на ім, зьмешчаны на першай старонцы; 2. Верш: «Рады-бы ў рай, ды грахі не пускаюць», сатыра Я. М.; 3. «Сьмейся, браце!» лірычны верш Краўцова Макара; 4. Верш пад рысункам: «З badaньня», сатыра Я. М.».*

Лепшы лёс куём,
Ліха сьмехам зачаруем,
Песьняю даб'ём.
І народзіцца вось доля
Лепшая для нас.
Прыйдзе весялосьць і Воля
У недалёкі час.
І пад новых песьняў гукі,
Крышачку пазьней,
Засьмяюцца дзеці, ўнукі
Нашыя вальней.

## Сьпявай![12]

Сьпявай, гаротны беларусе,
Паплакаў годзе ты!
Такой, як мы, працоўнай — мусі
Ня зьлічыш галаты.
Раней ня значыў ты нічога,
Запомніў сам сябе —
І шмат так часу дарагога
Ня сьніў аб барацьбе.
Аж вось загуў грымот аб Волі:
«Народы, хто жывы!
Падбайце самі ўжо аб долі
Сваёй уласнай вы!»
І ты, плячыма варухнуўшы,
З вачэй заслону зьдзёр
Ды, імя ўласнае пачуўшы,
Пячатку рабства сьцёр,
Што на табе была вякамі
Атрутай на душы…

[12] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Маланка. № 7. Вільня, 15 сакавіка 1926. С. 4.



Хоць сёньня дружнымі рукамі
Свой лёс паварушы!
Пад моц надзеі уваскросшай
Былому кінь: «Бывай!»
Пад гук дуды сваёй заглохшай
Нанова засьпявай!
І гумар пращчураў свабодна
Маланкай распалі,
Каб красавала мова родна
На беразе Вяльлі.
А там папрэцца год за годам
Твой новы быт у высь,
Пачнуць і нас лічыць народам,
Як мусілі калісь…

## Мімалётнае[13]

Вось не'к — няўцям — ачараваў
Мяне твайго пагляду жар,
І Твайго цела знойны пах,
І грэх, што сьпіць у Тваіх вуснах.
І стан Твой спадабаўся гібкі,
І ход Твой — лёгкі, вабны, зыбкі,
Вагульлі цэльны Твой сыльвэт
Прыгожы, стройны, як сонэт…
Але боль сэрца разьдзірае,
Бо розум ясна уяўляе,
Што, аднак, Ты — мая краса,
Не для мяне і не мая!..
Я ведаю ўжо заранье,
Што мімалётнае спатканьне
Не патрывае на'т і дней,

[13] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Сялянская Ніва. № 23. Вільня, 31 ліпеня 1926. С. 1.

Ці праляціць яно хутчэй,
Чым бліскавак у ночы зяньня,
Чым дня вясеньняга зьмярканьне.
І вось ціхонька, неўзначай,
Надыдзе сумнае: бывай!
А мо’ на’т і яго ня будзе
Ў жыцьця бурлівым перагудзе…
Як два лісточкі у разводзьдзе
Нурт разганяе у прыродзе,
Так Лёс праклёны ў бегу дней
Раскіне нас штораз далей…
І вось пяройдзе дзён нямнога,
Забудзем мы адзін аднога
І наша шчыра пачуцьцё
Праглыне вечнасьць… забыцьцё…
Рад доўгі шэрых, нудных дней,
Асоб рад новых і падзей
Заб’е ў душы ўспамін спатканьня
І нечаканага каханьня…
Аж-но урэшце ў бегу дзён
Дзесь загудзіць хаўтурны звон…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Патонем мы ў бяздоньнях Леты…
Так дзьве сыгнальныя ракеты,
Спаткаўшысь, неба ўздоўж пратнуць
І у бязьмежжы патануць!..

## Туга[14]

Ах, колькі-ж я бы даць гатоў
За то, каб не’к пабачыць йзноў
Край дзіцячых маіх гадоў.

[14] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Сялянская Ніва. № 31. Вільня, 30 верасьня 1926. С. 1.



Дзе ўсё было так проста, стройна,
Прытульна, гожа і прыстойна,
Вясёлкава і супакойна…

Ня так пабожны пілігрым
Імкнецца ў Мэкку або Рым,
Як я ў тэй кут, ў краю глухім,

Дзе разляглісь кругом вазёры,
Агромныя, бы тыя моры,
І сумныя, глухія боры…

Зь якім балючым пачуцьцём
Я аглядаў-бы стары дом,
Дзе жыў калісь я дзіцянём.

Ў ім кожны кут і кожны клін
Будзілі-б у душы ўспамін
Былых бясклопатных гадзін.

Зь сьлязьмі прыпаўшы да зямлі,
Я-б ўспомніў тых, што тут жылі
І ўжо на вечнасьць адышлі…

Рэчы вялікія калісь
Цяпер малымі-бы здалісь,
А шмат зь іх пэўне ўжо зьвялісь…

Дык як-бы з сумам спазіраў
На розных перамен навал,
Якія час там паствараў.

Сярод чужых і сам чужы,
Хадзіў-бы я нямы, глухі
Па майго шчасьця цьвінтары.

Зь вялікім стогнам і жальбою,
З палючай, горкаю сьлязою,
Успамінаючы былое…

Але здарма мая туга!
Прад краем, дзе радзіўся я,
Узрасла гранічная мяжа…

## Майму Сінэдрыёну[15]

Я знаю все свои пороки,
Не нужны мне, поверь, уроки
Твоей учености сухой…
*А. Пушкін*

Ой, дзеячы! ой, галубочкі!
Багаты-ж вамі родны край.
Вы спрытна верыце, браточкі:
Той — у Кастрычнік, гэты — у Май.
У мне ўжо добрага нічога
Гатоў ня бачыць дзе-хто з вас,
Альбо вось гэтулькі благога,
Што й не падлічыце зараз.
Вучоны з доўбняю на плечах,
Заместа людзкай галавы,
Мне даць рыхтуецца па нечым
І грозіць гіканьнем савы.
Цыган з шулерскае газэты
Пляце, што хоча, так і сяк;
І ён прэ ў нашыя поэты,
Хоць безнадзейна, — небарак.
А колькі бабскага пляткарства
Прайшло… прайдзе… нашто лічыць?
Сабе шукайце вы лякарства,

[15] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Беларускі Дзень. № 11. Вільня, 15 траўня 1927. С. 3. Сінедрыён — найвышэйшая калегіяльная ўстанова з палітычнымі і судовымі функцыямі ў Іерусаліме (Старажытная Іўдзея).



Сябе сьпяшайцеся лячыць.
Народнай справы вы факіры,
Пустой палітыкі майстры!
Вам не разьбіць чароўнай ліры.
Душы ня выняць без пары!
Пакіньце мне спакой бяз славы,
Яе ад вас я не хачу —
Пішу сабе дзеля забавы,
За плёткі жартам заплачу.
Бо тым душа мая й багата,
Што ў сэрцы ёсьць шчасьлівы лёс:
Дзень Дабравешчаньня — мне сьвята,
Народ Расьпяты — мой Хрыстос!

## У вастрозе[16]

Вее холад ад парога,
Дзень за днём бяжыць.
Зьнікла ўсякая трывога
І ў душы няма ўжо Бога —
Неахвота жыць.
І нашто, каму ўсё гэта?
Я-ж не ліхадзей —
Душа вольная паэта
Была думкаю сагрэта:
Вызваліць людзей.
Людзі-ж цешацца на волі:
«Во, папаўся ён!»
Не палохае ніколі
Іх нішто так мусі болей,
Як лад новых дзён.

[16] Верш быў упершыню апублікаваны ў: Беларускі Дэкляматар. Сабраў С. С. Вільня: Выдавецтва У. Знамяроўскага, 1928. С. 25.

# ПРОЗА

## Голад[17]

Голад — неадхільны мой кампан, мой прыяцель стары! Ты моцна ўчапіўся за дружбу нашу і ня хочаш пашукаць сабе каго-небудзь іншага, — ня йначай я вельмі спадабаўся табе, пакорна нясучы тваю страшэнную апеку, твой цяперашні і даўнейшы зьдзек над усім маім жыцьцём. Ці-ж не пара ўжо табе адысьці ад мяне? Я аддам табе ўсю крыўду сваю. Няхай будзе яна табе жонкаю. Не вяжы мяне, я вольным радзіўся, я люблю волю і ёй ахвярую ўсю моц, я пачну біцца з табою не на жыцьцё, а на сьмерць, каб скінуць тваю апеку так лішнюю, так непатрэбную мне.

Ах! Які ты ліпкі, як цісьнеш грудзі мне, як сушыш мае вусны, — хіба задушыць мяне хочаш, каб я больш ня жыў. Ой, як ты абрыд мне, як даўно я цярплю непатрэбную знаёмасьць з табою. Яшчэ малюсенькім, як чарвяк, лежучы ў калысцы на полі, дзе матка мая гадавала мяне, жнучы разам з тым сьпелае жыта, каб абараніцца ад цябе, каб ня ўлез ты зімою ў бедную хату нашую, — яшчэ тады, у першыя гады жыцьця майго, я енчыў ад страху, як зьвісала нада мною худая рука твая. Матка была занятая гарачаю жнейскаю работаю, яна ня мела часу сядзець каля калыскі мае, ня мела часу штомінуты праганяць цябе ад мяне. А ты, як шалёны, маніўся выцягнуць дзіцячую душу маю з маленькага, нядужага цела. Я енчыўся — ты ўсьміхаўся, нібы дурны. Падрос я, пастушком стаў, вясельшым, дужэйшым, а ўсё-ж трэ' было ад цябе бараніцца ўсё лета, пасучы скаціну. Мусіў насіць я торбачку з хлебам, з кавалкам сыру або саланіны ці чарачкай масла, каб не баяцца цябе. А ты сачыў мяне, як воўк авечку, і калі-нікалі паказваўся на мае вочы. А як прыходзіла зіма ды аддавалі мяне ў школу да чужое вёскі, у цесную, як склеп, хатку беднае ўдавы-п'яніцы на кватэру, — тады ты цешыўся, хапляючы мяне.

Навука лезла ў галаву маю, яна і так сушыла мазгі мае; любіў я кніжкі і так чытаў іх, што запамінаў ня раз аб ядзе. А яда мая была простая — бульба салёная ды кавалак чорнага жытняга хлеба. Яны памагалі мне прагнаць цябе. А як пушчалі мяне да хаты на сьвята, хапляў я саначкі з малодшым братам ды каталіся мы зь ім па вуліцы, або з прыгорка на выган, з раньня аж да вечара, запамінаючы, што даўно ўсе папалуднавалі. Ты быў рады, але ж мы ішлі ў хату і добрая мама нашая, пасварыўшыся крыху, карміла нас, і мы цябе не баяліся. А калі пажар зьеў усё дабро бацькоў маіх, ты думаў замарыць усю сям'ю нашую, але добрыя людзі выратавалі нас сваёю дапамогаю і ахвярамі. Вырас я і ў горадзе службу знайшоў. Думаў: вось калі адкараскаюсь ад цябе. Але ж не! Ты пасьмейваўся, як я мусіў жыць у цёмнай бакоўцы ўбогае кватэры стоража. Ты пачаў тут да мяне лашчыцца і так і гэтак падманваў маладую душу, каб я патраціў невялічкія грошы свае на цацкі. І я тады слухаў цябе — купляў сабе гармонік або аддаваў капейкі на тое, каб увайсьці ў садок мястовы, дзе блішчэлі электрычныя агні ўсялякіх колераў, усіх гатункаў, іграла музыка, паліліся і стралялі ракеты, уздымаючы ў вышыню, грукаталі фэерверкі, падымаючы ўгару мільёны рознакаляровых іскраў — і ты на бляск гэты падманваў мяне, вырываючы з рук маіх непрачытаную кнігу, недапісаныя думкі, няскончаны верш, неразлучную ліру. А потым, як ашукаеш, ты зноў рагатаў, пазіраючы, як сьціскаліся зубы мае, жадаючы грызьці.

Адзін раз ты моцна ўшчаміў мяне, і я гатоў быў пятлю накінуць на шыю сабе, абы не пакарыцца табе. Выратаваў мяне бедны добры жыд, пазычыўшы на павер цукру і абаранкаў, што меліся ў яго невялічкай крамцы. І ўсюды, куды б ні ступіў я, ты, як зьвер, без устыду пільнуеш

[17] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Вольная Беларусь. №18. Менск, 1918.

кожны крок мой. Праз маленькі кавалак часу, у каторы я меў шчасьце бадай што саўсім забыцца аб табе, забралі мяне на вайну. Во калі ты абрадаваўся, пачуўшы сьвята сваё! Але-ж ня буду гаварыць аб горы маім: я быў там не адзін пад гразою касьцістае маўчалівае сьмерці.

Прайшоў і гэты час. Я думаў спакойна адпачыць ад пякельных жахаў вайны і ў ціхай вёсцы знайсьці сваю долю, крыху шчасьця. Ты прышпіліў мяне да галоднага шумлівага гораду, дзе пануе, як дэспот, як царыца далёкіх мінулых сталецьцяў, твая маладая сястра — шалёная дарагоўся. Ні да чаго яна нават дступіцца не дае. Яна рада, што вакол нас яшчэ гудзе старая-старая прыяцелька твая — дзікая бязьлітасная вайна.

Ах, мілы стары кампан мой, неадступны мой дзядзька сівы, неахайны голад! Паглядзі, я ўжо не злую на цябе, а спадзяюся, што даволі табе цяпер прыяцеляў і безь мяне. Глянь, навокал жывуць твае пакорныя рабы, над усімі ты пануеш цяпер, і маё гора мо' й ня горшае, як іх гора. Над горадам распрасьцёрла анёльскія крыдлі свае жыватворная вясна. Залатое сонейка разьлівае па зямлі чароўны сьвет свой і цяпло. Выскачыўшы зь зямлі, вітае іх мілая зялёная травіца. Уся прырода сьпявае вакол гымн наступаючаму маю, радзіцелю расьцьвіўшага жыцьця.

Я хачу ўстрывожыць маўчалівыя струны разьбітае скрыпкі мае. Голад, даўнейшы прыяцель мой, я ненавідзеў цябе столькі гадоў! Не шанаваў нават сівую старасьць тваю. Дык паслухай-жа ты малебную музыку маю. У ёй скарга і просьба, у ёй жаль і надзея, у ёй вечная думка мая зазьвініць і прошласьць прачнецца і таемнасьць невядомай туманнай будучыны выплывае, як месяц, каб асьвятліць безнадзейную душу маю і да шчасьця дарогу прабіць. Не, сьмяешся ты, як і даўней: не цікавіць цябе песьня мая. Не трывожыць цябе пякельны боль мой. Ты глухі да ўсяго, што дзеецца ў душы маёй. Нядобры ты!

Вунь босая жонка мая жаласьліва паглядае на мяне. Нашто ты мучыш яе маладое сэрца? Нашто зацямняеш яе шчырае да мяне каханьне? Чаго сьмяешся ты над доляй нашай? Сьцеражыся! Абое мы маладыя, дужыя — мы не паддамося табе, мы ваяваць можам з табою. Праклятый! Пакінь цесны, як норка, пакоік наш. Ідзі сабе ў багатыя хаты! Там ня знаюць цябе. Ёсьць сытыя, ня думаючыя аб няшчасьці і горы другіх. Іх поўныя жываты на сон іх маняць, каб жыцьцё іх ляцела лягчэй, лагодней. Бязьлітасны голад, чаму ты ня там?..

# КРЫТЫКА

## Алесь Гарун[18]


✦ *Алесь Гарун*

Алесь Гарун (праўдзівае імя Аляксандар Прушынскі) радзіўся ў 1890 г. у беднай сялянскай сям'і Навагрудзкага павету Меншчыны.

Празь няхват у бацькоў патрэбных коштаў Прушынскі ня мог атрымаць больш-менш высокай сыстэматычнай адукацыі і свае агульна-прасьветныя пазнаньні здабываў сам празь сябе на працягу свайго гаротнага і нядоўгага жыцьця.

З малых дзён сваіх мусіў ён пазнаць цяжкую працу дзеля кавалка хлебу і займаўся сталяркаю, якую любіў аж да апошніх дзён і адводзіў ёй свае рэдкія вольныя гадзіны. Аднак цяжкая сталярка ня здолела забіць паэтыцкі талент маладой душы, творчасьць якой раскошна расьцьвіла пад халодным небам Сыбіру ў Якутчыне, куды трапіў паэт выгнанцам.

---

[18] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Наша Думка. № 15. Вільня, 15 красавіка 1921. С. 2–3.

За належнасьць у часе рэвалюцыйнага расейскага руху 1905–1906 гг. да расейскае партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў максімалістаў[19] Прушынскі быў высланы ў Якуцкую вобласьць, дзе прабыў 9 гадоў на залатаносных прыісках на рэчцы Віціме[20].

Дзякуючы рэвалюцыі ў Расеі ў 1917 г. Прушынскі як палітычны выгнанец, скарыстаўшы з амністыі, вярнуўся ў канцы гэтага-ж году на Бацькаўшчыну і пасяліўся ў Менску, дзе задаўся мэтаю прывясьці ў парадак заняпаўшую «Беларускую Кнігарню», якую ён перавёў на сваю ўласнасьць, улажыўшы ў яе тыя невялічкія грошы, што зарабіў у Сыбіру.

У канцы 1918 году, забраўшы Менск пасьля немцаў, бальшавікі знацыяналізавалі кнігарню, і паэту прыйшлося жыць то службаю, то крыху сталяркаю.

Па выгнаньні бальшавікоў зь Менску палякамі ў канцы лета 1919 г. Прушынскі быў выбраны старшынёю «Часовага Нацыянальнага Камітэту»[21], які дэлегаваў яго ў сябры заснаванай палякамі «Беларускай Вайсковай Камісіі»[22], выбраўшай Прушынскага за свайго старшыню.

---

[19] **Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР)** — палітычная партыя, створаная ў Расіі ў канцы 1901 — пачатку 1902 гг. Яе ўдзельнікі ставілі за мэту экспрапрыяцыю капіталістычнай уласнасці, рэарганізацыю вытворчасці і ўсяго грамадскага ладу на сацыялістычных прынцыпах. У 1906 г. з ПСР вылучыўся **Саюз сацыялістаў-рэвалюцыянераў-максімалістаў**, якія выступалі за рэалізацыю ў часе расійскай рэвалюцыі праграмы-максімум: сацыялізацыю зямлі, фабрык і заводаў, стварэнне «Працоўнай Рэспублікі».

[20] **Віцім** — рака ва Усходняй Сібіры, правы прыток Лены.

[21] **Часовы беларускі нацыянальны камітэт** — грамадска-палітычная арганізацыя, каардынацыйны орган беларускага нацыянальнага руху ў часе польска-савецкай вайны 1919–1920 гг. на тэрыторыі, падкантрольнай польскім вайсковым фармаванням. Створаны 10 жніўня 1919 г. у Менску.

[22] **Беларуская вайсковая камісія** — орган па фармаванні беларускіх частак у польскім войску, які існаваў у 1919–1921 гг.



Хранічна хворы на сухоты, якія яму дала ссылка, Прушынскі ня мог актыўна іграць сваю новую цяжкую ролю на становішчы старшыні Вайсковай Камісіі дзеля таго, што якраз пад гэты час хвароба яго давала сябе адчуваць незвычайна моцна.

Першую палову лета 1920 г. Алесь Гарун спакойна правёў у вельмі прыгожай дачы І. Т. Вярнікоўскага[23] — Курашоўшчыне[24] (2 вярсты ад Менску на рэчцы Лашанцы). Слабое здароўе Прушынскага тут моцна папраўлілася.

9 ліпеня 1920 г. Прушынскі мусіў пакінуць Менск, уцякаючы ад бальшавікоў праз тое, што ён быў старшынёю Вайсковай Камісіі, і гэтая эвакуацыя была яго апошнім, нявольным выездам з Бацькаўшчыны, аб якой ён маліўся на чужыне яшчэ ў Сыбіры. Зьвяртаючыся да Неба, ён казаў:

*Дай мне зрабіцца крынічкаю лясною,*
*Бераг вадой абнімаць, цалаваць…*
*Дай мне век цэлы дружыці з табою,*
*Кветкі і зоры ў сабе адбіваць.*

Пры эвакуацыі зь Менску па дарозе (у Ваўкавыск) Прушынскі захварэў крываўкаю (дэзынтэрыяй) і, выехаўшы з палявым шпіталем у Кракаў, там памёр, маючы толькі 30 гадоў.

Гэтак выглядае ў кароткіх рысах прабег нядоўгага, гаротнага жыцьця паэта.

---

Утворана ў Вільні Цэнтральнай беларускай радай Віленшчыны і Гарадзеншчыны 2 жніўня 1919 г. паводле дамоўленасці з Начальнікам Польскай дзяржавы Юзафам Пілсудскім.

[23] Відаць, маецца на ўвазе **Тодар Вернікоўскі** (1861–1938), грамадска-палітычны і праваслаўны дзеяч. Браў удзел у дзейнасці ўрада БНР і іншых кіраўнічых беларускіх нацыянальных арганізацый у 1918–1921 гг.

[24] Маецца на ўвазе **Курасоўшчына** — колішняя вёска на правым беразе ракі Лошыца, ад 1965 г. у складзе Мінска.

Не зазнаў ён асабістых, чалавечных радасьцяў, апрача тае невымоўнае радасьці творчага натхненьня, якая вельмі часта ахапляла яго душу.

Апрача работы літэрацкай Прушынскі ня раз выступаў на палітычным беларускім полі, маючы дужыя аратарскія здольнасьці. З Сыбіру ён вярнуўся ў часе магутнага палітычна-нацыянальнага руху, цэнтрам якога быў Менск. Дэлегаваны «Беларускай Соцыялістычнай Грамадой»[25] на Ўсебеларускі Кангрэс 1917 году[26], Прушынскі выступіў перад тысячнай аўдыторыяй зь вялікай прамовай і з энтузіязмам быў вітаны шэраю масай дэпутатаў са ўсей Беларусі. Апрача простага, усім зразумелага складу свайго прамова Прушынскага выдзелілася сваёю праграмнасьцю.

Рашуча заклікаючы да абароны вольнасьці Бацькаўшчыны, Прушынскі ясна заявіў аб патрэбе нацыянальнай аўтаноміі ўсіх народаў Беларусі.

Па расколе Кангрэсу Алесь Гарун прылучыўся да левай часткі яго, але актыўнасьці там не выяўляў. Аднак адным аўтарытэтам сваім памог зьяднаньню Кангрэсу і недапушчэньню да кампрамісу з Камісарамі *«Северо-Западной области и фронта»*.

Усебеларускім Зьездам Прушынскі быў выбраны ў Раду Зьезду, якая сваім чынам выбрала яго сябрам «Выканаўчага Камітэту», дзе ён намячаўся сябрам Беларускага Ўраду як Народны Сакратар працы. Але галоўная ўвага Прушынскага была зьвернена на ўпарадкаваньне свае кнігарні.

[25] **Беларуская сацыялістычная грамада** — нацыянальная партыя левper радыкальнага кірунку. Утворана зімой 1902–1903 гг. пад назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада. У 1918 г. раскалолася на Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю і Беларускую партыю сацыялістаў-федэралістаў.

[26] **Першы Усебеларускі З’езд (Кангрэс)** адбываўся 5–17 снежня 1917 г., быў скліканы Вялікай Беларускай Радай. На З’ездзе было зарэгістравана 1872 дэлегаты (1167 — правамоцных, 705 — з правам дарадчага голасу) з розных кутоў Беларусі і сацыяльных груп.



У часе акупацыі Менску немцамі (1918 г.) Прушынскі рэдагаваў першую штодзённую беларускую газэту «Беларускі Шлях»[27].

Палітычная работа, вымагаючая вялікай нэрвовай натугі, моцна падрывала слабыя сілы Прушынскага, і яго поле палітычнай чыннасьці не было вельмі шырокім, яно не давала яму маральнага задавальненьня, і яго паэтычная натура адпачывала душою заўсёды толькі ў гадзіны натхненьня, аб чым сьведчыць яго размова са сваімі думкамі ў вершы «Думкі-дыямэнты»:

*Думкі — дыямэнты, краскі жыцьця,*
*Песьні — вас гэтак люблю,*
*З вамі салодкіх гадзін забыцьця*
*Часам і я пазнаю.*
*Жыцьце-няволя ў чужой старане,*
*Працы надмернай яром*
*Зараз зьнікаюць, бы ў госьці ка мне*
*Вы паказаліся ў дом.*
*Слухайце ж, думкі:*
*Як прыйдзе мой скон,*
*Ў хатку зьляціце ка мне,*
*Хай перадсьмертны уцішыцца стон,*
*Сэрца на момант спачне.*
*Хай засьпяваю, як лебедзь, калі*
*Прыйдзе гадзіна яму,*
*Ўзьнёсшыся ў неба ад маці-зямлі,*
*Рыне ў адвечную цьму;*
*Хай засьпяваю аб сьне залатым*
*Веку людскога радства,*
*Роўнасьці, вольнасьці, брацтва — аб тым*
*Веку красы хараства.*
*Можа, пачуўшы прадзгонны мой сьпеў,*
*Сьціхла б на сьвеце вайна…*

[27] **«Беларускі Шлях»** — штодзённая грамадска-палітычная газета на беларускай мове, якая выдавалася ў Менску ад 8 сакавіка да 23 жніўня 1918 г.

*З радасным духам бы я паляцеў*
*У царства каханьня, відна.*

Ужо «Наша Ніва»[28], першая сучасная нам беларуская часопісь, што пачала выходзіць дзякуючы вызваленчаму руху 1905–1906 гг., была аздоблена вершамі Алеся Гаруна.

У 1918 г. выйшаў з друку зборнік яго вершаў «Матчын Дар». На жаль, гэтага зборніка мы пад рукамі ня маем і змушаны карыстацца тымі невялікімі кавалкамі творчасьці А[леся] Гаруна, што маем у сваім распараджэньні і якія далёка ня могуць даць шырокай магчымасьці ілюстраваць яго талент як належала-б.

У творах сваіх А[лесь] Гарун выразна малюе клясавае палажэньне роднага народу-селяніна, будзіць яго, кліча да адкрытай барацьбы, да выступленьня ўсёю грамадой на бой зь нядоляю.

У вершы «Ты мой брат» паэт навучае народ любіць свой найдаражэйшы скарб — сваю мову, якая адна толькі яшчэ й засталася ў народу неадабранаю.

У тоне гэтага вершу А[лесь] Гарун выказвае шмат агульнага з паэтамі Купалай[29] і Зязюляй[30], асабліва зь першым. Але ёсьць тут і свой, Алеся Гаруна, тон — гэта гучны пакліч да грамадзкага злучэньня ў адну моцную масу — народ, які толькі грамадою можа ўхаваць свой скарб — мову сваю.

Зьвяртаючыся да народу, паэт кажа:

*Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся.*

---

[28] **«Наша Ніва»** — штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая і літаратурна-мастацкая газета нацыяльна-адраджэнскага кірунку, што выдавалася ў Вільні ў 1906–1915 гг.

[29] **Янка Купала** (сапр. **Іван Луцэвіч**, 1882–1942), паэт, драматург, публіцыст, класік беларускай літаратуры.

[30] Маецца на ўвазе **Аляксандар Астрамовіч** (псеўд. **Андрэй Зязюля**, 1878–1921), каталіцкі святар, паэт.



*Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,*
*Гэты скарб нам адзін захаваўся,*
*У сялянскай аграбленай хаце*
*Толькі ён незабраны астаўся.*

*Ў старыну Беларус, не падданы,*
*Гаспадарыў, быў сам над сабою*
*І далёка у сьвеце быў знаны*
*За літоўскай і ляшскай зямлёю.*

*Але час прамінуў, і нядоля*
*На народ, як бы камень, звалілась,*
*Беларуская слава і воля*
*Адышла, адцьвіла, закацілась.*

*Не зьмяняючы шэрай апраткі,*
*Працаваў ты, як вол, гаратліва,*
*А у хаце тваёй недастаткі,*
*А на ніве тваёй неўрадліва.*

*А чаму? Ты ня здольны, ці хворы,*
*Ці благі гаспадар, ці п’яніца?*
*Мусіць, не! Бо і іншым у пору*
*У цябе гаспадарыць наўчыцца.*

*Сьветлы розум твой, брат, але дзетак*
*Ад цябе, як і ўсё, адбіралі*
*І на бацькаўскі родны палетак*
*Працаваць-памагаць не пушчалі.*

*Хто хацеў, той і сьмеў рабаваці,*
*Без прыпросу з’язджаліся госьці —*
*Абдзіраць, аб’ядаць, апіваці*
*І крышыць гаспадарскія косьці.*

*Можа б, ты і памёр і загінуў,*
*Каб ня вешчая мова Баяна.*

*Хто-ж быў добры, яе хоць пакінуў?*
*Як-жа так, што яшчэ не забрана?*

*Бо што бачылі госьцікі-герцы! —*
*І зямлю, і лясы, і кілімы, —*
*Ўсё забралі. А мову у сэрцы,*
*Ў сваім сэрцы хавалі-нясьлі мы.*

*Дык шануй, Беларус, сваю мову —*
*Гэта скарб нам на вечныя годы;*
*За пашану радзімаму слову*
*Ушануюць нас брацьця-народы!*

Жывучы ў далёкай Якутчыне, паэт не пакідае думкі ўцячы дамоў, да роднага народу, каб падняць гэты народ на барацьбу за лепшую долю, на барацьбу рашучую, калі давядзецца *«ўсё ўзяць ці ўсё згубіць»*. Гэтыя свае парываньні ён малюе такім вершам:

*Эх, сягоньня, ў гэту ночку*
*Я ўцяку адгэтуль проч!*
*Шэрым воўкам па лясочку,*
*Хай дагоніць, хто ахвоч!*
*Хай тагды сярод дарогі*
*Станець хто — ня будзе рад:*
*Чорны вуж абкруціць ногі,*
*Буду вужам, буду гад!*
*Хай тагды шукаюць ў лесе*
*Цёмных, вузкіх, воўчых троп!*
*Як арол у паднябесьсе,*
*Я ўзьлячу над земскі строп.*
*Ў небе роўным, чыстым шляхам*
*Яснай зоркай палячу*
*І скачуся па-над дахам*
*Роднай вёскі і ўскрычу:*
*— Гэй, хто ёсьць тут! Люд галодны,*
*Люд пакутны! Да мяне!*



*Станьма, брацьця, ў шых паходны —*
*Наша гора праміне.*
*Досыць нам зь нядолі віці*
*Ценкі жыцьця свайго пас,*
*Слухай, люд: прынёс я віці,*
*Хто за мною, брацьця? Час!*
*Ўстануць, рушаць: «Проч з дарогі!*
*Хто нам хоча заступіць?*
*Мы пайшлі, мы, люд убогі,*
*Ўсё узяць ці ўсё згубіць…»*
*Думкі, думкі-звадыяшкі,*
*Ах, ня мучайце мяне!*
*Вам ўсё гульні, а мне цяжка,*
*Мне няволя не міне…*

А як горка і марна ідзе жыцьцё паэта ў ссылцы, ён выказвае ў рэдкім па харастве вершы «На Віціме»:

*Адзін у жалезнай дамавіне*
*Ляжу бяз дум, ляжу бяз слоў,*
*Ня маю сноў, ня бачу сноў,*
*Няма бажаньня і ў спаміне.*
*Навокал хлюпае вада —*
*Ракі нявернай дар няшчыры;*
*Наўсьцяж зьвініць, як сьпевы ліры,*
*Пасьпешных хваляк чарада.*
*Часамі ў шчылінку зірне*
*Праменьчык сонца, зелень бора,*
*Між гор скалістая разора,*
*А ў ёй шумлівы вадаспад,*
*Заімкі беднай, вокны хат,*
*Рыбак у чоўне прамільгне, —*
*Нішто ня вабіць больш мяне!*
*Няма ў душы адгучных нот,*
*Кудысь падзеўся рым званчасты,*
*І чорны сум, як гад кальчасты,*
*Спыняе сэрца мерны ход.*

*Плыву адзін у дамавіне, —*
*Здаецца, стыне ў жылах кроў.*
*Так голы куст ў глухой цясьніне,*
*Між шчэбняў скал, ў прытулку соў,*
*Бяз дум і слоў паволі гіне.*

Блага жывецца адарванаму ад роднага краю паэту ў дзевяцігадовай няволі. Ня ведае ён шчасьця свайго асабістага, маленькага агульна-чалавечага. Ён як-бы і не жыве для сябе самога. Жыцьцё ахвяраваў ён роднаму народу, і ўсе творы яго зьвіняць вечна-грамадзкім тонам. Часам вельмі лірычна збудованы верш яго пяе не аб тым, што ахапляе сабою лірыка — не аб каханьні, не аб месячных, бяссонных ночах пары разнаполых людзей, што замыкаюцца ў чадзе свайго эгаістычнага шчасьця, — Народ, вялікі й грозны, прыгнечаны й бяздольны, багаты сваёю будучынай, выступае ўсюды ў тоне творчасьці А[леся] Гаруна.

Апрача зборніка вершаў, Гарун пакідае бясьсьмертную па сабе памяць у беларускай пэдагогіцы як першы аўтар дзіцячых беларускіх п'ескаў, іграных няраз дзеткамі менскіх пачатковых школаў. П'ескі гэтыя сьведчаць аб незвычайным разуменьні А[лесем] Гаруном дзіцячай псыхалёгіі і, часам, напісаны лёгкім вершам, як, напрыклад, баечная п'еса «Хлопчык у лесе».

30 гадоў! Які невялічкі кавалак часу! Які нядоўгі жыцьцёвы шлях, пройдзены паэтам! А сколькі невымоўных перажываньняў, сколькі натхнёнай творчасьці, адбітай у патрыятычна-грамадзкіх вершах, пакінутых А[лесем] Гаруном на вечныя часы свайму, дасюль яшчэ нявольнаму, народу!..



## Уладзімір Жылка як мастак слова[31]
*Нарыс*

Душа мая тужлівая
Лілея між балот…

Беларуская адраджоная літаратура мае надта-ж невялічкую жменю паэтаў-індывідуалістаў, мастакоў слова, песьняроў чыстае красы, переважна-ж гэта — вясковыя самародкі з выдатна-сялянскай псыхікай: прымітыўнай і вузкай, як жыцьцё вёскі, і з гэткімі-ж творамі. (Маем тут на думцы выключна пэрыяд зусім сьвядомага беларускага адраджэньня, пачынаючы з 1905–1906 гадоў.)

Сярод першарадных беларускіх песьняроў характэрным прадстаўнікам гэткай сялянскай псыхікі зьяўляецца Якуб Колас[32]: круг ягоных тэмаў вузка-вясковы; места здаецца яму чымсь незразумелым і чужым; толькі пасьля доўгае працы робіцца ён здольным да перажываньня больш тонкіх настрояў і выражэньня іх у больш вышуканых і арыгінальных літаратурных формах.

Другарадныя-ж і дробныя беларускія пісьменьнікі амаль што ня ўсе належаць да гэтае «вясковае» катэгорыі.

Цікаўным прадстаўнікам пераходнага — ад вясковага да меставога тыпу — зьяўляецца выдатны пясьняр наш Янка Купала.

З аднаго боку, бачым у яго творах сялянскі прымітывізм, з другога-ж — вельмі дэлікатныя настроі, глыбокую думку, даволі шырокі кругазор і багацтва тэмаў і форм.

Дзеля таго, што звароты *«вясковы»*, ужытыя для азначэньня ўмысловых тыпаў, зьяўляюцца не зусім сьціслымі і яснымі, можам замест іх ужыць гэткія яшчэ тэрміны: *«псыхіка прымітыўная»* і *«псыхіка інтэлігентная»*,

[31] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускае Слова. № 26. Вільня, 20 кастрычніка 1926. С. 2–3.

[32] **Якуб Колас** (сапр. **Кастусь Міцкевіч**, 1882–1956), пісьменнік, крытык, педагог, класік беларускай літаратуры.



✦ *Уладзімір Жылка*

тыя-ж два першыя тэрміны мы ўжылі праз тое, што ў беларусаў дзякуючы ўтраце здэнацыяналізаванае, радавае інтэлігенцыі — шляхоцтва — паняцьце *«інтэлігента»* лучыцца з паняцьцем *«места»*, таго ўмысловага асяродка, у якім выхавалася новая беларуская інтэлігенцыя, выйшаўшая — праўда — зь вёскі, але — за выняткам некалькіх груп (сельскае настаўніцтва і г. п.) — асеўшая ў месьце.

Беручы справу ў сусьветным, агульналюдзкім маштабе, найбольшую вартасьць для беларусаў, як доказ іхняе духовае культуры, маюць творы г. зв. песьняроў Чыстае Красы, прамаўляючыя да кожнае чалавецкае душы, незалежнае ад нацыі і веравызнаньня адзінкі.

Вось-жа найвыдатнейшым прадстаўнікам гэтага кірунку і яго духоўным правадыром зьяўляецца ўмершы некалькі гадоў таму назад Максім Багдановіч[33], аўтар «Вянка», інтэлігент і эўрапэец у поўным значэньні гэнага слова, вялікі мастак і глыбокі думаньнік-інтэлектуаліст.

Празь некалькі год, асірацеўшы пасьля сьмерці *maestro*, пасад ягоны заняў годны наступнік — Уладзімір Жылка, малады беларускі пясьняр, пражываючы цяпер у Празе Чэскай[34].

Найбольш характэрнымі рысамі ягонае творчасьці ёсьць, з аднаго боку, нахіл да вышуканых імпрэсіяў, з другога-ж — пранікаючы яе моцны, нацыянальны элемэнт.

Калі ў першым сваім зборніку п[ад] н[азовам] «Уяўленьне»[35] ён яшчэ хістаецца і шукае пуцявіну, дык затое ў другім «На ростані»[36] духовае аблічча Жылкі ўжо скрысталізавана бадай што аканчальна: ён цьвёрда ступае па сьлядох М[аксіма] Багдановіча, не губляе пры тым свае індывідуальнасьці і самастойнасьці.

Крытыка беларуская спаткала маладога песьняра надта-ж прыхільна і толькі нейкісь «Букіністы» ў нябожчыку «Грамадзкім Голасе»[37] не ўстрымаўся і па свайму звычаю лягнуў маладога паэта ў недарэчнай стацейцы, падыходзячы да надыхнёных і арыгінальных паэзіяў песьняра з крамным аршынчыкам сухіх правапісаў і мёртвых граматычных правіл!

Зборнічак «На ростані» — невялічкі, у ім толькі 46 старонак фармату шаснаццаткі, але затое ў ім бадай што зусім няма кепскіх вершаў!

Зьявішча гэнае заслугоўвае на спэцыяльную ўвагу як надта рэдкае ў беларускай літаратуры, дзе «старая гвардыя» нашаніўцаў ад часу да часу прыгаломшывае чытача вялізарнымі, па колькісот старонак, зборнікамі вершаў, у якіх добрае пераблутана зь нічога ня вартым і дзе драбнейшыя песьняры — праўда — друкуюць малыя, але-ж і — пераважна — мала вартыя зборнічкі вершаў ці паэмкі.

Па-за гэнымі зборнічкамі Жылкі мы можам вылічыць толькі некалькі зборнічкаў сапраўды цэнных; усе яны належаць да інтэлігенцкае жменькі *«песьняроў чыстае красы»*, беларускіх мадэрністаў імпрэсіяністаў, якая складаецца — збольшага — з гэткіх асоб: 1. М[аксім] Багдановіч; 2. Канстанцыя Буйло[38]; 3. Натальля Арсеньнева[39]; 4. У[ладзімір] Жылка, а зь песьняроў Радавай Беларусі: У[ладзімір] Дубоўка[40] і А[лесь] Дудар[41].

---

[33] **Максім Багдановіч** (1891–1917), паэт, публіцыст, перакладчык, класік беларускай літаратуры.

[34] Уладзімір Жылка ў 1923–1926 гг. вучыўся ў Чэхіі на гісторыка-філалагічным факультэце Карлава ўніверсітэта ў Празе.

[35] Зборнік Уладзіміра Жылкі «Уяўленьне» пабачыў свет у 1923 г.

[36] Зборнік Уладзіміра Жылкі «На ростані» пабачыў свет у 1924 г.

[37] **«Грамадзкі голас»** — газета Беларускай часовай рады, выдавалася ў Вільні ў 1924–1926 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Салаўя.

[38] **Канстанцыя Буйло** (сапр. *Калечыц*, 1893–1986), паэтка, заслужаны дзеяч культуры БССР.

[39] **Наталля Арсеннева** (1903–1997), паэтка, перакладчыца, драматург.

[40] **Уладзімір Дубоўка** (1900–1976), паэт, празаік, перакладчык, крытык. Рэпрэсаваны.

[41] **Алесь Дудар** (сапр. *Дайлідовіч*, 1904–1937), паэт, празаік, крытык, перакладчык. Друкаваўся ад 1921 г. Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў літаб'яднання «Маладняк». Рэпрэсаваны.

Але вернемся да зборніку «На ростані».

Зборнік гэны падзяляецца на 4 аддзелы: І-шы — патрыятычны, п[ад] н[азовам] «Бацькаўшчына»; ІІ-гі — прырода-апісальны п[ад] н[азовам] «З палеткаў і лясоў»; ІІІ-ці — любоўны п[ад] н[азовам] «Спатканьне з Эросам» і ІV-ты — імпрэсіянальны п[ад] н[азовам] «Думы й настроі».

Прыгледзімся-ж бліжэй да гэных вершаў.

Бяручы агулам, прадусім зварочвае ў іх увагу чытача *інтэлігентнасьць іхняга зьместу*, якая выяўляецца і ў багацьці паэтыцкіх формаў, ідучых шырокай гамай ад суровай зважнасьці клясыцызму да «вольнасьцяў» сучаснага мадэрнізму, і ў рожнароднасьці закранутых тэмаў, і ў глыбіні думак, і ў тонкасьці імпрэсіяў…

Кожны верш ягонага зборніку калі ня ёсьць шэдэўрам, дык у кожным выпадку заслугоўвае на назоў «добрага» і ёсьць старанна і арыгінальна апрацаваны, што — на жаль! — не належыць да паспалітых зьявішчаў сярод беларускіх песьняроў.

У авангардзе сучасных беларускіх мадэрністаў (ня лічучы — канешна — памёршага М[аксіма] Багдановіча) У[ладзімір] Жылка займае бясспрэчна першае мейсца!

Бо толькі вазьмеце першы-лепшы ягоны верш! Учытайцесь! Пастарайцеся яго належна адчуць, як уразжа і вас захопіць салодкі энтузіязм маладога песьняра і вы — самахоць — на’т не прыкмячаючы таго, акунецеся з галавой у блакітную краіну фантазіі і скупаеце і адсьвежыце Душу сваю ў крыніцы Вечнага Хараства…

Вось, напрыклад, пачатак вершу «Беларусь» (стр. 7):

*Беларусь, Беларусь — гэта зык*
*Паліць душу маю, як вагнём,*
*Я ня ведаю, чым ён вялік,*
*Але думак ня змог я аб ём.*
*Як пачую яго, задрыжыць*
*Маё сэрца, заные ў грудзёх,*
*І балюча так робіцца жыць,*
*І шукаеш чагосьці ў людзёх.*



Ці-ж, чытаючы гэны верш, ня бачым мы, як сэрца паэты прост-такі гарыць каханьнем да Бацькаўшчыны!?

Ці-ж ня чуем мы, што ён сапраўды ёсьць *«грамнічнай сьвечкай прад Богам»*, якая *«ціхай згарае малітвай»* за родны свой Край?!

А як выглядае беларуская прырода ў творах песьняра? Беспадобна!

Сапраўды ў артызьме малюнкаў натуры няма яму роўных у беларускай паэзіі!

Вось, напрыклад, некалькі адрыўкаў:

*Я люблю густыя шумы,*
*Перагуд высокіх хвой.*
*Ў цень і ціш лясной задумы*
*Я люблю прыйсьці вясной.*
*І спусьціўшыся лагчынай*
*У заросшы дол сыры,*
*Між бяроз, густой ляшчынай*
*Заблудзіўшы ў гушчары.*
*Дзе таёмна, сьцішна, змрочна,*
*Дзе вільготны мяккі мох,*
*Дзе ўзіраецца ставочна*
*Збуджаны перапалох.*

Тутака адзначым мімаходам, што дасканальны верш «Вецер» (стр. 19) памылкова зьмешчаны ў аддзеле ІІ-м прыродаапісальным; ягонае месца сярод імпрэсіяў у аддзеле ІV-м.

А вось і краіна каханьня!

Вось, напрыклад, успамін нейкагась даўнейшага, мо’ першага, каханьня:

*Твае блакітнасьці нязьменны,*
*Нязьменна хараство тваё.*

Кажа паэт і каючысь прызнаецца:

*А я атруты келіх пенны*
*Разьліў якраз ў жыцьцё маё.*

А крыху далей:

*…І нецьвярозы і распусны*
*Забыўся я тваё імя*
*І не адны галубіў вусны,*
*І не з аднэй схадзіўся я.*

Але салодкая, сьветлая мінуўшчына кліча і

*Хоць праўда (можа й прыпадкова)*
*Ўстаюць няясна інады,*
*Як скарбы патаёмных сховаў,*
*Даўно забытыя гады.*
*Мільгне праз хмельныя туманы*
*Жыцьця разбаенага сказ —*
*І моладасьць, і сны, і раны,*
*І любы, любы твой абраз.*

У апошнім аддзеле імпрэсіяў знаходзім тры сапраўдныя пэрліны беларускай паэзіі; першы зь іх будзе безназоўны верш (стр. 36), пачынаючыся гэтак:

*Душа мая тужлівая*
*Лілея між балот.*
*Ўзрасла яна, маўклівая,*
*У багні сонных вод.*
*Ёй сьніцца неба іннае,*
*Дзе сонечна вясна,*
*І песьняй салаўінаю*
*Атручана яна…*

і г. д.

Другой зьяўляецца поўны сыновае любові II-гі верш «Да мае матулі» (стр. 39):

*Ты чакаеш сына, ведаю.*
*Зь сьлёзаў ведаю, з тугі*
*Ўпалі вочы, губы бледыя,*
*Старыць, сівіць лёс благі.*



І ведае паэт, што

*Калі лучыць нягодная*
*Доля загінуць ў чужыне,*
*Ня ўздыхне душа ніводная,*
*Не ўспамяне пра мяне.*
*Толькі ты згаворыш пацеры*
*Над нядоляю маёй,*
*Толькі вочы мае мацеры*
*Затуманяцца сьлязой.*

Трэцяй — урэшце — пэрлінай паэзіі зьяўляецца ізноўжа безназоўны верш (стр. 43), пачынаючыся словамі: «*Прытулі, сястра, слабога*», поўны ціхае мэлянхоліі і лагоднае рэзыгнацыі:

*Прытулі, сястра, слабога,*
*Прыгалуб, каханка сьмерць.*
*З гэткай шчырасьцю нікога*
*Не прасіці мне, ня сьмець:*
*Прытулі мяне слабога…*

Але гэта толькі хвілёвы настрой і, карыстаючыся словамі Ібсэна[42], паэт наш сьмела можа сказаць аб сабе:

*Я ветразь свой у сьвет вялікі*
*Пакіраваў і, як арол,*
*Ляту, і мора б'е наўкол,*
*І чаек ўсьлед чуцён крык дзікі.*

Дык ляці-ж, ляці, наш саколе, ляці што раз вышэй!

[42] **Генрык Ібсэн** (нарв. *Henrik Johan Ibsen,* 1828–1906), нарвежскі драматург.

## Уладзімір Дубоўка як Жылка Ўсходу[43]

Калісьці ў аднэй з сваіх брашураў вядомы польскі публіцысты і гісторык літаратуры прафэсар Брукнэр[44], павярхоўна аглядаючы ў ёй беларускую літаратуру, між іншым едка адазваўся аб нябожчыку Максіме Багдановічу, аўтару «Вянка», называючы яго адзіным інтэлігентам, які прыпадкова заблукаўся ў кампанію вясковых самавучак — якімі ахрысьціў праф[эсар] Брукнэр усіх беларускіх песьняроў.

Ня кажучы ўжо аб тым, што гэткі погляд быў тэндэнцыйным, груба нясьціплым і прадыктаваным варожасьцю да ўваскрашаючага беларускага Лазара, на'т тады, калі ён гэта пісаў, а было гэта яшчэ ў часы нямецкай акупацыі, — бо ўжо й тады побач з Багдановічам выступае здольная імпрэсіяністка беларуская Канстанцыя Буйло, аўтарка «Курганнай Кветкі»[45], а также забывае чамусьці праф[эсар] Брукнэр ці злосна абходзіць маўчаньнем увесь шляхоцка-рамантычны, народніцкі пэрыяд беларускае літаратуры, якая абыймае цэльнае XIX стагодзьдзе — можам з прыемнасьцю адзначыць тое, што ў сучасны момант можна пахваліцца ўжо цэлай літаратурнай сямейкай песьняроў інтэлігентаў ды яшчэ пры тым песьняроў Чыстае Красы!



✦ *Уладзімір Дубоўка*

Да гэтае сямейкі мастакоў-імпрэсіяністаў належаць: 1. Максім Багдановіч, духоўны бацька гэнага цэннага напрамку беларускае літаратуры; 2. Канстанцыя Буйло; 3. Натальля Арсеньнева; 4. Уладзімір Жылка, а зь песьняроў Радавай Беларусі: 5. Уладзімір Дубоўка і 6. А[лесь] Дудар; магчыма, што там знайшлося-б яшчэ некалькі асоб, але дзякуючы існуючым абставінам няма магчымасьці належна азнаёміцца з тамашняй творчасьцяй.

Памянёныя аўтары побач з старой гвардыяй «нашаніўцаў» складаюць паэтыцкі Алімп сучаснае беларускае літаратуры: фактычна, яны, у пэўным сэнсе, на'т перавышаюць «нашаніўцаў», узносячысь у сваіх паэтыцкіх імпрэсіях на вышыню, не заўсёды даступную больш пазытыўнай, захопленай сучаснымі справамі й шэрай штодзённасьцю старой гвардыі: Купале, Коласу, Бядулі[46] і інш., якія прадусім імпануюць колькасьцю працы: аграмаднымі зборнікамі паэзіяў, ці новэль, ёмкімі повесьцямі і г. д.

Тутака трэба прызнацца да аднаго вельмі балючага, але характэрнага зьявішча: памянёныя вышэй аўтары — кажам тут перадусім аб імпрэсіяністах, але ў немалой меры адносіцца гэта і да «нашаніўцаў» — нягледзячы на тое, што зьяўляюцца найбольш выдатнымі ў сучасны мамэнт, ня толькі што ня ёсьць папулярнымі сярод беларускіх чытачоў, але адзначаюцца — о, іронія лёсу! — найменшай пашыранасьцю іхніх твораў.

Тлумачыцца гэтае сумнае зьявішча вельмі лёгка: нястача інтэлігенцыі, галоўнага кансумэнта[47] гэткага роду твораў, ёсьць пярвейшай прычынай гэткага стану рэчаў.

Беларускія-ж сялянскія масы, складаючыя дасюль *gros*[48] чытачоў, а значыцца і купляючых кнігі, у сваіх духовых патрэбах наагул не выходзяць па-за межы гэткіх сэнтымэнтальных або сьмешлівых прымітываў, як «Смык Беларускі» і «Дудка Беларуская» Ф[ранцішка]

---

[43] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускае Слова. № 27. Вільня, 20 лістапада 1926. С. 2–3.

[44] **Аляксандр Брукнер** (пол. *Aleksander Brückner*, 1856–1939), польскі славіст, гісторык літаратуры і культуры.

[45] **«Курганная кветка»** — дэбютны зборнік Канстанцыі Буйло, выдадзены ў Вільні ў 1914 г. Рэдактарам быў Янка Купала, мастаком — Язэп Драздовіч.

[46] **Змітрок Бядуля** (сапр. **Самуіл Плаўнік**, 1886–1941), паэт, празаік, мовазнаўца.

[47] ***Konsument*** (пол.) — спажывец.

[48] ***Gros*** (пол.) — большасць, тут: пераважна.

Багушэвіча[49], «Гапон» Марцінкевіча[50] ці «На прызьбе» Быліны[51].

Рэшту выпаўняюць выдаваныя штогод беларускія народныя календары і папулярныя гаспадарскія брашуры.

Бессумліўна, гэткі анармальны стан рэчаў ня будзе трывалкім і ўжо ў працягу найбліжэйшых гадоў, дзякуючы беларускім гімназіям, узбагачваючым нас новымі кадрамі беларускае інтэлігенцыі, зьменіцца к лепшаму, а тымчасам вернемся да нашае ўласьцівае тэмы — беларускіх імпрэсіяністаў.

Вось-жа, у адным з нашых артыкулаў мы назвалі Ўладзіміра Жылку, аўтара двух зборнічкаў паэзіяў п[ад] н[азовамі] «Уяўленьне» і «На ростані» — *«новым Багдановічам»*, а гэта таму, што ягоны талент і кірунак паэтыцкай творчасьці найбольш набліжаны да творчасьці прадчасна памёршага аўтара «Вянка».

Сяньня мы хацелі-б зьвярнуць увагу чытача на іншага беларускага імпрэсіяніста, гэтым разам з Усходняе Беларусі — Уладзіміра Дубоўку, роднага брата Жылкі ў краіне Хараства, якога дзеля таго і празвалі мы *«Жылка Ўсходу»*.

Уладзімір Дубоўка, як і Жылка, малады яшчэ паэт, пачаў сваю творчасьць зборнічкам вершаў п[ад] н[азовам] «Строма», прысланым да Вільні й тутака старанліва і прыгожа выданым у 1928 г.

У наступных гадох ужо ў Радавай Беларусі зьявіліся чарговыя ягоныя зборнікі: «Трысьцё» й «Credo».

З апошнімі двума зборнікамі, дзякуючы існуючым абставінам, тымчасам мы яшчэ ня мелі магчымасьці

---

49 **Францішак Багушэвіч** (1840–1900), грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, аўтар зборнікаў «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891) і «Смык беларускі» (Познань, 1894).

50 **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч** (1808–1884), драматург, паэт, заснавальнік беларускай драматургіі, тэатра. «Гапон» — вершаваная аповесць, створаная не пазней за 1854 г.

51 **Янка Быліна** (сапр. **Ян Семашкевіч**) (1883–1956), паэт і каталіцкі святар. «На прызьбе» — зборнік паэзіі, які выйшаў у Вільні ў 1918 г.



пазнаёміцца, а дзеля таго прымушаны спыніцца на першым — «Строме».

Гэтак-жа, як і ў Жылкі ў яго першым зборніку «Ўяўленьне», у зборніку «Строма» чуваць бурлівую «віхрыстую» моладасьць, шуканьне ўласных пуцявін, найлепшага паэтыцкага выразу для сваіх перажываньняў і пачуцьцяў, а дзякуючы таму часовую нерашучасьць і расхістанасьць, урэшце моцныя ўплывы расейскай паэзіі апошніх часоў, толькі дзеля таго, што Дубоўка мае беспасрэдную сутычнасьць зь сьветам рэвалюцыі, жывучы ў яго нутры, гэныя ўплывы расейскіх рэвалюцыйных паэтаў і ўсяе тамашняе атмасфэры ёсьць у яго шмат мацнейшыя, чымся ў пражываючага ў Празе Жылкі.

Зь вялікай доляй пэўнасьці можна дапушчаць, што ў сваіх чарговых зборніках Дубоўка духова скансалідаваўся, гэтак, як Жылка ў апошнім сваім зборніку «На ростані», але спраўдзіць гэтага пакульшто няма магчымасьці!

Зборнік «Строма» мае 30 старонак невялічкага фармату і падзелены на 3 аддзелы: 1. «На чужыне»; 2. «Лятуценьні» і 3. «Адраджэнцам».

Прыгледзімся да паасобных вершаў зборніку.

У І-м аддзеле «На чужыне» два першыя вершы даволі слабыя, асабліва першы: «Ты дэкляруеш», які адзначаецца адсутнасьцю разьмеру і рыфмы, затое верш «Ня трэба мне пяяць аб Беларусі?» (стр. 9) адзначаецца сьвяжынёй пачуцьцяў і сьпеўнасьцю:

*У песьнях я на Беларусь малюся,*
*Як моліцца на возеры трысьцё,*

кажа Дубоўка аб сваёй любові да краю і крыху далей скардзіцца:

*Далёка я… Я кленчу на маленьні,*
*Калі мне тут гудуць табой бары,*
*Віхрыцца дух і родзіць лятуценьні,*
*Як запяюць мне нават камары.*

Гэтак-жа цэнным зьяўляецца апошні верш гэтага аддзелу, пачынаючы словамі: «*захапіла навальніцаю*» (стр. 10), адметны вышуканым настроем, музыкальнасьцяй і ўмела падабраным, багатым слоўнікам.

На гэты асаблівы слоўнік Дубоўкі, зложаны часткаю са слоў існуючых ды рэдка ўжываных, а часткова з наватвораных паэтам, варта зьвярнуць спэцыяльную ўвагу як на зьявішча цікавае і для беларускае літаратуры карыснае, чаго, на жаль, нельга сказаць аб спробах іншых аўтараў.

У II-м аддзеле зборніку п[ад] н[азовам] «Лятуценьні» заслугоўвае на ўвагу першы верш п[ад] н[азовам] «Зданьне» (стр. 13), паўстаўшы пад моцным уплывам любоўных вершаў рэвалюцыйных паэтаў; вось яго пачатак:

*Вечар… П'яны вечар сваволі — траўня…*
*Вецер косы ночы расплёў, дуроньнік…*
*Салавей пяець над ракой, як слаўна!*
*Сны сьніць сасоньнік…*

Тут-жа побач з гэным мадэрністычным сучасным вершам, пісаным пад выразным уплывам Багдановіча, невялічкі цыкль клясычных трыялетаў п[ад] н[азовам] «Пацеркі» (стр. 14–16).

Асабліва прыгожым зьяўляецца 2-гі зь іх, які тут дамо ў цэласьці:

*Час брылянцісты, залацісты*
*Імчыцца ў даль, як дзікі конь,*
*А мы на ім — у бор квяцісты.*
*Час брылянцісты, залацісты,*
*Настрой у сэрцы паліць чысты,*
*У нашым поглядзе вагонь.*
*Час брылянцісты, залацісты*
*Імчыцца ў даль, як дзікі конь!*

Пазасталыя вершы гэтага аддзелу адзначаюцца дэлікатнасьцяй настрою, сьпеўнасьцяй, а гэтак-жа высокім роўнем паэтыцкае тэхнікі: асабліва вершы «Не жальбую тых дзянькоў» (стр. 17) і «Ноч наплакалі бярозы» (стр. 19).



А вось адрывак з апошняга вершу гэтага аддзелу, які прыводзім як ілюстрацыю таго спэцыяльнага слоўніка, якім карыстаецца Дубоўка ў сваіх паэмах:

*Ілжа, і склізота і прыкрая золь*
*За скрыгатам ветру — навалай.*
*У чмарнасьць убралася сьветлая столь,*
*Блакіт ад зямлі адарвала*

і г. д.

У апошнім аддзеле «Адраджэнцам» трэба з боку ідэйнага адзначыць уступны верш «Спагадае хто?» (стр. 23), у якім паэт заклікае да працы на роднай ніве беларускую моладзь:

*Маладое пакаленьне,*
*Прачынайся, час прыйшоў.*
*Залатое Адраджэньне*
*Кліча ўсіх пад родны схоў.*

Чарговы верш «Мітусіцца лістота» (стр. 24) акрамя сьпеўнасьці ізноў-жа цікавіць сваім арыгінальным слоўнікам:

*Мітусіцца лістота мяцеліцай —*
*Мітульжынная, быццам дзьвіна*
*Па аселіцы лёнам пасьцеліцца,*
*Завіхрыцца квяціста яна…*

Зь іншых вершаў трэ' тут адзначыць пасьмертныя ўспаміны, прысьвечаныя М. Лойцы (стр. 25) і Алесю Гаруну (стр. 26).

Канчаючы гэты агляд «Стромы», можам сьцьвердзіць пакуль што адно: на беларускім літаратурным небе ўзышла новая зорка!

Сьцісьлейшая-ж ацэнка будзе магчымай толькі пасьля азнаямленьня з двума апошнімі зборнікамі песьняра.

## Літаратурная творчасьць Ядвігіна Ш.[52]

*З нагоды пятых угодкаў ягонай сьмерці: 26.II.22 г. – 26.II.27 г.*

Вось ужо 5 гадоў мінае, як адышоў ад нас назаўсёды першарадны навэліст беларускі Ядвігін Ш., сапраўднае прозьвішча якога — Антон Лявіцкі.

Дзеля таго, што займае надта-ж выдатнае месца ў беларускай прозе, варта пры гэтай нагодзе прыгледзецца бліжэй да літаратурнай творчасьці і духоўнага аблічча нябожчыка.

У прадмове да ягонай «Бярозкі» знаходзім, між іншым, гэткія біяграфічныя данныя аб аўтары «Васількоў»: Антон Лявіцкі радзіўся ў 1870 годзе ў невялікім фальварку сваіх бацькоў, Карпілаўцы[53], каля мястэчка Радашкавіч, Вялейскага павету.

Хоць тагачасная шляхта ўжо пачала даўно чурацца ўсяго роднага — беларускага й пераймаць польскае — «панскае», Антон Лявіцкі з малых гадоў гадаваўся ў пашане да беларушчыны.



✦ *Ядвігін Ш.*

Першай вучыцелькай яго была родная дачка вядомага беларускага песьняра Вінцука Дунін-Марцінкевіча, дык ня дзіва, што патрыятызм апошняга перадаўся і Лявіцкаму.

Скончыўшы гімназію ў пачатку [18]90-х гадоў, папаў у Маскоўскі ўнівэрсытэт. Тут зышоўся з другімі студэнтамі-беларусамі і прыймаў чыннае ўчасьце ў іх працы. Вынікам гэнае працы быў выхад у сьвет беларускае кніжачкі «Сыгнал» Гаршына[54], перакладзенае з расейскае мовы пры ўчасьці Лявіцкага.

---

[52] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускае Слова. № 8 (37). Вільня, 18 сакавіка 1927. С. 2–3.

[53] **Карпілаўка** — сёння вёска ў Лагойскім раёне Мінскай вобл.

[54] **Усевалад Гаршын** (1855–1888), расійскі пісьменнік.



Вярнуўшыся дамоў, Лявіцкі пачаў прабаваць пісаць арыгінальныя творы па-беларуску.

У 1893 годзе ён напісаў драму «Злодзей», якую віленскі губэрнатар забараніў паставіць на сцэне толькі затым, што яна была ў беларускай мове. Гэта зьнеахвоціла Лявіцкага настолькі, што ён блізка зусім кінуў пісаць, але калі ў [1]900-х гадох узьняўся шырэйшы беларускі рух, калі пачалі выходзіць беларускія газэты, — Лявіцкі зноў узяўся за пяро і сваімі апавяданьнямі й байкамі выявіў вялікі талент. Асабліва многа ён піша ад 1909 году, перабраўшыся ў Вільню дзеля сталай працы ў «Нашай Ніве».

У тым-жа годзе выходзіць у сьвет і яго вершаванае апавяданьне «Дзед Завала» (1909) — адзіная рэч, напісаная вершам.

А сьледам ідуць зборнікі «Бярозка» (1912 г.) ды «Васількі» (1914 г.).

Пасьля выхаду «Васількоў» Лявіцкі ізноў замаўкае. Прычына гэтага — ваенныя выпадкі, якія прыпынілі выхад «Нашай Нівы» і прымусілі Лявіцкага пакінуць Вільню.

І толькі ў 1921 годзе мы бачым яго на віленскім грунце ізноў. Але сілы яго ўжо вельмі падупалі, ён вельмі аслабеў, і хоць бярэцца за пяро, ды нічога выдатнага ня творыць.

Апошняя яго кніжачка — гэта «Ўспаміны» з студэнцкага жыцьця, якая выйшла ў сьвет у 1922 г.

Лявіцкі ў тым-жа годзе памёр і пахаваны на магільніку «Росса»[55].

Гэтулькі аб жыцьці аўтара. Цяпер-жа пяройдзем да агляду самае творчасьці Ядвігіна.

Як мы бачылі, Ядвігін прабаваў усіх радоў літаратурнае творчасьці; у кніжках ягоных спатыкаем мы драму («Злодзей») побач з паэзіяй («Дзед Завала»), мэмуары («Успаміны»); навэлы («Бярозка», «Васількі») і на’т аповесьць (ня скончанае «Золата»), ня кажучы ўжо аб перакладзе «Сыгнала», але зьлюбленай формай яго творчасьці была навэла.

---

[55] Ядвігін Ш. пахаваны на віленскім могільніку Роса.

Зьмест драмы «Злодзей» невядомы, бо самы твор бадай што загінуў; гэтак-жа ня шмат можна сказаць пра паэмку «Дзед Завала», у якой апісаны стары беларускі дзед-паляўнічы Завала, гэтак зрадніўшыся з пушчай, быццам ён быў яе неад'емленай часткай.

Пачынаецца паэма так:

*Жоўтага пясочку —*
*Дый і тога мала —*
*Меў наш дзед па бацьку;*
*Зваўся ён Завала.*
*Ліхая хацінка*
*Саломаю крыта,*
*Ліхая адрынка*
*Ды адно карыта*
*З крадзенага лесу.*
*Лава, стол у хаце,*
*Міска і дзьве лыжкі —*
*Вось і ўсё багацьце.*

З далейшага зьместу паэмкі відаць, што дзед прыймаў учасьце ў польскім паўстаньні 1863 г., урэшце падчас аднае з сваіх экспэдыцыяў у глыб пушчы Завала гіне.

У паэмцы гэтай ёсьць так-жа і даволі прыгожыя малюнкі беларускай прыроды, напрыклад:

*Зашумеў бор цёмны…*
*Хто шум той пазнае?*
*Чы ветрык павеяў,*
*Чы хтось паклікае?*
*Ёсьць у гэтым шуме*
*Доля і нядоля,*
*Енкі ёсьць, што кажуць,*
*Злая дзе няволя…*
*Ёсьць у гэтым шуме*
*Плач як-бы сіроткі*
*І крык нейкі ціхі,*
*Страшны і кароткі…*



Ува ўсім творы чуваць моцны ўплыў на аўтара апісаньняў беларускіх пушч у «Пану Тадэушы»[56], а так-жа паэзіяў Сыракомлі[57].

Ня будзем тут спыняцца над супольным перакладам «Сыгнала» Гаршына як слаба зьвязанага з індывідуальнай творчасьцяй Ядвігіна; гэтак-жа мусім мы ўстрымацца ад абгаварываньня няскончанай часьці «Золата» дзеля таго, што яна яшчэ неапублікаваная.

Выйшаўшыя лацінкай «Успаміны» зьмяшчаюць у сабе запіскі аўтара з студэнцкіх часоў у Маскве; як жывое вырастае прад намі рэвалюцыйна-паступовае расейскае студэнцтва прадваенных часоў з усім сваім ідэалізмам, захопленьнем і маладой радасьцяй. Прад нашымі вачыма праходзяць як жывыя: канспіратыўныя кватэры зь нелегальнай літаратурай; заядлая барацьба з паліцыяй; удалыя гульні; згаворы; сходкі; арышты; рэвізіі і г. п. Асабліва цікавымі ёсьць мамэнты з прабываньня ў вядомых «Бутырках», якія займаюць большую частку ўспамінаў. Агулам «Успаміны» выклікаюць надта-ж сымпатычнае ўражаньне і шчыра ўзварушваюць чытача, тым больш цэннымі зьяўляюцца гэтыя ўспаміны таму, што *«расейскі студэнт»* (прадваенных часоў, зразумела) у значнай ужо меры перайшоў у гісторыю.

А цяпер пяройдзем да найбольш багатай краіны творчасьці Ядвігіна, да яго апавяданьняў — навэлаў, зьмешчаных у зборніках «Бярозка» і «Васількі».

Навэлы гэтыя можна разьбіць на некалькі групаў:

І-я група. Апавяданьні зь сялянскага жыцьця, у якіх аўтар спачувае нядолі мужыка і трактуе справы паважна; да гэтай групы належаць: 1. «Шчасьлівая»; 2. «Гаротная»; 3. «Зарабіў» і 4. «Зарабляюць».

---

[56] **«Пан Тадэвуш»** — найбуйнейшы твор Адама Міцкевіча, эпічная паэма, якая пісалася ў 1832–1834 гг. у Парыжы.

[57] **Уладзіслаў Сыракомля** (сапр. *Людвік Уладзіслаў Францішак Кандратовіч*, 1823–1862), беларуска-польскі паэт, драматург, перакладчык, літаратурны крытык і краязнаўца.

II-я група. Апавяданьні, у якіх нядоля і цемната беларускага селяніна ёсьць толькі матэрыялам для панскіх жартаў у родзе г.зв. «жыдоўскіх» ці «армянскіх» анэкдотаў; да гэтай групы належаць: 1. «Вучоны бык»; 2. «З маленькім білецікам»; 3. «Заморскі зьвер»; 4. «Пазыка»; 5. «Важная фіга» і 6. «Суд».

III-я група. Апавяданьні аллегарычныя з палітычным зьместам. Аллегарычныя апавяданьні, пераважна з жыцьця жывёлаў, з палітычнай падкладкай; гэткімі ёсьць: 1. «Павук»; 2. «Вясельле»; 3. «Сабачая служба»; 4. «Пратэст» і 5. «Цырк» — найбольш моцная рэч у гэтай групе.

IV-я група. Імпрэсіі: 1. «Дуб-Дзядуля»; 2. «Чалавек»; 3. «Васількі»; 4. «Раны» і 5. «Бярозка».

V-я група. Казкі і апавяданьні, пераважна з жыцьця зьвяроў і расьлін, ня раз з глыбокай мараляй, або сымбалічныя ці аллегарычныя; гэткімі ёсьць: 1. «Дачэсныя»; 2. «Што сказаў певень»; 3. «Баба»; 4. «Чортава ласка»; 5. «Награда»; 6. «Сіло»; 7. «Рабы»; 8. «Сакатушка»; 9. «Хлеб» і 10. «Гадунец».

VI-я і апошняя група абыймае 3 рожныя творы: «Перапуд» — абразок з студэнцкага жыцьця; «Жывы нябожчык» — малюнак зь вясковага жыцьця, у якім узаемаадносіны паміж дваром і вёскай патрактаваны ідылічна, у духу Марцінкевіча; у канцы апавяданьне «З бальнічнага жыцьця», у якім зь вялікім талентам апісана сьмерць нейкага адзінотнага, шэрага малага чалавека ў гарадзкой бальніцы.

Чытаючы гэты твор, нявольна нагадуеш сабе сумны канец самога аўтара ў адным зь віленскіх шпіталяў.

З усіх гэтых твораў відаць з аднаго боку немалую інтэлігентнасьць і літаратурны талент аўтара; з другога-ж — балючую духоўную расхістанасьць яго, дзякуючы каторай паасобныя творы Ядвігіна гэтак ідэалягічна рожняцца паміж сабой, што на'т трудна сабе ўявіць, што іх піша адзін чалавек. А аднак мы бачым Ядвігіна як рэвалюцыйнага студэнта «народніка» і сьвядомага беларуса «нашаніўца», у другіх ізноў прад намі — спольшчаны беларускі шляхціц, які сьмяшыць кумпанаў беларускімі анэкдотамі, у іншых-жа бачым прад сабой тонкага імпрэсіяніста ці вясёлага байкапісца. Зьявішча гэтае ёсьць вельмі характэрным для шляхоцкіх рамантыкаў, якім ёсьць А[нтон] Лявіцкі.

Аднак гэтая духовая расхістанасьць не зьменшае зусім тае вялікае ролі, якую грае Ядвігін у беларускай літаратуры; стыль Ядвігіна — моцны, зьлітны; мова — чыстая, гучная; думка — глыбокая; настрой — тонкі, інтэлігентны; зьмест — захопліваючы…

У беларускай прозе ён, побач зь Якубам Коласам, займае першае месца, перавышаючы, аднак, апошняга інтэлігентнасьцяй думкі і лёгкасьцю стылю.

## Пясьнярка каханьня[58]
### *Аб любоўным элемэнце ў творчасьці Канстанцыі Буйло*

Як я цябе люблю — хай скажа гэта мора,
Што у грудзях маіх бушуе, — хай гавора
Аб гэтым сэрца, што пагляд тваіх вачэй
Сон прабудзіў яго, аж дрыгнула сільней
І так забілася, як птушачка у клетцы,
Што вырвацца з грудзей хацела ўжо здаецца.

*К. Буйло*

Канстанцыя Буйло?!

Аўтарка «Курганнай кветкі»!?

Не адзін мо' на'т ня чуў пра яе, а шмат хто пэўне ўжо і забыўся…

Дый ня дзіва! Бо ці-ж было якое новае выданьне ейных твораў? Якоесь сьвяткаваньне, прысьвечанае ёй? Ці былі

[58] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Досьвіткі. Месячнік беларускай літаратуры і мастацтва. Вільня, 1927. № 1. С. 9–11.



✦ *Канстанцыя Буйло*

якіясь угодкі яе творчасьці? Не, не было! Ды і скуль ім бываць, калі ў адзінай, якую маем, гісторыі беларускай літаратуры М[аксіма] Гарэцкага[59] нямашка ня толькі даты выдрукаваньня яе першага вершу, але на'т году яе радзін!

Мы нават ня ведаем, ці жыве яшчэ — недзесь у Расеі — гэтая кволая дзяўчынка, што гэтак прыгожа летуцела аб неспазнаным яшчэ тады, буйным, вагністым каханьні, бо ўжо некулькі год як яна ня піша і няма аб ёй ніякіх вестак…

Гэтак *«спыніла свой голас жалейка»* і — пакрысе — забыліся ўсе аб заглохшай кветцы…

Вось-жа ў нашым артыкуле мы хацелі-б прыпомніць беларускаму грамадзянству гэту выдатную пясьнярку, якая — духова — вельмі блізка зроднена характарам свайго таленту зь вядомай сучаснай паэткай Натальляй Арсеньневай.

Біяграфічныя данныя, якія знаходзім мы аб К[анстанцыі] Буйло ў падручніку М[аксіма] Гарэцкага, — ёсьць вельмі скупыя і невыстырчаючыя, але, ня маючы іншых крыніцаў, мусім задаволіцца і гэтым малым, што там ёсьць.

[59] **Максім Гарэцкі** (1893–1938), пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца, лексікограф, фалькларыст. Тут маецца на ўвазе праца Максіма Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры», якая ў 1926 г. мела ўжо 4-е выданне.



А ёсьць там, больш-менш, наступнае:

Канстанцыя Буйло ўрадзілася ў самым канцы мінулага стагодзьдзя.

З паходжаньня дачка дворнага служачага зь Вішнева (Ашмянскага павету Віленскага ваяводзтва), засталася Буйло з хатняй адукацыяй, але, маючы ўроджаны ўхіл да літаратуры, шмат чытала, дапаўняючы гэткім чынам нястачы і хібы свайго ўзгадаваньня.

Пазнаёміўшыся зь беларускім рухам дзякуючы аднаму студэнту-адраджэнцу, маладая дзяўчына захапілася справай і незабавам зрабілася выдатнай супрацоўніцай «Нашае Нівы».

Празь нейкі час працавала яна ў Вільні ў дзіцячым прытулку, пасьля-ж — у пачатковай школе ў в. Чаўшлі Мала-Салечніцкай парахвіі.

Крыху пазьней бачым мы К[анстанцыю] Буйло як загадчыцу беларускай кнігарні ў Полацку.

Падчас вайны наша пясьнярка працуе ў «Земскім Саюзе», дзе, пазнаёміўшыся зь нейкімсь В[італём] Калечыцам, выходзе за яго замуж.

Ад часу рэвалюцыі жыве яна ў Маскоўшчыне, на станцыі Шахаўской, Аляксандраўскай зялезнае дарогі.

Гэта вестка аб Буйло з-прад некалькі год, на жаль, зьяўляецца апошняй!

Што зь ёй зрабілася далей — няма ведама!..[60]

У 1914 годзе зьяўляецца першы і адзіны дасюль зборнік яе вершаў п[ад] н[азвай] «Курганная кветка».

Зборнік гэты, старанліва выданы праз заслужаную для беларусаў друкарню Марціна Кухты[61] ў Вільні, мае каля 100 старонак друку разьмеру васьмёркі і выяўляе першарадныя мастацкія вартасьці. Прыгожая віньета вокладкі, прадстаўляючая ня тое — сярэднявечнага рыцара, ня тое — эгзатычную нейкуюсь красуньку ў

[60] Канстанцыя Буйло ад 1923 г. і да смерці ў 1986 г. жыла ў Маскве.

[61] **Марцін Кухта** (літ. *Martynas Kukta*, 1875–1941/1942), друкар, выдавец кніг на беларускай, польскай, літоўскай мовах.

казачнай вопратцы, як нельга лепш адказвае зьместу зборніка.

Львінная частка кніжкі прысьвечана каханьню.

Характэрнымі ў ёй ёсьць выняткова моцныя эратычныя акцэнты, гэтак рэдкія наагул у беларускай літаратуры.

Уся істота К[анстанцыі] Буйло імкнецца прост'такі стыхійна да каханьня! Аб ім яна лятуціць, па ім сумуе, яго чакае!..

У творах яе бачым мы цэльную чашу любоўных пачуцьцяў; бачым каханьне ўва ўсіх яго праявах!

У некаторых вершах ідэалізацыя каханага мужчыны ў хваравітым сваім пафасе даходзе ажно да абагатварэньня, у іншых ізноў прыкмячаем гэтак характэрную для маладых дзяўчат, асабліва-ж для дзяўчат-фантазёрак, *«восторжэнносьць»*, эмфазу — наагул аднак любоўныя вершы К[анстанцыі] Буйло вызначаны моцай пачуцьця і артызмам паэтыцкага яго выразу, ня кажучы ўжо аб багацьці і рожнароднасьці яе любоўных перажываньняў, як рэальных, гэтак-жа і высьненых толькі любоўнай інтуіцыяй пясьняркі.

Сярод беларускіх імпрэсіяністаў, песьняроў Чыстае Красы як: М[аксім] Багдановіч, У[ладзімір] Жылка, Н[аталья] Арсеньнева — К[анстанцыя] Буйло займае пачэснае мейсца і належыць бессумліўна да беларускага літаратурнага Алімпу.

У абгаварыванам намі зборніку вершы ня ёсьць падзелены на нейкіясь асобныя групы, аднак у пачатку пераважаюць вершы патрыятычныя, далей ідуць — любоўныя, якіх ёсьць найбольш, а йшчэ далей зьмешчаны імпрэсіі; акрамя таго, у перамешку зь іншымі паэзіямі знаходзім мы тут і пару вершаў фантастычных, прыродаапісальных або пісаных на матывы сялянскія.

У самым канцы кніжкі зьмешчаны дзьве п'ескі.

У гэтым нашым артыкуле мы абмяжуемся да агляду выключна толькі вершаў любоўных, якія зьяўляюцца



найбольш характэрнымі для нашае пясьняркі, а дзеля таго заслугоўваюць на апрычоную ўвагу. Багацьце любоўных сюжэтаў тутака гэткае, што можам зь іх лёгка ўлажыць цэльную паэму каханьня!..

Вось для прыкладу верш «У краіне мар» (ст. 23) кажа нам аб каханьні пабратымчых душ яшчэ ў пэрыядзе бясьцельным, у іх эфірных падарожжах перад прыходам на сьвет:

*Ў краіне мар, паднебнай далі*
*Гдзе зоры сьвет ракой лілі,*
*Ў праменьнях сонца мы спаткаліcь,*
*Не знаючы ешчэ зямлі.*
*Я помню гэтае спатканьне,*
*Пагляд гарачы помню твой,*
*Ясьнейшы зоркі залатой,*
*Што мне ў душу уліў каханьне.*

У іншым ізноў вершы п[ад] н[азвай] «Памятны дзень» (ст. 33) мы бачым гэткі, напрыклад, абраз як першае зямное спатканьне ўжо здаўна прызначаных для сябе воляй лёсу мужчыны й жанчыны; спатканьне гэта выклікае магутны ўстрас у душы пясьняркі, якая пад уплывам яго адразу перастае быць дзіцянём і зьмяняецца ў горача кахаючую кабету:

*Зь лет даўнейшых маіх помню дзень я адзін:*
*Весна была, скаўроначак пеў;*
*Каля ног серабрыстая рэчка плыла,*
*А над ёй лазьняк ціха шумеў.*
*Я — дзіцяцяй ешчэ — чуць падросткам была, —*
*Шоў пятнадцаты год мне тады;*
*У той дзень я над рэчкай вяночкі віла,*
*Прыглядаючысь ў люстры вады.*
*Поўна сетка мая ўжо была матылькоў,*
*Вянкі пышнай лежалі гурбой,*
*Прымерала я іх, сьмяючысь як дзіцё…*
*Ты зьявіўся тады прада мной.*

*У той памятны ясны і сонечны дзень,*
*Як цябе толькі ўбачыла я, —*
*Ўраз прапалі на век жывасьць гуляў маіх*
*І дзяцінная ўцеха мая.*

Тутака пясьнярка ўпадае ў любоўны экстаз і гэтак пяе далей сваю «Песьню песьняў»:

*Як-бы Бог хараства, ты стаяў прада мной*
*С сьмелым поглядам дзіўных вачэй;*
*Многа новых, нязнаных мне дум пабудзіў,*
*Сэрцэ білась сільней і сільней.*

Не бракуе ў зборніку й першых нясьмелых, ад сэрца йдучых прызнаньняў пясьняркі аб яе любоўнай тузе, пачуцьцях, лятуценьнях, словам — аб усіх тых рэчах, якія дасюль былі саромліва хаваны ў глыбіні душы, будучы для іншых тайніцай; вось, напрыклад, у вершы «Я шукала» (ст. 22) спатыкаем выяўленьне магутнай, спрадвечнай тугі жанчыны за мужчынай, якога аўтарка ўжо здаўна чакала, і радасьць ад яго зьяўленьня:

*Я шукала цябе мілы мой ўжо даўно, —*
*Я шукала цябе выглядала,*
*Вось такога, як сьніўся ў дзявочых мне снох,*
*Хоць тагды я цябе йшчэ ня знала!*

— пачынае свае вызнаньні паэтка, але сарамлівасьць, навык да скрытасьці, а яшчэ больш жаноцкая амбіцыя не дазваляюць ёй рабіць гэткіх шчырых рэвэляцыяў аб яе ўнутраным міру, і яна, спыняючы сябе, кажа ў адным зь безназоўных вершаў (ст. 32):

*Не хачу я нічога казаці табе,*
*Бо баюся, што ў словах маіх*
*Вылііецца каханьне маё для цябе,*
*Што усё зразумееш ты зь іх.*



Дый ня толькі казаць яму штось баіцца яна, але на’т узірацца на яго:

*Не хачу я глядзець, каб з маіх ты вачэй*
*Тайны сэрца майго не згадаў,*
*Каб паблеск іх таёмных, гарачых лучэй,*
*Як цябе я люблю — не сказаў.*

А вычытаць гэтую тайну зь яе вачэй мілому будзе тым лягчэй, што ягоны вочы маюць на яе нейкісь асаблівы ўплыў, гэтак уладарна магнэтызуючы яе крыючайся ў іх чорных бяздоньнях палкасьцяй, ажно яна спуджана пытаецца:

*Скажы, мілы, чаму —*
*Толькі гляну я ў вочы твае —*
*Мне здаецца, што ноч прад сабою я маю?*
*Так глыбокі яны, як яна,*
*І так ясны, як зоркі яе.*
*Ажно часам я вочы свае прыжмураю…*

*Скажы, мілы, чаму*
*У глыбокае іх глубіне,*
*Як на кніжцэ патчас — так чытаць я гатова?*
*Уся глуб твайго сэрца у іх*
*Чорна-ясным атсьвеціцца дне,*
*Адабьецца ляпей і ясьней, як у словах…*

*Чаму зь сілы усей*
*Часам хочэцца мне закрычаць:*
*Не глядзі — адвядзі ад мяне свае вочы!*
*Бо ўсё тое, што часам у іх*
*Мне удасца ўглядзець, прачытаць,*
*То мне разум, душу і ўвесь сьвет замарочэ?..*
*(«Чаму», ст. 26).*

Але раз пачатыя прызнаньні перапыніць трудна, і пясьнярка, крыху далей, ужо зусім адкрыта прызнаецца мілому ў сваім палкім каханьні:

*Як я цябе люблю, — хай скажэ гэта морэ,*
*Што у грудзях маіх бушуе, — хай гаворэ*
*Аб гэтым сэрцэ, што паглёд тваіх вачэй*
*Сон прабудзіў яго, аж дрогнула сільней*

*І так забілася, як птушачка у клетцы,*
*Што выравацца з грудзей хацела ўжо здаецца…*
*Як я цябе люблю, — хай скажэ салавей,*
*Што ночкамі пяяў над галавой маей;*

*І ночкі гэтые — бяссонныя ўсе ночы, —*
*Што да цябе нясьлі рой дум маіх дзявочых,*
*Як ты далёка быў — далёка ад мяне…*
*(«Як я цябе люблю», ст. 29).*

Чым далей, тым прызнаньня ахопленай полымем каханьня маладое дзяўчыны робяцца што раз то больш палкімі і неакелзанымі:

*Не глядзі на мяне… Маё сэрцэ так бьецца, дрыжыць;*
*Тваe вочы ў крыві у маей запаляюць агонь,*

кажа яна, а крыху далей дабаўляе:

*Не глядзі! Тваe вочы ясьнеюць, як неба у дзень,*
*Якбы зоркі у небе — так ясна, так мягка блішчаць;*
*Мой пагляд у іх тоне, бы ў той у марской глыбіне…*
*Не хачу ўжо глядзець, а вачэй не магу адарваць.*

*Не глядзі! Ты глядзіш, а тады так хацелася-б мне*
*Мой распалены твар да грудзей да тваіх прытуліць*
*І глядзець ў тваe вочы ўвесь век і на яве, і ў сьне..*
*Не хачу… А цябе не магу, не магу не любіць!*
*(«Не глядзі», ст. 31).*



Урэсьце, просячы яго, каб дазволіў пацалаваць сябе пры разьвітаньні, кажа:

*За твой пагляд адзін ўсё аддала-б на сьвеце —*
*І славу, і пачот, і шчасьце у жыцьці…*
*Пазволь апошні раз на цябе паглядзеці,*
*Пацалаваць цябе, а потым памярці!*
*(«Не глядзі», ст. 28).*

Бурлівы эратызм гэтак пранікае ўсю істоту К[анстанцыі] Буйло, што на’т гэткія адарваныя паняцьці, як «туга», прыймаюць у ейных паэзіях яскрава-эратычную форму любоўнага адданьня:

*Прыйшла ты да мяне ў паўночны ціхі час,*
*Прысела на маей раскіданай пасьцелі,*
*І сон мой адляцеў кудысь далёка — ўраз,*
*І мары сьветлые кудысьці адляцелі,*
*І былі мы з табой ў паўночы ціхі час…*

*І ўраз знайшлася я ў галубленьнях тваіх:*
*Ты абвіла мяне гарачымі рукамі,*
*Палючых вусн агонь лёг на грудзях маіх,*
*А ў вочы мне сваймі панурымі вачамі*
*Ўпілась ты, й мёрла з мук ў ваб’яцьцях я тваіх…*
*(«Туга», ст. 41).*

У гэтай сапраўднай сымфоніі каханьня, якой ёсьць любоўныя вершы К[анстанцыі] Буйло, не бракуе і сумных тонаў скаргі, адчаю, сьмяротнае тугі…

Адным зь лепшых вершаў у гэтым родзе ёсьць імпрэсія п[ад] н[азвай] «Адна» (ст. 34) — скарга кабеты, згубіўшай свайго мілага, ці мо’ пакіненай ім. Пачынаецца ён гэтак:

*Адна, ізноў адна, як колас той у полі*
*Не сьцяты ў час жніва нагострэным сярпом,*
*Зламаны ветрамі гулячымі на волі*
*Між апусьцелых ніў, спалосканых дажджом.*

*Адна, ізноў адна… Тужліва сэрцэ ные.*
*Наўкола пуста, глуш… Ноч цёмная стаіць.*
*А за вакном віхор так жаласьліва вые,*
*Якбы сканаць ня мог, ня хочучы больш жыць.*

Напасьледак зьвернем тут яшчэ ўвагу на адзін абразок, найбольш можа стыльны і суцэльны з усіх любоўных вершаў К[анстанцыі] Буйло; носіць ён назоў «Дзяўчына» (ст. 27).

Ад усяго гэтага вершу, утрыманага ў цёплых, пульсуючых гарачай крывёй, тонах, вее нявыказаным чарам дзявоцкае сыпяльні і бурлівае маладосьці; вось яго зьмест:

*Ўжо сьвечка пагасла, ўжо ноч за вакном…*
*Ў пасьцелі мне душна, ня сьпіцца…*
*О сон! Ты самкні мае вочы скарэй,*
*Мо мілы сягоньня прысьніцца!*

*Гадзіны ідуць, я ў пасьцелі ляжу,*
*І сон не змыкае мне вочы,*
*А месяц праз вокны лье сьвет залаты,*
*Малюнкамі сьцены залочэ…*

*Устану з пасьцелі, вакно адчыню, —*
*Мо вецер, што ў полі гуляе,*
*Мне скажэ, што робіць мой мілы цяпер, —*
*Мяне, як даўней, ці кахае?..*

І вось наша дзяўчына ўстае, адчыняе вакно і глядзіць на чароўны малюнак летняе месячнае ночкі і здаецца ёй, што ня толькі ветрык, але ўся агулам прырода кажа ёй аб сталасьці каханьня мілага, ды — на жаль — начны халадок хутка перапыняе гэтыя лятуценьні:

*А ночка халодна: ўжо чую, як мне*
*Дрыжаньне пабегла па целі;*



*Іду ўжо, лажуся у цёплай маей*
*І мягкай і белай пасьцелі…*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Заснула дзяўчына, а месяца сьвет*
*На вочы і вусны лажыцца.*
*Праз сон штось сьмяецца дзяўчынка мая;*
*Відаць, што ўжо мілы ей сьніцца.*

Канчаючы гэтым агляд любоўнай творчасьці К[анстанцыі] Буйло, спынімся тут толькі праз момант над роляй, якую яна грае ў беларускай адраджонай літаратуры.

Вось-жа галоўнай заслугай К[анстанцыі] Буйло зьяўляецца ўвядзеньне моманту выразна-эратычнага ў беларускую літаратуру.

Ні адзін спаміж беларускіх пісьменьнікаў перад ёй, а на'т і па сяньняшні дзень ня пісаў гэтак шчыра, палка і адважна аб сваіх любоўных пачуцьцёх, дык прадусім К[анстанцыя] Буйло пройдзе ў гісторыю беларускай літаратуры як пясьнярка каханьня. Але на гэтым не канчаецца яе роля ў беларускай літаратуры, бо К[анстанцыя] Буйло, будучы прадусім пясьняркай каханьня, адначасна з гэтым зьяўляецца і дасканальнай і тонкай імпрэсіяністкай, у харастве сваіх настрояў не ўступаючай паэзіям вядомай пясьняркі беларускай — Натальлі Арсеньневай, але гэта — асобная тэма, аб якой пагаворым іншым разам.

## Канстанцыя Буйло як імпрэсіяністка[62]

*Крытычны нарыс*

Канстанцыя Буйло, аўтарка зборніку паэзіяў п[ад] н[азвай] «Курганная кветка», займае бязсумліўна першае месца сярод пясьнярак Беларусі (другое — Н[аталья] Арсеньнева, трэцяе — А[лаіза] Кейрысова — «Цётка[63]»).

З паходжаньня дачка дваравога служачага ў Вішневе Ашмянскага павету, — К[анстанцыя] Буйло ўрадзілася ў самым канцы мінулага стагодзьдзя і адукацыю атрымала яна хатнюю, але шмат папоўніла яе праз сыстэматычнае чытаньне цэнных і карысных твораў.

Даведаўшыся аб беларускім руху ад аднаго студэнта-адраджэнца, яна захапілася справай і незабавам зрабілася сталай і выдатнай супрацоўніцай «Нашай Нівы». Займаючы па чарзе рад службовых становішч у рожных інстытуцыях і прадпрыемствах грамадзкага характару, яна ўрэсьце — ужо падчас вайны — выходзіць замуж за нейкага В[італя] Калечыца і больш-менш з гэтага часу ўсякія весткі аб ёй спыняюцца. Паводле апошняй — з-прад некулькі год — яна, пачынаючы з часоў рэвалюцыі, мелася жыць у Маскоўшчыне на станцыі Шахаўской Аляксандраўскай жалезнай дарогі.



✦ *Канстанцыя Буйло*

З той пары нічога ўжо больш аб ёй не чуваць!

Быць можа — памёрла яна, а хутчэй — заелі яе, як і шмат іншых замужак, сямейныя клопаты і абавязкі, адрываючы адначасна ад літаратурнай творчасьці і наагул ад інтэлектуальнага жыцьця.

---

[62] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускае Слова. № 11 (40). Вільня, 8 красавіка 1927. С. 2–3.

[63] **Цётка** (сапр. **Алаіза Пашкевіч**, у шлюбе **Кайрыс**, 1876–1916), паэтка, грамадская дзяячка, публіцыстка.



У кожным выпадку аднэй зь пярвейшых задач для менскіх культурнікаў зьяўляецца выясьненьне далейшых лёсаў К[анстанцыі] Буйло, адшуканьне яе, калі яна жыве яшчэ, ухіленьне тых фактараў, якія спынілі яе паэтыцкую творчасьць і прыахвочваньне яе да далейшае літаратурнае працы, калі-ж яна памёрла — сабраньне ўсіх не друкаваўшыхся або параскіданых па газэтам і календарам яе твораў дый апрацоўкі падрабязнае яе біяграфіі.

А цяпер пяройдзем да самага яе зборніку.

Старанліва выданы ў 1914 годзе ў Вільні заслужанай для беларускага адраджэнскага руху друкарняй М[арціна] Кухты — ён абыймае каля 100 старонак друку фармату васьмёркі.

Зьмешчаныя ў зборніку творы не падзелены на нейкія асобныя аддзелы, але прыглядзіўшыся бліжэй, можна ў ім прыкмеціць пэўную з грубшага праведзеную групіроўку матар'ялу; гэтак у самым пачатку пераважаюць імпрэсіі з дадаткам вершаў патрыятычных, далей бачым вялікую групу любоўных, у канцы-ж – ізноў імпрэсіі.

Акрамя таго знойдзем мы тут у перамежку зь іншымі паэзіямі і некалькі вершаў фантастычных, прыродаапісальных, а гэтак-жа пару маленечкіх паэмак зь сялянскага жыцьця. Пасьля вершаў, якім прысьвечана 50 старонак зборніку, рэшту яго займаюць два вершаваныя драматычныя творы, выяўляючыя даволі значную літаратурную вартасьць: 1. «Кветка Папараці» — фантастычны абразок у 1 акце з сымбалічным зьместам, пісаны пад моцным уплывам Купалавага «Сну на кургане», і 2. «Сяньняшнія і даўнейшыя» — драма ў 3-х дзеях з жыцьця сучаснае шляхты, малюючая барацьбу дзьвёх пакаленьняў: старога рэакцыйнага, узгадаванага ў духу прыгонных часоў, і маладога «народніцкага», настроенага паступова і рэвалюцыйна.

Наскольні ў «Кветцы папараці» бачым мы ідэалёгію пэрыяду зусім сьвядомага адраджэньня, пастолькі ў «Сягоньняйшніх і даўнейшніх» гучаць яшчэ даволі моцна ноткі шляхоцкага рамантызму.

Вяртаючыся да вершаў, трэба адзначыць, што сярод іх галоўнай і найбольш характэрнай групай зьяўляюцца «эротыкі» — вершы любоўныя, аднак дзеля таго, што мы іх, як патрабуючых больш падрабязнага досьледу, разгледзілі ўжо ў адумысловым артыкуле на іншым месцы, спыняцца тут над німі ня будзем, а спрабуем высьветліць іншую, гэтак-жа вельмі цэнную і важную галіну яе творчасьці — *імпрэсіі.* Ужо на 4-й старонцы зборніку спатыкаем вельмі прыгожую і вызначную глыбінёй думкі і паэтыцкім размахам імпрэсію «На крыльлі песьні»; вось яе пачатак:

*Ляту, нясуся ўзвыж, плыву па мягкіх хвалях…*
*Як лёгка, добра мне!*
*Гдзе я? Чырвонасьць зор, блакіт паднебнай далі*
*І сонца ясны блеск, і прозрыстасьць крыштальляў*
*Дрыжыць вакруг мяне.*

*Ляту, нясуся… Гэй, які абшар шырокі!*
*Як мгла — душа і грудзь.*
*Там дзесьці, ў даліне — чуць-чуць дагледзіць вока —*
*Ляжыць яна — зямля… Так нізка, так далёка!*
*А тоны ў высь плывуць.*

*Мяне штось зь імі рве, штось цягне страшнай сілай,*
*Якаясь моц нясе…*
*Што? — не згадаць ніяк — к жыцьцю ці да магілы…*
*І ведаць не хачу… Мне добра так, так міла*
*Ў высі нямой красе!*

Але-ж не здарма наша пясьнярка ёсьць поўнай спачуцьця і каханьня для цёмнага сярмяжніка ідэалісткай-«народніцай»!

Нечакана ў гэту краіну хараства, у якую перанясьлі пясьнярку мо' чутыя празь яе сьпеў або музыка («*А тоны ўвысь плывуць*»), а мо' толькі паэтыцкае натхненьне, — урываецца балючы ўспамін аб мужыцкім горы і вяртае яе да сумнае сапраўднасьці:

*Ціха! Во штосьці ўкруг там дзіўна задрыжала,*
*А сэрцэ ў тон яму*
*Забілась моцна так… і біцца перэстала..*
*Дух зьмёр, а штось ў глыбі там глуха ныць пачала,*
*Штось мчыць у ніз думу.*

*То болю ціхі стогн прарваўся ў сьветлай песьні*
*І міма праляцеў,*
*І сэрца дрыгнула, і дух заныў балесьне,*
*І згінуў сон… Ізноў ў чароўны край прадвесьні*
*Мчыць душу дзіўны сьпеў!..*

Ідэю гэтага арыгінальнага па форме і зьместу вершу можна тлумачыць яшчэ і гэткім чынам, што асабістае шчасьце людзкое ёсьць нетрывалае і неадлучнае ад гора, зь якім ідзе ў пары, сплятаючыся зь ім у адзін неразрыўны вузел…

Выразна «народніцкай» тэндэнцыяй пранікнута затое чарговая імпрэсія п[ад] н[азвай] «Каб я мела» (ст. 6), вызначаная маладым ідэалізмам і сьпеўнасьцяй вершу:

*Каб я крыльле лёгкай птушкі*
*Салавейкі мела,*
*Ў гай вясёлы, гай зялёны*
*Я-б не паляцела.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Я-бы зь песьняй паляцела*
*Ў горад той далёкі:*
*Там ёсьць дом пануры, сумны,*
*Цёмны і высокі.*
*На вакне закратаваным*
*Зь песьняй-бы я села*
*І вастрожнікам нешчасным*
*Сваю песьню-б пела.*
*Я пеяла-б аб свабодзе,*
*Аб шчасьлівай долі*

*І забыліся-б пры песьні*
*Яны аб няволі.*

Яшчэ больш захапляе сваёй непадкупнай шчырасьцяй, сьвежасьцяй пачуцьцяў і раскошным, наіўным прымітывізмам імпрэсія «Ў лесе» (ст. 7), вось яе зьмест:

*Як я лесам іду — на душы лёгка мне:*
*Я адна у лясной цішыне;*
*Аддыхаю душой. Тут, між елак, бяроз*
*Не чуваць ані енкаў, ні сьлёз;*
*Тут між іх я люблю так хадзіць і хадзіць,*
*Слухаць толькі што лес гаманіць.*
*Часам хочэцца птушкаю ў высь узьляцець,*
*Між зялёных галінак запець,*
*І шчасьліва пажыць, і ня відзець бяды,*
*Што пануе ў людзей заўсяды.*
*Тут люблю я глядзець, як дубочэк з сасной*
*Ціха шэпты вядуць між сабой;*
*Як з расою-сьлязінай бярозка адна,*
*Якбы мужа схаваўшы жана,*
*Да зямлі валасы апусьціўшы стаіць,*
*Чагось сумна і нудна шуміць…*

Зь іншых імпрэсіяў заслугоўваюць на ўвагу настраёвы «Хаўтурны звон» (ст. 19), апісуючы хаўтуры селяніна; гучная «Лебядзіная песьня» (ст. 20), далікатныя «Кветкі» (ст. 35) і субтэльны «Матыль» (ст. 41); арыгінальна патрактаваная «Туга» (ст. 41), урэсьце поўная нявыказанага хараства «Раніца» (ст. 42) і тонкі па форме, магутны сваёй экспрэсыяй безназоўны верш, пачынаючыся словамі: «*Ваал! — Я ўсё ўжо спаліла на аўтары…*».

Вось зьмест «Раніцы»:

*У вакно маё яснасьць глядзела*
*Ўсходам ясных, вялікіх вачэй*
*З русалчаных сьвятлістых плячэй;*
*Росы мглістые хваляй ляцелі…*



*Яе вусны штось ціха шэпталі:*
*Туды звала, здаецца, яна,*
*Гдзе з праменьнямі ветры гулялі*
*Ды віднела палёў шырына…*

*— Хадзі, пойдзем, пакінь нуду злую,*
*Хадзі, пойдзем далёка са мной;*
*Завяду цябе ў ясны сьвет мой*
*І ўсе чары яго пакажу я.*

*І праменьні ў вакно мне кідала*
*І красою маніла сваей,*
*І ў душы мне сьвятлеці пачала*
*Пад пагляд яе сьветлых вачэй.*

А вось пачатак безназоўнага вершу на ст. 51:

*Ваал! — Я ўсё ужо спаліла на аўтары…*
*Глядзі: высокаю ўзносіцца гарой*
*Мой попел — і німа ўжо больш ў мяне ахвяры, —*
*Дык не гудзі ты там пракляцьцем нада мной,*
*Бо ўсё, што мела я, спаліла на аўтары…*

Канчаючы гэтым агляд імпрэсіяў пясьняркі, пяройдзем цяпер да іншых, менш важных у яе творчасьці галін, ласьне да вершаў патрыятычных, прыродаапісальных і зь сялянскага быту.

Вершаў патрыятычных ёсьць агулам няшмат; адны зь іх маюць форму фантазіяў і ўспамінаюць слаўную мінуўшчыну, як, напрыклад, безназоўны верш, пачынаючыся са слоў: «Дзень сканаў» (ст. 12), другія выяўляюць моцныя «народніцкія» тэндэнцыі, як, напрыклад, прыгожы верш «Да працы» (ст. 10), горача заклікаючы да прасьветнай працы сярод цёмных братоў:

*Да працы час, браты! Мы туманы разьвеем:*
*Бо, як у пялёнках, ў іх ваш сумны край ляжыць,*

*Каханьнем маладым мы дух яго сагрэем, —*
*Нізіны кіне ён і вышэй узьляціць.*

Што-ж датыча вершаў прыродаапісальных, дык іх у поўным сэнсе гэтага слова ў зборніку бадай што зусім няма, затое ёсьць апісаньні прыроды, патрактаваныя ў форме фантастычных імпрэсіяў, як, напрыклад, «Ноччу» (ст. 17), «Ноч» (ст. 40), «Русалка» (ст. 46).

Гэтаксама няма ў зборніку вершаў у даслоўным значэньні сялянскіх, і знаходзім тут толькі дзьве невялічкія паэмкі зь сялянскага жыцця з значнай падмешкай сэнтымэнталізму: «Руты» (ст. 43–44) і «Курган» (ст. 48–49).

Канчаючы гэтым агляд зборніку «Курганная кветка», адзначым яшчэ тое, што толькі поўная біяграфія пясьняркі, якой дасюль няма, дасьць магчымасьць выявіць поўнасьцю эратычны, асабісты элемэнт у паэзіях К[анстанцыі] Буйло; тое месца, якое займаюць у яе творчасьці ўласныя перажываньні, але і цяпер ужо відаць, што месца гэта аграмаднае!

У беларускай літаратуры К[анстанцыя] Буйло займае выдатнае месца сярод пярвейшых песьняроў нашаніўскае пары. Галоўную роль грае яна ў беларускім пісьменстве як *пясьнярка каханьня*, але акрамя таго можна яе разглядаць як *імпрэсіяністку, патрыётку-«народніцу» і аўтарку сцэнічных твораў*.

Пасьля эротыкаў найвялікшую вартасьць у яе творчасьці маюць імпрэсіі, тонкія і вышуканыя, нагадываючыя сваёй інтэлігентнасьцяй творы М[аксіма] Багдановіча.

Сьмерць яе была-б вялікай стратай для беларускай літаратуры, дык лепш цешымо сябе надзеяй, што ліра К[анстанцыі] Буйло ня змоўкла яшчэ на векі і што яшчэ ўсьцешыць нас калісь яе салодкі сьпеў.



## На сонечны бераг![64]

Перад намі сьвежа выданы Ст[аніслвам] Глякоўскім[65] і Я[зэпам] Найдзюком[66] зборнік вершаў: Міхась Машара[67] «На сонечны бераг!». Вільня, 1934. У кніжцы гэтай 78 бачын прыгожага друку. Зьмяшчае ён 73 вершы маладога заходня-беларускага паэта, вершы якога друкаваліся часам і ў «Родным Краі»[68]. Выдана кніжка запраўды старанна, у мастацкай вокладцы ў дзьве хварбы: бранзовую й сінюю. Пад тытулам адбіта клішэ з абраза беларускага артысты-маляра Пётры Сяргіевіча[69]: на чайцы з парусам вяслуе поўны сівы чалавек з надыхнёным тварам. Кніжка з партрэтам аўтара.



✦ *Міхась Машара*

Абдараны бязумоўным талентам, паэт у жыцьці запраўдны гаротнік. Ён малюе сваю асабістую долю безь ніякага фальшывага сораму, хоць-бы вось гэткім вершам:

*З траплом у руцэ, у старой, старой адрыне*
*Стаю ля плоймы лёну на калу.*
*Па злоту ў дзень! — вось сэнс жыцьця адзіны —*
*Жыдоўскі лён траплю, траплю, траплю.*
*Траплю лянок! Мяцеляцца валокны,*
*Кастрыцца замецьцю кастра і пыл,*

---

[64] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Родны Край. №12 (37). Вільня, 25 траўня 1934. С. 3.

[65] **Станіслаў Глякоўскі** (1896–1941), рэлігійны і грамадскі дзеяч, каталіцкі святар.

[66] **Язэп Найдзюк** (1909–1984), грамадскі дзеяч, выдавец, друкар.

[67] **Міхась Машара** (1902–1976), паэт, празаік, драматург, перакладчык.

[68] **«Родны край»** — газета, якая выдавалася ў Вільні ў 1933–1936 гг.

[69] **Пётра Сергіевіч** (1900–1984), жывапісец, графік, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы.

*Падходзіць жыд — пузаты і нягодны —*
*— А колькі ві тут вітрапалі кіл?*

Тут ня танны антысэмітызм, а вечны кантраст паміж працаю і капіталам прыватніка, і гэта робіцца ясным з далейшых слоў паэта:

*Тут гэта дрэнь — ня дрэнь, а працадаўцы,*
*Усе пакорны гэтай п'яўцы тут,*
*Ён часта лічыць кіль за дваццаць*
*Ў адзін звычайны, стары пуд.*

*Ды тут да крыўд, да працы і клапотаў*
*Здаўна прывык вясковы пралетар.*
*За марны грош дрыжыць перад марнотай,*
*Ніхто ня плюне гэтай п'яўцы ў твар.*

Уся радасьць паэта ў… песьнях (гэтак заўсёды разважае праўдзівы талент), і ён гэткімі словамі зьвяртаецца да іх:

*Песьні… солад ваш і мукі*
*Пеняць радасьці і боль.*
*Я хачу пявучым гукам*
*Залаціць мазоль.*

А зь якой цяплынёю сэрца малюе Машара вясковую хатку ў вершы гэтага-ж назову:

*Стрэшка саламяная*
*Мохам прарасла.*
*Ў вокнах алавяная*
*Мучыцца туга.*
*Шыбы дык пабітыя*
*Летам і зімой.*
*Дзіры іх прыкрытыя*
*Вопраткай старой…*
*Ды хляўцы з паветкаю,*
*На узбочча клець.*



*Ўсюды беднасьць сведкаю,*
*Як мужык жывець.*

Але паэту не чужы гэты абраз — ён свой, родны. І Машара канчае верш пытаньнем:

*Хатачка вясковая,*
*Матка беднаты,*
*Цесная, убогая,*
*Чым мне люба ты?*

Сьветагляд Машары прабіваецца наверх і ў яго рэдкім па рытміцы вершы «Мы — песьняры». Верш аж просіцца на ноты:

*Ідзём мы ў сьвет і новай верай,*
*Як сонцам, чысьцім пуць,*
*А словы самі ў песьні сьмела*
*Віраца і плывуць.*
*Прад намі — муць нязнанай далі,*
*Над намі — сінь вясны,*
*За намі — йдуць шырокай хваляй*
*Сялянскіх стрэх сыны…*

Ёсьць у зборнічку вершы вастрожскія, некаторыя так і пазначаны: *Лукішкі*[70]. Ёсьць і… пасьля вастрогу. Гэткая ўжо доля беларуса, калі ён — пясьняр.

Ёсьць у кніжцы, хоць і вельмі дробныя, карэктурныя недахопы, што можа зьбіваць з толку нашага вясковага чытача. Часам трапляецца *у* замест *ў* і наадварот, псуючы разьмер вершаў. Чытач больш граматны сам адчуе недахоп і паправіць, дзе трэба; горш — калі чытач строга будзе чытаць тое, што бачыць. Гэткіх чытачоў хіба што заўсёды ў нас большасьць набярэцца, і для іх карэктар мог-бы не пашкадаваць большае ўвагі.

[70] **Лукішкі** — галоўная турма ў Вільні, у якой у міжваенны час былі зняволеныя шматлікія беларускія нацыянальныя дзеячы.

Каштуе зборнічак 1 злоты. Цана на цяперашні цяжкі час як быццам немалая.

Але пара нам зразумець, што сярод культурных народаў таленты растуць, таму што ведаюць цану ім гэтыя народы.

Зборнічак Машары не павінен застацца без чытачоў, ад якіх залежыць як матар'яльнае, так і маральнае падтрыманьне маладога песьняра на яго нялёгкім жыцьцёвым шляху.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## Гражданка — наша нацыянальная азбука[71]

На высунутае на старонках «Беларускага Дня» грамадзянінам М. В-ім[72] пытаньне аб нашай транскрыпцыі, ён рашуча выказаўся за лацініку, прадказваючы сьмерць гражданцы, якую заве кірыліцай. Дарэчы будзе спомніць, што кірыліца гэта азбука, якою друкуюцца царкоўныя кнігі — азбука царкоўна-славянская. А літары, якімі друкуюцца й наша часопісь — гэта кірыліца зрэфармаваная або гэт[ак] зван[ая] гражданка.

Аргумэнтацыя грам[адзяніна] М. В., нібыта беларусы, якія арыентуюцца на Ўсход, стаяць за кірыліцу (гражданку), а тыя, што арыентуюцца на Захад — за лацініку, — цьвярджэньне досыць сьмелае, бо трудна паверыць, каб на Захад кіраваўся расейскі прафэсар Расторгуев[73], які на

[71] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускі дзень. №4. Вільня, 25 сакавіка 1927. С. 4–5.

[72] Гл.: М. В-і. Лацінка ці кірыліца? // Беларускі дзень. Вільня, 7 сакавіка 1927. С. 6–8.

[73] **Павел Растаргуеў** (1881–1959), беларускі і расійскі мовазнаўца і педагог.



Менскай Акадэмічнай Канфэрэнцыі выказваўся за лацініку? А якраз вядомыя беларускія культурнікі, прыхільнікі заходняга эўрапэізму, падавалі галасы за гражданку, як нашыя нацыянальныя літары, стараючыся напіраць толькі на пэўнае яе зрэфармаваньне.

Той факт, што лацініка заваёўвае месца ў азіятаў, расходзіцца па ўсім сьвеце, яшчэ мала чаго нам кажа. Няўжо мы павінны цягнуцца сьледам за туркамі, японцамі і гэтак далей ?

Чаму «Наша Доля» і «Наша Ніва» дай іншыя часам газэты выходзілі і гражданкай і лацінікай, для кожнага павінна быць зразумелым. Тут рашалі матывы чыста практычныя. Беларусы, на сваю бяду, былі, і ў пэўнай меры цяпер застаюцца, пад уплывам расейскай і польскай культуры. Пэўныя, даволі дужыя, мамэнты гэтых культураў праводзіліся ў беларускія народныя масы з аднаго боку праз праваслаўе, з другога — праз каталіцызм.

І як гэта ні парадаксальна, як ні сумна, а і дасюль яшчэ часамі цёмны беларускі селянін азначае сваю нацыянальнасць, рахуючыся з рэлігіяй: каталік — значыць паляк, праваслаўны — рускі. А, зьбіты зусім з панталыку, селянін такі проста кажа, што ён — тутэйшы.

Вось-жа дзеля таго, каб роднае друкаванае слова даходзіла як да каталікоў, падлягаўшых польскім нацыянальным уплывам, так і да праваслаўных, цярпеўшых дэспатычна-прымусовую маскалізацыю, беларускія часопісы часамі друкаваліся дубальтова — і лацінікай, і гражданкаю.

Бязумоўна барацьба (і нават вельмі выразная) абодвух вышэйназваных уплываў — аднаго з Захаду, другога з Усходу — адбіваецца на нас і дасюль. Але шырачэнныя беларускія масы нацыянальна будзяцца, цёмная сялянская душа беларуса ясьнее, праціраючы вочы і шукаючы свайго нацыянальнага шляху да сонца свабоды.

У гэтым магутным масавым руху беларускім справа гражданкі ці лацінікі часта робіцца справаю асабістае сымпатыі.

Ужываньне тае ці іншае транскрыпцыі ў нашым друку малады беларускі рух мусіць датарноўваць да практычных мамэнтаў.

Аднак-жа гістарычна сьцверджана, што кірыліца раней была нашаю, чымся запанавала яна ў Маскоўшчыне, а затым у «сабранай» ёю быўшай Расеі. У літоўска-рускі пэрыяд нашае гісторыі дзяржаўнаю транскрыпцыяй была гражданка, якая і ў актах пасьля вуніі Літвы з Польшчаю завецца *«рускімі літэры»*.

Значыцца, за гражданку голасна сьведчыць наша гісторыя, гражданка мае за сабою глабычэзную традыцыю. Ёсьць, праўда, традыцыі благія, але ёсьць і гэткія, міма якіх народ прайсьці ніколі ня можа. Напрыклад, забабонная вера нашых вясковых дзядзькоў і цётак у розныя чары, чартоўскія штучкі, у сілу лякарскае веды знахароў, а ня сучасных вучоных мэдыкаў, — факт прыкры, як абапёрты на цемнаце народнай, але і ў звычаёвых традыцыйных мамэнтах нашага народу ёсьць сьветлыя бакі, дзе наўрад ці варта што зьмяняць або ламаць. Напр[ыклад], нам мілей чуць, як беларус старэйшых векам за сябе, бацькоў сваіх ці роўных сабе людзей малазнаёмых, ветліва называе на «вы», замест маскоўска-татарскага або каўкаскага — «ты». І гэта ў нашым народзе ідзе па традыцыі, русіфікацыя тут у нашым сялянскім быце нічога не патрапіла зьмяніць.

Пазволю сабе сказаць, што малады наш рух, даўшы калясальны палітычны скок угару, у сэнсе культурным паўзе досіць марудна і нам як быццам і часу няма заглянуць у нашу далёкую мінуўшчыну, калі прашчуры нашыя былі эўрапэйскім народам, умелі дастойна перажываць крытычныя мамэнты Оршы, Койданава і Грунвальда, мелі сваё кніжнае слова.

І транскрыпцыяю іх была кірыліца, цяпер гражданка.

Бяда невялікая, што яна патрабуе зрэфармаваньня.

Чаму-ж яна мае памёрці?



## Трымайся родных назоваў![74]

З гэткім клічам хацелася-б зьвярнуцца да нашае беларускае інтэлігенцыі.

Як ведама, Беларускі Народ складаецца ледзь не з аднаго толькі гаротнага сялянства. Прамысловыя работнікі і працоўная інтэлігенцыя ў нас у вузка нацыянальным сэнсе не складаюць сабою паважнае масы. Інтэлігенцыя ў агульна прынятым разуменьні ўсё-ж такі беларуская ёсьць. Ворагі-ж нашага адраджэньня любяць ссылацца на тое, што ў нас *«няма інтэлігенцыі»*, бяручы пад увагу нядаўнюю яе нацыянальную маласьвядомасьць і выхаванасьць у чужой для беларуса культуры. Бяда толькі, што інтэлігенцыя наша старое расейскае школы апынулася тут, у Заходняй Беларусі, блізка што пагалоўна безработнаю: кожны, як кажуць, займаецца *не сваёю* справаю. Больш як паўтысячы народных настаўнікаў ня вучаць у родных школах, бо школ гэтых няма, а *плугаюць* зямлю-маці таксама, як і звычайныя сяляне — дзядзькі ды бацькі іхнія. Ніхто не падлічыў і безработных беларусаў іншых інтэлігенцкіх прафэсіяў.

Уся наша народная, жыўшая ў родных вёсках, інтэлігенцыя можа і павінна быць наперадзе ў нацыянальным руху, служачы, па меры сіл і магчымасьцяў, сваім менш асьвечаным ведаю братам. Штучна адарваная маскоўскім царызмам ад родных каранёў, яна цяпер, воляю лёсу і нашай гістарычнай трагэдыі, апынулася ізноў у народных гушчах. І колькі-ж яна можа зрабіць у сэнсе захоўваньня ўсяго чыста-нацыянальнага ў гэтых гушчах!

На інтэлігентаў у буйных местах, дзе гэтулькі пакусы да асыміляцыі, народу трудна разлічваць. У гэткай, напрыклад, Вільні ёсьць даволі шмат беларускае інтэлігенцыі: яе рады павялічваюцца студэнцкаю і вучнёўскаю

[74] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларуская культура. № 1. Вільня, 1927. С. 59–61 пад псеўданімам Звончык.

моладзяй. А спытайцеся, колькі тут у заходня-беларускай сталіцы беларускіх сем`яў, у якіх хатняя мова — беларуская? Адказ просты, што каб палічыць сем`і гэткія, дык хопіць пяцёх пальцаў аднае рукі дый можа адзін-два пальцы акажуцца лішнімі.

Правінцыяльнай інтэлігенцыі, асабліва зьлітай зь сялянствам у адно сацыяльнае цэлае, няма нашто браць гэтага благога прыкладу з розных там «дзеячоў», якія дома гавораць альбо па-расейску, альбо па-польску.

Жывучы тым самым сялянскім вясковым жыцьцём, кожны з нашых братоў, пабачыўшых больш-менш сьвятло навукі, павінен зразумець, што ў будаваньні роднае, нацыянальнае культуры ляжыць ключ беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Вось, напрыклад, наша народная інтэлігенцыя шмат можа зрабіць, захоўваючы ў жывой мове, перапісцы, карэспандаваньні ў беларускія часопісі ў кожнай простай гутарцы — свае родныя назовы местаў і мясцовасьцяў, што гэтак часта перакручваюцца.

Пяройдзем проста да справы.

Хто ня чуў на вёсцы, як гуляе па ёй цяпер ад хаты да хаты, ад чалавека да чалавека, пачынаючы з солтысавай сядзібы, слова — *гміна (gmina)*.

А ці хто задумаўся калі над тым, што слова гэтае ня наша, а чыста польскае. Бо ў нас ёсьць сваё нацыянальнае слова таго самаго значэньня. Слова гэтае — *воласьць*. Яно ёсьць у актах за літоўска-рускі пэрыяд нашае гісторыі, выданых Пецярбурскаю Акадэміяй навук. Яно — нашае зь незапомненых часоў і нішто ня змушае ягоісьці ад нас упрочкі.

Інтэлігенцыя наша павінна і трымацца гэтага слова, падаючы прыклад цямнейшым братам сваім. А тымчасам заўважаецца нешта іншае: карэспандуючы ў беларускія газэты, ледзь ня кожны піша там, дзе трэба *воласьць* — гміна.

Кожная мова мае свае асаблівасьці, і наша таксама. Асаблівасьці гэтыя нярэдка настолькі пукатыя, што, пачуўшы само слова альбо ўбачыўшы яго напісаным, кожны інтэлігентны чалавек адразу можа сказаць, зь якое яно мовы.

Дзякуючы нацыянальным асаблівасьцям, мовы розных народаў і адрозьніваюцца адна ад аднае.

Калі, напрыклад, які-небудзь беларускі назоў літаральна перакладзём на іншую мову, нават часамі і блізкую да нашай (польскую ці расейскую), дык назоў гэты наўрад ужо ці будзе для беларуса зразумелым.

Хто мяняе назовы нашых местаў або вёсак і як мяняе — гэтых даных пад рукамі ня маем. Аднак-жа факт, што замен гэткія дзе-ня-дзе ўжо чуваць.

Возьмем, напрыклад, места (ці мястэчка) *Дзятлава* ў Слонімскім павеце. Як яго завуць афіцыяльна (г. знач. па-казённаму) цяпер?

Завуць гэтае мястэчка — *Ździęciol.*

Але ж ці для нас Дзятлава пакінула быць Дзятлавам?

Сяло ці мястэчка ў Віленшчыне, якое дзяды і прадзеды нашага пакаленьня называлі *Куранец*, цяпер завецца афіцыяльна *Kurzeniec*, вёска *Забярэзіна* ў Горадзенскім павеце перароблена афіцыяльна ў *Zabrzezino*, *Турэц* — у *Turzec* і г. д.).

Рэч вядомая, што ў Усходняй Беларусі валасныя пісары пры царызме перакручвалі беларускія прозвішчы на расейскі лад і які-нібудзь наш Чыж — выходзіў у іх ужо *Чижев*, Рыжык — *Рижиков*, Бадун — *Бодунов* і г. д.

Калі і цяпер перакручваньні нашых назоваў зроблены лёгкаю рукою якога-небудзь эндэка — валаснога пісара, дык беларускія прадстаўнікі ў адпаведных самаўрадовых інстытуцыях павінны падняць свой голас у абарону роднага назову.

Бо каму-ж патрэбна перакручваньне нашых назоваў на польскія?

На гэтае пытаньне адно можна адказаць, што ні польскаму селяніну, ні работніку, ні інтэлігенту Варшавы, Лодзі ці Пазнані перакручваньне гэтае непатрэбна. Тым болей непатрэбна яно і нам.

А нашто нам тое, што нікому непатрэбна?!

Які праўдзівы назоў таго ці іншага геаграфічнага пункту, вельмі часта можна даведацца ад самога вакольнічнага насяленьня, асабліва ад старэйшых людзей, ад дзядоў і бабулек.

Вось помніцца мне, што адно сяло ў Лідзкім павеце старыя людзі ў мае дзіцячыя гады называлі *Дзебрава*. Вядомае ўсім стараславянскае слова *«дебра»* ўжываецца сялянамі і ў Горадзенскім павеце. І вось тое, што нашымі сялянамі называлася Дзебравам, насіла ў часы расейскага панаваньня — дый цяпер носіць — назоў *Дземброво* — (*Dziembrowo*).

Вось тут і варта мясцовай беларускай інтэлігенцыі дакапацца да праўды — знайсьці гістарычны назоў сяла, даведацца ад тык з нашых дзядзькаў, хто ўжо аднэю нагою ступае ў дамавіну — ад старэйшых людцаў, — як у іхнія маладыя або дзіцячыя гады называлі цяперашняе *Dziembrowo*?

Бо з старадаўнімі местамі нашымі справа лягчэйшая: назоў іхні ёсьць у старых гістарычных дакументах. Маючы ў руках акадэмічныя выданьні гэтых дакументаў, лёгка даведацца, напрыклад, як беларусы звалі цяперашняе *Grodno*.

Паводле розных пісаных матар`ялаў за літоўска-рускі час нашае гісторыі, калі мова беларуская была ў нашым краі дзяржаўнаю, назоў цяперашняга *Grodna* пісаўся — *Гродно*, — паводле цяперашняга беларускага правапісу — *Горадна*.

Гор採днам яго завуць старэйшыя людзі ў глухіх лясных куткох павету і цяпер ад назоўнага склону — *Городна* або яшчэ часьцей *Горадзен*. Назоў Горадзен я чуў ад дзядзькоў сваіх, калі быў маленечкім дзіцянём, кожны раз, як гутарка йшла аб цяперашнім *Grodne*.

Праўда, чыясь лёгкая рука адсюль зь Вільні пусьціла для гэтага места свой назоў — *Городня*, мусі прыраўноўваючы да слова *Вільня*. Але назоў Горадня з часам напэўна, як чыста інтэлігенцкі, павінен будзе даць месца *Горадну*, як чыста мясцоваму сялянскаму і традыцыйна-беларускаму.

Называць мясцовасьці моваю прадзедаў нашых ніхто нам забараніць ня можа. А трымаючыся родных назоваў, мы заўсёды ўсяму сьвету будзем сьведчыць, якая тут нацыянальная галоўная маса насяленьня, які жыве народ!

Мы павінны помніць прарочыя словы Мацея Бурачка, якога *«Smyk Biełaruski»* і *«Dudka Biełaruskaja»* дэклямаваліся па самых глухіх кутках Беларусі.

А Бурачок казаў: *«Не пакідайце мовы нашай роднай беларускай, каб не памёрлі!»*

І названыя вышэй творы Бурачка вылазілі зь цесных межаў вёскі, даходзілі да тагачасных *«гарадзкіх вучылішчаў»* і сярэдніх школаў, куды іх заносілі з сабою сыны нашага сялянства.

Дык чаму-ж нам ня трымацца родных назоваў нашых гэаграфічных пунктаў?

Хто-ж нас можа змусіць замяніць гэтыя назовы чужымі?

Ніхто!

Я ўзяў тут напамяць некалькі праяваў замены нашых назоваў на чужыя.

Напэўна сьпісак іх можа прадоўжыць значна далей.

Хай-жа кожны беларус стараецца ў сваёй мясцовасьці ўлавіць праўдзівы традыцыйны назоў нашага ці іншага заселенага нашым народам пункту і, калі назоў гэты заменены якім-небудзь новым, перакручаны на чужы лад, дык хай падасьць да публічнага ведама падобныя здарэньні.

Толькі шануючы сваю родную культуру, мы можам разьлічваць і на пашану да яе з боку іншых народаў.

А дзеля гэтага шмат зробім у сэнсе гэткае пашаны, калі будзем трымацца сваіх родных назоваў, створаных роднаю беларускаю стыхіяй у вольныя часы гаспадараваньня ў сваім краі нашых прашчураў.

# УСПАМІНЫ

## Мае ўспаміны аб Івану Луцкевічу[75]

Я сустрэўся і пазнёміўся зь нябожчыкам першы раз у сярэдзіне кастрычніка 1918 году, на пасяджэньні Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Менску, дзе шмат гаварылася аб тым, каб зараз-жа абвясьціць Беларускую Народную Рэспубліку незалежнаю, каб процістаяць ганебнаму Берасьцейскаму міру[76] бальшавікоў зь Нямеччынай, што куплены быў цаною нашай бацькаўшчыны.


✦ *Іван Луцкевіч*

У той час, як брат нябожчыка[77] ў сваіх прамовах быў роўным, разьмяркованым, — Іван Луцкевіч[78] з юнацкім імпэтам, хаця і зь цяжкімі нездаровымі пярэрвамі, каб адкашляцца, заклікаў кожнага да рашучасьці і спазнаньня права нашага беднага народу на вольнае, уласнае палітычнае жыцьцё. Ён даводзіў прыклады ірляндзкага руху і іншых прыціснутых недзяржаўных (тады) народаў, як чэхі і інш. Ад нас дзядзька

[75] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Звон. Менск, 5 верасьня 1919.

[76] Маецца на ўвазе **Брэсцкая мірная дамова**, заключаная 3 сакавіка 1918 г. паміж Савецкай Расіяй і Нямеччынай, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй. Паводле яе значная частка беларускіх тэрыторый пераходзіла да немцаў.

[77] **Антон Луцкевіч** (1884–1942), грамадска-палітычны і культурны дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага незалежніцкага руху і адзін з лідараў беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг. Рэпрэсаваны.

[78] **Іван Луцкевіч** (1881–1919), грамадскі дзеяч, публіцыст, археолаг, краязнаўца, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады і газеты «Наша Ніва».



І[ван] Луцкевіч пабег некуды, каб залажыць у Менску беларускую выстаўку, адтуль у рэдакцыю беларускай часопісі, каб аддаць заметку аб новым адкрыцьці з нашага гістарычнага ці старадаўняга культурнага жыцьця. Ён увесь час гарэў, бегаў, клапаціўся. Праз цэлае лета 1918 року І[ван] Луцкевіч працаваў над тым, каб як мага шырэй паставіць беларускую выстаўку ў Менску, і гэта яму ўдалося. На выстаўцы, дзе былі паказаны самыя цікавыя прадметы — жывыя сьведкі нашае мінуўшчыны, перабывала нямала менскіх жыхароў.

Трапіўшы ў сярэдзіне сьнежня таго-ж самага 1918 году ў Вільню ў рэдакцыю «Гомана»[79], я пазнаёміўся нават і з тым гаротным бытам, якім жыў нябожчык І[ван] Луцкевіч разам з братам. Мясьціліся яны ў адным невялікім пакоіку ўпоруч з рэдакцыяй, і ў той час, як брат зранку аж да вечару працуе ў рэдакцыі, І[ван] Луцкевіч немаль і ня прыпыняецца ўдома; за дзень ён пабывае ўсюды, зловіць самыя апошнія вячэрнія навіны палітычныя. Нягледзячы на сваё слабое здароўе (сухоты), Іван заўсёды быў, як кажуць, «на нагах». Газэтные навіны ён стараўся перагледзіць з самага ранку, іншы раз не ўстаючы з пасьцелі. Куды я ні заходзіў на гадзіну-другую ў віленскія беларускія арганізацыі, будзь гэта клюб, тэатр, рэдакцыя ці які-небудзь выпадковы сходзік, усюды неадменна я спатыкаў нябожчыка Івана; ён патрапляў быць усюды, дзе чутно было беларускі голас, і ўсюды радзіў, паведамляў, за ўсё дрыжаў душою шчырага ідэёвага беларускага патрыёта. А праз момант пасьпяшаўся яшчэ некуды, каб ізноў разьліваць нязьмерны імпэт свайго натхненьня. Аднаго разу зірнуў я ў яго архіў-музэй, што быў заўсёды на замку, як нейкі найдаражэйшы скарб, як праца, якая патрабавала значнага часу і, сабраная ў скарбонку, замыкалася моцна, каб ніхто ня сьмеў

[79] **«Гоман»** — беларуская газета, якая выдавалася ў Вільні лацінкай і кірыліцай з лютага 1916 г. да канца 1918 г. Яе рэдактарамі былі Вацлаў Ластоўскі і Язэп Салавей (з сярэдзіны 1917 г.).

паварушыць яе без патрэбы. Увечары, пры электрычным асьвятленьні, дзядзька Іван увёў мяне, як старадаўні мудрэц, у сваю кумірню. Вочы мае прабеглі па паўнюткім пакоі, па сьценах і вокнах. Чаго толькі ня ўбачыў я! І старыя генэральскія партрэты, і татарская рукапісная кніга на беларускай мове, і маленькія збаночкі, і проста квяцістыя чарапкі, сьведкі нашага старадаўняга промыслу і мастацтва. Дзядзька Іван на мае раптоўныя запытаньні кінуў некалькі тлумачэньняў і пасьпешна раптам пачаў выводзіць мяне назад з музэю, прыгаворваючы: *«Ой, дзе тут разабрацца ўвечары. Тут ня толькі за дзень, але й за месяц ўсяго не растлумачыш»*. Ён, як відаць, па свайму ўжо прызвычаеньні выпіхаў мяне з музэю, бо ня верыць мне ён ня мог, і зараз-жа, як толькі мы выйшлі ў суседні пакой, ён сказаў мне, выходзячы можа яшчэ на якую сходку беларусаў (нягледзячы на даволі позьні час): *«Але, глядзі, каб замкнуў, вось табе ключ, нікога чужога не пушчай!»* Ён даверыў мне цэлы беларускі скарб, але зрабіў гэта праз мінуту пасьля таго, як вывеў чамусьці мяне з гэтае скарбонкі. Ён заўсёды сьпяшаўся; нават будучы зусім хворым, калі я застаў яго раз у пасьцелі, ён падустаў, пасьля ўступіўшыся ў начныя выступкі, забегаў па хаце і аднатонна, перарываючы голас і кашляючы, шмат гаварыў. Безнадзейна хворы, ён непадобны быў да гэтага сваёй магутнаю, бясьсьмертнаю ў нашай беларускай памяці, душою. Ён сьпяшаўся… і на той сьвет ён гэтак сама пасьпяшыў. І было ж ад чаго яму туды пасьпяшыць. Жонка пажарніка, цётка Петронэля, што служыла ў рэдакцыі, аднаго вечару расказала мне некалькі слоў пра беднае жыцьцё Луцкевічаў. Недаед, голад, холад, нейкая вечная недастача грошай на пражыцьцё *«так-сяк»*, прытулішча ў сырых, мураваных куточках — усё гэта магло скалечыць і змагчы самы жалезны арганізм. І бачучы перад сабою сьвежую магілку яшчэ адной вялікай ахвяры для шчасьця і лепшай долі Бацькаўшчыны, ня будзем траціць веру ў канечную перамогу нашае ідэі, будзем насіці ў сабе імпэт



творчага натхненьня і адвагу самаахвярнасьці, як насіў іх адзін з нашых старэйшых правадыроў — сягоньня ўжо нябожчык — Іван Луцкевіч. Вечная памяць вернаму сыну свайго народу! Хай ніколі не запомняць яго тыя, хто гатоў сабою замяніць яго. Іван Луцкевіч памёр, але сьлед яго на беларускай ніве вечны і несьмяртэльны!

## Беларускі хор[80]

Беларускі хор пад кіраўніцтвам Тэраўскага[81] пачаў сваю працу яшчэ ў студні месяцы 1915 г. У ліку пятнаццацёх асобаў пяўцоў-аматараў ён пачаў выступаць у менскіх шпіталях для хворых ваякаў, маючы ў сваім рэпэртуары ня больш дзесяцёх беларускіх народных песьняў. Спачатку, ведама, публіка крытычна аднеслася да беларускіх песьняў. Але хор не пераставаў працаваць і з кожным разам усё больш знаходзіў сабе прыхільнікаў. Вельмі горача віталі хор ваякі-беларусы, пачуўшы свае родныя песьні. Яны пачалі даваць хору свае вясковыя песьні, і рэпэртуар з тых часоў пачаў павялічвацца.



✦ *Уладзімір Тэраўскі*

У 1916–1917 гг. хор даў шмат канцэртаў у Юбілейным Доме[82] і яшчэ больш зацікавіў публіку. У тым-жа 1917 г. хор

[80] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускае жыцьцё. Ілюстраваная часопісь. №3 (25). Менск, 9 лютага 1920. С. 4–5.

[81] **Уладзімір Тэраўскі** (1871–1938), кампазітар, дырыжор. У 1914 г. стварыў адзін з першых у Менску харавых калектываў, які ў 1917 г. быў рэарганізаваны ў Беларускі народны хор. У 1920-я гг. (з перапынкамі) працаваў галоўным хормайстарам БДТ-1, кіраваў харавымі калектывамі пры БДУ, Менскім педтэхнікуме, прафсаюзе паштавікоў-тэлеграфістаў.

[82] **Юбілейны дом** — маецца на ўвазе т. зв. Архірэйскі дамок у Менску, цяпер па адрасе: пр. Незалежнасці, 26 — тут месціцца Патрыяршае прадстаўніцтва РПЦ.

далучыўся да Першага Т[аварыст]ва Беларускай Драмы[83], і яго праца пайшла ў шырокім маштабе. Дзякуючы добрым варункам, у якіх ён знаходзіўся ў той час, лік асоб павялічыўся да 50 чалавек. Аб ім стала чутно ня толькі ў Менску, а амаль па ўсёй Беларусі. У сучасны момант хор у ліку 40 чалавек працуе ў Таварыстве Працаўнікоў Беларускага Мастацтва, да якога далучыўся ў жніўні 1919 г. Рэпэртуар яго цяпер абыймае болей за 200 беларускіх песьняў. Частка зь іх — народныя песьні, гарманізаваныя п. Тэраўскім, частка-ж уласнай яго музыкі.

У апошнія часы п. Тэраўскі заняўся укладаньнем зборніка беларускіх ваяцкіх песьняў для беларускага войска.

## 20 гадоў назад[84]

### *Успамін пра Усебеларускі зьезд 1917 г.*

Шмат хто зь цяперашняе нашае моладзі чуў напэўна, што быў у Менску некалі Зьезд з усяе Беларусі, які хацеў лепшае долі свайму народу, што дасягнуць яе не ўдалося, бо сіла перамагла права: бальшавікі Зьезд разагналі, дэмагагічна трубячы, быццам складаўся ён… *«из помешчыков и буржуазии»*. А тым часам нават і цяпер, праз 20 гадоў, лягчэй хіба было б сустрэць сярод беларусаў нэгра, як абшарніка або запраўднага капіталіста.

Што-ж гэта быў за Зьезд? Як і скуль папаў на яго я? Што там рабіў, чуў і бачыў?

Шмат можна было б паставіць падобных пытаньняў, шмат што напісаць. Хочацца ўспомніць пра кардынальнае зьявішча ў незайздроснай долі роднага народу, успомніць тое, што моцна трымаецца ў памяці.

Дый ці можна гэта з памяці выкінуць?..

Густы, малады хваёвы лес каля Рожышча (на Валыні). У зямлянках і бараках сярод гэтага лесу стаяў штаб 44-га расейскага корпуса, у якім мяне ўсе добра знаалі як старшыню корпуснага камітэта. Знаалі таксама, што я беларус, маю кантакт зь менскімі беларусамі, атрымліваю сваю родную літаратуру і г. д.

Украінцаў у корпусе была цэлая 72-я дывізія. А беларусаў трудна было выявіць. Аказаліся яны самі. У першых чыслах сьнежня (паводле старога стылю) клічуць неяк мяне на сход беларусаў, быўшых у корпусе. Сход сабраўся недалёка ад корпуснага штаба ў 46-м інжынэрным палку. Заходжу ў прасторны барак. Каля сотні паўтары чалавек (а можа й больш) пад прэзэсоўствам штабс-капітана (прозьвішча ня помню, раз у жыцьці тады яго я толькі і бачыў); радзяцца, каго пасласць у Менск, на Ўсебеларускі Зьезд, а таксама і ў Кіеў на зьезд беларусаў-ваякаў был[ога] расейскага Паўдзённа-Заходняга фронту (абодва зьезды зьбіраліся ў адзін і той-жа самы час). Павінен зазначыць, што корпусны камітэт, на чале якога я тады стаяў, выбраны быў месяцы за два да бальшавіцкага перавароту, на 20 зь нечым сяброў сваіх меў гэты камітэт толькі 2-х бальшавікоў, органам новае (бальшавіцкае) улады ня быў… Землякі мае, сабраныя (ня ведаю, з чые ініцыятывы) у 46-м інжынэрным палку, таксама не былі бальшавікамі. Сярод сабраных пераважна былі салдаты, пара афіцэраў, некалькі вайсковых урадлнікаў і пісараў. Скідаю шапку, вітаю землякоў па-беларуску. Нейкі ўраднік заікнуўся пра тое, што Беларусь, дык справа зразумелая, але каб мову сваю ў яе інстытуцыях заводзіць, дык гэта можа і крыху нешта лішняе. За родную мову выступіў адзін маладзенькі пісар і прачытаў цэлую лекцыю пра слаўную мінуўшчыну нашае мовы ў старадаўнай Літве… Мне запрапанавалі на выбар: ехаць дэлегатам у Менск або ў Кіеў, а калі спраўлюся, дык пабываць на абодвух зьездах. Я выбраў Менск. У Кіеў паехалі іншыя дэлегаты.

---

[83] **Першае таварыства беларускай драмы і камедыі** — арганізацыя, заснаваная з ініцыятывы Ігната Буйніцкага, Фларыяна Ждановіча, Усевалада Фальскага ў Менску ў красавіку 1917 г.

[84] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Шлях моладзі. 1938. Вільня, 5, 26 лют. Перадрукаваны ў: Спадчына. № 1. Менск, 1996 С. 181–194 (Падрыхтоўка да друку Аляксандры Гесь).

У Менск прыехаў я, калі Зьезд яшчэ зьбіраўся. Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Не было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала б гарантыю таго, што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца. Думку гэткую я выказаў старшыні Цэнтральнае Беларускае Вайсковае Рады[85] Рак-Міхайлоўскаму[86]. Ад яго пачуў, што няма нават вартых жалю фінансаў, каб паслаць чалавек-пару ў Кіеў на зьезд фронту. Цешыла толькі тое, што прафэсіянальныя саюзы паштавікоў і чыгуначнікаў, а таксама іншая працоўная інтэлігенцыя, не вылучаючы акружнога камітэта расейскіх эсэраў і гарадзкіх ды губэрніяльных самаўрадаў (яшчэ тады бальшавікамі не паразганяных), былі на баку беларускага кангрэсу.

Адкрыць зьезд у гарадзкім тэатры 5(18)-га сьнежня 1917 году выпала на долю Рак-Міхайлоўскага. Ад прыроды не аратар, гаварыў ён неяк вяла, пачаў па-беларуску, зьехаў на расейскую мову… Энтузіязм, любоў да свае роднае зямлі, да лепшага заўтра свайго народу выклікалі сярод блізка што двухтысячнага Зьезду прывітальныя прамовы армейскіх дэлегатаў і прадстаўнікоў розных менскіх арганізацыяў. Громам воплескаў пакрываў Зьезд прывітаньне ўкраінца Кавердынскага[87], калі, паміж іншым, вырвалася з вуснаў яго: *«Нашае гора — вашае гора, нашае сьвята — вашае сьвята…»*. Грымеў Зьезд на словы нашага паэта Алеся Гаруна, прамаўляўшага ад імя Белар[ускай] Сацыялістычнай Грамады. Паважна,

[85] **Цэнтральная беларуская вайсковая рада (ЦБВР)** — арганізацыя, якая ў 1917–1918 гг. займалася фарміраваннем беларускага войска і каардынавала працу вайсковых рад.

[86] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885–1938), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, педагог. Дэлегат Першага Усебеларускага з’езда, дзеяч БНР, пасол сойму Польскай Рэспублікі (1922–1927). Дзеяч Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі і Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Рэпрэсаваны.

[87] **Уладзімір Кавярдзінскі** (укр. *Володимир Ковердинський*, ?–?), удзельнік Украінскага камітэта Заходняга фронту, заснаванага ў Менску ў 1917 г. Старшынёй камітэта быў Сымон Пятлюра.





✦ *Гарадскі тэатр, дзе праходзіў з’езд*

на другі дзень (ужо ў зале былога Шляхоцкага Дома[88]) віталі Зьезд два прамоўцы ад мясцовага польскага грамадзянства.

Сьвяточны бок справы мінуў, і Зьезд пачаў энэргічна працаваць у розных сэкцыях. Дыспанаваў Зьезд вялікім будынкам Шляхоцкага Дома, у зале якога зьбіраўся яго пленум; сэкцыі і камісіі Зьезду працавалі ў былым Губэрнатарскім доме[89]. Бальшавікі стараліся, як маглі, раскласьці Зьезд унутры яго, зманулі на свой бок Шантыра[90] і Фальскага[91] ды аднаго з магілёўцаў. Кідалася ў вочы русафільства магілёўцаў з *«Областного*

[88] **Шляхецкі дом**, або **Дом Дваранскага сходу** — знаходзіўся ў Менску насупраць Гарадскога тэатра на рагу сённяшніх вуліц Энгельса і Маркса.

[89] **Дом губернатара** (або будынак былой езуіцкай школы) — будынак, які знаходзіўся ў Менску на сучаснай Плошчы Свабоды, 7. Ён уваходзіў у комплекс былога Менскага езуіцкага калегіума, сёння ў ім месціцца Рэспубліканскі музычны каледж.

[90] **Фабіян Шантыр** (1887–1920), публіцыст, пісьменнік, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч.

[91] **Усевалад Фальскі** (1886 ці 1887 — ?), нацыянальны дзеяч, акцёр, адзін з арганізатараў беларускага прафесійнага тэатра.

*Белорусского Комитета»*, існаваўшага ў час керэншчыны[92] ў Петраградзе. Земскія (самаўрадавыя) дзеячы з гэтага Камітэта — Канчар[93], Вазіла[94] і іншыя абвясьцілі нават збор беларускага зьезду ў Менску на 10 дзён пазьней (Вялікая[95] і Вайсковая Беларускія Рады склікалі Ўсеб[еларускі] Зьезд на 5, а гэтыя паны на 15 сьнежня (паводле ст. стылю). Шантыру ўдалося на адзін вечар адкалоць меншую палавіну Зьезду, якую ён сам ахрысьціў як *«левое течение»*. Вазіле з кампанамі ўдалося разьбіць Зьезд на гэт. званыя *«зямлячаствы»* (паводле губэрняў — Менскае, Магілёўскае, Віленскае, Горадзенскае і г. д.).

Мушу ўспомніць, што ў часе прывітаньняў віталі Зьезд і два народныя камісары *«Западной области и фронта»*[96]: Берсан[97] (нацыянальных справаў) і Рэзаўскі[98] (унутраных справаў). Першы зь іх выступаў ад ППС[99]-левіцы, а другі — ад імя партыі бальшавікоў. Прамова Берсана была выслухана Зьездам спакойна, Рэзаўскаму да канца дагаварыць не ўдалося. Калі ў часе прамовы ён узяў за ражок вісеўшага над аратарскай трыбунай (на сцэне Гарадзкога Тэатра) нацыянальнага беларускага штандару, назваў гэты штандар *«национальной тряпкой»* і заклікаў замяніць яе *«красным знаменем Интернационала»*, дык на сцэну выйшлі два здаравяцкія матросы (адзін зь іх вядомы ўсяму Зьезду сваім грымотным голасам левы эсэр Дулін[100]), узялі фігуру наркома Рэзаўскага пад рукі і вывелі вон. Адзін зь менскіх наркомаў, таксама левы расейскі эсэр і матрос, Муха[101] (сацыяльнай апекі), як дэлегат і беларус, быў увесь час на Зьезьдзе.

Характэрным было тое, што ніводзін з выступаўшых на Зьезьдзе магілёўцаў па-беларуску не гаварыў. Будучы, гэтак трагічна закончыўшы сваю кар'еру, *«прэзыдэнт»* Савецкай Беларусі Алесь Чарвякоў[102] хітранька маўчаў і трымаўся зусім незаўважаным, нічым не адрозьніваючыся ад цэлага мора сялянскіх шэрых сьвітак і кажушкоў ды ня менш шэрых салдацкіх шынялёў, у якія вайна апранула тых жа сялянскіх сыноў Беларусі. Чорнаю вопраткаю выдзяляліся работнікі-петраградцы, жменя народных настаўнікаў, ня ўзятых на вайну, ды яшчэ меншая колькасьць прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафэсіяў, а таксама і групка матросаў. Дзьве-тры адзінкі жанчын, напэўна, чуліся сіратліва сярод вялізарнага Зьезду. Некаторыя зь менскіх беларусаў, з наіўнасьцю чэхаўскіх герояў зь мяшчанскага вясельля, цешыліся з таго, што

---

[92] **Аляксандр Керанскі** (рус. *Александр Керенский*, 1881–1970), расійскі палітычны дзеяч. У ліпені—кастрычніку 1917 г. — міністр-старшыня Часовага ўрада Расіі.

[93] **Яўсей Канчар** (1882–1979), палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, географ.

[94] **Аляксандр Вазіла** (1888–1937), грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст.

[95] **Вялікая беларуская рада (ВБР)** — каардынацыйны цэнтр беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў кастрычніку — снежні 1917 г. Была створаная на другой сесіі ЦБВР (кастрычнік — лістапад 1917 г.) шляхам рэарганізацыі апошняй.

[96] **Абласны выканаўчы камітэт саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту** (скароч. **Аблвыканкамзах**) — першы найвышэйшы заканадаўчы орган савецкай улады на Заходнім фронце і ў Заходняй вобласці, які дзейнічаў ад 9 снежня 1917 г. да 2 студзеня 1919 г. Выканаўчым органам у той час быў Савет народных камісараў Заходняй вобласці і фронту.

[97] **Станіслаў Берсан** (1895–1919), савецкі, партыйны і ваенны дзеяч, намеснік старшыні Менскага савета, наркам па справах нацыянальнасцей СНК Заходняй вобласці і фронту

[98] **Людвіг Рэзаўскі** (1887–1980), бальшавіцкі дзеяч, у 1917 г. быў наркамам унутраных спраў СНК Заходняй вобласці і фронту і адным з кіраўнікоў разгону Першага Усебеларускага з'езда.

[99] **Польская сацыялістычная партыя — левіца** (ППС-левіца, *Polska Socjalistyczna Partia — Lewica, PPS-Lewica*) — партыя польскіх сацыялістаў-інтэрнацыялістаў, фракцыя ППС, заснаваная ў 1906 г.

[100] **А. Дулін** (?—?), матрос балтыйскага флоту.

[101] **Васіль Муха** (1889–1965), матрос балтыйскага флоту, пазней савецкі і партыйны дзеяч. У тым ліку у 1932–1933 гг. быў загадчыкам Сакратарыята ЦВК БССР, у 1944–1946 гг. — намеснік старшыні Бабруйскага аблвыканкама.

[102] **Аляксандр Чарвякоў** (1892–1937), дзяржаўны дзеяч БССР. У 1920–1937 гг. старшыня ЦВК БССР, адзін са старшынь ЦВК СССР (1922–1937), у 1920–1924 гг. старшыня СНК БССР. Скончыў жыццё самагубствам ці быў застрэлены.

быў на Зьезьдзе нават запраўдны генэрал (ген[эрал]-лейтэнант Аляксееўскі[103] — былы начальнік артылерыі ўсяе Фінляндыі), выбраны дэлегатам ад сваіх салдатаў і беларусаў-маракоў Балтыцкага флёту.

Быў мамэнт, калі нашэпты бальшавікоў зрабілі немалы ўплыў на загадкавы сьфінкс маўклівае наагул сялянскае масы Зьезду, і, апаражніўшы ад правізіі свае торбачкі, дзядзькі голасна заяўлялі, што ім пара ўжо ехаць дамоў. Адкрытыя контрвыступленьні лепшых аратараў Зьезду сярод сялян пераканалі іх, што галоўная задача яшчэ ня вырашана.

Надыходзіў фатальны мамэнт — ноч з 30-га на 31-е сьнежня (нов[ы] стыль). Справа будучыні Беларусі абгаворана была ў *«зямлячаствах»*, і ў кожным зь іх апрацованы былі дэклярацыі. Зарысаваліся два кірункі: смаленцы, менчукі, віленцы і горадзенцы выказваліся за як найбольшую самастойнасьць Беларусі, а віцябляне і магілёўцы не маглі разьвітацца з сваім усерасейскім патрыятызмам, снуючы думкі аб Расеі дэмакратычнай, якая надоўга, як аказалася, была пахована бальшавікамі. Ясна помніцца, што на паседжаньні горадзенцаў Я[зэп] Варонка[104] заявіў: «*Я ўжо цэлы тыдзень нашу ў партфэлі праект унівэрсалу аб незалежнасьці…*».

Пад канец Зьезду зьявіліся зь Петраграда эмісары Сталіна-Джугашвілі[105] (ён быў тады ўсерасейскім наркомам па справах нацыянальнасьцяў). Рознымі абяцанкамі нейкі салдат і два ці тры работнікі-беларусы стараліся дабіцца ад Зьезду прызнаньня ўсерасейскаю ўладаю петраградзкае рады народных камісараў. З гэтых стараньняў нічога ня выйшла.

Дэклярацыі *«зямлячастваў»* зводзіліся юрыстамі ў адну абшырную рэзалюцыю, і гэткія кампрамісныя людзі, як адвакат Цьвікевіч[106], стараліся хоць на паперы прымірыць масквафілаў-магілёўцаў з самастойнікамі. У бакавым пакоі вялікае залы Шляхоцкага Дома ішлі гарачыя спрэчкі сяброў Рады Зьезду вакол усялякіх формулаў Цьвікевіча. Каля гадзіны першай уночы з 30 на 31 сьнежня як быццам быў знойдзены нейкі кампраміс. Янка Серада[107] — старшыня Зьезду — адкрыў яго пленум. У нарадзе над формулай Цьвікевіча (пункт першы, як-бы дэкляратыўна-ўступны, рэзалюцыі) умоўлена было, што за і проці гэтага пункта рэзалюцыі (з папраўкай аб поўнай беларускай самастойнасьці) выступіць толькі па адным аратары. Гаварыць за рэзалюцыю Цьвікевіча вызначаны быў магілёўскі жыдок (здаецца, Гольдман[108]), проці формулы Цьвікевіча, значыцца проці фэдэрацыі зь неіснаваўшай Расейскай дэмакратычнай рэспублікай, выступіць вызначылі мяне. Старшыня даў слова Гольдману. Той пачаў гаварыць. Я зыйшоў уніз, пад эстраду прэзыдыума, скуль Гольдмана вельмі добра было чутно, і натаваў слабыя месцы яго аргумэнтацыі, адначасна накідаючы кароткі канспэкт свае прамовы. Да мяне спусьціўся магілёвец Канчар і з буйнымі сьлязьмі на вачох прасіў не падрываць кампрамісу, прыдуманага Цьвікевічам. Мамэнт высока-драматычны. Нейкі малітвенны настрой.

Маўчу і лаўлю кожнае слова з трыбуны. Хвалі невымоўных адчуваньняў расьпіраюць грудзі. Ні я, ні Канчар ня ведаем, што над Зьездам павіс фатум.

---

[103] **Канстанцін Аляксееўскі** (1855 — пасьля 1918), вайсковец, ад 1916 г. — генерал-лейтэнант. Ад 1911 г. быў начальнікам артылерыі Свеаборскай крэпасці. Удзельнік Першага Усебеларускага з’езда.

[104] **Язэп Варонка** (1891–1952), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. Першы старшыня Народнага сакратарыята БНР.

[105] **Іосіф Сталін** (сапр. **Джугашвілі**, 1878–1953), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1922–1953 гг. — Генеральны сакратар ЦК ВКП(б) (пазней КПСС), у 1941–1953 гг. — старшыня ўрада СССР (Савета Народных Камісараў, пазней — Савета міністраў СССР).

[106] **Аляксандр Цвікевіч** (1888–1937), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст. Рэпрэсаваны.

[107] **Янка Серада** (1879–1943), грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст, педагог, у красавіку — траўні 1918 г. старшыня Рады БНР.

[108] Відаць, маецца на ўвазе **Міхаіл Гольман** (1894–1937), удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, эканаміст, які ад траўня 1917 г. быў старшынёй Магілёўскага савета сялянскіх дэпутатаў.

Гольдман гаварыў мінут пяць ці дзесяць. Раптам сьціх… Каля прэзыдыума вырасьлі дзьве шэрыя фігуры: успамінаны ўжо тут нарком унутраных справаў Рэзаўскі і п’яны, у шапцы зь вялізарным блескучым брылём, незвычайна хамаваты выглядам, начальнік менскага бальшавіцкага гарнізона Крывашэін[109].

*Кто вы? Ваш мандат, товарищ?* — энэргічна пытаецца старшыня Зьезду д-р Серада.

*Я начальник гарнизона!* — выкрыкнуў сярод агульнага гоману Крывашэін… — *Прошу слова!* — паўтарае ён…

Старшыня звоніць. На залі крыху цішэй.

*Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели…* — пляце нейкую бязглузьдзіцу Крывашэін. Магутны гул пратэсту заглушае яго… Віцэ-старшыня Вазіла закрывае Зьезд… Серада звоніць, пазбаўляе Крывашэіна слова і ўзнаўляе паседжаньне, на якім усе трымаюцца стоячы, не вылучаючы самога старшыні. Сядзіць толькі сакратар Калядка[110] і ўвесь час піша. З маестатычнай павагаю ўзносіцца сярод прэзыдыуму фігура прафэсара Карскага[111]. Вазіла брыкнуў назад галавою… Прыкінуўся ці запраўды самлеў?.. Страшэнны гоман і мітусьня…

Улавіўшы мамэнцік некаторай цішыні, Рэзаўскі абвяшчае Зьезд распушчаным, а Прэзыдыум яго арыштованым… Матрос Муха голасна пратэстуе і заяўляе, што ён больш не камісар апекі… Тымчасам урываюцца ў залу ўзброеныя салдаты Рамнёва[112] і, разыходзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць Зьезд. Дэлегаты спраціўляюцца, настаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыум. Калёнаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну Зьезду. Дайшоўшы да барыкадаў, Рамнёў вымае з похвы рэвальвэр, паднімае ўгару і колькі разоў націскае цынгель… Але стрэлу не чутно… Пара трусьлівых сьвітак бяжыць за раяль, што стаіць па левай руцэ прэзыдыуму. Магутная фігура селяніна ў жоўтым расшпіленым кажусе становіцца на крэсьле пасярэдзіне залы, сьціскае свае мазалістыя кулакі і крычыць: *«Раззброіць іх!»* — паказваючы на чырвонаармейцаў…

Усё бачанае апісаць немагчыма… Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў… Нехта запяяў беларускую марсэльезу[113]. Зь ёю выходзім паміж шпалерамі збройных салдатаў, па сходах на Падгорную вуліцу…

На скрыжаваньні Скобелеўскай[114] і Падгорнай[115] — ваякі на белых конях… Два панцырнікі грозна маўчаць…

Паход разагнанага Зьезду скіроўваецца ў бок рэзыдэнцыі бальшавіцкае ўлады — будынку Камэрцыйнае Школы… З тысячы грудзей разьлягаецца матыў хаўтурнага марша: *«Вы жертвою пали в борьбе роковой…»*

З заміраньнем гукаў чужое трагічнае песьні гінула воля народная, сярод мяккае зімовае ночы, ахінаўшай сэрца Беларусі ценямі рабства…[116]

---

[109] **Мікалай Крывашэін** (1885–1936), бальшавіцкі дзеяч, у 1917 г. быў начальнікам Менскага ваеннага гарнізона і адным з кіраўнікоў разгону Першага Усебеларускага з’езда.

[110] **Лукаш Калядка** (1887–1966), дзеяч беларускага нацыянальнага руху пачатку ХХ ст., эсэр. Быў сябрам Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, Беларускага абласнога камітэта. У 1918 г. Радай Усебеларускага з’езда быў дэлегаваны ў Петраград як прадстаўнік па справах Беларусі пры СНК.

[111] **Яўхім Карскі** (1860–1931), філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф.

[112] **Афанасій Рамнёў** (1890–1919), вайсковы дзеяч, арганізатар Менскага рэвалюцыйнага палка ў кастрычніку 1917 г.

[113] Маецца на ўвазе **«Ад веку мы спалі»** — песня на словы Аляксандра Мікульчыка (раней лічылася, што словы народныя), напісаная ў 1905 г. Яе называлі «Беларускай Марсельезай» і на пачатку 1920-х гг. яна выкарыстоўвалася як гімн беларускага нацыянальнага руху.

[114] **Скобелеўская вуліца** — цяпер вуліца Чырвонаармейская ў Менску.

[115] **Падгорная вуліца** — цяпер вуліца Карла Маркса ў Менску.

[116] У Макара Краўцова быў асобны тэкст, прысвечаны разгону Першага Усебеларускага з’езду, апублікаваны ў: Беларускае жыцьцё.

## Рада Беларускае Народнае Рэспублікі[117]

*Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.*

1. Берасьцейскія перагаворы бальшавікоў зь немцамі і дэлеваньне на гэтыя перагаворы Рак-Міхайлоўскага і Цьвікевіча ад імя Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Зьезду Я[зэп] Варонка — Старшыня Выканаўчага Камітэту. — 2. Народны Сакратарыят. Стварэньне яго Вык[анаўчым] Камітэтам Рады Зьезду. Народныя Сакратары, а не Народныя Камісары. Вучнёўская Грамада ў ролі беларускай гвардыі. — 3. Устаўная Грамата 19-га лютага[118] 1918 г. (першая). — 4. Устаўная Грамата 9-га сакавіка 1918 г. (другая). — 5. Папаўненьне Рады Зьезду прадстаўнікамі Земстваў і Гарадзкіх Думаў і стварэньне такім чынам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. — 6. Устаўная Грамата 25-га сакавіка 1918 г. (трэцяя) і абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнаю. — 7. Прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады на пасяджэньні Р. Б. Н. Р. 25-га сакавіка 1918 г. і барацьба з *«тоже белоруссамі»*. Выхад з Рады Рэспублікі прадстаўнікоў земстваў і гарадзкіх думаў, а таксама і прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Уваход у Раду Беларускага Народнага Прадстаўніцтва. — 8. Закон 9-га кастрычніка 1918 г. і папаўненьне Рады Рэспублікі буржуазнымі элемэнтамі. Рада Народных Міністраў. — 9. Бальшавіцкая навала і пярэрва Сэсіі Рады. — 10. «Советская Соціалістіческая Белоруссія». Маніфэст Рабоча-Сялянскага ўраду ад 1-га студня 1919 г. і пацьвярджэньне незалежнасьці Беларусі бальшавікамі. — 11. Рада Народных Міністраў заграніцаю. — 12. Віленская адозва Пілсудзкага[119] 23 красавіка 1919 г. Шляхоцкі лёзунг *«вольны з вольным, роўны з роўным»*. — 13. Заняцьце Менску палякамі 8-га жніўня 1919 г. і аднаўленьне ў канцы гэтага году Сэсіі Рады Рэспублікі. — 14. 13-га сьнежня 1919 г. — раскол Рады Б. Н. Р. — 15. Старшыня Рады Народных Міністраў Ластоўскі і частка Прэзыдыуму Рады Рэспублікі ў Менскім вастрозе. — 16. Найвышэйшая Рада цэлы час польскай окупацыі ў Менску. — 17. Ластоўскі[120] і Старшыня Рады Рэспублікі ў Рызе. — 18. Самаліквідацыя Найвышэйшай Рады. — 19. Балаховіч[121] і Беларускі ўрад Адамовіча[122], праўдзівей, Аляксюка[123]. — 20. Рыжскі мір[124] і прызнаньне незалеж-

---

Менск, 18 сакавіка 1920 (передрукавана ў: Спадчына. № 1. 1996 С. 181–194).

[117] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускі звон. №№ 15–21. Вільня, 1921. Перадрукавана ў: Спадчына. 1998. №1. С. 74–145 (Публікацыя, заўвагі, каментары і пасляслоўе Аляксандры Гесь).

[118] Так у тэксце. 19 лютага Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езду пасля выезду з Менска Аблвыкамзаха і СНК Заходняй вобласці і фронту стаў легальным органам улады. — ***А. Г.***

[119] **Юзаф Пілсудскі** (пол. *Józef Piłsudski*, 1867–1935), польскі палітык і дзяржаўны дзеяч, маршал. У 1919–1922 гг. начальнік польскай дзяржавы, пасля адышоў ад палітычнай дзейнасці. У траўні 1926 г. ажыццявіў дзяржаўны пераварот, усталяваў у Польшчы аўтарытарны рэжым.

[120] **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), пісьменнік, гісторык, прэм'ер-міністр Рады БНР у 1919–1923 гг.

[121] **Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883–1940), вайсковы дзеяч, генерал асобнага атраду БНР, камандзір добраахвотніцкіх атрадаў польскай арміі ў 1920 г.

[122] Відаць, маецца на ўвазе **Вячаслаў Адамовіч** (1864–1939), палітычны і вайсковы дзеяч, выдавец, публіцыст. У 1920 г. ён быў адным са стваральнікаў Беларускага палітычнага камітэта ў Варшаве, які падпісаў дамову са Станіславам Булак-Балаховічам аб перадачы камітэту ўлады пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі.

[123] **Павел Аляксюк** (1892–?), дзеяч беларускага нацыянальнага руху. У 1920 г. узначальваў Беларускі палітычны камітэт у Варшаве. У 1920-я гг. займаўся адвакацкай практыкай у Навагрудку, дзе быў віцэ-старшынёй Таварыства беларускай школы.

[124] **Рыжская мірная дамова** — дамова пра спыненне савецка-польскай вайны 1919–1921 г., падпісаная ў Рызе 18 сакавіка 1921 г. СССР і УССР з аднаго боку і Польшчай з другога боку. Паводле гэтай дамовы тэрыторыя Беларусі была падзеленая паміж Польшчай і БССР.

насьці Беларусі Расеяй і Польшчаю. Падзел Беларусі лініяй Рыжаскага міру. — 21. Законны ўрад.

Ня змогшы выкарыстаць Усебеларускі Зьезд дзеля сваіх палітычных мэтаў, бальшавікі проста разагналі яго.

Што спробы наслаць сваіх агентаў на Зьезд бальшавікамі рабіліся, аб гэтым можа сьведчыць гэткі дакумэнт, апублікованы газэтаю «Белорусская Земля»[125] (№ 1 за 1.III.1918 г.):

«*Телеграмма. Западофронт. Полукарову*[126].

*Сообщите товарищам, чтобы на съезде белоруссов Рады они произвели переворот умов раскол и выяснили буржуазность её это требуется.*

*Главкозап Мясников*[127]».

Скарочанае *«Главкозап»* па-расейску значыць: *«Главнокомандующий Западным фронтом»*.

Калі гэткая спроба не памагла, тады быў адданы гэткі прыказ, апублікованы ў той самай газэце «Белор[усская] Земля»:

[125] ***«Белорусская земля»*** — грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выдавалася ў Менску ў 1918 г. на рускай мове. Орган Саюза беларускіх арганізацый, фактычна — Народнага Сакратарыята БНР.

[126] **Іван Палукараў** (рус. *Иван Полукаров*, 1895–1920), расійскі рэвалюцыйны дзеяч. У 1917 г. актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага руху на Заходнім фронце, уваходзіў у Ваенна-рэвалюцыйны камітэт пры Стаўцы, быў яго сакратаром. Уваходзіў у Усерасійскую надзвычайную камісію, быў загадчыкам аддзелу па барацьбе з контррэвалюцыяй.

[127] **Аляксандр Мяснікоў** (сапр. **Мяснікян**, 1886–1925), партыйны дзеяч. У верасні 1917 — траўні 1918 гг. — старшыня Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б). Ад лістапада 1917 г. камандаваў Заходнім фронтам, быў старшынёй Аблвыканкамзаху. Кіраваў разгонам Першага Усебеларускага з'езду. Першы сакратар ЦК КП(б) Б (1918–1919). У 1919–1920 гг. — адзін з кіраўнікоў першай БССР і Літоўска-Беларускай ССР.



«*Комиссариат*
*Внутренних Дел*
*Западной области*
*17 декабря 1917 г.*
*№ 1425*

*Товарищу Резаусскому*

*Предписывается Вам, в своем распоряжении достаточно вооруженную силу, оцепить здание, где происходит заседание Белорусского Съезда, арестовать Президиум Съезда, а равно избранный им орган краевой власти; отозвать со Съезда т. т. большевиков и стоящих на точке зрения Советской власти, а самый Съезд объявить распущенным.*

*Комиссар К. Ландер*[128].
*Секретарь (подпіс)*
*(М.П.)*».

Бальшавікі крыху пасьпяшыліся. Орган краевое ўлады, аб арэшце якога рабіў распараджэньне Ландэр, яшчэ ня быў выбраны, хаця гутарка на Зьезьдзе аб гэтым цэлы час ішла, і, пэўна, пасьля прыняцьця Зьездам агульнае рэзалюцыі, дзеля спаўненьня яе Зьезд выканаўчы орган выбраў-бы.

Пасьля гвалтоўнага разгону Зьезду Рада Зьезду атрымала ўсе поўнамоцтвы па конструіраваньню выканаўчага органу і карыстала, як толькі магла, усе магчымасьці гэтых поўнамоцтваў.

Рада Ўсебеларускага Зьезду мела ў сваім складзе больш як 50 чалавек. Трымацца ўсёй гэтай грамадзе людзей у Менску ня было ніякай магчымасьці, бо коштаў на гэта ніякіх ня было.

[128] **Карл Ландэр** (рус. *Карл Ландер*, 1883–1937), партыйны дзеяч. У 1917 г. быў сябрам Ваенрэўкама, старшынёй Менскага савету салдацкіх і рабочых дэпутатаў, старшынёй СНК Заходняй вобласці і фронту. Падпісаў ордар на разгон Першага Усебеларускага з'езду. Арганізатар масавых рэпрэсій на Паўночным Каўказе, стваральнік чэкісцкіх «троек» (1920). Расстраляны ў часы «яжоўшчыны».

Трэба адзначыць, што арыштованых чалавек 18 сяброў[129] Рады Зьезду (у якую ўходзіў і Прэзыдыум Зьезду) бальшавікі пратрымалі ў сябе толькі адну ноч ці, праўдзівей кажучы, усяго некалькі гадзін. Сярод арыштованых былі: Я[нка] Серада (старшыня Зьезду), Вазіла (таварыш старшыні), Калядка (сакратар Зьезду), Бурбіс[130], Варонка і інш.

Як толькі арыштованыя былі выпушчаны, яны зараз-жа паказаліся на тайных пасяджэньнях Рады Зьезду, якая засядала вельмі часта ў розных часьцях гораду, і на адным з гэткіх пасяджэньняў быў выбраны выканаўчы орган, разьмяркованы па ліку сваіх сяброў так, каб у патрэбны час ён мог стаць урадам, абняўшы ўсе галіны дзяржаўнага кіраваньня.



✦ *Язэп Варонка*

[129] У некаторых крыніцах пададзены іншыя лічбы, напрыклад, 26, *«среди них одна девица» — **А. Г.***

[130] **Алесь Бурбіс** (1885–1922), грамадскі дзеяч, эканаміст, адзін з заснавальнікаў і лідараў БСГ. Адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра, аўтар даследаванняў па эканамічнай геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, сельскай гаспадарцы, банкаўскай справе. У 1917 г. узначальваў Маскоўскую арганізацыю БСГ, у 1918 г. консул БНР у Маскве.



Найбольш энэргіі для стварэньня гэтага выканаўчага органу (які і называўся проста: «Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду») палажыў будучы Старшыня яго Язэп Варонка. Хаця Рада Зьезду й выбірала сяброў Выканаўчага Камітэту, але фактычна яна прыняла, з некаторымі зьменамі, сьпісак, запрапанованы Варонкаю.

У Вык[анаўчы] Камітэт былі выбраны: Варонка (загранічныя справы), Рак-Міхайлоўскі (ваенныя справы), Серада (унутраныя справы), Косьцевіч[131] (прасьвета), Прушынскі (праца), Бадунова[132] (апека), Грыб[133] (земляробства), Заяц[134] (загадчык справаў Камітэту). Далей у склад Выканаўчага Камітэту ўваходзілі: Лагун[135], Дыла[136], Бурбіс, Кусэ-Цюз[137] і інш.

У складзе Камітэту было ўсяго 17 чалавек.

Проектаваўся ўваход у склад Выканаўчага Камітэту прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў Беларусі, што і было праведзена Я[эпам] Варонкаю па меры

[131] **Косцевіч (Касцевіч)** — сапраўднае прозвішча Макара Краўцова.

[132] **Палута Бадунова** (1885–1938), грамадска-палітычная дзяячка. У 1918–1925 гг. сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

[133] **Тамаш Грыб** (1895–1938), грамадска-палітычны і культурны дзеяч. Лідар Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Ад пачатку 1920-х гг. жыў у Празе.

[134] **Леанард Заяц** (1890–1935), грамадска-палітычны дзеяч. З лютага 1918 г. — у складзе Народнага Сакратарыята БНР. Загадчык канцылярыі і дзяржаўны сакратар у Народнай Радзе БНР.

[135] **Іосіф Лагун** (1894–1920), удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, сябра Выканкаму БСДРП у Петраградзе. Удзельнічаў у Першым Усебеларускім з'ездзе і быў абраны ў склад яго Выканкаму. Пазней быў загадчыкам Петраградскага аддзялення Беларускага нацыянальнага камісарыята.

[136] **Язэп Дыла** (1880–1973), празаік, драматург, грамадска-культурны дзеяч. Удзельнічаў у Першым Усебеларускім з'ездзе, у першыя дні быў старшынёй на яго пасяджэннях, пасля разгону ўвайшоў у склад Выканкаму Рады кангрэса.

[137] **Аляксандр Кусэ-Цюз** (?—?), юрыст, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Быў сябрам Беларускага абласнога камітэту пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў.

магчымасьці. Ад жыдоў у Камітэт увайшоў Гутман[138] (злучаная сацыялістычная партыя[139]); д-р Зарубавель[140] (Паалей Цыён[141]), ад ліцьвіноў — Мічуліс[142], ад палякоў — Прыстор[143] (P. P. S.), ад велікарусаў — Злобін[144]. Жыдоўская сацыял-дэмакратычная партыя «Бунд»[145] прысылала свайго прадстаўніка на сходы Вык[анаўчага] Камітэту, але толькі з *«інфармацыйнымі мэтамі»*.

Само сабою зразумела, што Выканаўчы Камітэт папоўніўся прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў не адразу, а па меры ўдачнасьці перагавораў Старшыні яго з кожнаю палітычнаю групаю.

Старшынёю Вык[анаўчага] К[амітэ]ту быў выбраны Язэп Варонка, які вельмі спрытна зразумеў, з якімі групамі весьці перагаворы і, як мае быць, выкарыстаў, якія толькі мог, магчымасьці.

[138] **Мойшэ Гутман** (?—?), палітычны дзеяч. Быў сябрам Украінскай Нацыянальнай Рады і Савета нацыянальных сацыялістычных партый Расіі. Уваходзіў у Выканкам Першага Усебеларускага з’езду, пазней у Народны сакратарыят БНР ад яўрэйскай меншасці. Першая Устаўная грамата была напісаная ў ягоным доме.

[139] **Аб’яднаная габрэйская сацыялістычная рабочая партыя** — габрэйская нацыянальная партыя сацыялістычнага кірунку, заснаваная ў 1917 г.

[140] **Якаў Зрубовел** (рус. *Яаков Зерубавель*, 1886–1967), дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст, пісьменнік, адзін з заснавальнікаў і лідараў руху «Паалей Цыён».

[141] **«Паалей Цыён» («Працаўнікі Сіёну»)** — габрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя, якая дзейнічала ў 1906–1928 гг.

[142] У дакументах Рады БНР згадваецца **Мачуліс** або **Мечуліс** (?—?), які ўваходзіў у Раду БНР ад нацыянальных меншасцей (гл.: Архівы БНР. Т.1. Кн. 1. Нью-Ёрк — Вільня — Менск — Прага, 1998. С. 98, 182).

[143] **Аляксандр Блажэй Прыстар** (пол. *Aleksander Błażej Prystor*, 1874–1941), польскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, сябра Польскай сацыялістычнай партыі. Пазней у 1931–1933 гг. — прэм’ер-міністр Польшчы.

[144] **Павел Злобін** (рус. *Павел Злобин*, 1882–1930), расійскі палітычны дзеяч, сябра Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У Народным камісарыяце БНР быў камісарам па вялікарускіх справах.

[145] **Бунд** (Усеагульны габрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі) — найбуйнейшая габрэйская сацыялістычная партыя, заснаваная ў 1897 г.



З усім імпэтам маладое патрыятычнае натуры Варонка аддаўся ўсёю душою сваёй нялёгкай ролі і ў гэтай ролі набыў першыя сівыя валасы на маладой галаве сваёй.

Ніякіх фінансаў Выканаўчы Камітэт ня меў, усім сябром яго праз гэта ня было магчымасьці трымацца ў Менску, і было пяць ці шэсьць дзён такіх, калі Варонка заставаўся на сваім пасту адзін, ня падаючы духам. Сябры Выканаўчага Камітэту Рак-Міхайлоўскі і Грыб былі адначасна й сябрамі Цэнтральнай Вайсковай Беларускай Рады, якая чамусьці бальшавікамі ня была зьліквідована і працавала зусім легальна, выкінуўшы вялізны беларускі штандар у доме № 2 па Паліцэйскай вуліцы[146]. Рак-Міхайлоўскі быў навет Старшынёю Вайсковай Рады і, як такі, быў цалком заняты вайсковымі справамі.

Легальнае, пакуль што, існаваньне Вайск[овае] Рады дало магчымасьць матар’яльнага ўтрыманьня і досыць вольнае працы Выканаўчага Камітэту Рады Усебеларускага Зьезду.

Але хай не падумае ніхто, што Вайсковая Рада мела якія-небудзь свае фінансы. Яна мела толькі дарэмную кватэру і дарэмныя сьнеданьні, абеды й вячэры ў аднэй з арганізацыяў Гарадзкога Саюзу, яшчэ гэтак сама незьліквідаванай бальшавікамі.

Спачуцьцё грамадзкіх арганізацыяў было гэтак моцнае, што Гарадзкі Саюз зусім дарма і досіць добра карміў у сваёй сталоўцы ўсіх сяброў Вайсковай Беларускай Рады, а разам з імі і частку сяброў Выканаўчага Камітэту, у тым ліку й Старшыню яго.

Чыгуншчыкі і паштова-тэлеграфныя служачыя Менску, дэмакратычныя земствы і гарадзкія самаўрады мелі ня меншую сымпатыю да цэнтральных беларускіх органаў, хаця, праўду кажучы, адно толькі Бабруйскае павятовае земства (управа) дало Камітэту 3.000 рублёў, паставіўшы варункам, што грошы гэтыя павінны пайсьці на скліканьне другога Ўсебеларускага Зьезду. Гэта

[146] **Паліцэйская вуліца** — цяпер вуліца Янкі Купалы ў Менску.

апошняе было немагчыма, і частка бабруйскіх грошай была зьвернена назад у Павятовую Земскую Ўправу.

Тэлеграфістыя й тэлеграфісткі адкрыта працавалі на карысьць беларускага руху, і ня раз можна было бачыць, як ваенны камісар беларускай Вайсковай Рады Язэп Мамонька[147] зьмяняў пры апараце Бодо[148] бальшавіцкага ад'ютанта самога Главкозапа Мясьнікова, аддаючы распараджэньні Вайсковым Беларускім Радам у Кіеве, Адэсе, Віцебску і г. д.

Ня раз побач з Ландэрам мог простым провадам гаварыць з Петраградам, Масквою, Кіевам і інш. Язэп Варонка, узаемна інфармуючыся з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў.

Тэлеграфна была зроблена Варонкаю й першая дзяржаўная пазычка ў украінскага Генэральнага Сакратарыяту ў суме … 20.000 рублёў; але й гэтыя невялічкія грошы, перасыланыя праз аднаго беларускага «дзеяча» з Кіева ў Менск, да касы Выканаўчага Камітэту ня трапілі.

Так, перабіваючыся з хлеба на квас, упарта працавалі Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада й Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, грамадзячы беларускія сілы і напружваючы моц у кірунку стварэньня нацыянальнае аружнае сілы.

На старану Цэнтр[альнае] Вайсковае Рады ўжо згадзіўся перайсьці цэлы адзін полк Менскага гарнізону, прапануючы даставіць у кватэру Вайсковай Рады, як доказ вернасьці, аж 18 кулямётаў, стрэльбы і шмат ручных гранатаў. Разьнюхаўшы гэта, бальшавікі загадалі палку выехаць у Арол, быццам на нейкае ўсьмірэньне. Салдаты заявілі, што яны беларусы, а таму нікуды не паедуць і хочуць служыць сваёй Бацькаўшчыне. Палку была закрыта бальшавікамі выдача провіянту, у Вайсковай Рады ня было марных 20.000–30.000 рублёў, каб утрымаць полк пару дзён, падгатовіўшы яго да перавароту, які, пры слабасьці большавікоў, мог лёгка адбыцца за адну якую-нібудзь ноч. Вайсковая Рада з дэлегатамі палку рашыла здэмабілізаваць яго, каб прапаў ён як сіла і для бальшавікоў, і ўсе салдаты-патрыёты былі разасланы дамоў па дакумэнтах Беларускай Вайсковай Рады.

У Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду надходзілі адусюль карэспандэнцыі, і на ўсе запросы Камітэт адказваў па магчымасьці поштаю ці тэлеграфам.

У кватэры Вайсковай Рады нейкі час і жыў Старшыня Выканаўчага Камітэту Варонка, аж пакуль не налажылі бальшавікі сваю лапу й на самую Вайсковую Раду.

31 студня 1918 году Вайсковая Рада была аточана салдатамі й матросамі, як расказвалі, забойцамі генэрала Духоніна[149], прыехаўшымі з расейскае Галоўнае Кватэры з Магілёва.

Аб гэтым усё ў той-жа «Белор[усской] Земле» (№ 1) апублікованы гэткі дакумэнт:

«*Совет Рабочих и Солдатских Депутатов гор. Минска. Отдел по борьбе с контрреволюцией и спекуляциями. 31 января 1918 г. № 39.*

*Товарищу Ярошевичу*[150].

*О р д е р*

*Предписывается Вам отправиться в Белорусскую Войсковую Раду, дом № 2, кв. 10, по Полицейской улице,*

---

[147] **Язэп Мамонька** (1889–1937), палітычны дзеяч, публіцыст. У 1918–1924 гг. сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Уваходзіў у склад Замежнага бюро ЦК БПС-Р.

[148] **Апарат Бадо** — тэлеграф, на якім выкарыстоўваўся адмысловы код (код Бадо), распрацаваны французскім вынаходнікам Жанам Марысам Эмілем Бадо (1845–1903).

[149] **Мікалай Духонін** (рус. *Николай Духонин*, 1876–1917), расійскі вайсковы дзеяч, генерал-лейтэнант, выконваў абавязкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага Расійскай арміяй у лістападзе—снежні 1917 г.

[150] Магчыма, маецца на ўвазе **Міканор Ярашэвіч** (1885 — пасля 1937), грамадска-палітычны дзеяч, аграном, педагог. У 1917 г. — адзін з кіраўнікоў Менскай губернскай управы і лідараў мясцовай філіі расійскіх эсэраў.

*для производства обыска и ареста всех лиц, там находящийся, в том числе и посыльного мальчика Афанасия.*

*Председатель Л. Резаусскій.*

*Секретарь Э. Баренс*».

У момант гэтай рэвізіі ў Вайсковай Радзе былі, апрача Таварыша Старшыні Вайск[овай] Рады К[астуся] Езавітава[151] й Сакратара яе Захаркі[152], сябры Вык[анаўчага] Камітэту: Варонка, Косьцевіч, Бадунова і сябар Рады Зьезду А[ркадзь] Смоліч[153].

Здавалася, што ўсе былі папаліся, але першая бальшавіцкая *«чрезвычайка»* вельмі неакуратна споўніла даны ёй ордэр і з усіх *«находящихся там лиц»* затрымала толькі К[астуся] Езавітава й Захарку, якія назваліся, хто яны, і 14-гадовага хлопчыка Апанаса. Рэшта была выпушчана праз абстаўленыя салдатамі сходы (бо кватэра В[айсковай] Рады была на 2-м паверху). Тут памаглі сяброўскія білецікі Беларускае Сацыялістычнае Грамады, якія былі паказаны *«тав. Ярашэвічу»*, як быццам даказ таго, што тут засядаў Цэнтральны Камітэт Сацыялістычнае Грамады, шыльд якой сапраўды быў прыбіты на дзьвярох аднаго з пакоікаў.

Цынічны арышт хлопчыка Апанаса і арыгінальны дапрос гэтага непаўналетняга блазна ня даў бальшавіком нічога новага, дый часу ім заставалася менш як

---

[151] **Канстанцін Езавітаў** (1893–1946), вайсковы і грамадскі дзеяч. Удзельнік Першага Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камендант Менска. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэння незалежнасці БНР. У 1919–1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. У 1921–1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Рызе.

[152] **Васіль Захарка** (1877–1943), грамадска-палітычны дзеяч, у 1918–1919 і 1923–1925 гг. міністр фінансаў БНР, з 1928 па 1943 гг. прэзідэнт Рады БНР.

[153] **Аркадзь Смоліч** (1891–1938), палітык, навуковец, дзеяч культуры, міністр сельскай гаспадаркі БНР. Аўтар першага падручніка «Геаграфія Беларусі» (1919).



тры тыдні, каб у страшэнным перапудзе пакінуць і сваю любімую *«Западную область»* і фактычна памёршы *«Западный фронт»*.

*«Рэвалюцыйны полк»* Рамнёва першы рассыпаўся хто куды, як толькі азначылася наступленьне немцаў пасьля адважнай заявы ў Берасьці Троцкага[154]: *«Не падпішам міру, але й ня будзем ваяваць»*.

Пакінуты ў Менску гарнізон часткаю распаўся, а часткаю перайшоў на старану беларускае ўлады.

А Троцкі тымчасам згуляў нягодную ролю ў Берасьці пры візаваньні праезду туды на міравыя перагаворы беларускай дэлегацыі. Дэклярацыя, якую мела падаць у Берасьці беларуская дэлегацыя, была апрацована Гутманам, разьмерам сваім была ня зусім малая, і адзін зь яе пунктаў літаральна паўтараў ужо зробленую Троцкім заяву, каб зруйнаваныя вайною гаспадаркі былі адноўлены за рахунак міжнароднага фонду ваяваўшых дзяржаваў. Наагул дэклярацыя была вельмі дэмакратычнаю, і, зацьверджаная 19 студня 1918 г. Выканаўчым Камітэтам, яна была даручана дэлегацыі дзеля злажэньня яе ў Берасьці.

У дэлегацыю былі выбраны: Цьвікевіч, Рак-Міхайлоўскі і Серада. Першыя два, доўга ня думаючы, направіліся празь лінію акопаў расейска-нямецкага фронту ў Берасьце, спаўняючы даную ім задачу. А трэйці, Янка Серада, ніяк ня мог адважыцца ехаць сьледам за першымі двума дэлегатамі; невядома, чаму і як ён ад іх адбіўся, і некалькі раз зьяўляўся ў Вайсковую Раду, сябром якое быў, зь невялічкім саквояжам у руках, каб зрабіць выгляд, што ён сапраўды замерваўся ехаць. Невядома толькі, ці хоць раз даехаў Серада навет да самога Менскага вакзалу.

---

[154] **Леў Троцкі** (рус. *Лев Троцкий*, сапр. *Бронштейн*, 1879–1940), дзеяч міжнароднага камуністычнага рэвалюцыйнага руху, першы савецкі народны камісар замежных спраў.

Цьвікевіч і Рак-Міхайлоўскі перайшлі фронт у кірунку Баранавіч. Нямецкая вайсковая часьць, што там стаяла, прыняла іх, як трэба, нарыхтаваўшы ўжо й вагон дзеля ад'езду ў Берасьце, як раптам, пасьля тэлеграфнага запытаньня, адтрымала паведамленьне, што Троцкі (галава расейскай міравой дэлегацыі) ніякае Беларусі не прызнае і ня можа дапусьціць, каб на міравых перагаворах Беларусь прадстаўляў нехта іншы, апрача яго, Троцкага. Віза на праезд беларускай дэлегацыі ў Берасьце ня была дана, і заставалася толькі шукаць іншых шляхоў праезду.

У той час, як ад імя Расеі зь немцамі гаварыў Троцкі, ад імя Ўкраіны там-жа ў Берасьці гаварыў Галубовіч[155] і інш. Цэнтральная Ўкраінская Рада[156] ў Кіеве выпусьціла чацьвёрты ўнівэрсал, абвяшчаючы Ўкраіну незалежнаю Народнаю Рэспублікаю, і адначасна з тым Украінскі ўрад (Генэральны Сакратарыят) абвясьціў вайну бальшавікам, як прадстаўнікам маскоўскага імпэрыялізму. Расейска-Ўкраінская вайна пачалася і прывяла да поўнае няўдачы Ўкраіну.

Беларуская дэлегацыя прылучылася ў Сарнах да апошняга ўкраінскага эшалону, які вывозіў Цэнтральную Раду заграніцу.

Украінцы па-братэрску прынялі беларускіх дэлегатаў і направілі іх у Берасьце пад выглядам кансультантаў дэлегацыі ўкраінскае.

У Берасьці Цьвікевіч і Міхайлоўскі мелі гутарку з сакратаром нямецкага міністра заграцічных справаў

[155] **Усевалад Галубовіч** (укр. *Всеволод Голубович,* 1885–1939), украінскі грамадска-палітычны і дзяржаўны дзеяч. Уваходзіў у Генеральны сакратарыят Цэнтральнай Рады Украінскай Народнай Рэспублікі, узначальваў украінскую дэлегацыю на перамовах у Брэсце. У студзені —красавіку 1918 г. быў міністрам замежных спраў УНР і старшынёй Рады народных міністраў.

[156] **Украінская цэнтральная рада** — першапачаткова ўкраінскі прадстаўнічы орган палітычных, грамадскіх і інш. арганізацый, а пасля Усеўкраінскага Нацыянальнага Кангрэса — рэвалюцыйны парламент Украіны. Дзейнічаў у сакавіку 1917 — красавіку 1918 гг.



Кюльмана[157], і там выясьнілася, што дзеля дапушчэньня на міравыя перагаворы проста не хапала шмат якіх момантаў юрыдычнага характару. Галоўным дэфэктам мандату беларускай дэлегацыі было тое, што зьявілася яна не ад Ураду Беларускага, якога тады яшчэ ня было, а ад Выканаўчага Камітэту Ўсебеларускага Зьезду. А ці-ж мала якіх Зьездаў адбылося ў Расеі пасьля рэвалюцыі?

Аднак у той час, як гэткія размовы беларускіх дэлегатаў зь немцамі вяліся, у Менску ўжо быў Беларускі ўрад, ня толькі проклямованы, а і фактычны. Урад гэты ня меў сувязі зь Берасьцем і нічога ня ведаў аб працы дэлегацыі, якая, у сваю чаргу, ня ведала, што робіцца ў Менску.

А ў Менску насьпелі ўжо падзеі, якіх трэ' было спадзявацца.

Пасьля рашучага жэсту Троцкага ў Берасьці, дзе ён у адказ на прамову нямецкага генэрала Гофмана[158] заявіў аб тым, што Расея не падпіша міру, але й ня будзе далей ваяваць, немцы аддалі прыказ аб наступленьні на іх Усходнім фронце. Развалены расейскі фронт ані ня мог працівіцца жалезнай, стройнай яшчэ сіле кайзэраўскай арміі, якая брала адзін за адным гарады Беларусі, едучы сабе чыгункаю. Менскія бальшавікі да апошняга моманту запэўнялі насяленьне сваімі адозвамі, што застануцца на месцы, быццам сапраўды верачы, што працоўны народ будзе бараніць органы, свае нібыта, улады. Яшчэ ўпоўдзень 10 лютага, калі ўсе самаходы бальшавікоў шалёна працавалі, пакуючы іх у цягнікі, па сьценах менскіх дамоў разьлепліваліся ў сказаным духу адозвы. Беларусы з Выканаўчага Камітэту й Вайсковае Рады зраньня ў

[157] **Рыхард фон Кюльман** (ням. *Richard von Kühlmann,* 1873–1948), нямецкі дыпламат і прамысловец. Міністр замежных спраў Германскай імперыі ў жніўні 1917 — ліпені 1918 гг. Быў кіраўніком нямецкай дэлегацыі на перамовах у Брэсце.

[158] **Макс Гофман** (ням. *Carl Adolf Maximilian Hoffmann,* 1869–1927), нямецкі генерал і дыпламат, які адыграў значную ролю ў часе Першай сусветнай вайны. Быў начальнікам штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага Усходнім фронтам.

гэты самы дзень выпадкова згрупаваліся ў «Беларускай хатцы» — сталоўцы на Захараўскім завулку[159] пад № 6-м. Сюды забег перапуджаны матрос Муха, ад якога даведаліся, што *«народныя»* камісары ўжо пасьпешна пакуюцца ў цягнік, ня гледзячы на ўсе іх красамоўныя адозвы.

Я і сябра Вайсковай Рады Язэп Мамонька адразу зь «Беларускай хаткі» накіраваліся ў адну з казармаў, дзе пасьля прамовы Мамонькі два бальшавіцкія батальёны збунтаваліся. Хаця камітэт гэтае вайсковае часьці ўжо нарыхтаваў варту, каб нас арыштаваць, але сам быў арыштаваны збунтаванымі жаўнерамі; а ўночы гэтага самага дня, 19 лютага, вельмі спатрэбіліся жаўнеры гэтае самае казармы.

Выходзячы зь «Беларускае хаткі» на рог Захараўскай вуліцы[160] й Захараўскага завулку, мы заўважылі, што два бальшавіцкія самаходы наехалі адзін на адзін, моцна разьбіўшыся. Камісары вылезьлі з самаходаў, пайшоўшы на вакзал пехатою. Па месьце пачалася нейкая бязглуздая страляніна, якая падвечар яшчэ болей узмацнілася. Кожны абыватаель лічыў чамусьці за свой абавязак выйсьці ў браму і стрэльнуць некалькі разоў угару. Позьнім вечарам 19 лютага[161] Выканаўчы Камітэт (ня ў поўным, праўда, сваім складзе) скончыў сваё апошняе нелегальнае пасяджэньне на Садовай вуліцы[162] пад № 10 у кватэры Гутмана, апрацаваўшы першую Устаўную Грамату да Народаў Беларусі.

Тымчасам сябар Вайсковай Рады і Рады Ўсебеларускага Зьезду Язэп Мамонька амаль што не адзін заняў былы Губэрнатарскі Дом, дзе дасюль зьмяшчаўся *«Совет Народня*у Менск увойдзе 1-шы польскі корпус генэрала Довбар-Мусьніцкага[163], якому й належыць цяпер уся ўлада.

У той-жа вечар, 19-II, Старшыня Выканаўчага Камітэту Воронка пасьпеў пабываць у Польскім Камітэце, і яго, аднак, там не чапалі. Як толькі сьцямнела, на вуліцах Менску зьявіўся самаход з азброенымі польскімі жаўнерамі, якія, праўда, нікога зь беларусаў не чапалі, нягледзячы на тое, ці ведалі яны пароль, ці не.

Варта было толькі на пытаньне *«хто ідзе»* адказаць — *«беларусы»*, і ніякага непаразуменьня не паўставала. Праўда, што жменька палякаў на самаходзе была вельмі малая, але ня большая сіла была і ў беларусаў. Хаця адначасна з пасяджэньнем на Садовай вуліцы Выканаўчага Камітэту, на Скобелеўскай вул.[164], № 9, у кватэры старых беларусаў Уласава[165] й Лявіцкага[166] засядалі сябры Вайсковай Рады, але-ж зь нічога стварыць аружную сілу было адразу немагчыма. На падмогу справе выступіла Беларуская Вучнёўская Грамада, моцны гурток беларускае моладзі, які, стыхійна азброіўшыся, і поўніў, так сказаць, ролю Беларускае Нацыянальнае Гвардыі, вартуючы Губэрнатарскі Дом. Дзіўна было для вайсковага вока бачыць хлопцаў і дзяўчат, што атачылі рэзыдэнцыю Выканаўчага Камітэту — былы Губэрнатарскі Дом, — маючы на сваіх плячах часам нават па дзьве стрэльбы. Старажы Беларускага Ураду былі маладыя, але верныя.

Настрой грамадзянства быў на старане беларусаў, і ўсякая варта ў гэты момант для самога ўраду магла й не існаваць.

---

[159] **Захар'еўскі завулак** — сёння не існуе. Праходзіў там, дзе цяпер пешаходны праход у арку каля былой крамы «Падпісныя выданні» (цяпер «Белкніга») да вуліцы Карла Маркса.

[160] **Захар'еўская вуліца** — цяпер праспект Незалежнасці ад вуліцы Савецкай да ЦУМа.

[161] Гэта было ўжо 20 лютага 1918 г. — ***А. Г.***

[162] **Садовая вуліца** — цяпер не існуе. Знаходзілася ў раёне парку імя Янкі Купалы.

[163] **Юзаф Доўбар-Мусніцкі** (пол. *Józef Dowbor-Muśnicki,* 1867–1937), расійскі і польскі ваенны дзеяч. Кіраўнік польскага мяцяжу супраць савецкай улады ў Беларусі ў 1918 г.

[164] **Скобелеўская вуліца** — цяпер вуліца Чырвонаармейская.

[165] **Аляксандр Уласаў** (1874–1941), грамадскі дзеяч, выдавец, мемуарыст. Рэдактар газеты «Наша Ніва» ў 1906–1914 гг. Браў удзел у працы Рады БНР, БСРГ, Таварыства беларускай школы.

[166] Маецца на ўвазе **Антон Лявіцкі** (псеўд. **Ядвігін Ш.**, 1869–1922), які быў сябрам Рады БНР.

Камэндантам гораду быў назначаны, уцёкшы ўжо з-пад бальшавіцкага арэшту, таварыш Старшыні Вайсковай Рады К[астусь] Езавітаў, які пачаў адразу фармаваньне 1-га Беларускага палку.

Камэндант працаваў дасканальна, нягледзячы на стыхійную страляніну ў горадзе, ніякіх эксцэсаў заметна ня было.

Камэндантам у арсэнал быў высланы малады афіцэр, сябар Вайсковай Рады Гайдук, які чамусьці першым чынам начапіў на свае плечы навюсенькія пагоны штабс-капітана.

У арсэнал наскочыў польскі палкоўнік з 8 жаўнерамі, што, з пазваленьня Гайдука, началі цягаць на вазы зброю і кулямёты, якіх шмат было ў складах арсэналу. Калі з арсэналу паведамілі, што гэткае там робіцца, я асабіста выехаў туды на самаходзе. Там мяне спаткала знаёмая ўжо варта арсэналу — жаўнеры якраз з тае казармы, якую мы з Мамонькаю раніцай збунтавалі. Я выслаў Гайдука ў Губэрнатарскі Дом, ухіліўшы яго гэтым ад абавязкаў камэнданта ў арсэнале, а варце прыказаў забараніць паляком вываз зброі з арсэналу. Варта арсэналу налічвала больш як 80 чалавек проці 8 палякоў, якія, кінуўшы арсэнал, пайшлі, як яны казалі, раззброіваць бальшавікоў.

Здарэньне ў арсэнале магло ўжо вельмі добра засьведчыць, што передавыя часьці польскага корпусу ген. Довбар-Мусьніцкага мала лічацца з фактам утварэньня ў Менску Беларускага Ўраду, а проста захапляюць, што толькі могуць. Далейшае паказала, што, нягледзячы на ўстанаўленьне ў Менску злучанае польска-беларускае камэндантуры (па ініцыятыве палякаў), з пошты, дзе было каля 13 мільёнаў рублёў грошай, былі зьняты польскімі легіянэрамі беларускія ахвотніцкія пасты, а грошы ўсе забраны й адвезены ў Бабруйск, дзе была галоўная кватэра Довбар-Мусьніцкага. У Менску чамусьці пачаліся эксцэсы якраз у той часьці гораду, якая належала да беларускай камэндантуры, і вінавайцамі гэтых эксцэсаў чамусьці здараліся асобы ў форме польскіх легіянэраў.



Невядома, што было-б далей, калі-б генэралу Мусьніцкаму ўдалося ўехаць у Менск з сваімі галоўнымі сіламі раней за немцаў, аднак трэба адзначыць, што, апрача раззбройваньня расейскіх казармаў і забіраньня каштоўнасьцяў, як, напрыклад, на пошце, перадавыя часьці легіянэраў непасрэдна проці Беларускага Ўраду й яго агентаў (калі ня лічыць зьніманьня пастоў) выступленьняў не рабілі.

А Ўрад Беларускі злажыўся незабаўна па заняцьці Выканаўчым Камітэтам быўшага Губэрнатарскага Дому. Выканаўчы Камітэт, значна папоўнены кааптацыяй у яго склад сяброў Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады і некаторымі прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў, выдзеліў зь сябе новы орган, які стаў гістарычным першым беларускім кабінэтам (міністэрыумам). У Выканаўчым Камітэце была нейкі час гутарка аб тым, як ахрысьціць новы орган. Прапанавалася нават назваць яго Народным Камісарыятам, а сяброў яго, значыцца, народнымі камісарамі. Але праз тое, што гэткую, хаця й зусім зразумелую й для беларускага народу, назву насіў бальшавіцкі ўрад, дык усе згадзіліся назваць першы Беларускі Ўрад Народным Сакратарыятам, а сяброў гэтага ўраду народнымі сакратарамі. 21 лютага 1918 году Народны Сакратарыят выпусьціў абвестку, што ён прыступіў да спаўненьня сваіх абавязкаў. Старшынёю ўраду нязьменна застаўся Варонка, ён-жа абняў і заграчныя справы Беларусі.



✦ *Першая Устаўная грамата. 21.02.1918*

У дзень уваходу немцаў у Менск, 22 лютага, Варонка пасьпеў распарадзіцца,

каб гэты сьпісак быў на нямецкай мове разьлеплены на вуліцах Менску.

21 лютага 1918 году была выпушчана Першая Ўстаўная Грамата да Народаў Беларусі.

Яна была надрукавана позна ўночы (пасьля 3 гадзіны) у гістарычнай па друкаваньню беларускіх твораў друкарні Грынблата[167], калісьці быўшай Іокеля Дворжэца.

Грамата была надрукована на беларускай і расейскай мове, проектавалася таксама надрукаваць яе па-жыдоўску й па-польску, чаму перашкодаю былі толькі, на першых часах, прычыны тэхнічныя.

Яшчэ не паскідаўшае царскіх какардаў з шапак чынавенства расейскае бралася за бокі ад сьмеху, чытаючы беларускі тэкст Граматы. Але сьмяялася яно нейкім сьмехам вышкаленага на адзін бок раба. Цяляча-мяшчанская веселасьць расейскага чынавенства пры чытаньні па-беларуску першага акту Беларускага Ўраду ня шкодзіла, аднак, вярхом гэтага чынавенства, розным асобам *«не ниже четвертого класса»* зьяўляцца да кожнага з Народных Сакратароў з прапанаваньнем *«своих услуг»*.

Нішто іншае, як, мусіць, пачуцьцё ўсё-ж такі беларускасьці прывяло на пасяджэньне Выканаўчага Камітэту ў быўшы Губэрн[атарскі] Дом дашчэнту зрусыфікаванага генэрала ад-інфантэрыі Кандратовіча[168]. Раней ён быў у Вайсковай Беларускай Радзе, але стуль яго выключылі, здаецца, за «буржуазнасьць». З Вайсковай Рады быў выключаны за нешта і П[авел] Аляксюк, але нейкім чынам ён ізноў трапіў ужо ў сябры Выканаўчага Камітэту, мусіць, пры кааптацыі, але, праўда, ненадоўга.

[167] Друкарня Якава Грынблата месцілася па адрасе: вуліца Губернатарская, 32 (цяпер вуліца Леніна, 14).

[168] **Кіпрыян Кандратовіч** (1859–1932), генерал ад інфантэрыі. Ад мая 1917 г. камандаваў 75-й пяхотнай дывізіяй. У 1917 г. быў абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду і ўзначаліў працу па арганізацыі прафесійнага беларускага войска. Ад красавіка 1918 г. сябра Рады БНР. Напрыканцы 1918 г. разам з Радай БНР адступіў з Менска і сфарміраваў у Гародні 1-ы беларускі полк. Непрацяглы час удзельнічаў у фарміраванні літоўскага войска.



Цікава, што ў Выканаўчым Камітэце першаю прапазыцыяю Аляксюка было: кааптаваць у Камітэт амаль ня ўсю *«Radu Polsku Ziemi Mińskiej»*. Але-ж, ведама, гэткая прапазыцыя тады ніякіх шансаў на ўдачу мець не магла. Дзіўна таксама, што велікарос Злобін, якога ў Менск закінуў прыфрантавы аддзел Усерасейскага Земскага Саюзу, ані ня думаў пра *«велікарускія справы»*, за якія ўзяўся ў Народным Сакратарыяце, а ўвесь час расьпінаўся перад Выканаўчым Камітэтам зь нейкім бясконечным дакладам аб палітыцы Довбар-Мусьніцкага ў Бабруйску, націскаючы празь меру на тое, што ён — эсэр Злобін — страшэнны паланафіл. Злобін тады толькі што вярнуўся з Бабруйску, куды пасланы быў у Камісіі Менскага Губ[эрнскага] Земства, каб умяшацца ў тое, што тварыў цяжкі рэжым Мусьніцкага з насяленьнем занятага ім павету. Але тымчасам, удачна ці няўдачна, а Народны Сакратарыят зложыўся і адразу прыцягнуў да сябе агульную ўвагу.

Нацыянальная рэвалюцыя ўходзіла ў свае правы. Губэрнатарскі Дом стаў як-бы мініятураю таго, што год назад, у лютым 1917 году, выяўляў сабою Таўрыдзкі Палац[169] у Петраградзе. Сюды сьцягвалі розны хлам,



✦ *Губернатарскі дом, дзе знаходзіўся Народны Сакратарыят. Люты 1918 г.*

[169] **Таўрыйскі палац** — палац у Санкт-Пецярбургу, збудаваны ў XVIII ст. у стылі класіцызму. У лютым-ліпені 1917 г. у ім месціўся Часовы ўрад.

зусім у доме Ўраду непатрэбны; шакаляда, шынка, цукар, шынялі, нейкія салдацкія ў нязьмерным ліку дзягі, кулямёты розных сыстэмаў, навет два матацыклі можна было бачыць у пакоях быўшага Губэрнатарскага Дому. Калі я зьвярнуў увагу Старшыні Ураду Я[зэпа] Варонкі на гэты хаос, дык той адказаў, што з гэтым трудна што парадзіць, бо Чхэідзэ[170] ў Таўрыдзкім Палацы ў расейскую рэвалюцыю быў завалены яшчэ горш, навет акрываўленымі галовамі рэзанай жывёлы, праз якія, выходзячы на волю, мусіў перадзыгаць. На твары моцна стомленага бяссоннымі ночамі Старшыні першага Беларускага Ўраду іграла пры гэтым лёгкая, яго звычайная ўсьмешка. У сваім кабінэце (пакоі № 11) ён часта момантамі сядзеў, падпершы галаву рукамі, як-бы прыслухоўваючыся, калі пранясецца гэтая абыватальская бура.

Цяжка дый немагчыма пераказаць усё, што тварылася ў кароткі, амаль няпоўны адзін тыдзень гэтага цікавага беларускага ўрадаваньня.

Нельга ня спомніць разумную прапазыцыю дэлегацыі ад Менскае Ўкраінскае Грамады, якая, зьявіўшыся ў Выканаўчы Камітэт для прывітаньня, раіла ўсе каштоўнасьці аддаць пад абарону ўкраінскага сьцягу, бо Ўкраіна тады ўжо заключыла зь немцамі і аўстрыякамі мір. Шчыра-братэрская прапазыцыя ўкраінцаў, невядома чаму, ня была прынята. А за гэта нічога ўкраінцы не вымагалі, апрача таго, што прасілі пазычыць ім часова хаця … 3.000 рублёў.

Прыйшоўшы ў Менск, немцы сапраўды не чапалі ўкраінцаў, а зь беларусамі абыйшліся крыху йначай.

Разам з Довбар-Мусьніцкім зьявіліся ў Менск і немцы. Першы вайсковы аддзел нямецкі, які па чыгунцы прыехаў у Менск, быў прывітаны ад беларусаў, на сваю ўласную рызыку, Раманам Скірмунтам[171], быўшым Старшынёю першага Менскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Нейкім асыстэнтам пры Скірмунце на гэтым прывітаньні быў П[авел] Аляксюк. За тое, што Аляксюк бязь ведама Выканаўчага Камітэту ўзяў на сябе гэткую ролю, ён быў зараз-жа з Камітэту выключаны.

Першыя тры дні, пасьля ўваходу ў Менск немцаў, яшчэ можна было бачыць азброеных беларусаў адкрыта на вуліцы; іншы раз наўзавады пралятаілі па ёй беларускія коньнікі з стрэльбамі за плячыма. Першы батальён немцаў выстраіўся на Пляцы Волі перад самым Домам Народнага Сакратарыяту (б. Губэрнат[арскі] Дом), на бальконе якога разьвяваўся беларускі сьцяг.

Сьцяг гэты быў зьняты немцамі толькі 25 лютага зранку, калі нямецкі камэндант гораду выселіў Народны Сакратарыят зь яго Дому і канфіскаваў касу Сакратарыяту (каля 300.000 рублёў, найбольш думскімі білетамі). Трэба адзначыць, што Народны Сакратарыят завёў сваю зусім легальную касу толькі на самыя бягучыя патрэбы, а ўсю маёмасьць рашыў пакінуць у распараджэньні існаваўшых інстытуцыяў як народную ўласнасьць.

Аб дзеяньні 25.II.1918 нямецкага камэнданта Сакратарыят незабаўна злажыў на рукі вышэйшага прадстаўніка нямецкае акупацыйнае ўлады мэмарандум. 24 лютага Народны Сакратарыят паслаў у Вярхоўны Польскі Камітэт (копія камандзіру 1-га польскага корпусу) ультыматум аб забраных на пошце і ў палявых казначэйствах 38-га і 2-га каўказскага расейскіх карпусоў капіталах.

У абодвых гэтых выпадках выступленьні Народнага Сакратарыяту не далі ніякіх канкрэтных рэзультатаў.

Народны Сакратарыят быў выселены акупантамі з урадавага свайго памяшканьня, але працы свае

[170] **Мікалай Чхеідзэ** (рус. *Николай Чхеидзе*, 1864–1926), расійскі і грузінскі палітычны дзеяч. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі быў старшынёй Часовага выканкама Петраградскага савета рабочых дэпутатаў, удзельнічаў у перамовах аб стварэнні Часовага ўраду.

[171] **Раман Скірмунт** (1868–1939), грамадска-палітычны дзеяч, пінскі памешчык. З сакавіка па ліпень 1917 г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта. З красавіка 1918 г. — сябра Рады БНР. У траўні 1918 г. пачаў фармаванне ўраду БНР, які быў сфармаваны ў ліпені 1918 г. і папрацаваў толькі тыдзень.

ён не спыніў зусім. У кантакце з Гарадзкою Думаю й Менскаю Губ[эрнскаю] Земскаю ўправаю ён зьбіраўся склікаць 15 сакавіка 1918 году зьезд органаў самаўрададаваньня і грамадзкіх арганізацыяў, але ўсе замеры разьбіваліся аб упартасьць акупацыйных уладаў, якія вялі сваю чыста-нямецкую палітыку проста і непаслявянску хітра.

Арыгінальна вельмі тое, што немцы пакінулі беларускія органы, як кажуць, варыцца ў сваім уласным саку, толькі, са ўсею дасканальнасьцю нямецкага адміністрацыйнага апарату, ізалявалі іх ад усялякіх зносін з правінцыяй. Польскаму корпусу Довбар-Мусьніцкага немцы далі дзялянку на сваім фронце, які дакаціўся да лініі Дняпра, а пасьля навет і польскі корпус быў ім непатрэбен, а таму і раззброены.

У незвычайна цяжкіх варунках акупацыйнай ізаляцыі Народны Сакратарыят і Выканаўчы Камітэт зьбіралі, якія маглі, каля сябе сілы.



✦ *Першы склад Народнага Сакратарыята.*
*Сядзяць: Алесь Бурбіс, Янка Серада, Язэп Варонка, Васіль Захарка; стаяць Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Леанард Заяц.*
*Люты 1918 г.*



Спрытная палітыка Варонкі, а часткаю і Цьвікевіча ўвяла ў круг беларускае палітычнае працы земствы і гарады, а таксама й дэмакратычныя слаі нацыянальных меншасьцяў.

А тымчасам, пакуль зусім ня ўліліся гэтыя элемэнты ў круг беларускае палітыкі, Выканаўчы Камітэт Рады 1-га Ўсебеларускага Зьезду выдаў 9 сакавіка 1918 г. другую Ўстаўную Грамату да Народаў Беларусі.

Другая Ўстаўная Грамата як-бы ўстанаўляла галоўныя пункты канстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі, аднак нічога не казала яшчэ аб сувэрэннасьці гэтай рэспублікі, аб тэрыторыі яе і адносінах да суседзяў. Беларусь яшчэ не адрывалася юрыдычна ад таго дзяржаўнага арганізму, у складзе якога была. Над Беларусьсю існаваў яшчэ сувэрэнітэт Расеі.

Сказаўшы «А», трэба было сказаць і «Б».

Беларускія нацыянальна-дзяржаўныя органы стаялі перад тым, што не сягоньня-заўтра ім трэба абвясьціць незалежнасьць Бацькаўшчыны; тым больш, што ўсе акалічнасьці вялі да гэтага. Карахан[172] ад імя бальшавіцкага ўраду Расеі падпісаў, ня чытаючы, Берасьцейскі міравы трактат з немцамі. Апрача лініі расейска-нямецкага фронту, якая дзяліла Беларусь на дзьве няроўныя часьці: усходнюю, большую, і заходнюю, шмат меншую, утвараўся новы нямецка-бальшавіцкі фронт, зь лініяй каля Воршы, які, у сваю чаргу, дзяліў Беларусь на новыя дзьве часьці — невялічкую ўсходнюю і шмат большую заходнюю. Па дагавору немцаў з украінцамі, некаторыя беларускія паветы перайшлі да Ўкраіны. Па дагавору зь літоўцамі, частка Заходняй Беларусі намячалася немцамі да Літвы. Беларусь была парэзана на кавалкі, бязь ніякае на гэта згоды зь яе боку, бязь ніякага яе голасу пры гэтым. Падвойны нямецка-расейскі фронт (стары і новы — з бальшавікамі) дзьвюма лініямі з поўначы на поўдзень

---

[172] **Леў Карахан** (рус. *Лев (Леон) Карахан*, 1889–1937), расійскі рэвалюцыянер, савецкі дыпламат армянскага паходжання. У 1918 г. быў намеснікам народнага камісара замежных спраў РСФСР.

кроіў тэрыторыю Беларусі ўдоўж; хаця бальшавікі адкаціліся далёка на ўсход ад старога фронту імпэрыялістычнай нямецка-расейскай вайны, аднак немцы трымалі й гэты стары фронт, як моцны кардон, не даючы магчымасьці яднацца раней акупаванай імі часьці Беларусі з рэштаю яе на ўсходзе.

Менск ня ведаў, што тварылася ў Вільні, а Вільня ня ведала, што дзеецца ў Менску.

А ў Менску немцы, хаця й не ліквідавалі сілаю ўсяе працы Беларускага Ўраду, аднак фактычна зьвялі яе да таптаньня на месцы. Ніякім распараджэньнем яны не распускалі Народнага Сакратарыяту й Выканаўчага Камітэту; было толькі агульнае ваенна-адміністрацыйнае распараджэньне камандзера 10-й нямецкай арміі генэрала Фалькэнгайна[173], што ўсякія публічныя сходы без пазваленьня ўлады строга забараняюцца, а вінаватыя ў незаконных сходах будуць карацца арыштам і штрафам да 30.000 марак. Цікава, што беларускія дзяржаўныя органы зьбіраліся заўсёды, калі ім было трэба, бязь ніякага афіцыяльнага ведама немцаў, якія чамусьці нічым на гэта не рэагавалі. Спрытныя палітыкі немцы нацягвалі ў сваім дыплёматычным інструмэнце й беларускую струну, каб зайграць і на ёй, калі-б гэта ім спатрэбілася. Затое ніякіх адкрытых зносін з правінцыяй беларускія органы ўраду пад нямецкай акупацыяй мець не маглі, як не маглі зносіцца і зь Вільняю.

Народны Сакратарыят мог толькі выходзіць з свайго ізаляцыйнага палажэньня ў зносінах з правінцыяй, дзякуючы нязьнішчаным немцамі органам земскага й гарадзкога самаўрадаваньня, якія, праўда, ня былі беларускімі, у праўдзівым сэнсе гэтага слова, а таму да справы дзяржаўнасьці беларускай адносіліся досыць халадна. Сьціснутыя, аднак, немцамі ў сваёй дзейнасьці, яны

[173] **Эрых фон Фалькенгайн** (ням. *Erich Georg Sebastian Anton von Falkenhayn,* 1861–1922), нямецкі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, з 1918 г. камандаваў 10-й нямецкай арміяй, якая дыслакавалася на тэрыторыі Беларусі.



шукалі выхаду ў тым, што згаджаліся групавацца каля беларускага цэнтру — Менску, а разам з тым і каля ўрадовых органаў Беларусі.

Уліўшыся сваім прадстаўніцтвам у Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду, гарадзкія й земскія органы самаўрадаваньня павялічвалі сабою цэнтральны орган беларускі, галоўным чынам у ліку, бо ідэйна былі масквафільскімі і думалі толькі аб Расеі.

Стварыўся, гэткім чынам, новы дзяржаўны орган Беларусі, які на пасяджэньні ў залі Менскае Губэрнскае Земскае Ўправы прыняў назву: Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, адносіны якой да Народнага Сакратарыяту былі адносінамі Парлямэнту да Ўраду.

Асьцярожная тактыка Старшыні Сакратарыяту Варонкі дала магчымасьць Выканаўчаму К[амітэ]ту вырабіць гэткую норму прадстаўніцтва земстваў і гарадоў у Радзе Рэспублікі, каб яны не маглі пераважыць сабою (у ліку) шчыра-беларускіх галасоў.

Прадстаўнікоў земстваў і гарадоў у Радзе Рэспублікі трудна назваць іначай, як *«тоже белоруссами»*. Шмат хто зь іх, будучы беларусам па крыві, прыйшоў у беларускі прадпарлямэнт з расейскаю моваю, з расейскімі думкамі і з пакалечанай a la расейскаю душою. Ноль фінансавага становішча Рады й Сакратарыяту павялічыўся толькі тым, што Менская Гарадзкая Дума асыгнавала ў распараджэньне Нар[однага] Сакратарыяту 10.000 рублёў, зь якіх было выдана толькі 3.000 руб., а рэшта, пасьля выхаду земскіх і гарадзкіх дэпутатаў з Рады Рэспублікі йануляваньня асыгноўкі Менскаю Думаю, да касы Сакратарыяту ня трапіла.

Кааліцыя беларускіх органаў зь земствамі й гарадамі была вельмі нядоўгаю.

У 20-я чыслы сакавіка месяца ў Менск удалося прыбыць прадстаўніком Віленскай Беларускай Рады[174],

[174] **Віленская беларуская рада** — каардынацыйны цэнтр беларускіх грамадскіх і палітычных арганізацый у Вільні ў студзені 1918 — ліпені 1919 гг.

якая там арганізавалася, калі не памыляюся, у лютым месяцы 1918 году[175], ведама-ж, зусім незалежна ад таго руху беларускага, які вырас у Менску на грунце ўсерасейскае рэвалюцыі.

Віленская Беларуская Рада трымалася прынцыпу Літоўска-Беларускай фэдэрацыі. Цікава зазначыць, што першы раз да віленскіх беларусаў дайшла няясная чутка аб рабоце ў Менску праз газэты, апублікаваўшыя заяву нямецкага генэрала Гофмана на міравых перагаворах у Берасьці аб тым, што Троцкі вось рысуецца дэмакратызмам савецкае ўлады, а чаму-ж у Менску разагнаны быў бальшавікамі Ўсебеларускі Кангрэс.

Слуцкі мяшчанін Троцкі (яго праўдзівае імя — Лейба Браништэйн) і тут згуляў нягодную ролю, адказаўшы Гофману, што Зьезд Беларускі быў разагнаны таму, што складаўся ён з памешчыкаў (паноў) і буржуазіі (?).

Сярод прыбыўшых у Менск 5 віленцаў былі старыя пачынальнікі беларускага нацыянальнага руху браты Іван і Антон Луцкевічы (Сацыялістычная Грамада), Дамінік Сямашка[176] (тады віленскі брандмэйстар, а цяпер літоўскі міністар па беларускіх справах), Янка Станкевіч[177] (пазьней арганізатар Беларускае Народнае Партыі) і работнік Туркевіч[178] (сябра віленскай беларускай сацыял-дэмакратычнай групы).

---

[175] Дакладна — на Беларускай канферэнцыі 25–28 студзеня 1918 г. — ***А. Г.***

[176] **Дамінік Сямашка** (1878–1932), польскі, беларускі і літоўскі палітычны дзеяч. У чэрвені 1920 г. — лютым 1922 г. узначальваў Міністэрства беларускіх спраў Літвы.

[177] **Янка Станкевіч** (1891–1976), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. На пачатку 1914 г. працаваў у «Нашай Ніве», але з пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска. У 1917 г. апынуўся ў аўстрыйскім палоне. У 1918–1920 гг. сябра Рады БНР. У 1928–1930 гг. пасол польскага сойма.

[178] **Язэп Туркевіч** (1876–?), грамадскі дзеяч. Сябра БСГ. Удзельнік пасяджэння, на якім была абвешчаная незалежнасць БНР. У 1922 г. балатаваўся ў польскі сойм, але мандата не атрымаў. Пазней быў рэдактарам шэрагу заходнебеларускіх выданняў.



Пасьля ўзаемных інфармацыяў зь віленцамі выясьнілася, што чародным этапам беларускага нацыянальна-палітычнага руху павінна быць незабаўнае абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнаю дзяржаваю.

* * *

Ведама, што нельга было рахаваць на тое, каб за незалежнасьць Беларусі падалі свае галасы прадстаўнікі земстваў і гарадоў, ясна толькі было, што ўсе праўдзівыя беларускія галасы ў Радзе Рэспублікі за гэта выкажуцца дружна.

Раньнім вечарам 25 сакавіка[179] 1918 году пачалося пасяджэньне Рады Рэспублікі, маючы на парадку дня адно толькі кардынальнае пытаньне: абвяшчэньне незалежнасьці.

Як і трэ' было спадзявацца, пачалася небывалая трыбунная барацьба беларусаў з *«тоже белоруссами»*. З абодвых бакоў выказалася аж 20 аратараў. Прадстаўнікі земстваў і гарадоў на чале зь Ярашэвічам і Злобіным і прадстаўнікі жыдоў (за выняткам аднаго), выказваючыся проці, напіралі галоўным чынам на тое, што Рада Рэспублікі ня можа проклямаваць незалежнасьці Беларусі, бо гэтым яна нарушыць волю разагнанага бальшавікамі Усебеларускага Зьезду, у адным з пунктаў рэзалюцыі якога гаварылася ясна *«о неотторжимости Белоруссии от Российской Федеративной Демократической Республики»*. На гэта зь беларускага боку было адказана, што перш за ўсё ніякае Расейскае Фэдэрацыйнае Дэмакратычнае Рэспублікі не існуе, што ў Берасьці Расея, хаця й бальшавіцкая, аддала Беларусь немцам і гэтым самым зрабіла *«отторжение»*, а нарэшце, на аснове якога-ж пункту расейскае канстытуцыі ў Расеі скінулі цара і г. д.

---

[179] Гэта было а 8-й гадзіне вечара 24 сакавіка — ***А. Г.***

Пазыцыя беларускай часьці Рады была яснаю, яе праціўнікаў гэтак сама, і лішнія размовы самі сабою падходзілі да канца, хаця надта туга.

Цікава, што той самы Злобін, які 19 лютага заразжа пасьля заняцьця Выканаўчым Камітэтам б[ылога] Губэрнатарскага Дому неяк заікнуўся амаль ня першым аб тым, што можа й трэ' было-б абвясьціць Беларусь незалежнаю, цяпер баяўся гэтага, як агню, і цьвярдзіў навет, што акт гэткі ня мае ніякага значэньня, калі сьледам за ім Расея не зрачэцца свайго сувэрэнітэту над Беларусьсю.

Нельга не адзначыць і таго, што з усяе проціберускае групы адзін толькі сябар жыдоўскае аб'яднанае сацыялістычнае партыі грамадзянін Мац у незвычайна моцнай прамове выказаўся за незалежнасьць, аднак пры галасаваньні, як чалавек партыйна-дысцыплінаваны, мусіў галасаваць проці сваіх пераканаваньняў разам з рэштаю сваіх двох партыйных таварышоў (Гутман і Мар'ясін[180]), аб чым публічна й заявіў.

Калі справа падышла да галасаваньня, дык Злобін і Ярашэвіч стараліся да апошняга разьбіць як-небудзь беларускія галасы Сацыялістычнай Грамады й беларусаў, што ёй спачувалі, і не адзін раз адбываліся перад галасаваньнем пяцьмінутныя пярэрвы. Нарэшце галасаваньне адбылося ўставаньнем галасаваўшых «за» незалежнасьць і дало поўную перавагу. Праціўнікі рэзалюцыі (якая зводзілася да формулы, што Рада пастанаўляе абвясьціць Беларусь незалежнаю й выдаць аб гэтым адпаведную Устаўную Грамату) пакінулі Раду Рэспублікі. Гутман навет згаджаўся на незалежнасьць, калі сьледам за гэтым будзе прынята пастанова аб... фэдэрацыі з Расеяй. Паўставалі пытаньні, чаму гэта з Расеяй, з якою Расеяй і чаму ня з кім іншым з суседзяў?

[180] Магчыма, маецца на ўвазе **Лазар Мар'ясін** (1896–1937), удзельнік рэвалюцыйнага руху, пазней савецкі гаспадарчы дзеяч. У 1917 г. ён стаў сябрам Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай рабочай партыі.



Формула аб незалежнасьці была прынята раньняй раніцай (каля 6 гадзіны), і, глянуўшы ў вакно на першы сьвет заранкі, Варонка сказаў выходзіўшым з Рады: *«Гэта сонца Беларусі!»* Назаўтра быў зроблены працяг пасяджэньня Рады і прыняты тэкст гэткае (трэцяе) Устаўнае Граматы.



УСТАЎНАЯ ГРАМАТА

Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

✦ *Трэцяя Устаўная грамата. 25.03.1918*

Трэцяя Ўстаўная Грамата была лебядзінаю песьняю Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У сваім сацыял-патрыятызме яна зайшла так далёка, што, каалiраваўшы пасьля выхаду з Рады земстваў і гарадоў зь Беларускім Народным Прадстаўніцтвам[181] (*Weissruthenische Volks-Komitee*), часткаю сваёю галасавала за пасылку скірмунтаўскай тэлеграмы нямецкаму кайзэру Вільгэльму II[182] і, дзякуючы гэтаму, развалілася, перастаўшы існаваць як партыя.

Праўда, што рана ці позна нязгодныя паміж сабою эсэраўскі й марксіцкі кірункі Сацыялістычнай Грамады ўсё роўна прывялі-б яе да расколу, хаця й ня гэткага сумнага.

[181] **Беларускае народнае прадстаўніцтва**, або **Менскае народнае прадстаўніцтва** — палітычнае аб'яднанне беларускіх партый і груп ліберальнай і правацэнтрысцкай скіраванасці ў 1918 — пачатку 1919 гг.

[182] **Вільгельм II** (ням. *Wilhelm II*, 1859–1941), імператар Германіі і кароль Прусіі (1888–1918). Ягоная актыўная знешняя палітыка, скіраваная на рост уплыву Германіі ў свеце, стала прычынай Першай сусветнай вайны.

* * *

Беларускае Народнае Прадстаўніцтва сьмела можна назваць партыяю Рамана Скірмунта за той час. Сакратаром Прадстаўніцтва быў выключаны з Выканаўчана Камітэту П[авел] Аляксюк, сябрамі былі розныя мяшчанскія элемэнты Менску, паміж імі беларус Т[одар] Вярнікоўскі, праўдзівы паляк Хржонстовскі[183] (быўшы гарадзкі галава) і інш. Кватэра Прадстаўніцтва была на Серпухаўскай вул.[184], недалёка ад памяшканьня Рады, якая зьмяшчалася на Захараўскай вул., у доме № 43, дзе быў зусім легальна прыбіты шыльд Народнага Сакратарыяту. Гэткае суседзтва Рады з Прадстаўніцтвам не абходзілася без таго ці іншага кантакту іх, а па выхадзе прадстаўнікоў гарадоў і земстваў з Рады адбыўся ўваход у яе Народнага Прадстаўніцтва.

Сваім выхадам з Рады Рэспублікі прадстаўнікі земстваў і гарадоў моцна памаглі Народнаму Прадстаўніцтву ўвайсьці ў Раду і як-бы заняць пустое, пакіненае імі, месца. Колькасьцю галасоў сваіх Прадстаўніцтва не магло граць першую ролю ў Радзе, аднак аслабленую земцамі пазыцыю сацыялістых-беларусаў з Рады пастулова заціскала Прадстаўніцтва, і выявілася праз нейкі час, што барацьба [Рамана] Скірмунта з [Язэпам] Варонкаю за ўладу рана ці позна выплыве наверх.

З Сацыялістычнае Грамады адкалолася група [Тамаша] Грыба і [Палуты] Бадуновай, утварыўшы Беларускую Партыю Сацыялістых-Рэвалюцыянэраў[185], якая спачатку ў вачох рэшты радных зьяўлялася нічым іншым, як расейскім насеньнем, перанесеным на беларускі грунт. Тактыка гэтай партыі ў Радзе можа быць названа ня йначай як *«умываньне рук»*. Лідэры эсэраў рабілі громкія трыбунныя выступленьні, ухіляючыся ад практычнае адпавядальнасьці за беларускую палітыку.

Неэсэраўскія элемэнты Сацыялістычнай Грамады пачалі шчапацьцё ў сваю чаргу; Варонка й Езавітаў заснавалі беларускую партыю сацыялістых-фэдэралістых[186], але гэта пасьля таго, як спатычка [Язэпа] Варонкі з [Раманам] Скірмунтам з-за прэм'ерства адбылася.

*«Ад чацьвяргу да пятніцы»*, як кажа прыказка, [Раману] Скірмунту ўсё-ж такі ўдалося пабыць Старшынёю Народнага Сакратарыяту, але, нягледзячы на пастанову аб гэтым большасьці Рады, [Язэп] Варонка справаў Сакратарыяту скірмунтаўскаму кабінэту не схацеў перадаць, і з гэтага прыкрага палажэньня «дваяўраднасьці» вывела справу новая большасьць Рады, пастанавіўшая стварыць «парлямэнцкі» Сакратарыят спосабам дэлегаваньня ў склад яго прадстаўніка ад кожнае раднае групы.

Эсэры ўхіліліся й на гэты раз ад дэлегаваньня ў склад ураду свайго прадстаўніка, хаця й не саўсім. Яны далі маўклівую згоду на кандыдатуру [Тодара] Вярнікоўскага ў Народныя Сакратары. Старшынёю новага складу Сакратарыяту быў выбраны Серада, загадчыкам справаў застаўся [Леанард] Заяц. Агулам бяручы, гэткая камбінацыя была зроблена так сабе, абы запоўніць пустату, і ніякай працаздольнасьці ад новага Сакратарыяту спадзявацца нельга было.

Кватэра Рады й Сакратарыяту была перанесена ў быўшы Юбілейны Дом (на Захараўскай вуліцы), і Сакратарыят пад старшынствам Серады некалькі месяцаў спакойна сядзеў у сваёй новай рэзыдэнцыі. Праўда, пры гэтым Сакратарыяце былі спробы завязаць перагаворы з украінскім урадам (тады гетмана

---

[183] **Станіслаў Хржанстоўскі** (пол. *Stanisław Chrząstowski*, ? — ?), польскі палітычны дзеяч, юрыст. У 1909–1917 і 1918 гг. быў Менскім гарадскім галавой.

[184] **Серпухаўская вуліца** — цяпер частка вуліцы Валадарскага.

[185] **Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў** — беларуская палітычная партыя ў 1918–1924 гг. Афармілася пасля расколу БСГ. Ініцыятарам стварэння была народніцкая група на чале з Тамашам Грыбам і Палутай Бадуновай.

[186] **Беларуская партыя сацыялістаў-федэралістаў** — беларуская палітычная партыя ў 1918–1921 гг. Афармілася пасля расколу БСГ.



✦ *Былы Юбілейны дом, які стаў Домам БНР*

Скарападзкага[187]), адбылося ў Кіеве некалькі пасяджэньняў беларускай дэлегацыі з украінцамі, былі перагаворы з бальшавіцкім прадстаўніком Ракоўскім[188] там-жа ў Кіеве, які згаджаўся ад імя бальшавікоў прызнаць Беларусь незалежнаю, але толькі з тым варункам, калі ў ёй будзе савецкая ўлада.

Пры Сакратарыяце Серады быў прыняты ў кастрычніку 1918 г. Радаю закон аб папаўненьні Рады новымі элемэнтамі, у значнай меры буржуазнымі, і аб рэарганізацыі Народнага Сакратарыяту ў Раду Народных Міністраў. У Раду ўвайшлі прадстаўнікі провінцыяльных радаў, Сьв[ята]-Мікалаеўскага брацтва, Хрысьціянска-Дэмакратычнае беларускае Злучнасьці[189], Польскае Рады

[187] **Павел Скарападскі** (1873–1945), вайсковы і палітычны дзеяч, гетман Украіны ад 29 красавіка да 14 снежня 1918 г.

[188] **Хрысціян Ракоўскі** (баўг. *Кръстьо Раковски*, 1873–1941), савецкі палітычны, дзяржаўны і дыпламатычны дзеяч балгарскага паходжання. У 1918 г. быў удзельнікам перамоў бальшавікоў з Украінскай Цэнтральнай Радай.

[189] **Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць** — нацыянал-дэмакратычная партыя, заснаваная ў 1917 г. Яе



Меншчыны (*Rada Polska Ziemi Mińskiej*), расейскае партыі канстытуцыйных дэмакратаў[190] (кадэты), Менскага, назначанага немцамі, магістрату, Саюзу Земляўласьнікаў і інш.

Раду Міністраў даручана было сфармаваць Антону Луцкевічу, які незабаўна яе стварыў, прачытаўшы кабінэтную праграму ў адным з пасяджэньняў. Помніцца, што ў дэклярацыі прэм'ера першае Рады Міністраў Луцкевіча было ясна зазначана, што беларускі ўрад не адкідае прынцыпу фэдэраваньня Беларусі зь яе суседзямі і ў гэтым сэнсе будзе вясьці перагаворы з суседнімі народамі ў залежнасьці ад дэмакратычнасьці іх дзяржаўнага ладу. Аканчальнае рашэньне аб фэдэрацыі з кім-небудзь пакідалася Беларускаму Ўстаноўчаму Сойму.

Уся гэта работа тварылася тады, калі Нямеччына пачала цярпець адно за адным пабоішчы на яе заходнім франка-бэльгійскім фронце.

Як рэзультат ваенных няўдачаў, у Нямеччыне адбылася ў лістападзе рэвалюцыя, і войскі быўшага Кайзэра, окупаваўшыя Беларусь, а таксама й Украіну, парабіўшы[191] салдацкія рады, пачалі пасьпешна адходзіць на бацькаўшчыну. Сьледам за імі паўзла ў бок Менску хмара бальшавіцкае чырвонае арміі. Нямецкі генэрал Фалькэнгайн адносіўся невыразна да справы тварэньня беларускага войска генэралам Кандратовічам, хаця даў прапускі дэлегатам Рады Рэспублікі выехаць загранiцу, каб пратэставаць там проці бальшавіцкае навалы.

Адозву да дэмакратыяў усяго сьвету ў гэтым сэнсе Рада Рэспублікі прыняла аднагалосна, ня вылучаючы й эсэраў.

Проці навалы бальшавікоў на Менск зрабіць нічога нельга было. Чырвоная армія, як саранча, паўзла на ўсе

заснавальнікамі і ідэолагамі былі беларускія каталіцкія ксяндзы. З 1926 да 1936 г. існавала пад назвай Беларуская хрысціянская дэмакратыя, пазней рэарганізавалася ў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне.

[190] **Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя** («кадэты») — буйная цэнтрысцкая партыя ў Расіі ў пачатку XX ст.

[191] Так у тэксце — ***А. Г.***

парожнія пасьля немцаў месцы, якія, адходзячы, трымаліся ўсё-ж такі строгіх ваенных плянаў.

Радзе Міністраў нічога не заставалася, як выехаць за межы бальшавіцкага дасяганьня. На бліжэйшыя часы пастаноўлена было пераехаць у Вільню[192].

Выяжджаючы, Рада Народных Міністраў выпусьціла гэткую абвестку.

«*Ад Рады Народных Міністраў*

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымаўшая свае поўнамоцтвы ад Беларускага Народу на Ўсебеларускім З'езьдзі, у граматах з 9 і 25 марца 1918 году апавесьціла, што ўся ўласьць на Беларускай зямлі пераходзіць у рукі народу. Зямля, лясы і прыроднае багацьце краю былі аб'яўлены народным меньнем.*

*У сьлед за гэтым Рада прыступіла да будавання незалежнай Беларускай Дзяржавы на асновах, устаноўленых Устаўной Граматай з 25 марца гг.*

*Нямецкая окупацыя прыпыніла гэту работу і зрабіла немагчымай перадачу ўласьці ў рукі Народу і разьвязку зямельнага пытаньня на справядлівых асновах.*

*Цяпер, калі Народ Нямецкі завёў новы лад на сваёй зямлі і окупацыйныя войскі пакідаюць наш край, — настаў мамэнт, каб Народ Беларускі, соткі гадоў пакутаваўшы ў чужацкай няволі, стаўся поўным гаспадаром на сваёй вольнай і незалежнай зямлі.*

*Беларускі ўрад, зложаны з прадстаўнікоў усіх беларускіх соцыялістычных партый і ўпаўнамочаны Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, кліча Народ Беларускі выкарыстаць гэты асаблівы мамэнт — мамэнт зьніштажэньня старога ладу вольнымі народамі.*

*Няхай усе грамадзяне Беларусі гуртуюцца навакол Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускага Ўраду і твораць на ўсёй Беларусі свае валасныя, павятовыя і мястовыя Беларускія Рады, каб арганізованы народ запраўды мог узяць у свае рукі ўласьць у сваёй старонцы.*

*Цьвёрда стоячы на грунце здабыткаў рэвалюцыі, Беларускі Ўрад усімі сіламі будзе паддзержываць на нашай зямлі лад, кіруючыся да таго, каб згодна з законамі, выдаванымі правадаўчымі ўстановамі Беларускай Народнай Рэспублікі, глаўнае багацьце народу — лясныя абшары — перайшлі на ўласнасьць краю, каб тыя, хто сваей працай на ральлі корміць увесь край, былі справядліва надзелены зямлёй, каб узмацавалася наша незалежная Беларуская Рэспубліка і каб чужыя нам людзі ізноў не запанавалі над намі.*

*Беларускі Ўрад будзе рупіцца перш за ўсё аб тое, каб чым хутчэй сабраўся Ўстаноўчы Сойм Беларусі і каб чым хутчэй наш народ сам завёў на сваёй зямлі праўдзівую волю для ўсіх яе грамадзян.*

*Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Менск, 29 лістапада 1918 г.*».

Паход бальшавікоў сьледам за немцамі на Захад змусіў Заходнюю Эўропу крыху стрывожыцца, але там было вельмі шмат справаў па ліквідацыі ўсясьветнае імпэрыялістычнае вайны й наагул мала каго мог цікавіць лёс няшчаснае Беларусі, якую зьмянялі адна за аднэю розныя акупацыі.

Апрача дэлегацыяў у рэвалюцыйны Бэрлін і Бэрн высланы былі Радаю Рэспублікі дэлегацыі ў Польшчу (Варшава) й да Літоўскае Тарыбы (Вільня). Але ведама, што бліжэйшыя, паўстаўшыя да сувэрэннага жыцьця, суседзі Беларусі мелі аж надта досіць сваіх уласных справаў, пасьпешна фармуючыся ў дзяржаўныя арганізмы.

Бэрлін кіпеў рэвалюцыяй, дый дарэвалюцыйны ён адказваў на ноты Сакратарыяту Варонкі, што Нямеччына ня можа падтрымваць ідэі беларускай дзяржаўнасьці, бо ня мае права ўмешвацца *«ў ва ўнутраныя расейскія справы»* і гэтым нарушаць берасьцейскі дагавор.

[192] Рада міністраў БНР пераехала ў Вільню 3 снежня 1918 г. — ***А. Г.***

Бэрн, як відаць, рыхтаваўся да Вэрсальскай канфэрэнцыі[193], і Беларусь была на волі свайго ўласнага гаротнага лёсу.

Рада Рэспублікі вынесла пастанову аб пярэрве свае сэсіі, і паадзінокія сябры яе, хто эміграваў, а хто застаўся на месцы ў Менску, зышлі з палітычнае арэны пад акупацыяй бальшавікоў.

Рада Народных Міністраў не пакідала працы. З Вільні, пры яе захваце бальшавікамі, Урад Беларускі пераехаў у Горадзен[194], адкуль пасьля перанёс сваю рэзыдэнцыю ў сталіцу гасьціннай Чэхаславакіі Прагу[195].

Рада Рэспублікі выдала гэткі, апошні перад бальшавіцкай акупацыяй акт, які зьместам сваім хутчэй падобны да адозвы, чымся да свае назвы.

«*Г Р А М А Т А*
*Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

*Народзе Беларускі і ўсе народы Беларускай зямлі!*

*Слухай голасу тваіх прадстаўнікоў, што працуюць тваім імянем і дзеля твайго шчасьця.*

*Шмат сотняў гадоў панавалі на Беларусі чужынцы, а працоўны народ наш гібеў у зьдзеку, няволі і цемнаце. Безканечныя войны палівалі нашую старонку рэкамі крыві, а звадкі між народамі і верамі ў самой Беларусі атручвалі дух народны, зьнішчалі ўсе здабыткі культуры і не давалі тварыцца новым. Аж зразумелі ўрэшце лепшыя сыны Беларусі, што прычына ўсіх няшчасьцяў — гэта палітычны заняпад Народу Беларускага, яго няволя і пакора, і прагалосілі яны на ўсю Беларусь, што павінен устаць Беларускі Народ, скінуць путы няволі і з парабка гаспадаром зрабіцца на сваёй зямлі.*

*Разышоўся голас гэты па Беларусі, і абудзіўся Народ. І на вялікі ўсенародны сход, які адбыўся ў сьнежні месяцы 1917 г. у Менску і называецца Ўсебеларускім Зьездам, прыслаў Народ Беларускі каля дзьвёх тысяч чалавек сваіх лепшых прадстаўнікоў з усіх частак, усіх валасьцей, усіх закуткаў Беларускай Зямлі. Не збаяўшыся цёмных сілаў, што тады панавалі на Беларусі, перад наведзенымі кулямётамі і навіслымі штыкамі сказаў Зьезд волю Народу Беларускаго аб яго будучыне. Народ Беларускі выракаецца сваіх няпрошаных апякуноў. Ён устанаўляе на сваёй зямлі Дэмакратычную Рэспубліку і хоча прамаўляць на сусьветным міравым конгрэсе вуснамі сваіх уласных прадстаўнікоў. Ён творыць войско для абароны свайго права і даручае ўладу ў Беларусі выбранай на Зьезьдзе Радзе і яе Спаўняючаму Камітэту.*

*Паны камісары разагналі Ўсебеларускі Зьезд і шукалі спосабу зьнішчыць Раду Зьезду. Ды не ўдалося гэта ім. Пасьля іхняго ўцёку з Менску ўлада перайшла да Спаўняючаго Камітэту Рады Зьезду, і той стварыў тады першае Міністэрство Беларускае — Народны Сэкрэтарыят, а так сама пачаў тварыць беларускае Народнае войско.*

*Пасьля вякоў няволі ізноў запанаваў на сваёй зямлі Беларускі Народ. Але нядоўгае было гэтае панаваньне. Цераз тры дні прыйшлі ў Менск войскі нямецкага імпэратара. Яны гвалтам адабралі ад Народнаго Сэкрэтарыяту ўладу і спынілі яго работу. Патаемна мусіў пасьля таго зьбірацца Беларускі Ўрад, хаваючыся ад нямецкіх жандараў, але ні на мінуту не забываўся ён аб вялікіх абавязках, на яго Народам узложаных. 9 сакавіка 1918 г. Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду выдаў Устаўную Грамату, якая тлумачыла тыя правы працоўнаго народу, што выдаў Усебеларускі Зьезд. А 25 сакавіка ён, злучыўшыся з прадстаўнікамі земстваў*

---

[193] **Версальская мірная канферэнцыя** праходзіла ў Парыжы з 18 студзеня 1919 г. па 21 студзеня 1920 г. На ёй вырашаліся пытанні пасляваеннага ўладкавання свету.

[194] Пераезд адбыўся 27 снежня 1918 г. — ***А. Г.***

[195] Аўтар памылкова ўказвае месца размяшчэння Урада БНР. Спачатку ён выехаў у Берлін (сакавік 1919 г.), затым вярнуўся ў Менск (снежань 1919 г.), пасля пераехаў у Рыгу, Коўна. У Прагу Урад БНР выехаў значна пазней — у лістападзе 1923 г. — ***А. Г.***

*і гарадоў і ўтварыўшы разам Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, абвесьціў Беларусь незалежнай і вольнай Дзяржаваю, каб не дазволіць далей чужынцом камандаваць Беларускім Народам, разрываць яго на часткі ды гандляваць Беларусьсю на сусьветным рынку. Так былі скінуты з Беларускага Народу апошнія путы няволі, якія ціснулі яго праз вякі.*

*Ішоў час, але не зьмяншаўся ўціск нямецкага імпэратарскага ўраду. З усяго краю надыходзілі да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі скаргі і протэсты проці гэтаго ўціску, а Рада нічога не магла зрабіць, бо яшчэ не пасьпеў сабраць Беларускі Народ сілы свае і моцным плячом падперці сваю Раду. Ня маючы сілы, Рада Рэспублікі надзеялася хоць сваёю пакораю зьмягчыць цяжкае палажэньне Беларусі. Яна некалькі разоў зьвярталася да нямецкага ўраду, просячы, каб той прызнаў Беларускі Народ вольным і незалежным і даў яму можнасьць самому ўпраўляць сваею зямлёю. Нямецкі ўрад кожны раз адказываў адмоўна.*

*Тым часам у Нямеччыне сталася рэвалюцыя, і нямецкае войско ня хоча больш аставацца ў нашай зямлі, з якой гэтак несправядліва зрабіў яго даўнейшы імпэратарскі ўрад. Беларусь ізноў астаецца вольнаю, і яе ўрад мае абвесьціць выбары да Беларускаго Ўстаноўчага Сойму, які сваім голасам умацуе правы народу і ўстановіць дзяржаўны лад Беларусі. Але хоць шмат зьмяніла рэвалюцыя, ды не зьмяніла яна нешчасьлівай долі Беларускай. Ня хочуць панаехаўшыя ў наш край чужынцы выпускаць са сваіх рук лейцаў, у якіх трымалі дагэтуль Беларускі Народ. У Менску, у Кіеві разам з нашымі адступнікамі яны твораць фальшывыя ўрады і крычаць аб сваім праве на панаваньне над Беларускім Народам, аб тым, што Беларусь ніяк ня можа быць вольнай, а павінна, канешне, ісьці зноў у ярмо. Пры гэтым яны не шкадуюць выдумак, каб ачарніць Раду Рэспублікі і словамі сваімі апаганіць яе працу. Уся мэта гэтых людзей — пасварыць беларусаў між сабою, а пасьля, абязсіліўшы іх, аддаць у даўнейшую няволю, пад панаваньне новаго цара і яго чыноўнікаў.*

*Рада Рэспублікі, аднак, верыць у сьветлы і здаровы розум Народу Беларускаго і ўсіх дэмократычных народаў Беларусі, якія не дадуць сябе ашукаць хітрым ворагам Рэспублікі. Яна вядзе далей сваю працу, а для спаўненьня сваіх загадаў яна ўстанавіла новы склад Рады беларускіх Народных Міністраў, які павінен вывесьці Беларусь на сьветлы лепшы шлях, абараніць праўдзівую яе незалежнасьць і даць працоўнаму малазямельнаму народу зямлю, а работнікам дагаднейшыя варункі працы і склікаць Устаноўчы Сойм Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Перад сьвітаньнем новаго дня, які суліць нашай Бацькаўшчыне культурны росквіт і дзяржаўную незалежнасьць, павінны абудзіцца ўсе жывыя дэмократычныя сілы Беларусі. Усе, хто хоча бачыць сваю многапакутную Бацькаўшчыну — Беларусь вольнай, багатай і шчасьлівай, усе, хто хоча, каб працоўны Народ Беларусі ня знаў больш зьдзеку над сабою і няволі, няхай усюды злучаюць свае сілы, ствараючы на мясцох Беларускія Радыі зьвязуючы іх з Радаю Рэспублікі. Толькі ім, гэтым арганізацыям працоўнаго Народу Беларусі, належыць цяпер, да сазыву Ўстаноўчага Сойму, улада на мясцох, а ня Земству, ня чыноўнікам, ня ўсякім самазванцам і чужынцам. Толькі на іх павінен апірацца Беларускі Народны Ўрад у сваёй чыннасьці. Сам Народ, абуджаны рэвалюцыяй, няхай бароніць сваю волю і незалежнасьць, права на сваю родную зямлю і месцо на сьвеці сярод усіх народаў.*

*Чувайце, грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі! Надыходзе гадзіна апошняго суду над народамі. Няхай-жа не пагасьне ў сэрцах вашых жывы агонь замілаваньня да волі і агульна-грамадзкага шчасьця.*

*Няхай жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!*

*Няхай жыве працоўны Народ Беларусі і солідарнасьць вольных народаў!*

*Няхай растуць Беларускія сялянскія і работніцкія Рады па ўсёй Беларусі!*

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.*
*28.XI.1918. м. Менск*».

Гэту Грамату, дэкларацыю «Ад Рады Народных Міністраў» і маленечкую абвестку аб тым, што Ўрад Беларускі пераехаў у Вільню, доўга відаць было па рагох некаторых менскіх вуліц навет і пасьля прыходу бальшавікоў.

9-га сьнежня 1918 году, калі яшчэ апошнія нямецкія вайсковыя аддзелы ня ўскуралі пакінуць Менску, занялі яго бальшавікі.

У Менск вярнуліся амаль ня ўсе камісары «*Заходняй абласьці*». Начальнікам гарнізону быў назначаны той самы Крывашэін, што разганяў Усебеларускі Зьезд, з перадавымі аддзеламі чырвонай арміі ішоў на Менск камісар Бэрсон, вярнуліся Калмановіч[196] і Розэнталь[197]. Ландэр даўно ўжо сядзеў у Маскве, як расейскі камісар дзяржаўнага кантролю, і яго ролю палітычнага верхавода ў Менску фактычна замяняў цяпер другі бальшавік — латыш Кнорын[198].

Усе гэтыя камісары «*Заходняй абласьці*» ўвесь час нямецкай акупацыі сядзелі ў Смаленску пад назваю «*Облискомзап*» (па-расейску «*Западный Областной Исполнительный Комитет*»). Гэты «*Облискомзап*», перасяліўшыся ў Менск, адразу абвясьціў «*правительство белорусских помещиков Белорусскую Раду распущенной и низложенной*», як гаварылася ў першым бальшавіцкім прыказе ў Менску. Усе сябры Беларускага Ўраду падлягалі, згодна з гэтым прыказам, арышту й перадачы ў рукі савецкіх уладаў.

Аднак зусім рассупоніцца ў сваёй палітыцы смаленскія камісары не змаглі, бо пашкодзілі ім бальшавікі-беларусы, што гуртаваліся ў Маскве вакол Камісарыяту Беларускіх Справаў і расейска-беларускай часопісі «Дзяньніца». Рэдактар гэтай часопісі Жылуновіч[199] (паэт Цішка Гартны) дабіўся таго, што ў Маскве яго багаславілі абвясьціць незалежную Беларускую Савецкую Рэспубліку ў Менску з Часовым Рабоча-Сялянскім Урадам на чале. Старшынёю гэтага ўраду стаў Жылуновіч, загадчыкам справаў, і ведама, што «душою» ўсяго быў Кнорын. Камісарам загранічных справаў быў назначаны дробны менскі чыноўнік Фальскі, камісарам нацыянальных справаў — Фабіян Шантыр, беларускі пісьменьнік. Абодва вядомыя ўжо па Ўсебеларускім Зьезьдзе.

Часовы бальшавіцкі ўрад Савецкай Беларусі выдаў 1-га студня 1919 году маніфэст, у якім, паміж іншым, пісалася да народаў Беларусі: «*Ад сягоньняшняга дня і Вы разам з працоўным людам Расіі, Літвы, Украіны і Лацьвіі становіцеся вольнымі гаспадарамі Вольнай, Незалежнай*

---

[196] **Маісей Калмановіч** (рус. *Моисей Калманович*, 1888–1937), рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны дзеяч. У кастрычніку 1917 г. быў начальнікам Менскага гарнізона. У снежні 1918 — сакавіку 1919 гг. — намеснік старшыні Прэзідыуму ЦК КПБ(б) Беларусі.

[197] Відаць, маецца на ўвазе **Карл Разенталь** (рус. *Карл Розенталь*, 1890–1983), рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны дзеяч. Ад снежня 1918 г. — камісар пошты і тэлеграфаў Заходняй вобласці.

[198] **Вільгельм Кнорын** (лат. *Vilhelms (Vilis) Knoriņš*, 1890–1938), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, літаратурны крытык, журналіст. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ўдзельнічаў у арганізацыі Менскага савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў, быў яго сакратаром. У 1917–1918 гг. рэдагаваў газеты «*Звезда*», «*Известия Смоленского Совета депутатов*», «*Западная коммуна*». Сакратар ЦБ КП(б)Б і кіраўнік справамі Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўраду Беларусі ад снежня 1918 г. У лютым — жніўні 1919 г. член Савета абароны і сакратар ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, пасля да чэрвеня 1920 г. — акругові ваенкам Смаленскай ваеннай акругі. У 1920–1922 гг. — сакратар ЦБ КП(б)Б, член прэзідыума ЦВК БССР.

[199] **Зміцер Жылуновіч** (псеўд. *Цішка Гартны*, 1887–1937), празаік, паэт, грамадскі дзеяч. З лютага да снежня 1918 г. сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята. Рэдактар беларускай бальшавіцкай газеты «Дзянніца», якая ў 1918–1919 гг. выдавалася ў Маскве. Пазней быў кіраўніком Часовага ўрада першай БССР (1919).

*Беларускай Рэспублікі, карыстаючымі поўнасьцю з сваіх правоў…»*

Дзеля таго, што незалежнасьць спаміналася толькі ў адным гэтым месцы маніфэсту, прыходзіцца думаць, што бальшавікі лічыліся з фактам ужо агалошанай 25 сакавіка 1918 г. незалежнасьці Беларусі.

Рабоча-Сялянскі Ўрад Жылуновіча абвясьціў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі без абароны законаў, паказаўшы гэтым сваю сапраўды дзіцячую палітычную недалёкасьць.

Хаця-ж само слова «Рада» выклікала пену на вуснах кожнага маскоўца-бальшавіка, марыўшага насадзіць слова *«Совет»* на ўсім сьвеце, і Жылуновічу з яго кампанамі трэ' было з гэтым лічыцца. Бэрсон на першым мітынгу ў самы дзень заняцьця бальшавіцкай арміяй Менску іначай не гаварыў да натоўпу, як разьюшваючы яго крыкам: *«Сьмерць тарыбам і радам»*…

Рэзультатам, аднак, абвешчаньня Рады Рэспублікі без абароны законаў было тое, што ўся яе дэмакратычная і сацыялістычная большасьць амаль што спакойна сядзела ў Менску, а гэткія сябры яе, як Серада, Міхайлоўскі і народны міністар прасьветы ў кабінэце выехаўшага ў Вільню Луцкевіча — Вацлаў Іваноўскі[200], займалі навет немалыя пасады на савецкай службе.

Трэба сказаць праўду, што бальшавікі нікога зь беларусаў, як такіх, не прасьледавалі, хаця ўрад Жылуновіча пратрымаўся вельмі нядоўга. (Голас з месца: *«А арышты беларускіх эсэраў?»*). Былі, праўда, арыштаваны Мамонька, Іваноўскі і Трэпка[201], але першы зь іх — за тое, што выступаў проці савецкае ўлады, як левы (трэба разумець расейскі) эсэр, а два апошнія, як… палякі. Родны брат Іваноўскага — Юры[202] быў тады ў Варшаве польскім міністрам, а родны бацька Трэпкі зьбіраў для вывазу ў Польшчу беларускія старадаўнія рэчы, будучы старшынёю нейкае польскае арганізацыі. Былі яшчэ арыштаваны ня больш як на суткі Палуся Бадунова зь сястрою і Янка Серада.

Беларускія эсэры яшчэ пры выезьдзе Рады Народных Міністраў зь Менску рашылі заставацца на месцы. Адзін зь іх лідэраў дайшоў да гэткага глупства, што пашоў на Пляц Волі прамаўляць з трыбуны Бэрсона, дзе пачуў крыкі: *«Вон, гэты пан з Беларускай Рады»*, а нейкі чырвонаармеец, наставіўшы штых, проста заявіў: «*Слезай, а не то — сниму*». Прамова эсэраўскага лідэра аб тым, што ў Радзе ён быў толькі таму, каб карыстацца ёю як трыбунаю і наагул ведаць, што ў ёй робіцца, была гэткім чынам перарвана.

Беларуская незалежнасыдь пад бальшавікамі была толькі фікцыяй, усё рабілася на маскоўскі капыл, а народныя камісары недаўгавечнага ўраду Жылуновіча былі толькі сьмешнымі манэкэнамі. Пасьля Жылуновіча справамі пачаў варочаць ужо вядомы нам ад часу Усебеларускага Зьезду Мясьнікоў.

Заняўшы Вільню, бальшавікі абвясьцілі ў ёй Савецкую Літву на чале з рабоча-сялянскім урадам Міцкевіча-Капсукаса[203]. Беларусь злучалася бальшавікамі зь Літвою

[200] **Вацлаў Іваноўскі** (1880–1943), палітычны і грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, стваральнік і кіраўнік выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу. У 1918 г. быў міністрам асветы ва ўрадзе БНР А. Луцкевіча. У 1920 г. як упаўнаважаны Найвышэйшай Рады БНР удзельнічаў у беларуска-польскіх перамовах, імкнуўся перадухіліць падзел Беларусі, выступаў за стварэнне федэрацыі Польшчы і Беларусі. Пасля Рыжскага міру жыў у Польшчы, займаўся выкладчыцкай дзейнасцю ў Варшаўскім політэхнічным інстытуце.

[201] **Антон Неканда-Трэпка** (1877–1942), грамадскі дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, працаваў у складзе выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». З лета 1920 г. у Вільні, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, у 1922–1923 і 1928–1930 гг. яе дырэктар. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Таварыства беларускай школы.

[202] **Юры (Ежы) Іваноўскі** (пол. *Jerzy Iwanowski*, 1876–1965), польскі палітык і грамадскі дзеяч, брат Вацлава Іваноўскага.

[203] **Вінцас Міцкявічус-Капсукас** (1880–1935), літоўскі нацыянальны дзеяч, сацыял-дэмакрат. Кіраўнік Часовага рэвалюцыйнага

пад назваю «*Литбел*», усходнія часьці Беларусі прылучаліся да Маскоўшчыны, а тымчасам з захаду выступала проці бальшавікоў Польшча.

Раззброіўшы немцаў, палякі пачалі шпарка арганізоўваць армію пад камандай Язэпа Пілсудзкага.

У палове красавіка месяца, якраз на Вялікдзень, палякі спрытна раптам захапілі Вільню, выгнаўшы адтуль камісараў «*Литбелу*». Бэрсон быў захоплены палякамі ў палон і расстрэлены, рэшта камісараў на чале з Міцкевічам-Капсукасам у перапудзе ўцякла ў Менск. Вайна бальшавікоў з Польшчаю пачалася. Палякі, хаця й марудна, пакрысе пасоўваліся на ўсход, а ў самае лета гукі гарматніх стрэлаў сталі далятаць і да самога Менску. Бальшавікі ўтварылі Раду Абароны з трох чалавек, якая мела ў Менску ўсю ўладу.

Пазволім сабе прыпомніць, што, пераехаўшы ў Вільню, Старшыня першага Народнага Сакратарыяту Язэп Варонка ўвайшоў ад Віленскай Беларускай Рады ў склад арганізованага Літоўскай Тарыбаю кабінэту Вальдэмараса[204], як літоўскі міністар беларускіх справаў. Літоўскі ўрад не назначыў ніводнага ліцьвіна камісарам у беларускія паветы, а ўсюды паназначаў на гэтыя пасады тых кандыдатаў-беларусаў, якіх падавала Віленская Беларуская Рада й Міністэрства Беларускіх Справаў[205].

Адносіны беларусаў зь літоўцамі нарыхтоўваліся як найлепей, не пашкодзілі гэтаму й незалежныя ад абедзьвюх старон падзеі польска-бальшавіцкай вайны.

рабоча-сялянскага ўраду Літвы, старшыня СНК Літоўскай ССР, у 1919 г. — старшыня СНК ЛітБел ССР, старшыня Прэзідыуму ЦК КП(б) Літвы і Беларусі.

[204] **Аўгусцінас Вальдэмарас** (літ. *Augustinas Voldemaras*, 1883–1942), літоўскі навуковы і палітычны дзеяч, першы прэм'ер-міністр Літоўскай Рэспублікі ў 1918 і ў 1926–1929 гг.

[205] Сярод павятовых камісараў быў і Макар Краўцоў — ***А. Г.***



* * *

Заняўшы Вільню, Пілсудзкі 23 красавіка 1919 г. выпусьціў вядомую адозву «Да жыхароў быўш[ага] Княства Літоўскага». Шляхоцкі лёзунг гэтае адозвы «*вольны з вольным, роўны з роўным*» застаўся дасюль бяз жыцьця.

А грукат гарматаў пад Менскам рабіўся ўсё чутнейшым. Палякі ўжо дайшлі аж да Семкава-Гарадку, што ў 14 вёрстах ад Менску. Чутно было ўжо й грукат кулямётных стрэлаў. Аднак на першы раз Семкава-Гарадок быў палякамі пакінены, яны адыйшлі назад, каб з новаю рашучай сілаю навaліцца на Менск.

8-га жніўня 1919 году, пасьля моцных начных баёў пад Менскам, ён быў з боем заняты палякамі каля 12-й гадзіны ўдзень. Настрой беларускага грамадзянства да палякоў быў як найлепшы. На іх глядзелі як на асвабадзіцеляў і шчыра спадзяваліся ад іх прызнаньня за Беларускім Народам усіх, належных да яго, правоў. Хадзілі розныя навет чуткі, быццам у ліку польскага войска на Менск ідуць і беларускія аддзелы. За гэтыя апошнія мусіць лічылася Літоўска-Беларуская Дывізія. Напраўду ніякіх беларускіх аддзелаў з палякамі не было, а перадавымі аддзеламі, гнаўшымі бальшавікоў, былі пазнанцы.

Чуткі аб беларускім войску мелі пад сабою як грунт толькі тое, што існавала ў Вільні беларуская вайсковая арганізацыя, якая давяла справу да ўтварэньня Беларускае Вайсковае Камісіі толькі ў кастрычніку 1919 году, калі йзноў, як-бы аднаўляючы сваю сэсію, пачала зьбірацца Рада Рэспублікі. Ні адна група Рады проці тварэньня беларускага войска нічога ня мела, раздаваліся толькі галасы за тое, каб дабіцца згоды польскага камандаваньня на варунак невыступаньня беларускага войска проці арміяў суседніх народаў, апрача, разумеецца, маскоўцаў, для вызваленьня ад якіх і ўтваралася, паводле думкі беларусаў, наша нацыянальнае войска.

Трэба заўважыць, што палякі ваявалі тады з украінцамі за Усходнюю Галіцыю, няяснымі былі адносіны літоўска-польскія й польска-лацьвійскія.

Ясна, што Рада Рэспублікі разглядала палякаў як акупантаў, хаця акупацыю іх лічыла больш спагаднаю за іншыя, быўшыя дасюль.

У часе пабыту начальніка Польшчы Я[зэпа] Пілсудзкага ў Менску[206], у дэлегацыю да яго згадзіліся ўвайсьці навет і беларускія сацыялістыя-рэвалюцыянэры (эсэры). Дэлегацыя паднімала нават гэткія пытаньні, як права незачэпнасьці сяброў Рады Рэспублікі і іншае, і на ўсё атрымала як-бы задавальняючы адказ.

Ужо назаўтра, па заняцьці Менску, камандзер Літоўска-Беларускага фронту генэрал Шэптыцкі[207] выдаў адозву да грамадзян места Менску, якая была надрукована па-польску й… па-беларуску. Гэткім чынам пісаліся ўсе ўрадовыя абвешчаньні; расейцы й мова іх у краі якбы й не прызнаваліся, хаця ня ўсюды й не заўсёды роўна.

На сходзе ў Беларускім Настаўніцкім Інстытуце прадстаўнікі беларускага грамадзянства незабаўна ўтварылі Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт, які пастанавіў лічыць сябе выняткова грамадзкай арганізацыяй, пакідаючы пытаньні палітычныя Радзе Рэспублікі і Радзе Народных Міністраў.

Часовы Нацыянальны Камітэт па прапазыцыі палякаў ахвотна дэлегаваў сваіх прадстаўнікоў у назначаны часова Магістрат, Сьледчую Камісію па рэвізіі арыштаваных, якіх вастрог ня мог нават зьмясьціць, і ў іншыя грамадзкія дробныя інстытуцыі.

Эмісары Час[овага] Нацыянальнага Камітэту выяжджалі часам і на правінцыю пры арганізацыі павятовых магістратаў.

[206] Ю. Пілсудзкі прыехаў у Менск 18 верасня 1919 г. — ***А. Г.***

[207] **Станіслаў Шаптыцкі** (пол. *Stanisław Maria Jan Szeptycki,* 1867–1950), польскі вайсковы дзеяч. У сакавіку 1919 г. узначаліў Літоўска-Беларускую дывізію, у красавіку 1919 г. стаў камандуючым Літоўска-Беларускага фронту.



Мне асабіста давялося быць пры назначаньні Бабруйскага магістрату.

Цікава спомніць гэтае здарэньне, каб ілюстраваць ім тую няпэўную лінію польскай палітыкі, якая ў Беларусі рабілася.

Усім вядома, што ніякага афіцыяльнага прызнаньня Беларусі з боку Польшчы не было. Кіраваў акупаванымі землямі *«Cywilny Zarzad Ziem Wschodnich»*[208], на чале якога назначаны быў стаяць п[ан] Юры Асмалоўскі[209], меўшы ў Менску сваім намесьнікам п[ана] Уладыслава Рачкевіча[210], які пасьля афіцыяльна зваўся начальнікам Менскага вокругу.

У Бабруйск я выехаў з двума намесьнікамі Рачкевіча — Піотроўскім і другім, даволі маладым чалавекам, прозьвішча якога ня помню.

Калі ў Бабруйску мясцовая дэлегацыя вітала Піотроўскага як прадстаўніка вольнае Польшчы, дык на прамову па-беларуску сьвяшчэньніка Давідовіча, які выказаў надзею, што Польшча, стаўшы вольнаю, не пакрыўдзіць многапакутнага Беларускага Народу, пан Піотроўскі скончыў сваю прамову (па-польску) вельмі многазначнымі словамі, што вольнымі вы ў Польшчы былі, вольнымі і будзеце.

Другі намесьнік начальніка вокругу гаварыў з бацюшкай па-беларуску і з моцнымі жэстамі можа й зусім

[208] Цывільны ўрад усходніх зямель — ***А. Г.***

**Грамадзянскае ўпраўленне ўсходніх зямель** (пол. *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich*) — польская цывільная адміністрацыя на землях Літвы, Беларусі і Валыні, не ўключаных у склад Польшчы, занятых польскім войскам у 1919–1920 гг.

[209] **Ежы Асмалоўскі** (пол. *Jerzy Osmołowski*, 1872–1954), польскі палітычны дзеяч. У 1919–1920 гг. генеральны камісар Грамадзянскага ўпраўлення ўсходніх зямель.

[210] **Уладзіслаў Рачкевіч** (пол. *Władysław Raczkiewicz,* 1885–1947), польскі дзяржаўны дзеяч. Быў паручнікам у Літоўска-Беларускай дывізіі, у 1919 г. — наменікам генеральнага камісара Грамадзянскага ўпраўлення ўсходніх зямель. Пазней быў прэзідэнтам Польшчы (1939–1947).

шчыра цьвярдзіў, што хаця расейцы (быўшае чынавенства) у Бабруйску й гуртуюцца, але ў магістрат яны дапушчаны ня будуць, бо ніякай Расеі тут няма й ніякія расейцы пад увагу ўладаю не бяруцца.

Быў ужо намечаны склад магістрату, у які ўвайшлі палякі, жыды і беларусы.

Аднак, якое было маё зьдзіўленьне ўсяго толькі назаўтра, калі я быў пакліканы з бабруйчанінам-беларусам Усьпенскім[211] да мясцовага бабруйскага шляхціча Фастовіча-Загорскага[212], які й заявіў нам, што ўчарайшае рашэньне аб магістраце нічога ня значыць, бо ён, Фастовіч-Загорскі, вярнуўся ўжо амаль не з Варшавы і прывёз па гэтай справе, як ён сам сказаў, поўны «картблянш». Лішне будзе спамінаць, што пры гэтым п[ан] Ф[астовіч]-Загорскі даводзіў нам доўга аб праве… расейцаў на ўдзел у магістраце, бо *«Скольмкі-ж вы налічваеце ў Бабруйску беларусаў?»* — цынічна спытаўся Ўсьпенскага п[ан] Фастовіч-Загорскі.


✦ *Антон Луцкевіч*

Моцную крыўду зрабілі палякі Беларусі, не прызнаючы яе, але аб шкодзе гэтага для іхжа ўласных інтарэсаў хай падумаюць яны самі.

[211] Магчыма, маецца на ўвазе **М. В. Успенскі** (?—?), які ў 1918 г. быў старшынёй Бабруйскай павятовай беларускай рады (гл.: Архівы БНР. Т. 1. Кн. 1. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага, 1998. С. 170.

[212] Магчыма, маецца на ўвазе **Аўген Фастовіч-Загорскі** (пол. *Eugeniusz Fostowicz-Zahorski,* 1881–1947), польскі шахматыст, праўнік. Нейкі *E. Fostowicz-Zahorski* згадваецца як інструктар Стражы крэсовай у Бабруйскім павеце (Гл.: O niepodległą i granice. Raporty Straży Kresowej 1919–1920. Ziem Północno-Wshodnich opisanie / Wstęp, wybór i opracowanie J. Gierowska-Kałłaur. Warszawa—Pułtusk, 2011).



Рэч зусім зразумелая, што, выбраўшы сваёю часоваю рэзыдэнцыяю сталіцу Чэхаславацкай Рэспублікі Прагу, Рада Народных Міністраў Б. Н. Р. не магла на эміграцыі заняцца іншаю, як дыплёматычная, працаю. Старшыня міністраў Луцкевіч быў выкліканы французамі ў Парыж і падаў мэмарыял аб Беларусі на міравую канфэрэнцыю, рэшта сяброў Рады Міністраў прабывала ў іншых зах[одне]-эўрапэйскіх сталіцах, арганізуючы там прадстаўніцтвы Беларусі. Старшыня Рады Рэспублікі Лёсік заставаўся ў Менску і пры бальшавіках. Да Менску, па забраньні яго палякамі, даходзілі толькі няясныя чуткі аб працы Рады Міністраў загранiцаю, і Рада Рэспублікі зьбіраццa не сьпяшалася, ня маючы пэўных вестак аб працы ўраду. Першым з народных міністраў вярнуўся ў Менск Смоліч, ад якога й былі адтрыманы інфармацыі пра ўрадовую працу. Патрэба скліканьня Рады была відочнаю, бо палякі трымаліся як сапраўдныя акупанты. Вядомы ўжо нам бабруйскі шляхціч Фастовіч-Загорскі быў назначаны палітычным інспэктарам Менскага вокругу, а ўласная яго жонка служыла ў тэй інстытуцыі, дзе падаваліся на цэнзураваньне тэатральныя п’есы перад іх пастаноўкаю. Гэткая нявінная камэдыя Янкі Купалы, як «Паўлінка», ня была пазволена да пастаноўкі, і ставіўся аўтору варунак зьмяніць у ёй некаторыя месцы. Быў, здаецца, забаронены і «Модны шляхцюк» Каганца[213]. Гамавалася п[анам] Фастовічам-Загорскім і агітацыя за паступаньне беларускае моладзі ў сваё беларускае войска, аб чым быў даны сакрэтны цыркуляр. Нягледзячы на папярэднюю цэнзуру, рэдакцыя штодзённае газэты «Беларусь» разоў два была равідована[214] жандарамі, а рэдактар і некаторыя супрацоўнікі цягнуліся пад суд. Польскія нацыяналістычныя арганізацыі, як напрыклад «Страж Крэсова»[215], тымчасам

[213] **Карусь Каганец** (сапр. **Казімір Кастравіцкі**, 1868–1918), пісьменнік.

[214] Абшуканая — ***А. Г.***

[215] ***Straż Kresowa (Towarzystwo Straży Kresowej)*** — польская арганізацыя, якая дзейнічала ў 1918–1927 гг., падтрымоўвала

адкрыта вялі сваю прапаганду прылучэньня да Польшчы (*«wcielenia do Macierzy»*). Паўстаньні, якія іншы раз праяўляліся ў правінцыі, караліся з усёю жорсткасьцю ваеннага часу.

Нарэшце-такі Рада Рэспублікі сабралася ў 10 чыслах лістапада 1921 г.[216] на першае пры польскай окупацыі пасяджэньне, якое амаль ня скончылася поўным скандалам, бо зусім не падгатаваўшыся Прэзыдыум Рады запрапанаваў паслаць Начальніку Польскай Рэспублікі Пілсудзкаму прывітальную тэлеграму, проці чаго рашуча выступіла фракцыя эсэраў, агаласіўшы з трыбуны рэвалюцыйную дэкларацыю.

Трэба адзначыць, што ў Вільні палякамі быў пазволены беларускі Зьезд зь Віленшчыны і Горадзеншчыны, на якім была выбрана Рада, падтрымаўшая цалкам Раду Рэспублікі і пастанавіўшая цалком увайсьці ў яе склад. Віленскі Зьезд адбыўся шмат раней да забраньня палякамі Менску[217]. Прапускі, безь якіх нельга было праехаць зь Вільні ў Менск, даваліся палякамі далёка ня ўсім сябром Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны, што моцна нэрвавала беларускае грамадзянства наагул.

У часе першага пасяджэньня Рады Рэспублікі ў лістападзе 1919 г. старшыня міністраў Луцкевіч ужо знаходзіўся ў Варшаве, куды быў выкліканы з Парыжа польскім прэм'ерам Падэрэўскім[218], як быццам дзеля паразуменьня. Аднак, прасядзеўшы ў Варшаве каля двох месяцаў і пабываўшы разы два нават у Пілсудзкага ў Бэльвэдэры, Луцкевіч ніяк ня мог дачакацца аўдыенцыі

ўсходнюю палітыку Пілсудскага, займалася палітычнай, грамадскай, агітацыйнай дзейнасцю сярод карэннага насельніцтва «ўсходніх крэсаў» дзеля стварэння падтрымкі польскай адміністрацыі.

[216] Так у тэксце. Дакладна — 1919 г. — ***А. Г.***

[217] Беларускі з'езд Віленшчыны і Горадзеншчыны адбыўся 9–10 чэрвеня 1919 г., а палякі ўвайшлі ў Менск 8 жніўня 1919 г. — ***А. Г.***

[218] **Ігнацы Ян Падэрэўскі** (пол. *Ignacy Jan Paderewski,* 1860–1941), польскі піяніст, кампазітар, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, дыпламат. У 1919 г. быў прэм'ер-міністрам і міністрам замежных спраў Польшчы.



ў Падэрэўскага і так і не дачакаўся яе зусім; адтрымаўшы пропуск на выезд у Менск, Луцкевіч прыбыў туды, калі ў сярэдзіне самой Рады Рэспублікі пачаліся ўнутраныя непаразуменьні, быць можа, аднекуль і інсьпіраваныя. Частка сацыял-дэмакратаў і правыя радныя дадумаліся да ўтварэньня як-бы замест Рады Рэспублікі нейкае Дырэкторыі або «Найвышэйшае» Рады зь некалькіх асобаў, на што ніяк не магла згадзіцца гэткая дужая лікам фракцыя радных, як беларускія сацыял-рэвалюцыянэры, лічыўшыя ўсякія гутаркі аб Дырэкторыі здрадаю.

Калі 13 сьнежня 1919 году ізноў сабралася Рада, дык абодва кірункі так моцна разыйшліся, што Рада Рэспублікі раскалолася на дзьве, амаль што роўныя, часьці. Эсэры й соц[ыялісты]-фэда[ра]лістыя засядалі ў заўсёдным будынку Рады, як Рада Рэспублікі, выбіраючы новы прэзыдыум Рады і творачы новую Раду Народных Міністраў з Вацлавам Ластоўскім на чале. Частка эсдэкаў і правыя засядалі недалечка ад будынку Рады ў прыватнай кватэры старога дзеяча Аляксандра Ўласава, творачы Дырэкторыю пад назовам «Найвышэйшая Рада» з кабінэтам міністраў Луцкевіча. Ніякія спробы паразуменьня паміж абодвума кірункамі ні да чаго не давялі, і раскол 13 сьнежня 1919 г. адбыўся. Засядаўшыя ў кватэры Ўласава выбралі ў Найвышэйшую Раду: Лёсіка, Рак-Міхайлоўскага, Сераду, Уласава і Цярэшчанку[219], а засядаўшыя ў будынку Рады зрабілі поўны пераварот, стварыўшы Раду Народных Міністраў Ластоўскага і выбраўшы новы Прэзыдыум Рады Рэспублікі.

Цікава, што ў той час, як Найвышэйшая Рада і ўсе сябры пасяджэньня ў кватэры Ўласава сядзелі спакойна цэлы час польскай акупацыі ў Менску, Ластоўскі з некаторымі сваімі таварышамі па эсэраўскай партыі, у якую ён увайшоў, былі адміністрацыйна пасаджаны Начальнікам

[219] **Кузьма Цярэшчанка** (1888–1922), грамадска-палітычны дзеяч, у 1919 г. быў абраны на пасаду старшыні ЧБНК.

Менскага вокругу Рачкевічам у вастрог за… незаконны сход і адсядзелі хто месяц, а хто і больш.

Выйшаўшы з вастрогу, пад надзор паліцыі, Ластоўскі ўцёк у лацьвійскую сталіцу Рыгу. Сябры партыі сацыялістых-фэдэралістых Крачэўскі й Захарка ўцяклі ад арышту заграніцу, не папаўшы такім чынам у менскі вастрог на Серпухаўскую вуліцу. Уцёкшы заграніцу, Ластоўскі пачаў зусім зразумелую проціпольскую палітыку там, пакінуўшы на Бацькаўшчыне больш-менш шырокае маральнае падтрыманьне беларускага грамадзянства.

А Найвышэйшая Рада тымчасам засталася круглаю сіратою ў сваёй абыватальскай палітыцы, амаль ня вытknуўшы свайго носу далей Менску, памятнай кватэры Ўласава ды яшчэ гасьціннага дому Серады. Ніякага абвяшчэньня аб сваім існаваньні Найвышэйшая Рада ні разу ня выпусьціла, хаця розныя пустыя размовы з палякамі вяла, ударыўшыся ў тайную дыплёматыю. А тымчасам Ластоўскі выдаў аб здарэньні 13 сьнежня нелегальную дэкларацыю, распаўсюджыўшы яе праз партыйны апарат, дзе толькі мог.

Калі прадстаўнікі Найвышэйшай Рады прабавалі заяўляць генэралу Шэптыцкаму кабінэтны пратэст проці крывавых усьмірэньняў паўстаўшых вёсак, дык генэрал адказваў, што ён можа ўсю Беларусь разам з Менскам спаліць, калі гэтага трэ' будзе для Польшчы. Менск сапраўды дачакаўся спаўненьня словаў генэрала Шэптыцкага і апынуўся ў страшэнным пажары пры пакіданьні яго палякамі.

Яшчэ ў маі месяцы 1920 г. на фронце Беразіны было неспакойна. Бальшавіцкая армія зрабіла моцны націск у кірунку Маладзечна, на гэты раз спрытна адбіты польскаю арміяй. А праз які адзін месяц у канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпня бальшавікі павялі гэтак моцнае наступленьне, што ў дзесятыя чыслы ліпня Менск перайшоў у іх рукі.

Палітычная прычына нястойкасьці польскае арміі, што шпарка адступала аж да Варшавы, зусім ясная. Пазнанскі жаўнер, стоячы на Беразіне і чуючы на тылах сваіх неспакой і ўсьмірэньні беларускага насяленьня, якое вялі яго вызваляць ад бальшавікоў, ня мог зразумець, чаму насяленьне гэтае так няўдзячнае для яго — і дух моцных пазнанскіх аддзелаў, прастаяўшых бяз бою на чужой зямлі, моцна падупаў. Пад Варшаваю незвычайны патрыятычны энтузіязм палякоў адкінуў бальшавікоў ізноў аж да Менску, незвычайна моцна разьбіўшы іх.

Ясна, што й Найвышэйшая Рада, як такая, у Менску не засталася, а пераехала ў Варшаву амаль што ў асобе аднаго толькі Цярэшчанкі, які з Варшавы езьдзіў у Рыгу дзеля перагавораў з Ластоўскім, дакляруючы здаць яму ўсе мандаты.



✦ *Вацлаў Ластоўскі*

Гэткім чынам Найвышэйшая Рада сама сябе ліквідавала. Калі ў Менску яна была паляком так ці йначай патрэбнаю, дык у Варшаве ня было ўжо ў ёй патрэбы навет і для дыплёматыі.

Паездка ў Рыгу Цярэшчанкі магла, праўда, трактавацца Найвышэйшаю Радаю як дэлегаваньне яго на польска-бальшавіцкія міравыя перагаворы, якія там пачыналіся, але аб прадстаўніцтве там падумаў і Ластоўскі.

Пры гэткім палажэньні трэ' было-б зусім страціць розум, каб дабівацца прадстаўляньня антыбальшавіцкай Беларусі на міравой канфэрэнцыі ад двох розных урадаў. А ня трэба запамінаць, што з бальшавіцкага боку ад імя Беларусі на нешта быў выпісаны старшыня мінскіх камісараў Чарвякоў.

Пратэндаваньне Найвышэйшае Рады на ўладу і тайная яе работа далі толькі поўны прастор тварэньню беларускіх урадаў усімі, хто толькі на гэта не лянуецца. Гэтак, напрыклад, цяпер, калі з Савінкавым[220] пайшоў праз

---

[220] **Барыс Савінкаў** (1879–1925), адзін з кіраўнікоў расійскай партыі эсэраў, пісьменнік. Сябра Пілсудскага з часоў гімназіі. Браў удзел

Беларусь ваяваць з бальшавікамі Балаховіч, дык быўшы віцэ-старшыня Вайсковай Камісіі Паўлюк Аляксюк скамбінаваў пры арміі Балаховіча беларускі кабінэт міністраў з Адамовічам на чале.

Ня прызнаўшы Беларусь тады, калі аж па Беразіну яна была ў руках польскага войска, Польшча прызнала яе ў Рызе, аб чым ясна пішацца ў дагаворы з бальшавікамі. Відочна, незалежнаю Беларусь прызнаецца Польшчаю толькі як Савецкая, зробленая бальшавікамі.

Лінія Рыжаскага міру дзеліць Беларусь на кавалкі, і па гэты (захадні) бок рыжаскае лініі мы нічога ня чуем аб незалежнай Беларусі, калі ня лічыць праклямацыяў аб ёй Балаховіча ды ўраду пры ім Адамовіча, праўдзівей Аляксюка.

Усё, што рабілася Ўсебеларускім Зьездам і Радаю Рэспублікі, як спадчына перайшло на Раду Народных Міністраў Ластоўскага, да голасу якой наймацней будзе прыслухвацца беларускае грамадзянства, як да Ўраду, для яго законнага. Урад пры арміі Балаховіча разваліцца разам зь яе ваеннымі няўдачамі, як разваліўся ўжо падобны ўрад, твораны й раней нейкім Бахановічам[221] у Адэсе ў часе прабываньня заграніцаю кабінэту Луцкевіча.

Прынцыпіяльна прызнаная ў Рызе як палякамі, так і бальшавікамі незалежнаю, Беларусь сапраўды Рыжаскім мірам разрэзана, але-ж гэта ня значыць, што яна забіта насьмерць.

---

у падрыхтоўцы паходаў Булак-Балаховіча. У жніўні 1924 г. арыштаваны ў Менску супрацоўнікаму АГПУ. Загінуў пры нявысветленых абставінах: па афіцыйнай версіі, скончыўшы жыццё самагубствам, як Купала, выкінуўшыся ў лесвічны пралёт; па неафіцыйнай — забіты чэкістамі.

[221] **Аляксандр Бахановіч** (?—?), палітычны авантурыст пачатку XX ст. У студзені 1919 г. у Адэсе ўступіў у Беларускі нацыянальны цэнтр, прапанаваў яму прыняць на сябе функцыі Часовага краёвага ўрада Беларусі. Неўзабаве быў высланы з Адэсы.



# Пётра Антонавіч Крэчэўскі[222]

На пяцьдзесятым годзе жыцьця памёр 8 сакавіка 1928 году ў Чэскай Празе Пётра Антонавіч Крэчэўскі. Жыцьцё бяжыць, а нябожчыкі сьпяць сном вечным. Сёньня ўжо дзевяць год мінула ад дня скону высокаідэйнага Сына Беларусі Петры Крэчэўскага, на долю каторага прыпала фізычнае носьбіцтва нязьдзейсьненай яго сучасьнікамі ідэі беларускай сувэрэннасьці.

Ліхія часы нядолі беларускай таксама мінуць, разьвеецца цемра народная, і вольны ды самастойны ў будучыні Беларускі народ успомніць свайго вернага сына, скончыўшага дні свайго жыцьця ў дабравольным выгнаньні, на зямлі братняга Чэскага народу.



✦ *Пётра Крэчэўскі*

Успомніць народ наш Пётру Крэчэўскага па гаспадарску і дасьць яму дастойнае месца ў Пантэоне свае гісторыі.

А тым часам!

Тым часам — доўг кожнага, каго злучалі з Крэчэўскім вялікія бурныя дні самаахвярных парываў да новага вольнага жыцьця Беларусі, доўг кожнага жывога яшчэ сьведкі — успомніць носьбіта сьветазарнай беларускай ідэі.

Далёка спачывае Пётра Крэчэўскі пад пастаўленым над яго магілай, трудамі ўбогай беларускай эміграцыі, памятнікам. А на памятніку напісана, што П. Крэчэўскі — старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі… Пастаўлены на варту вартаўнік найвышэйшых інтарэсаў народных, пакінены ледзь ня ўсімі выбраўшымі яго, дастаяў на варце да канца. Заснула з ім горыч расчараваньня ад няспоўненых парываў, надзеяў, скончыла сваю няўтомную працу

---

[222] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Шлях Моладзі. № 3. Вільня, 1937. Тут друкуецца паводле: Спадчына. №2. 1993. С. 35–37 (публікацыя Валянціна Мазеца).

вялікае беларускае сэрца, перапоўненае любоўю да свайго сярмяжнага народу-земляроба, не зразумеўшага на гэтым грэшным сьвеце ўладнага заклiку Сына свайго да каваньня свае праўды, свае сілы і свае волі…

У памяці маёй устае Пётра Крэчэўскі, як ціхая, скромная асоба з воркам папераў у руках: сяброўскіх мандатаў на Першым Усебеларускім Зьезьдзе ў Менску ў месяцы сьнежні 1917 г. Пазьней, знаёмячыся з ім бліжэй асабіста, пачуў я зь яго ўласных вуснаў, што ён — народнік, быў у расейскай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, да вялікай вайны служыў у банку, старэйшы за мяне быў толькі на 12 гадоў. Аднак яго пышная рыжаватая барада, крыху прыгнутая, вышэйшая за сярэдні рост, фігура ў старым шынялі расейскага вайсковага ўрадніка, зь зімоваю шапкай-папахай на галаве, недастача пярэдніх зубоў у роце, а праз гэта глухі тэнаровы тэмбр голасу пры гутарцы — усё гэта рабіла яго нейкім старэйшым з выгляду. Ува ўсёй яго ціхай, малаахвотнай на словы істоце таілася выразная цьвёрдая воля ісьці да канца цярністым шляхам беларускага дзеяча-пакутніка. Душа яго гарэла нейкаю рамантычна-дзявочаю надзеяй, хоць з выгляду Крэчэўскі ўжо ў 1917 г. быў — чысты дзед. Не магу прыпомніць ані ценю гневу на яго шыраканосым сьветлым твары, а таксама ў вечна-спакойным і вечна-ласкавым паглядзе рашучых шырока-расплюшчаных вачэй. А гэтулькі-ж усялякіх мамэнтаў разам з ім прышлося перажываць!

Калі бывала і з дакорам якім зьвернецца да цябе, дык неяк па-свойму, мягка, з усьмешкай на твары, з ласкаю ў вачох, ад якіх чалавек не адарвеш свайго пагляду, мігам астынеш, пераканаешся ад жмені яго простых, шчырых слоў, ішоўшых з глыбіняў добрае душы яго.

Успомніць варта і рэдакцыю «Вольнай Беларусі»[223], а ў ёй Пётру Крэчэўскага, прыйшоўшага спрабаваць зьмясьціць у гэтым часопісе свой верш — народную беларускую легенду пра птушку-бусла. *«І беларус буслоў шануе; ён кажа: «Нельга бусла біць, бо наша ў ім душа істнуе, ён чалавек і хочэ жыць»*, — назаўсёды ўрэзаліся мне ў памяць апошнія словы верша, чытанага Крэчэўскім. Ці варта дадаваць, што верш у «В[ольнай] Б[еларусі]» быў зьмешчаны!

Заўсёды аднолькавы, каменна-спакойны, Пётра Антонавіч трымаўся зь нейкаю патрыяршаю, сказаў бы той, павагаю. Мы ўсе любілі яго, бо іншага пачуцьця ён ні ў кім і нічым ніколі ня выклікаў. Пачуцьцё таварыскасьці меў незвычайнае. Шмат нялічаных разоў мы позна ўночы ішлі разам дамоў, бо недалёка адзін ад аднаго пражывалі ў Менску: ён на Старажоўскай, а я на Міхайлаўскай[224] вуліцы. Розныя беларускія паседжаньні ў часе нямецкай акупацыі забіралі ў нас вельмі шмат часу. Вычарпаныя фізычна, але моцныя духам, глыбокімі начамі мы часта разам вярталіся на сваё прадмесьце.

І тады, заўсёды «нямы», у часе найгарачэйшых нават дэбатаў на паседжаньнях, Пётра Антонавіч быў шчодрым на гутарку. Што глыбока прадумаў, таго трымаўся да канца, у што верыў, тое бараніў з сакавітаю проста спакойнасьцю. На кожнае пытаньне адказваў адным і тым-жа самым роўным тонам…

— Пётра Антонавіч! Ты, здаецца, знаёмы з лацінаю! Што азначае па беларуску *ultima ratio*!

— *Ultima ratio*?.. Ну, найвышэйшы сэнс, ці як там сказаць…

І пачне паясьняць так, што, здаецца, і дзіця зразумела-б.

— *Пётра Антонавіч! У Раду зьбіраюцца ўвайсьці абшарнікі, а таксама і «расейцы» зь Сьвята-Мікалаеўскага Брацтва, як да іх адносіцца!*

— *Як да трутняў,* — адказвае з усьмешкай…

[223] **«Вольная Беларусь»** — грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета, што выходзіла ў Менску ў 1917–1918 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Лёсіка.

[224] **Міхайлаўская вуліца** — цяпер вуліца Камуністычная.

Вывесьці Крэчэўскага з раўнавагі не ўдавалася. На выгляд ён спакойна ўспрымаў нават і балюча-вострыя фразы…

Варта хіба ўспомніць, як на долю Крэчэўскага выпала ліквідаваць уладу Ландара і ўсіх яго, ахопленых панікаю, «*народных камиссаров Западной области и фронта*» ў тую самую ноч, калі стварыўся Народны Сэкрэтарыят Беларусі.

Бальшавіцкія камісары затрыманы былі служачымі чыгункі на менскім вакзале. Чыгуначнікі проста не хацелі выпусьціць зь Менску тагачаснае расейскае «ўлады» з торбамі, туга напханымі керэнкамі ды іншымі грашовымі знакамі… «*Уцякаеце, саколікі, а нас з чым пакідаеце!*»

Дэлегаваны да чыгуначнікаў, прызнаваўшых беларускую ўладу Народнага Сэкрэтарыяту, П[ётра] Крэчэўскі парадзіў ім патрабаваць ад бальшавіцкіх камісараў выплаты пэнсіяў чыгуначнікам за паўгода наперад. Камісары мусілі на гэта згадзіцца.

Увесь вонкавы выгляд «стараватасьці» Крэчэўскага, здавалася, мудра казаў: «*Ня ў сіле Бог, а ў праўдзе*»…

І раз знайшоўшы сваю вялікую Праўду Беларускую, Крэчэўскі насіў яе, як цяжкае бярэмя абавязку, у страшэнныя дні вялікіх палітычных катаклізмаў; у высокапатрыятычным сэрцы сваім вынес гэтую Праўду на чужыню і з гэткім дарагім скарбам душы свае гараваў і сумаваў на гасьціннай зямлі чэхаславацкай дэмакратыі. Прыйдуць дні іншыя. І памяць аб Крэчэўскім уваскросьне ў мільёнах шчасьлівых душаў беларускіх.

Уваскросьне, каб больш не паміраць.



## Кс. Аляксандр Астрамовіч[225]
*Кароткі ўспамін*

Да Вільні дайшла сумная вестка з Петраграду аб тым, што адным з нашых сьветлых змаганьнікаў за лепшую долю свайго народу зрабілася менш.

Ня хочацца верыць, што памёр сапраўды наш не стары яшчэ лірычны пясьняр Андрэй Зязюля (праўдзівае імя ксёндз Аляксандр Астрамовіч).

Мне давялося першы раз спаткацца й пазнаёміцца з ксяндзом Аляксандрам Астрамовічам у Менску ў часе нямецкай акупацыі. Зайшоўшы аднаго разу ў кватэру «Беларускага Народнага Прадстаўніцтва» на Серпухаўскай вуліцы і прывітаўшыся з тымі, каго ўжо знаў, я не пасьпеў заўважыць добра за столікам незнаёмую мне асобу, як быў зараз-жа ёй адрэкамэндаваны дзедам нашаніўскіх пісьменьнікаў Аляксандрам Уласавым.



✦ *Кс. Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля)*

Я ня мог як належыць разглядзець духоўніцкай адзежы кс. Астрамовіча і падумаў проста, што які-небудзь вясковы вучыцель. Просты, але энэргічны нейкі выраз яго твару, вясёлы, мала падобны на духоўніцкі, гумар і вечная лёгкая ўсьмешка пры гэткай-жа лёгкай гутарцы выказвалі незвычайную

[225] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Беларускі звон. № 23. Вільня, 16 снежня 1921. С. 1.

нейкую несьмяротную маладосьць, вялікую здольнасьць і энэргію.

Якое-ж маё было зьдзіўленьне, калі гэты адрэкамэндаваны мне п. Уласавым паэт Зязюля выйшаў з-за стала, і я пераканаўся, што гэта ксёндз. Мы разгаварыліся на зусім не паэтыцкія тэмы, і я проста спытаўся ў кс. Астрамовіча, дзе ён служыў тады і што там чуваць.

Служыў айцец Аляксандар тады ў Магілёўшчыне і адказаў мне, што там наш рух расьце й мацнее.

Другі раз на яшчэ менш кароткі час мы сустрэліся ў тым самым Менску, ня помню толькі, дзе, але добра памятаю, як а. Аляксандар сваім звычайным лёгкім тонам дапытваўся ў кс. Гадлеўскага[226], чаму так доўга ня выходзіць «*Krynica*»[227], выдаваць якую кс. Гадлеўскі тады ўзяўся.

Больш мне не давялося спаткацца і бліжэй асабіста пазнаёміцца з айцом Аляксандрам асабіста.

Ня хочацца верыць, што наша кароценькае другое спатканьне з паэтам Зязюляй было і апошнім.

Страшэнны жаль ахапляе душу, калі ў галаву прыходзіць думка, што гэткі пясьняр наш дарагі, як Зязюля, ужо скончыў свае песьні страшэнна рана.

Можа на чужой зямлі й памёр ён, і чужая зямля закрыла яго навекі.

Хай будзе яна яму лёгкаю, бо сваю родную зямлю і свой родны народ ён вельмі любіў.

---

[226] **Вінцэнт Гадлеўскі** (1888–1942), нацыянальны дзеяч, каталіцкі святар. Адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У міжваенны час за беларускую нацыянальную дзейнасць арыштоўваўся польскімі ўладамі.

[227] ***«Bielaruskaja krynica «*** (у 1917–1924 і 1937–1940 гг. — ***«Krynica»***) — штотыднёвая газета, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, што выдавалася ў Вільні цягам 1917–1940 гг.



## Мае ўспаміны аб Жылцы[228]

Не магу добра ўжо прыпомніць, калі і як сустрэўся я першы раз і пазнаёміўся зь нябожчыкам Уладзімірам Адамавічам Жылкай. Помню толькі, што гэта было ў Менску, у часе бальшавіцкай акупацыі ў 1919 годзе. Жылка працаваў летам у сельска-гаспадарчай камуне Весялоўцы (б[ылая] дача банкіра Браўдэ, вярсты за паўтары ад гораду). Я быў настаўнікам, працуючы ў 22 беларускай школе на Аляксандраўскай вуліцы[229], але як сябра рады БНР, разам зь іншымі, лічыўся абвешчаным бальшавікамі *«вне закона»*, і папасьць у рукі тагочаснае Чэ Ка для мяне азначала… ведама, што азначала!

Жыў я на Міхайлаўскай вуліцы № 104 сярод менскага беларускага пролетарыяту; работнікі ведалі, хто і што я, але я верыў ім, што ня выдадуць, і не памыляўся.

Здарылася раз, што я быў на валасок ад таго, каб папасьць у рукі чрэзвычайкі. Яна шукала ўночы дэзэртыраў, якіх разьвялося бязь ліку шмат. А я як былы афіцэр ваеннага часу не рэестраваўся ў бальшавікоў і фармальна быў злосным дэзэртырам.

Аднаго дня зайшоў да мяне сусед — работнік з бровару Нужбіна і сябра народнага суда, — папераджаючы, што мне начаваць у сябе дома нявартa, бо мінулай ночай зравідована[230] была ўся Міхайлаўская вуліца і палавілі шмат дэзэртыраў. Работнік гэты як віцэ-старшыня дамовага камітэту (на некалькі дробных дамкоў) быў патрывожаны чрэзвычайкаю, каб быць панятым пры вобысках.

Дамок, у якім пражываў я, стаяў на аднэй лініі з домам № 106 у глыбіні падворка і выглядаў, як халодны

---

[228] Публікуецца паводле: Родны край. № 14 (66). 14 чэрвеня 1935. С. 3; № 15 (67). 21 чэрвеня 1935. С. 3.

[229] **Аляксандраўская вуліца** — цяпер частка вуліцы Максіма Багдановіча ад моста праз Свіслач да вул. Машэрава.

[230] **Зравідована** (ад пол. *zrewidować*) — абшуканая,ператрэсеная.

гаспадарчы будынак пры ім, бо цёмная ноч не дала п'яным чэкістам магчымасьці заўважыць пад страхою каміны.

Падзякаваўшы добраму суседу, я выйшаў у горад, мяркуючы, дзе знайсьці начлег на некаторы час, пакуль Чэ-Ка робіць вобыскі напавал, дзякуючы сільнаму напору польскага войска на подступы да Менску.

Сустрэўся я з адным вядомым цяпер савецкім паэтам, якога, па зразумелай прычыне, не хачу называць, расказаў яму пра свой клопат, а ён мне раптам прапануе: Едзем разам у Весялоўку, там ніякі чорт не дагадаецца, што мы не належым да настаўніцкага пэрсаналу сельска-гаспадарчае камуны.



✦ *Уладзімір Жылка*

Здаецца, што ў Весялоўцы я і сустрэўся першы раз з Жылкаю; ён там быў другім, малодшым настаўнікам.

Мы здружыліся, сплючы разам на шырокай скураной канапе і бродзячы па дарожках раскошнай калісьці банкірскай дачы, паложанай над самаю рэчкаю Сьвіслачай.

Жылка бесьперастанку дэклямаваў вершы Блока[231], Брусава[232], Раслаўлева[233], Карынфскага[234], Бальмонта[235], Сяргея Гарадзецкага[236]. Мяне дзівіла гэткая маса

[231] **Аляксандар Блок** (рус. *Александр Блок*, 1880–1921), рускі паэт, крытык, прадстаўнік сімвалізму.

[232] **Валер Брусаў** (рус. *Валерий Брюсов*, 1873–1924), рускі паэт, празаік, літаратурны крытык, драматург, адзін з заснавальнікаў рускага сімвалізму.

[233] **Аляксандр Раслаўлеў** (рус. *Александр Рославлев*, 1883–1920), рускі паэт.

[234] **Апалон Карынфскі** (рус. *Аполлон Коринфский*, 1868–1937), рускі паэт, журналіст, перакладчык,

[235] **Канстанцін Бальмонт** (рус. *Константин Бальмонт*, 1867–1942), рускі паэт-сімваліст, перакладчык, эсэіст, прадстаўнік паэзіі Сярэбранага веку.

[236] **Сяргей Гарадзецкі** (рус. *Сергей Городецкий*, 1884–1967), рускі і савецкі паэт, перакладчык, педагог.



завучаных ім напамяць вершаў, якія я ў значнай меры чытаў раней. Калі я загасьціўся ў Весялоўцы на цэлы месяц, пішучы пакрысе свой расказ «Ахвяра часу», дык нябожчык Жылка здорава такі абрыд мне сваімі дэклямацыямі. Пішу, напрыклад, а тут ён схіляецца над вухам і сваім ціхім машастовым голасам рэцытуе:

*Ах, мой синий, васильковый*
*Да шелковый поясок…*

— *Ды кінь ты ўсякіх Гарадзецкіх,* — адгрызаўся я, — *лепш вось гэта: «Прощай, немытая Россия, страна рабов, страна господ»*[237].

Але Жылка ўжо абарваў Гарадзецкага і замест Лермантава[238] перайшоў на Блока. Часамі ён цэлымі гадзінамі дэклямаваў мілых яго сэрцу расейскіх паэтаў, і тады была адна толькі рада:

— *Алесь, скрыпку!* — крычу я старшаму настаўніку весялкоўскае камуны. Алесь пачынае іграць які-небудзь раманс, і Жылка адразу сьціхае.

Па-беларуску Жылка тады не пісаў, да чаго я стараўся заахвоціць яго, чуючы, што яго любоў да паэзіі мусіць выклікаць у ім парыў да напісаньня чаго-небудзь.

Першы яго верш прыпамінаю сабе ўжо ня то ў тыднёвіку «Рунь»[239], выходзіўшым пад рэдакцыяй Купалы пры паляках у 1920 годзе, ня то ў газэце «Звон»[240]; верш кароценькі, лірычны, крыштальна адшліфованы.

Пражываў у падвальнай кватэры і стары загадчык двара Весялоўкі; бальшавікі ўсё зьбіраліся яго выселіць, лічачы, відаць, беднага банкірскага аканома

[237] ***«Прощай, немытая Россия, страна рабов, страна господ»*** — радкі з верша Міхаіла Лермантава, напісанага ў 1840–1841 гг.

[238] **Міхаіл Лермантаў** (рус. *Михаил Лермонтов*, 1814–1841), рускі паэт, празаік, драматург.

[239] **«Рунь»** — штотыднёвы ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс, які выходзіў у Менску ў траўні — ліпені 1920 г.

[240] **«Звон»** — штодзённая палітычна-эканамічная і літаратурная газета, што выходзіла ў Менску ў 1919 г.

небясьпечным контр-рэвалюцыянэрам. Неяк у адзін вельмі цёплы летні вечар чалавек гэты вярнуўся з гораду вельмі сумны, зайшоў у пакой, дзе былі мы з Жылкаю, і расказаў, як ён дачуўся, што ўночы Чэ-Ка мае яго выкінуць з двара. Было гэта даволі позна. Разьвітваюся з Жылкай і аканомам. Хачу вяртацца ў горад.

— *Куды ты ўночы папрэш?* — стрымлівае Жылка, — *плюнь, цябе-ж не зачэпяць…*

Але я рашуча кіруюся да дзьвярэй. Жылка бярэ шапку і выходзіць разам.

— *Давай пераначуем на лоне прыроды,* — прапануе ён.

— *Што? Усю ноч па лесе бадзяцца?*

— *Ды не! Хадзем,* — кажа ён.

Прайшоўшы мэтраў з сорак весялкоўскаю сенажацяй, затрымліваемся каля трох копак сена, залазім у адну зь іх зьнізу і храпем да сьвету. Раніцай даведваемся, што чэкісты прыяжджалі, пашумелі і пакінулі аканома з жонкаю й дзяцьмі на месцы.

Помню, раз заехаў конна ў Весялкоўку адзін Жылкаў знаёмы — нейкі чырвоны камандзер, кіруючыся на фронт пад Радашкавічы; гаварыў благою расейскаю моваю зь вельмі выразным беларускім акцэнтам.

— *Што гэта за камісар?* — пытаюся ў Жылкі, калі той ад'ехаў.

— *Чырвоны сатрап,* — кінуў Жылка два словы ў адказ.

Ноч з 7 на 8 жніўня 1919 году была апошняю для нас у Весялоўцы. На раніцы нас па-вайсковаму штурхае Алесь:

— *Гэй, братва, ня сьпі! Чуеш?*

Гляджу на гадзіньнік: палова дзясятае. За вакном іграе сонца, а гэткі гром?..

О, гэта гром нам добра знаёмы зь вялікай вайны! Зусім недзе блізка грымяць гарматы. Хутка апранаюся, вылятаю на двор, на бераг Сьвіслачы, лезу на густую высокую вольху — глянуць у заходні бок, адкуль далятае да вушэй гэты гром. Над галавою высока пралятае аэраплян. Але чый? Раптам: жж! жж! У вушох знаёмы посьвіст куляў. І ў



гэты самы мамэнт на другім беразе рэчкі, ледзь не пад самым маім носам, схапляецца на ногі, нябачаная мне дасюль, шэрая тыральера бальшавіцкіх стральцоў.

Нейкі камандзер ці камісар блутаецца з канём, махае шашкаю, дарэмна стараецца затрымаць адступленьне. Польская артылерыя крые ўжо па заходняй акраіне гораду. З правага боку, на гасьцінцы, траскаціць кулямёт бальшавіцкага панцырнага самаходу…

Каменем спадаю з вольхі. Зьмешваюся з радамі перабрыўшых мелкую Сьвіслач чырвонаармейцаў. Адзін зь іх, трымаючы на вяровачцы стрэльбу на плячох, пытаецца:

— *Товарищ, махорка есть?*

— *К сожалению… не курю…* — адказваю яму.

Праз пару шагоў — Весялоўка. Алесь частуе чырвоных ваякаў махоркай. Салдаты шпургаюць стрэльбы ў кусты й даюць драла. Аканом выцягвае адну зь іх з куста, лаецца:

— *Далей кідайце, на сенажаці, с.. сыны, а тут няма чаго складу зброі рабіць…*

Жылка ўжо запрог каня і пакурэў у Менск. Буржуазная моладзь, сабраная для працы ў камуне, адпушчана Алесем дамоў. Сам ён рашыў астацца ў аканома.

Пру сьцежкаю празь сенажаць, кіруючыся проста на хату, дзе мая кватэра. Два чырвонаармейцы, раззброіўшыся, бягуць за мной…

Гадзіны каля 12-й, у поўдзень, горад ужо ў руках пазнанцаў і легіянэраў.

Калі зусім заціхла страляніна, іду на кватэру да Жылкавых бацькоў. Частуюць… нібыта чаем з белаю цукроваю патакаю…

— *Вось жыцьцё!* — бядуе сухотная на выгляд, як і сам Жылка, яго маці.

— *Дыктатура пралетарыяту!* — весела падхапляе бацька Жылкі, крыху сіваваты, ня то таксама аканом, ня то агароднік на выгляд. Старыя гаварылі чыстаю беларускаю моваю.

А ўвечары мы з Жылкай былі ўжо на сходзе беларусаў, дзе закладаўся часовы нацыянальны камітэт. Сабралася сотні з паўтары душ.

Пры паляках Жылка мала прабываў у Менску, бо ўся іх сям'я выехала недзе ў правінцыю. Колькі разоў яшчэ мы сустрачаліся з Жылкай у Менску. Я быў заняты працаю ў Беларускай Вайсковай Камісіі ды супрацоўніцтвам у штодзённай газэце «Беларусь»[241]. Жылка як беларускі эсэр быў ворагам як вайсковае нашае фармацыі, так і наагул усяе орыентацыі на Польшчу, якое тады шчыра трымалася часьць нашае інтэлігенцыі, носячыся зь вельмі рожавымі ідэямі. Жылка мякка, па-прыяцельску кідаў ня раз мне ў вочы:

— *Беларускія эн-дэкі[242]!*

Гэта адносілася да ўсіх, хто верыў тады ў беларускае вызваленьне пры дапамозе Польшчы. «*Беларускія эн-дэкі*» азначала ў вуснах Жылкі ня што іншае, як цяперашняе бальшавіцкае «нацдэмаўцы».

Цераз два гады, у траўні месяцы 1921 году, сустрэўся я з Жылкай у Вільні на Вострабрамскай, 7, у фактычнага рэдактара «Нашай Думкі»[243], далейшае рэдагаваньне якой ён перадаваў мне. Жылка прачытаў некалькі сваіх вершаў. Рэдактар зазначыў, што ў іх ёсьць такія і гэткія шурпатасьці, і вершы забракаваў.

Празь нейкі час я поштаю атрымаў ад Жылкі з Гарадзеі пісьмо ў рэдакцыю вершам. Верш нішто сабе, але ў адным-двух месцах гэткая нястройнасьць, што псуецца ўсё. Я выправіў верш, як мог, і зьмясьціў у газэце. Калі пазьней мы сустрэліся з Жылкай, дык ён спытаўся:

[241] **«Беларусь»** — штодзённая палітычна-эканамічная і літаратурная газета, якая выдавалася ў Менску ў кастрычніку 1919 — ліпені 1920 г. Пераемніца газеты «Звон».

[242] **Эндэкі** — скарочаны назоў сябраў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Польшчы.

[243] **«Наша думка»** — штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выходзіла ў Вільні ў снежні 1920 — ліпені 1921 г. Рэдактарам-выдаўцом быў Максім Гарэцкі.



— *Чаму-ж ты ўжо сам тады і не падпісаўся пад маім пісьмом? Гэтак ты яго адчыканіў!*

Ідэалёгіі Жылка трымаўся лева-эсэраўскай; я жартаваў часам у гутарцы зь ім, што гэта здаравеннае пробы ўсё-ж такі той самы бальшавізм.

Зь якім-жа цяжкім сэрцам павінен быў гэты хваравіты з выгляду лірык зьмяніць свой ідэалістычны сьветагляд, каб скіравацца з Чэхіі ў Менск, не сустрэць там ніякага поля для творчасьці і закончыць жыцьцё недзе на выгнаньні як беларускі «нацдэм»?!

Не павінна загінуць памяць аб Жылцы ў гаротным нашым народзе, які гэтак любіла яго тонкая душа!

## Памяць аб праф. Карскім[244]
### *Да 5-х угодкаў яго сьмерці*

29-га красавіка 1931 году памёр акадэмік Е[фім] Ф[ёдаравіч] Карскі.

Гэту сумную вестку прачытаць мне ў свой час давялося ў газэце «Беларускі Звон» (за 12.V.1931, №11) на паўночнай Валыні, у адным сяле ковэльскага павету, куды, на пару гадоў, выгнала мяне зь Вільні поўнае безрабоцьце, марыўшае маё цела і душу даволі даўгі час у межах прыгожага гэдымінаўскага гораду.

Не хацелася верыць страшэннай вестцы: як? Значыцца, моцна збудаванай, быццам гранітнай, фігуры Ефімія Фёдаравіча ўжо няма на гэтым сьвеце? Яшчэ аднаго вялікага свайго сына пазбавілася гаротная Беларусь?

Пазбавілася няўтомнага дасьледчыка яе апошняга, нескасованага векавою соннасьцю, скарбу — жывое мовы народу!

[244] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Родны край. №5. Вільня, 22 красавіка 1936; №6. Вільня, 8 чэрвеня 1936; №7. Вільня, 19 чэрвеня 1936.

Рашучым напружаньнем волі я адагнаў ад сябе сумныя думкі аб сьмерці Карскага і пачаў успамінаць яго жывым, гэткім, якім мне давялося ў жыцьці зь ім сустрачацца…

Першы раз я ўбачыў Карскага на Ўсебеларускім Зьезьдзе ў Менску, у сьнежні месяцы 1917 году. Яго вялічавая фігура ў пышнай шубе, бы тая скала, выдзялялася сярод мора сялянскіх кажухоў і сярмягаў, сярод шэрых вайсковых шынялёў народнай нашай інтэлігэнцыі, сярод усіх дзьвюх тысячаў чалавек, складаўшых першае Беларускае Нацыянальнае Веча.

Я чуў і бачыў, як Карскі — прывычны да навуковай трыбуны і да зусім іншае аўдыторыі — проста і ясна расказваў многалюднаму Зьезду, як ён дасьледваў межы расьсяленьня Беларускага Народу, як улажыў карту этнаграфічнай Беларусі і г. д.

Шэрая, пераважна сялянская маса слухачоў аднадушна ўшанавала вялікага вучонага: Карскі быў абвешчаны ганаровым старшынёю Усебеларускага Зьезду.

Помню, як Карскі не пакідаў гэтага Зьезду аж да самага разгону яго п'янымі салдатамі бальшавіцкага начальніка менскага гарнізону Крывашэіна.

Прэзыдыюм Зьезду бальшавікі арыштавалі, але Карскага не чапалі. Яму не перашкодзілі выйсьці з салі свабодна, калі супраціўленьне бальшавіком, пасьля арышту новага прэзыдыуму, аказалася бязмэтным, і тойсёй з палітычных дзеячоў праціскаўся да выхаду.

Мінуты гэтыя ўрэзваюцца ў памяць, здаецца, назаўсёды.


✦ *Яўхім Карскі*

Помню сваю няўдалую спробу «ўгаварыць» крывашэінскіх салдатаў… Пералажу за барыкады з крэслаў і лавак. Я сярод рослых ваякаў. Гавару да некаторых проста ў твар. Чую востры пах, як быццам ня простай гарэлкі, а чагось танчэйшага — нейкага віна.

— *Вы, керенцы, контр-революціонеры!* — крычыць мне адзін з салдатаў, нагінаючы штых свой зусім мне пад нос. Іншыя крыюць яшчэ мацнейшымі словамі. Шэры, афіцэрскага фасону шынель на мне раздувае ў салдатаў выразную злосьць… Але з другога боку можа крыху і прыкрывае мяне. Бо тыя салдаты, што паглядаюць з далейшых радоў, можа і ня могуць разабрацца, ці я іх угаварваю, ці нешта прыказваю — свой я для іх, ці ня свой? А штых гэтак знаёмы вачом за вайну, што ім мяне трудна было і зьдзівіць і запалохаць. Спроба ўгаворваньня аказалася пустою, а гул на салі і мітусьня ня сьціхае…

Вось апранае ляжаўшую на крэсьле шубу і праціскаецца да дзьвярэй моцная фігура нашага ганаровага старшыні Карскага. Прабіраюся да яго, станаўлюся побач; яго пышная шуба і гэткі зусім «буржуйскі» выгляд трывожыць душу. Бо пяць мінут назад адзін чырвонаармеец ледзь не прабіў штыхом генэрала А[ляксееўска]га; дзьве магутныя фігуры матросаў — сяброў Зьезду — перашкодзілі гэтаму. Засланяць Карскага ад зьнявагі п'янае салдатні ці нават ад яшчэ горшай бяды ўзяўся я — неазброены нават і гэткімі мускуламі, як у таварышоў-матросаў.

— *Прапусьціць прафэсара Карскага!* — камандую салдатам, калі мы ўжо блізка праціснуліся да дзьвярэй. Налятае сам Крывашэін. Карскі сваёй вечнаю дабрадушнаю ўсьмешкаю і каменным спакойствам як-бы зачароўвае камісара.

— *Проходите, проходите, пожалуйста,* — сіпліва кажа Крывашэін.

Карскі праходзіць у дзьверы.

На сходах шчыльна адзін пры адным стаяць, па абодвух баках, лініямі салдаты. Бачачы, што я павяртаю назад, Крывашэін, лёгка пацягнуў мяне за рукаў:

— *Проходите!*

Вырываюся назад на салю, дзе ня ўсё яшчэ паддалося грубай сіле.

Гэтак маланкай праляцела першае знаёмства з Карскім. Ён выехаў у Петраград да свае акадэмічнае работы.

Калі Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Зьезду рашыў прасіць Карскага выехаць на мірныя перагаворы ў Берасьце (размова зь ім Я[зэпа] Варонкі адбылася тэлеграфічна цераз апарат Бодо), дык Карскі з Петраграду адказаў, што выедзе, калі на гэта атрымае згоду Троцкага або наагул бальшавіцкіх уладаў. Бяз гэткае згоды браць на сябе падобную місію прафэсар лічыў немагчымым і дарэмным.

Азнаёміўшыся з праэктам акту 9-га ці 25-га сакавіка 1918 году (добра цяпер ня помню), прафэсар Карскі парадзіў даць яму традыцыйны беларускі назоў — *«устаўная грамата»* — і таксама пералічыць хоць з большага тыя губэрні ды мясцовасьці, што заселены беларусамі. А хто-ж мог ведаць лепш за яго, дзе жыве Беларускі Народ? За прыкладам украінцаў шмат хто зь беларускіх маладых палітыкаў схіляўся да таго, каб нашыя дзяржаўныя акты называць *«унівэрсаламі»*.

Калі ў Менск прыйшлі палякі ў 1920 годзе, давялося мне бліжэй пазнаёміцца з Карскім. Палітыкай ён не займаўся, а жыў вельмі бедна. Ня раз я ў яго бываў і за кароткі час шмат чаго ад яго навучыўся. Сустракаліся мы і ў рэдакцыі штодзённай газэты «Беларусь», дзе я быў, сказаць-бы так, штатным супрацоўнікам. Карскі зьмяшчаў там свае навуковыя артыкулы і, здаецца, нават адзін праэкт залажэньня ў Менску беларускага ўнівэрсытэту. У рэдакцыі крыху вурчалі, што Карскі піша па-расейску. А я дамагаўся асаблівых, падвышаных варункаў аплаты яго працы. Яго артыкулы перакладалі.

Паступіўшы ў Беларускую Вайсковую Камісію, пісаць у газэту я не пакінуў, хоць штатным яе працаўнікам ужо быць ня мог. Зарабляў радкамі. Хутка я пасяліўся на Вясёлай вуліцы[245] ў доме №23 ці 25. Праз адзін дом, у №27 ці 29, кватэраваў на тэй самай вуліцы Карскі. Нашыя сустрэчы зрабіліся часьцейшымі; на вуліцы, у панадворку, дзе я жыў, у Губэрнатарскім Садзе і ў прафэсара на кватэры — усюды, дзе мы зыходзіліся, коратка аб тым, аб сім, толькі не аб палітыцы, гаварылі. Я духова рос ад сустрэчаў зь вялікім вучоным, з чалавекам добрай, нейкай ласкава-мілай, душы і высокай культуры.

На жаль, я ня вёў запісаў аб гутарках з Карскім, ня было часу тады (о, як-жа шмат гэтага часу цяпер дарэмна прападае!). Аднак шмат што дасюль цьвёрда мною помніцца, і пра некаторыя з нашых сустрэчаў хочацца расказаць.

Гляджу раз з вакна свае кватэры на Вясёлай вуліцы, аж з калодзежа на панадворку, дзе я жыў, выцягвае ваду праф. Карскі: наліў два вядры, узяў на каромысла і панёс на сваіх шырокіх плячах па вуліцы да сябе ў хату. Жонка сказала мне, што яна гэта ўжо бачыла няраз. Сорамна мне неяк і балюча зрабілася на сэрцы: не з дабра мусі прафэсар сам цягае ваду з чужога панадворку.

Апранаю мундзер і праз якое паўгадзіны званю да Карскага. Прыветна сустракае мяне, вядзе ў свой рабочы кабінэт, які служыў разам і за гасьцінны пакой. Дзьверы ў кухню зачыняюцца, хоць я ўжо пасьпеў убачыць, як там у балеі нехта мыў порцe. Можа, уласнаручна мадам Карская? Або дачка?

Пасярэдзіне пакою стол для пісаньня (бюро), і на ім таўшчэнны рукапіс — адзін з тамоў капітальнай працы Карскага «Белорусы».

— *Скажите, как Ваше имя? Ну, и отчество?* — пытаецца прафэсар, раскрываючы рукапіс і чагось шукаючы.

— *Макар Мацьвеевіч*, — адказаў я.

Карскі знайшоў у рукапісе, што яму трэба. Аказалася, што калісь у Петраградзе ў нейкай беларускай часопісі (здаецца, у *«Bielarusie»*) зьмешчаны быў вершык аўтара, які меў гэткае самае прозьвішча, як і маё, толькі імя яго было Ігнат. Дзеля таго, што я заўсёды публікаваўся пад псэўданімам, прафэсар ня мог рашыць, ці петраградзкі

[245] **Вясёлая вуліца** — цяпер частка вуліцы Ульянаўскай і Першамайскай.

верш мой, ці не. Пунктацыяй ён правёў лінію ў рукапісе ад вершыка петраградзкага аўтара да таго месца, дзе пачаў пісаць пра маю скромную творчасьць; цяпер ён тут-жа закасаваў гэту пунктацыю. Маё праўдзівае прозьвішча прафэсар знаў добра, таксама, як і мой псэўданім. Ня знаў ён майго імя.

Калі я проста заявіў Карскаму, што мяне вось прывяло да яго тое, што я падазраваю бяду-беднасьць у яго жыцьці, што мяне прывёў да яго ня толькі мой асабісты, а наш агульны беларускі сорам за ўсё гэта, дык прафэсар быў вельмі ўдзячны за маё спачуваньне яму, расчуліўся крыху і пачаў меркаваць:

*— Ага, казаў, ёсьць беларусы, для каторых я ўжо і не прафэсар. Мяне, кажа, выкладаць у Беларускі Пэдагагічны Інстытут нават не запрасілі. Ёсьць, бачыце, іншыя прафэсары — Іваноўскі*[246], *Тарашкевіч*[247], *Байкоў*[248], *Ігнатоўскі*[249]*… Якія яны прафэсары? Тарашкевіч — мой вучань, можна сказаць? Ну, але яны з Іваноўскім, здаецца, усім тут цяпер варочаюць. Няхай сабе!*

---

[246] Маецца на ўвазе Вацлаў Іваноўскі.

[247] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадска-палітычны дзеяч, мовазнаўца, перакладчык. Акадэмік Беларускай Акадэміі навук (1928). У 1918–1923 гг. адзін з лідараў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1922 г. абраны дэпутатам польскага сойму. Адзін з арганізатараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Арыштаваны польскімі ўладамі. У 1933 г. у выніку абмену палітвязнямі пераехаў у СССР. Арыштаваны ў 1937 г., прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

[248] **Мікола Байкоў** (1889–1945?), літаратуразнаўца, мовазнаўца, педагог. Працаваў вучоным сакратаром слоўнікавай камісіі пры Інбелкульце. Аўтар прац па літаратуразнаўстве, крытыцы і педагогіцы, укладальнік слоўнікаў: «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924), «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925), «Расійска-беларускі слоўнік» (1928, абодва з С. Некрашэвічам). Арыштаваны ў 1930 г. па справе Саюзу вызвалення Беларусі, але ў гэтым самым годзе вызвалены.

[249] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881–1931), грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык. Старшыня Інбелкульту (з 1926). Першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук (1928–1931). Скончыў жыццё самагубствам пасля допыту ў ДПУ БССР.



*— Все может случиться с человеком, пока он жив,* — абарваў прафэсар (словамі, ужо адзін раз сказанымі ім мне раней па адрэсе Жылуновіча, калі мы гаварылі з прафэсарам, сустрэўшыся неяк у лютым 1919 г. у кватэры *m[ada]me* Вярнікоўскай — жонкі Тодара Вярнікоўскага. Жылуновіча тады бальшавікі зрабілі «каліфам на час», высунуўшы яго ў прэм'еры рэвалюцыйнага ўраду Савецкай Беларусі).

У далейшай гутарцы падчас гэтага майго візыту Карскі казаў, што і ў рэдакцыі «Беларусі» ён чуе да сябе нейкі халадок…

А бяда лезе ў хату; дзеравяныя крэслу й бюро давялося яму прывязьці зь яго колішняй кватэры з Варшавы, куды яму зьезьдзіць пазволілі (з бальшавікамі ішла вайна, і, зусім зразумела, зь Менску ў Варшаву ня мог тады ехаць бяз пропуску цывільны чалавек).

Я прыпомніў прафэсару тую пашану, якую выказаў яму на Ўсебеларускім Зьезьдзе сам народ праз сваіх сярмяжных дэлегатаў, дадаючы, што з гісторыі гэтага народу, як зь песьні слова, ня выкінеш праф. Карскага, хутчэй зь яе вылецiць той ці іншы сэзонны палітык. Зрабілася весялей, і я дэкляраваў прафэсару, што буду старацца, каб Вайсковая Камісія запрасіла яго, калі ён згодзіцца, прачытаць гэтулькі, сколькі знойдзе патрэбным, лекцыяў па беларускай этнаграфіі на курсах для беларускіх афіцэраў, кіраваць якімі і арганізаваць якія даручана мне. Тут-жа я дадаў, што буду дамагацца падвышэньня яму гадзіннай платы ўдвая ў параўнаньні зь іншымі лектарамі, а таксама даб'юся, каб з Вайсковай Камісіі выдавалі яму і паёк натураю, як кожнаму штатнаму яе працаўніку…

*— Буду очень благодарен… не откажусь,* — пачуў я згоду прафэсара.

Перагаварыўшы зь сябрамі Вайсковай Камісіі, я хутка пусьціў у рух курсы; усё, што дэкляраваў Карскаму, мне ўдалося правясьці, але з адным варункам з боку Вайсковае Камісіі: калі Карскі будзе чытаць свае лекцыі па-беларуску. Сябром В[айсковай] Камісіі Я-му і М-му я

адказаў, што падобнага варунку я асабіста не пазволю сабе ставіць Карскаму ўльтыматыўна, бо ідзе тут аб веду, а не аб мову; нашыя афіцэры — гэта былыя афіцэры расейскія, як і я сам, і Карскага яны як найлепш зразумеюць. Мне даручылі перагаварыць аб усім гэтым з Карскім у такім духу, як я знайду патрэбным.

Калі на другі-ж дзень мая гутарка з Карскім адбылася, і я перадаў яму, што ў Вайскавой Камісіі яго выкладаньне на курсах па-беларуску лічаць пажаданым, хоць я асабіста ня лічу гэтага абавязковым, дык прафэсар, весела сьмеючыся, сказаў:

— *Ничего, понатужемся… Скажите вашему начальству, что я согласен.*

Разумееца, што я не ручаюся за абсалютную точнасьць усіх слоў прафэсара, хоць некаторыя зь іх у маёй памяці заселі даволі глыбока, сэнс аднак-жа маіх гутарак зь ім перадаваць стараюся з усёю магчымай праўдзівасьцю.

Думаю, што Карскаму вымаганьне Вайсковае Камісіі выкладаць на курсах па-беларуску не магло спадабацца, і помню зусім ясна, што ён пра беларускіх афіцэраў сказаў: «*Важна ня тое, якою моваю яны гавораць, а важна, каб яны былі беларускімі патрыётамі*».

Зь першае-ж лекцыі Карскі павёў на курсах свой прадмет па-беларуску. Паважна, крыху марудна, спрытна папраўляючыся, калі з вуснаў сарвецца часамі які-небудзь русіцызм. Аднак у іншых месцах выкладаў ён гэтак чыста па-беларуску, што мы вучыліся ад яго ня толькі выкладанага прадмету, але і самое мовы беларускае як такой.

Нават калі мы бывалі ўтомлены іншы раз лекцыямі іншых лектароў, дык усё роўна Карскага слухалі з поўнаю ўвагаю: вялікі талент меў наш вучоны вылажыць тое, што сам зусім апанаваў. Вялізарны запас веды, дар слова, чароўны аратарскі спрыт іграць на ўсіх струнах душы свае аўдыторыі меў акадэмік Карскі. Калі кіне бывала вокам на салю, завёўшы слухачоў у сухія дзебры свайго прадмету, ды раптам адвядзе напружанасьць нашае ўвагі якой-небудзь дробнай ілюстрацыяй, двузначнаю народнаю прыказкаю ці прыпеўкаю, — аўдыторыя сьвяжэе, увага напружваецца далей. Зь вялікім талентам умеў чытаць гісторыю Беларусі (на курсах настаўнікаў) і будучы савецкі праф. Ігнатоўскі, даволі сільны ў мове беларускай, аднак выкладаньне ў яго выглядала шмат манатоньней, як у Карскага. Праўда, Ігнатоўскі малодшы быў і больш схіляўся ў бок палітыкі, як у бок навукі.

Зайшлі мы неяк раз да Карскага з нашым афіцэрам Б., пагаварылі мінут 20 аб літаратуры. Карскі зазначыў, што нечувана шпаркім імпэтам расьце беларуская літаратурная мова; вартасьць ён прыдаваў тым аўтарам, якія маглі быць ува ўсіх кутох Беларусі зразумелымі, а ня тым, якія застывалі на якім-небудзь правінцыяльным дыялекце. Мой калега Б., выйшаўшы на вуліцу, заўважыў аб Карскім:

— *Пагаворыш з гэтым чалавекам і чуеш, што падрос. Розуму ў яго — палата!*

Помніцца адно беларускае паседжаньне (тады іх шмат бывала). Старшыня да кожнага браўшага слова зьвяртаўся з запрашэньнем «*проша!*».

Карскі зьвярнуў увагу, што гэта зусім не па-беларуску, радзіў шукаць іншае формы, а не перакручваць польскае *proszę*.

І ўсё гэта зь мягкаю аўтарытэтнаю ўсьмешкай на сваім здаровым твары.

Курсы для нашых афіцэраў абарваліся, як і лекцыі Карскага на іх, без пары, дзякуючы ваенным падзеям. Менск прышлося пакідаць.

Помніцца незвычайна гарачы і душны дзень 8-га ліпня 1920 году. Суматоха ў Беларускай Вайсковай Камісіі. З кольтам вялікага калібру на поясе я дзяжурыў. Служачыя ў Камісіі, а таксама некаторыя яе кіраўнікі пасьпешна атрымлівалі свае пайкі, неяк паціху зьнікалі, як камфара…

Зьяўляецца зь мяшкамі ў руках і праф. Карскі.

— *Добра, што ў Вас не адзін мяшок з сабою, пане прафэсар, — пазвольце падарыць Вам і мой апошні менскі паёк,*

*браць яго мне няма сэнсу,* — кажу Карскаму, вітаючыся зь ім.

— *Дзякую-дзякую,* — адказвае Карскі, — *я магу нават купіць. Замест грошай лепш ухапіць які-небудзь прадукт.*

Рашуча адмаўляюся ад гутаркі пра грошы за паёк і паўтараю, што я хачу яго проста падарыць прафэсару. Паёк складаўся зь вялізнага куска сьвежага мяса, разьлічанага, здаецца, на цэлы месяц, і яшчэ такіх-сякіх прадуктаў. Клопат вось толькі, як яго перахаваць у гэткую гарачыню? Прафэсар кажа, што бальшавікі кожнага навучылі, як у гэткіх выпадках быць: мяса пасаліць ды ў пограб, не папсуецца. Другі клопат, як яго даставіць з Багадзельнай вуліцы[250] аж на Вясёлую? У маім распараджэньні ня толькі салдата няма ніводнага, каб памагчы прафэсару, а нават і возныя нашыя невядома дзе. Толькі пара чалавек іх разважвае ды раздае пайкі.

Карскі абмеркаваў і рашыў, што прыдзецца атрыманыя два пайкі аднясьці на сабе за два разы. Звозчыка злавіць у горадзе ўжо было немагчыма.

Калі ўсё было спакована Карскім і разьмерана на два бярэмі, ён прыступае да мяне шчыльней, адходзім крыху ў бок, і прафэсар даволі ціхім голасам пытаецца:

— *І вы выяжджаеце?*

— *Выяжджаю,* — кажу…

— *Плюньце, ашукаецеся… аставайцеся на месцы; будзем працаваць; калі вам страшнавата, дык на пару дзён пераходзьце да мяне… в тесноте, да не в обиде…*

Я падзякаваў прафэсару за прапанаваную ім гасьціннасьць, якую выкарыстаў-бы пры іншых акалічнасьцях як высокую для сябе чэсьць.

— *Дык можа ўжо і не пабачымся?* — кажа Карскі, ціснучы мне руку.

— *Што Вы, пане прафэсар? Я дзяжуру тут, пакуль будзе магчыма, папільную і Вашых мяшочкаў, пакуль вернецеся па іх. Яшчэ пасьпеем пагаварыць і разьвітацца. Я думаю, што выеду не раней, як позна ўвечары.*

Карскі засьпяшаўся, узяў на плечы адзін са сваіх пакункаў і панёс. Ад гасьцініцы «Гарні» да яго кватэры на Вясёлай хады было добрых мінут 40 з ношаю на плячох у гэткую, як тады, гарачыню, праз горну сквэру і Губэрнатарскага Саду.

Вяртаючыся крыху назад да нашых менскіх перажываньняў, не магу прапусьціць некаторых здарэньняў, якія, здаецца, найлепш вытлумачаць, чаму Карскі зь Менску не павандраваў на захад.

Не палітык, а да мозгу касьцей вучоны, ён пагрузіўся ўсёю душою ў сваю капітальную працу. Без петраградскай Акадэміі навук ці-ж мог ён гэтую працу апублікаваць? А знацца з голадам часамі ды цягаць ваду на плячах, чуючы да сябе беларускі *халадок* дзеячоў заходняй арыентацыі, ці-ж ня ўсё роўна было яму дзе і пры якой уладзе?

У аднэй гутарцы, калі я падчыркнуў, колькі яму трудоў каштавала яго вялікая праца, Карскі скромна зазначыў, што зрабіў ён толькі пачатак, што тут работы не пачаты край, што ім уложаны плян поўнага беларускага слоўніка, які трэба сабраць, але на гэта жыцьця яго аднаго ўжо ня стане, і зазначыў выразна, што працы яго тэхнічна немагчыма выдрукаваць ну хоць-бы ў гэткім Менску, бо тут патрэбная Акадэмія навук з сваім апаратам.

Лёгкаважнае адношаньне да Карскага нашых дзеячоў у Менску ў 1919–1920 г. пазволю сабе ілюстраваць яшчэ і гэткім характэрным фактам.

Ня помню дакладна, у які час пасьля прыходу палякаў у Менск, праф. Карскі быў (праўда, на вельмі кароткі час) арыштаваны вайсковай жандармэрыяй. Прачытаўшы ў газэтах вестку аб гэтым ці даведаўшыся неяк іначай (цяпер гэтага добра ня помню), я з сябром Бел[арускай] Вайск[вай] Камісіі М-кім пайшоў да В[ацлава] Іваноўскага. Паведаміць Іваноўскага пра арышт Карскага мы лічылі патрэбным, таму што Іваноўскі

[250] **Багадзельная вуліца** — цяпер вуліца Камсамольская.

быў лічаны беларусамі як даўны знаёмы Начальніка Польскай Дзяржавы Язэпа Пілсудскага і сваёю інтэрвэнцыяй перад адноснымі ўладамі мог Карскаму памагчы.

Іваноўскі аднёсься да арышту Карскага больш чымсь з іроніяй — зь няўтойваным сарказмам; інтэрвэньяваць усё-ж такі, здаецца, дэкляраваў, але справа абыйшлася-б і бяз гэтага.

Паздраўляючы Карскага, пры першай сустрэчы, з хуткім звальненьнем, я даведаўся ад прафэсара, што ў жандармэрыю прыходзілі два маладыя польскія афіцэры, былыя студэнты Варшаўскага ўнівэрсытэту (дзе Карскі быў у свой час рэктарам) і ручаліся за яго як за свайго былога вучыцеля і парадачнага чалавека. Карскі быў вельмі рад з гэткага рыцарскага паступку сваіх былых студэнтаў, якія заступіліся за яго па сваёй уласнай ініцыятыве.

Яшчэ раз — і, на жаль, апошні — я пабачыўся з Карскім, калі ён вярнуўся па свой другі пакунак у гасьцініцу «Гарні» на Багадзельнай вуліцы. Палажэньне маё выглядала ўжо зусім апэрэтачным. З васьмёх сяброў Вайсковае Камісіі быў на месцы адзін толькі капітан Я-кі.

Ня ў прыклад зь іншымі сустрэчамі, гэтая нашая апошняя сустрэча з Карскім і разьвітаньне зь ім было для мяне даволі сумным. На самай глыбіні беларускага палітычнага віру ў Менску праз кароткі час мы сустракаліся разам: з аднаго боку вялізны карабель — Карскі, якому, зусім зразумела, былі бліжэйшыя вялікія, хоць і скаламучаныя ды закрываўленыя бальшавізмам, расейскія воды, надходзіўшыя на Менск, а з другога боку — я, вутлы човен, якому раднейшаю здавалася наша беларуская мелкаводнасьць, дзе, як пасьля аказалася, і чаўну нават ня штука сесьці на мель. Развал і паніка ўжо заўважалася ў Вайсковай Камісіі з самае раніцы памятнага дня. Гэта не магло ўцячы ад мудрага вока праф. Карскага, зайшоўшага туды па свой паёк. І я веру, што яму шчыра шкада было мяне ў ролі вартаўніка пусьцеўшае з кожнаю мінутаю няўдалае беларускае ваеннае сцэны. Ён



ізноў прапанаваў мне прытулішча ў сваёй кватэры, каб ўратаваць мяне ад магчымых жахаў першай бальшавіцкай хвалі. Я адказаў, што ніколі не пазволіў-бы сабе падводзіць яго пад вялікую рызыку адказваць за ўкрываньне беларускага *«белагвардзейца, контррэвалюцыянэра»* і г. д., калі-б на'т быў змушаны ў Менску астацца. Цяжка было гаварыць. Нешта рвалася ў сэрцы маім, меўшым да прафэсара моцную прывязанасьць заўсёды, а тут выступіўшую з усёю сілай. Прафэсар пераконваў мяне, што ў Менску ня страшна яму аставацца, зазначыў гэта лёгка, як быццам прыказкаю нават, што *«ня гэткі страшны чорт, як яго малююць»*.

Я папрасіў Карскага сесьць і адпачыць крыху. Ён сумна паглядаў на мяне ў часе гэтай апошняй гутаркі.

Можа, сваім павядзеньнем у той мамэнт я зрабіў аднуадзіную нявольную прыкрасьць у сваім жыцьці прафэсару Карскаму, не пайшоўшы насустрач яго думцы? Хай даруе мне яго сьветлая душа!

Я вылажыў яму тое, што тады думаў, зусім шчыра.

Ход гэтых думак быў больш-менш такі:

Нашыя вайсковыя аддзелы, хоць быўшыя толькі ў завязі (адна кампанія салдатаў у некалькі дзесяткаў чалавек), як-ніяк зьяўлялася калі не складоваю часьцю геройчнае Польскае Арміі, дык нейкім яе прыдаткам. Армія гэта перажывала свае «чорныя дні» адступленьня. Ці-ж ахвотнікам у беларускія аддзелы я паступіў толькі на тое, каб у трудны мамэнт стаць дэзэртырам? Ідэя вызваленьня Польшчы, а пры яе дапамозе і Беларусі, была тады не аднаму мне куды бліжэйшай за нічым непрыкрытую ідэю Троцкага заліць бальшавіцка-расейскаю навалаю і Беларусь, і Польшчу. Я параўноваў дзьве рэальныя сілы, якія тады бароліся на беларускай зямлі.

Польшча паўстала да жыцьця самастойнай дзяржавай, дзякуючы мудрай тактыцы барацьбіта-рэвалюцыянэра Язэпа Пілсудскага, у дадзены мамэнт ужо Начальніка гэтай дзяржавы і Галоўнага Павадыра ўсіх яе збройных сілаў.

Бальшавізм ужо вядомы быў голым гвалтам над волю Беларусі — разгонам Усебеларускага Зьезду.

Калі бальшавікі нешта дэмагагічна і бубнілі пра самаазначэньне народаў, дык *«азначаць»* гэтыя народы стараліся сваім тэрорам. Адозва Начальніка Польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага да жыхароў былога Вялікага Князьства Літоўскага за 24 красавіка 1919 г. прамаўляла да беларускай душы шмат выразьней[251].

Вялікі аўтар гэтай адозвы ў арэоле славы ад бліскучых перамогаў над бальшавіцкаю чырвонаю арміяй без параўнаньня больш імпанаваў беларускаму сэрцу, як бальшавіцкі *главковерх* Леў Троцкі — кат расейскай рэвалюцыі і ўсіх прынесеных ёю неапісальных свабодаў, якімі ўпіваліся мільёны людзей пры кароткачасовай *«безрэжымнасьці»* Керэнскага…

Па якім баку стаяць у гігантычнай барацьбе, я выбраў даўно і дабравольна. Мяняць пазыцыю лічыў нячэсным.

Але ўсё гэта была палітычная аргумэнтацыя, і Карскаму выразна было цяжка мяне слухаць. Дасюль мы гаварылі заўсёды аб беларускай мове, аб нашай літаратуры ды навуцы. Ніводнае няяснае для мяне пытаньне аб зьявішчах у нашай мове праф. Карскі ніколі не пакідаў без адказу, шмат чым дзяліўся са мною з свае вялікае веды.

Помню томны, быццам бацькоўскі, пагляд вачэй Карскага на мяне, калі я абгрунтоўваў сваю пазыцыю з гумарам вісельніка (мне не ставала да поўных 29-ёх гадоў паўтара месяца, а Карскі, аказваецца, быў за мяне старэйшы гадоў на 30, хоць старым ён тады не выглядаў).

Нарэшце і мой, бытавы такі, але, у дадзенай абстаноўцы, моцны аргумэнт вайскова-этычнага характару. Я расказаў Карскаму, што пакуль чакаў яго павароту, дык капітан Я-кі спытаўся ў мяне на чатыры вочы:

[251] Напэўна, маюцца на ўвазе словы Юзафа Пілсудскага *«Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі»*, сказаныя ім пасля захопу Гродна ў 1919 г. адносна прынцыпаў будучых дачыненняў палякаў з беларусамі і іншымі народамі былога Вялікага Княства Літоўскага.



*— Макар! Ты астаешся ці выяжджаеш?*

*— Выяжджаю. Што за пытаньне?*

*— Чэснае слова афіцэра?*

*— Так, пане капітану.*

Я нават праясьніў, што атрымаў ад капітана Я-га на дарогу запрапанаваныя ім 1000 марак (цяперашнія 100–150 злотых, але фактычная вартасьць гэтых грошай тады азначэньню трудна паддаецца: з мае жонкі пад вечар за стары падзёрты кошык велічыні сярэдняга чэмадана садрала нейкая мяшчанка цэлых 300 марак).

Мы разьвіталіся з Карскім, шчыра жадаючы адзін аднаму ўсяго найлепшага. Хто-ж мог тады падумаць, што разьвіталіся назаўсёды?

Назаўтра, г. зн. 9-га ліпня 1920 г., раніцай, безь ніякага асабістага багажу, без плашча нават, зь вялізным кольтам пры боку, я зь Менску выехаў.

Асеўшы ў Вільні з паловы траўня месяца 1921 г., дачуўся я, што праф. Карскі на тым баку рыскае мяжы жыў і здароў. Некім нават была пушчаная дзейка, што бальшавікі адразу-ж далі яму асаблівую магчымасьць пераехаць у Петраград, адвёўшы на гэта спэцыяльны цягнік з паравоза і аднаго вагона. Ня ведаю дасюль, ці гэта праўда? А хто ведае, ці не паехалі-б мы на бальшавіцкім *«чёрным вороне»* разам на менскую Камароўку ці на *луну* адразу, калі-б я прафэсара паслухаў і ў яго хаваўся?

Неяк у 1926, здаецца, годзе я бачыў сваімі вачыма выдрукаваны якраз той том яго працы, які ў 1920 г. ляжаў у яго на стале ў рукапісе. Перакідаючы карткі гэтага тому, я заўважыў, што там надрукавана і тое-сёе з напісанага ды апублікаванага мною ўжо тут, у Вільні. Ці-ж трэба дадаваць, што я рад быў зь некаторага духовага кантакту зь вялікім вучоным? У Менску-ж я прасіў яго пры ацэнцы мае пісаніны адносіцца да мяне як найстражэй.

Ня цэнены, як трэба, у 1920 г. у Менску, праф. Карскі ня быў таксама цэнены і сваімі, наскора ахварбаванымі, беларускімі бальшавікамі там пазьней. Як і даўней, ён працаваў, здаецца, больш у Петраградзе.

А ў Менску?

Давялося мне неяк чытаць «Полымя». Колькі ненавісьці да Карскага выліў у гэтым журнале малаасьвечаны наагул, хоць і горды сваім тытулам *«першага беларуска-пролетарскага пісьменьніка»* Жылуновіч (Цішка Гартны)! Колькі зайздрасьці і галаслоўных закідаў чарнасоценства ў словах савецкага «вучонага» Дзяржынскага (дарэчы сказаць, былога нашага вурадніка Вайсковай Камісіі — Чаржынскага[252])!

А тымчасам нідзе і нікім не даказана прыналежнасьць праф. Карскага да якое-небудзь чарнасоценнае групы. Адно ясна: ніякага манархічнага, як і ніякага, зусім зразумела, марксісцкага падходу да свае вялікае навуковае працы праф. Карскі не рабіў, нічыіх, модных у бальшавікоў, сацыяльных заказаў не выпаўняў.

Перайшоў пяць год назад за межы дасягальнасьці ўсякіх рэжымаў і чалавечых інтрыгаў.

Пакінуў Беларусі каштоўны прадукт свайго працоўнанавуковага жыцьця.

І гэта хіба найлепшы для яго памятнік, збудованы ўласнаю яго ведаю і шматгадовымі трудамі.

[252] **Уладыслаў Чаржынскі** (псеўд. Дзяржынскі, 1897–1974), крытык, літаратуразнаўца. Супрацоўнік Інбелкульта ад часу заснавання, распрацоўваў грамадазнаўчую тэрміналогію (выйшла ў 1927 г. у шэрагу іншых выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі»). Удзельнічаў у перакладзе прац рускамоўных вучоных на беларускую мову (у прыватнасці, «Паэтыкі літаратурных жанраў» Я. Барычэўскага, «Нарысаў па гісторыі белрускай літаратуры» М. Янчука і інш.). Складальнік хрэстаматыі «Выпісы з беларускай літаратуры».



*Раздзел II*

# ПРА ЯГО

*Казімір Сваяк*

## Аб маіх крытыках[253]



✦ *Казімір Сваяк*

З прыладамі хірурга ласкава падышлі
І палажылі досьлед на душы маей —
Чаго ня відзеў сам, Вы хутка там
знайшлі,
Што бачыў сам, сказалі да людзей.
Падзячны я, бо праўду шмат люблю
І ў век кароткі мой хацеў яе адкрыць;
А толькі вось, на жаль, яе няўзнар
глумлю —
Аб гэтым Суліма сказаў як мае быць.
А Сьветазар — надзеяй абдарыў
Выдатны талент мой, каб меў бы радасьць я;
Затое «ех», — што толькі я твары́ў, —
Пытаньнем дараваў, — расьці душа мая!
Але прыйшла пара. Нядужасьць адабрала
Сумлівае пяро ды з слабае рукі…
Мне жаль вясны (такая не бывала!)
І — крытыкаў… і жаль жыцьця — ракі.

*1926*

[253] Друкуецца паводле: Казімір Сваяк. Выбраныя творы. Мінск, 2010. С. 158.

## Краўцоў, Светазар, Звончык: вопыт біяграфіі Макара Касцевіча

Бадай, у беларускай літаратуры няма іншага аўтара, які б гэтак цудоўна і эфектна жангліраваў сваімі псеўданімамі, як гэта рабіў Макар Касцевіч. Поўную бібліяграфію гэтага пісьменніка нават сёння скласці амаль нерэальна, бо ўсё жыццё ён хаваўся на старонках газет і часопісаў пад markрознымі маскамі. Нягледзячы на значную разрэкламаванасць у беларускім культурным асяроддзі яго постаці (больш вядомай для сучасных беларусаў пад псеўданімам Макар Краўцоў) дзякуючы аўтарству «гімна БНР», біяграфія Касцевіча па-ранейшаму ўяўляе сабою недаследаванае поле, перапоўненае невядомымі момантамі, загадкамі і супярэчнасцямі. Раскруціць гэты клубок магчыма толькі дзякуючы аналізу вялікай колькасці матэрыялаў з беларускіх і польскіх перыядычных выданняў, архіўных дакументаў і асабістых дакументасховішчаў. У беларускай гістарычнай біяграфістыцы, як і ў літаратуразнаўстве, сёння няма спецыяльных даследаванняў, прысвечаных асобе Макара Касцевіча. А гэтая асоба па сваім творчым дыяпазоне і авантурнай біяграфіі заслугоўвае ці не асобнага тома ў серыі «Жыццё знакамітых беларусаў».

У 1920-я гг. паэтычныя творы пісьменніка Касцевіча ўжо былі заўважаны двума вядомымі даследчыкамі літаратуры — Яўхімам Карскім і Максімам Гарэцкім, што сталася добрым маркерам уваходжання ў найвышэйшае кола беларускай літаратурнай прасторы[254]. Тым не менш грунтоўнага літаратуразнаўчага аналізу яго творчасці няма да сёння, калі не лічыць некаторыя згадкі ў нарысе Арсеня Ліса «Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі», якія збольшага мелі азнаямляльны характар[255]. Бібліяграфія твораў пісьменніка, складзеная Таццянай Махнач для слоўніка «Беларускія пісьменнікі», таксама патрабуе значнай карэкціроўкі[256].

У біяграфічным плане пісьменнік, а ў некаторай ступені і палітык Макар Касцевіч, як ахвяра сталінскіх рэпрэсій, у савецкі перыяд быў цалкам забыты[257]. Толькі ў канцы 1980–1990-х гг. з’явіліся невялікія паводле аб’ёму публікацыі, дзе аўтары падавалі агульную інфармацыю пра яго жыццё і творчасць, аднак з-за адсутнасці шырокай крыніцавай базы многія эпізоды ў гэтых артыкулах наўпрост не закраналіся ці губляліся[258]. Важным унёскам у раскрыццё жыццёвых старонак Касцевіча-Краўцова можна лічыць успаміны яго сваяка Міхаіла Платонавіча

---

[254] Карский, Е.Ф. Белорусы. Т. 3. Кн. 2. Минск, 2007. С. 604–606; Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры. Выданьне другое. Вільня, 1921. С. 202. Цікава, што ў савецкім перавыданні гэтай кнігі згадкі пра Макара Касцевіча былі прыбраны альбо цэнзурай, альбо ўласна аўтарам. Параўн.: Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры. Менск, 1926.

[255] Ліс, А. Gloria victis! Збор твораў. Мінск, 2010. С. 241, 243, 247. Гэты нарыс А. Ліса быў першапачаткова надрукаваны ў акадэмічным выданні па гісторыі беларускай літаратуры XX ст.: Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 т. Т. 2. Мінск, 1999. С. 210–281.

[256] Махнач, Т. Бібліяграфія Макара Краўцова. // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік. У 6 т. Т. 3. Мінск, 1994. С. 416–418.

[257] Імя Макара Касцевіча ў пасляваенны перыяд ускосна згадвалася толькі ў адной з кніг У. Калесніка пра літаратуру міжваеннай Заходняй Беларусі. Аўтар безумоўна крытычна ставіўся да Касцевіча і яго творчасці, лічыў яго «палітычным спекулянтам» і памылкова называў «паэтам-нашаніўцам». Гл.: Калеснік, У. Час і песні : літаратурныя нарысы і партрэты. Мінск, 1962. С. 62.

[258] Цыхун, А. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…». Лёс і вершы Макара Краўцова // Літаратура і мастацтва. 1990. 16 сакавіка. С. 16; Клімковіч, А., Сокалаў-Воюш, С. Краўцоў Макар // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік. У 6 т. Т. 3. Мінск, 1994. С. 416; Цыхун, А. Паэт Макар Краўцоў // Сыны і пасынкі Беларусі. Мінск, 1996. С. 347–356; Гесь, А. Краўцоў Макар // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 4. Мінск, 1997. С. 254; Цыхун, А. Пройдзеныя шляхі-пуцявіны: запіскі, успаміны, аўтабіяграфія. Гродна, 2002.

Касцевіча пра вёску Баброўня і яе мікрасоцыум у XX ст.[259] Дарэчы, згаданая вёска ў Гродзенскім раёне, што дала беларускай літаратуры не толькі Макара Краўцова, але і Міхася Васілька, стала аб'ектам даследавання беларускага гісторыка Сяргея Токця, які звярнуўся да вывучэння генеалогіі роду Касцевічаў[260]. Шмат новых звестак пра жыццё пісьменніка можна знайсці ў артыкуле Івана Будніка, дзе, аднак, таксама ёсць некаторыя факталагічныя памылкі[261]. Разам з тым, постаць Макара Касцевіча настолькі шматгранная ў беларускай найноўшай гісторыі, што наўрад ці яе трэба пакідаць у рамках звычайных энцыклапедычных артыкулаў. У гэтым нарысе будзе зроблена спроба акумуляваць здабыткі ранейшых даследаванняў біяграфіі Макара Касцевіча і спалучыць іх з архіўнымі знаходкамі, матэрыяламі перыядычнага друку, каб найбольш змястоўна аднавіць ролю гэтага дзеяча ў беларускім нацыянальным руху XX ст.

Будучы літаратар нарадзіўся ў вёсцы Баброўня (сучасны Гродзенскі раён) 18 жніўня 1891 г. у сям'і Мацвея Бенядзіктавіча Касцевіча. Род Касцевічаў паходзіў з вёскі Бершты, што знаходзілася ў знакамітай Гарадзенскай пушчы і нагадвала пра даўнейшыя часы славянскай каланізацыі балцкага асяроддзя. Як сведчыў сам Касцевіч, яго продкі займаліся кравецкай справай і шылі кажухі, ад чаго і пайшоў найбольш папулярны псеўданім пісьменніка — Краўцоў[262]. Бацька Макара Мацвей у 1882 г. перасяліўся з Берштаў у Баброўню да свайго дзядзькі

[259] Касцевіч, М. Баброўня — астравок культурнага адраджэння ў Заходняй Беларусі // Куфэрак Віленшчыны. 2007. № 1. С. 128–157.
[260] Токць, С. Баброўня — вёска паэтаў: да пытання аб генеалогіі сялянскага роду Касцевічаў // Беларускі гістарычны часопіс. 2013. № 1. С. 15–21.
[261] Буднік, І. Імя яго паўстае з забыцця // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны: зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 6. Гродна, 2017. С. 170–176.
[262] Краўцоў, Макар. Маскалёвы дзеці // Беларускі звон. № 22. Вільня, 1921. С. 2.



і стаў даволі заможным гаспадаром[263]. Ён меў больш за 30 дзесяцін ворыўнай зямлі, лесу і сенажацяў, шмат хатняй жывёлы[264]. Акрамя Макара ў сям'і было яшчэ шэсць дзяцей. Паказальна, што, паводле перапісу насельніцтва 1897 г., у сям'і Мацвея Касцевіча практычна ўсе былі пісьменнымі: сам гаспадар, яго поўнагадовыя сыны і нават трынаццацігадовая дачка Агата, што для беларускага сялянскага соцыуму ў тыя часы было вялікай рэдкасцю[265]. Прага ведаў і новых адкрыццяў у Макара Касцевіча закладвалася ўжо з ранняга дзяцінства.

Першапачатковую адукацыю Макар атрымаў у царкоўна-прыхадской школе суседняй вёскі Галавачы. Гімназіяльная адукацыя ў горадзе была нятанная, таму многія сяляне аддавалі сваіх дзяцей вучыцца ў настаўніцкія семінарыі. Гэта была фактычна адзіная магчымасць для сялянскіх дзяцей «выйсці ў людзі» ў тагачаснай Беларусі ва ўмовах адсутнасці вышэйшай адукацыі. Настаўніцкія семінарыі, створаныя расійскімі ўладамі ў другой палове XIX ст., давалі сярэднюю адукацыю і кваліфікацыю настаўніка народных вучылішч, забяспечвалі сваім навучэнцам неблагія стыпендыі, аднак, разам з гэтым, з'яўляліся моцнай базай русіфікацыі маладых людзей і выхавання ў лаяльным для імперыі духу. Макар Касцевіч вучыўся ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1910 г.[266] Дарэчы, яго аднакласнікам быў Антон Баліцкі — будучы народны камісар асветы БССР і адзін з архітэктараў знакамітай палітыкі беларусізацыі.

Пасля заканчэння семінарыі Касцевіч мусіў адпрацаваць чатыры гады настаўнікам у народных вучылішчах на Гарадзеншчыне. Нявыключана, што, працуючы

[263] Токць, С. Баброўня — вёска паэтаў: да пытання аб генеалогіі сялянскага роду Касцевічаў. С. 15.
[264] Буднік, І. Імя яго паўстае з забыцця. С. 171.
[265] Токць, С. Баброўня — вёска паэтаў: да пытання аб генеалогіі сялянскага роду Касцевічаў. С. 16.
[266] Токць, С. Баброўня — вёска паэтаў: да пытання аб генеалогіі сялянскага роду Касцевічаў. С. 16.



✦ *Макар Касцевіч (злева) падчас Першай сусветнай вайны. Здымак з прыватнага архіва Любові Кароткінай*

настаўнікам, ён якраз у гэты перыяд мог пазнаёміцца з сацыялістычнымі ідэямі і ідэаламі беларускага нацыянальнага руху.

З пачаткам Першай сусветнай вайны Макар Касцевіч быў мабілізаваны ў расійскую армію, дзе першапачаткова служыў у Гарадзенскай дружыне дзяржаўнага апалчэння. Гэтая частка ваявала на Заходнім фронце, і разам з ёй малады настаўнік прайшоў праз адступленне 1915 г. і абарону Ковенскай крэпасці. Амаль увесь час знаходжання ў войску Касцевіч быў штабным пісарам розных вайсковых злучэнняў. Цікава, што ён меў даволі арыгінальны почырк, знешне падобны да арабскай вязі. У лютым 1916 г. будучы пісьменнік быў адкамандзіраваны ў Пскоўскую школу прапаршчыкаў, якую скончыў у чэрвені таго ж года. Пасля быў пераведзены на Паўднёва-Заходні фронт, на тэрыторыю сучаснай Украіны, дзе служыў у 44-м пяхотным корпусе[267].

Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. у Расіі значна змяніла лёс шматтысячнай расійскай арміі, што некалькі год вяла «акопную» вайну. Пачалася дэзінтэграцыя арміі,

[267] Касцевіч, М. Баброўня — астравок культурнага адраджэння ў Заходняй Беларусі. С. 137; Gierowska-Kałłaur, J. Białoruska Komisja Wojskowa w świetle materiałów przechowywanych w Fondzie Trofiejnym w Moskwie // Nowy Prometeusz. №11. 2018. S. 200.



звязаная з фармаваннем рэвалюцыйнай армейскай дэмакратыі ў выглядзе салдацкіх камітэтаў. Многія людзі, якія раней ніяк не ўдзельнічалі ў палітычным жыцці, на хвалях рэвалюцыйных пераўтварэнняў рабіліся прафесійнымі палітыкамі і ўпраўленцамі. Расійскі гісторык Барыс Каланіцкі назваў такіх людзей прадстаўнікамі «камітэцкага класу» — класу, які складаўся з актывістаў розных салдацкіх камітэтаў, прафсаюзаў, нацыянальных рухаў, масавых арганізацый, абуджаных у лютым 1917 г. і жадаючых рэалізаваць свае амбіцыі ва ўладзе[268]. У прадстаўнікі камітэцкага класу можна запісаць і Макара Касцевіча, лёс якога цалкам змяніўся менавіта пасля лютага 1917 г. Сацыяльны ліфт рэвалюцыі прывёў яго на пасаду старшыні салдацкага камітэту 44-га пяхотнага корпуса. Таксама ў гэты перыяд Касцевіч пачаў цікавіцца беларускім нацыянальным рухам, што разгарнуўся ў тагачасным Мінску. Паводле яго ўласнага прызнання, пры канцы 1917 г., знаходзячыся на фронце, ён ужо меў сталыя кантакты з некаторымі беларускімі арганізацыямі і атрымліваў беларускую літаратуру[269].

Менавіта ад салдацкага камітэта 44-га корпуса, у якім служыла шмат выхадцаў з Беларусі, Касцевіч быў дэлегаваны на Усебеларускі з'езд 1917 г. Ён браў самы чынны ўдзел у гэтым мерапрыемстве. Армейскі вопыт штабнога пісара спатрэбіўся яму і ў грамадскай працы — малады дзеяч быў прызначаны пісарам Рады Усебеларускага з'езду[270]. Тым не менш арганізацыя самога мерапрыемства не вельмі задавальняла Касцевіча. У сваіх успамінах ён згадваў: *«Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Ня было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала б гарантыю таго,*

[268] Колоницкий, Б. #1917: Семнадцать очерков по истории Российской революции. Санкт-Петербург, 2017. С. 118–119.

[269] Краўцоў, М. 20 гадоў назад // Шлях моладзі. № 4. Вільня, 1938. С. 2.

[270] Архівы БНР. Т. 1. Кн. 1. Вільня—Нью-Ёрк—Менск—Прага, 1998. С. 37.

*што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца»*[271]. На жаль, перасцярогі аказаліся справядлівымі.

Пасля разгону Усебеларускага з'езду бальшавікамі Макар Касцевіч супрацоўнічаў з Выканаўчым камітэтам Рады, які працягваў сваю дзейнасць у паўпадпольных умовах у Менску. З'яўляючыся членам камітэта, ён, як былы настаўнік, адказваў за сферу асветніцтва[272]. У лютым 1918 г. Касцевіч браў актыўны удзел у станаўленні першых беларускіх дзяржаўных органаў і спробах Выканаўчага камітэта захапіць уладу ў Менску. Пасля таго як 18 лютага 1918 г. нямецкія войскі пачалі наступ па ўсёй лініі расійска-германскага фронту, менскія бальшавіцкія ўлады былі вымушаны эвакуявацца з горада. Дзякуючы хуткім дзеянням Касцевіча і Язэпа Мамонькі ў тыя дні на бок беларусаў былі перацягнуты два бальшавіцкія батальёны, а гарадскі арсенал знаходзіўся пад кантролем Выканаўчага камітэта[273]. 21 лютага 1918 г. беларускія дзеячы ў Менску ў Першай Устаўной грамаце абвясцілі аб стварэнні першага ў навейшай гісторыі беларускага ўраду — Народнага сакратарыяту Беларусі на чале з Язэпам Варонкам. На першым пасяджэнні ўраду Макару Касцевічу было прапанавана заняць пасаду камісара менскай губернскай друкарні[274]. Невядома, ці прыняў ён гэтую прапанову, аднак 25 лютага 1918 г. Менск занялі нямецкія войскі і станаўленне беларускіх органаў улады адбывалася ўжо ў зусім іншых умовах.

Як адзін з актыўных дзеячаў Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езду, Макар Касцевіч у сакавіку 1918 г. пасля абвяшчэння Другой Устаўной граматы стаў радным Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. 24–25 сакавіка ён браў удзел у знакамітым пасяджэнні, на якім

[271] Краўцоў, М. 20 гадоў назад. С. 3.

[272] Краўцоў, М. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. № 1. Мінск, 1998. С. 78.

[273] Краўцоў, М. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі… С. 86, 89.

[274] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (ДАРФ). Ф. 6063. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 133.



ішлі гарачыя дыскусіі па пытанні абвяшчэння незалежнасці беларускай дзяржавы. Праз 10 гадоў пасля гэтых падзей Антон Луцкевіч, які лічыў Касцевіча асабістым ворагам, напісаў ва ўспамінах, што той выказваўся супраць абвяшчэння незалежнасці[275]. Ведаючы пра даволі напружаныя адносіны абодвух дзеячаў, можна лічыць гэтую згадку нацягнутай і кан'юнктурнай. Прынамсі, аўтарству Касцевіча належыць артыкул «Рашучы акт», напісаны адразу пасля згаданай гістарычнай падзеі, дзе аўтар усхваляў смелы крок Рады БНР абвясціць незалежнасць Беларусі[276].

Першапачаткова ў структурах БНР Касцевіч выконваў вельмі цікавую функцыю — быў перакладчыкам Народнага сакратарыяту на беларускую мову. У яго абавязкі ўваходзіла перакладаць афіцыйныя паперы беларускага ўрада з рускай мовы на беларускую[277]. Дзеячы, якія прыйшлі ў беларускі нацыянальны рух на хвалях Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і якіх можна ўмоўна назваць *«пакаленнем 1917 года»*, былі ў большасці сваёй прадстаўнікамі зрусіфікаванай інтэлігенцыі. Язэп Варонка, Палута Бадунова ці Пётра Крэчэўскі ў 1918 г. карысталіся рускай мовай і ў штодзённым жыцці, і, зразумела, у палітычнай дзейнасці[278]. Тым не менш іх ангажаванасць у нацыянальны рух прымушала вяртацца да каранёў і выкарыстоўваць беларускую мову спачатку паралельна, а пасля, паступова, і як асноўную ў дакументазвароце і побыце. Паказальна, што сам Касцевіч таксама з'яўляўся прадстаўніком *«пакалення 1917 года»*, аднак на той час

[275] Луцкевіч, А. Да гісторыі беларускага руху. Вільня—Беласток, 2010. С. 189.

[276] М. К. Рашучы акт // Вольная Беларусь. № 11. Менск, 1918. С. 1–2.

[277] ДАРФ. Ф. 6063. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 96.

[278] Падрабязней пра гэта гл.: Горный, А. От «поповичей» до студентов: коллективная биография деятелей белорусского национального движения времен Гражданской войны // Гражданская война в России: Жизнь в эпоху социальных экспериментов и военных испытаний, 1917–1922. Санкт-Петербург, 2020. С. 302.

ён добра валодаў роднай мовай. Гэтая акалічнасць яшчэ раз пацвярджае думку, выказаную вышэй, — ён мог мець нейкія кантакты з нацыянальным рухам яшчэ да Першай сусветнай вайны: напрыклад, выпісваць беларускія газеты і сам пісаць туды.

У сакавіку 1918 г. у Менску Макар Касцевіч разгарнуў яшчэ адну старонку сваёй біяграфіі — літаратурную. Яго дэбютам у менскіх выданнях можна лічыць верш «Што будзе», апублікаваны ў газеце «Вольная Беларусь» 10 сакавіка 1918 г. за подпісам *«Макар»*[279]. Далей ён супрацоўнічаў не толькі з «Вольнай Беларуссю», але і з іншымі перыёдыкамі: напрыклад, «Беларусь», «Звон», «Рунь», дзе на працягу 1918–1920 гг. змяшчаў вершы, пераклады замежных аўтараў, фельетоны і кароткія апавяданні. Менавіта ў менскім друку з'явіўся і найбольш вядомы псеўданім пачынаючага літаратара — Макар Краўцоў.

Канец 1918 г. быў азнаменаваны для дзеячаў БНР спешнай эвакуацыяй з Менска ў сувязі з бальшавіцкім наступам. Частка радных БНР і сябраў урада, у ліку якіх быў і Макар Касцевіч, у снежні 1918 г. апынулася ў Гродна (ці як прынцыпова называў гэты горад Касцевіч — Горадзен). Сваё з'яўленне ў гэтым горадзе паэт пазней апісаў у вершы «Паварот да Горадна», дзе сярод іншага ёсць такія радкі: *«Вітай-жа Горадзен, дзяціну / Тваіх муроў, тваей ральлі. / Хоць ты прытуліўшчам будзь сыну — / Выгнанцу роднае зямлі»*[280]. У горадзе яшчэ былі нямецкія акупацыйныя войскі, што давала магчымасць беларускім дзеячам са складу БНР некаторы час заставацца на беларускай тэрыторыі. Тады ж літоўскія ўлады са згоды часткі беларускіх актывістаў і Віленскай беларускай рады пачалі арганізоўваць у былой Гродзенскай губерні свае органы кіравання. Міністр беларускіх спраў літоўскага ўрада Язэп Варонка атрымаў дазвол прызначаць

[279] Макар. Што будзе? // Вольная Беларусь. № 8. Менск, 1918. С. 1.

[280] Цытата паводле: Чарнякевіч, А. Паміж грызнёй і барацьбой. Беларускі палітычны нацыяналізм у Горадні (канец 1918 — пачатак 1921 гг.) // Arche. № 3. Менск, 2009. С. 355.



у паветы з большасцю беларускага насельніцтва сваіх камісараў. У пачатку 1919 г. у спісе камісараў літоўскага ўрада значылася таксама прозвішча Макара Касцевіча, які быў накіраваны ў Сакольскі павет. Аднак нямецкія акупацыйныя ўлады ў Саколцы холадна сустрэлі новага «кіраўніка». Паводле пастановы мясцовай нямецкай салдацкай рады на працягу 14 дзён Касцевічу забаранялася вусная і пісьмовая беларуская агітацыя. *«Ніякія зносіны Вашы з насяленьнем недапусцімы»,* — пазначалася ў адказе немцаў на запыт Касцевіча[281]. Паказальна, што польская рада ўжо дзейнічала ў горадзе без аніякіх перашкодаў з боку немцаў[282].

Вярнуўшыся ў Гродна, Касцевіч некаторы час выконваў даручэнні старшыні Рады міністраў БНР Антона Луцкевіча, які ў складаных умовах спрабаваў узняць беларускае пытанне на міжнароднай арэне. Заўважым, што ў той перыяд адносіны паміж гэтымі дзеячамі складваліся вельмі прыязна, паміж ім не было ніякай асабістай канкурэнцыі, чаго нельга будзе сказаць пра міжваенны перыяд. У прыватнасці, цікавым і маладаследаваным з'яўляецца даручэнне прэм'ер-міністра БНР, паводле якога Касцевіч павінен быў пераехаць у тагачасны савецкі Менск і наладзіць кантакты з беларускімі бальшавікамі, якія на той час абвясцілі незалежнасць Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. Спецыяльна дзеля гэтага Луцкевіч выдаў яму адпаведныя інструкцыі[283]. Выглядае, кіраўніцтва БНР шукала нейкага паразумення з нацыянал-камуністамі, каб выкарыстаць магчымасці гэтага саюзу ў перамовах з сусветнай супольнасцю і ў дзяржаватворчых працэсах. Аднак няма звестак пра практычныя вынікі згаданай місіі Касцевіча. Вядома толькі, што ён 21 студзеня 1919 г. пакінуў Гродна, праз

[281] Даклад М. Касьцевіча // Адраджэнне: гістарычны альманах. Вып. 1. Мінск, 1995. С. 239–240.

[282] Луцкевіч, А. Барацьба за вызваленьне. Вільня—Беласток, 2009. С. 239–240.

[283] Луцкевіч, А. Барацьба за вызваленьне. С. 504.

некалькі тыдняў апынуўся ў бальшавіцкім Менску і ўладкаваўся настаўнікам у 22-ю беларускую савецкую школу[284].

1919 год быў вельмі складаным для беларускіх зямель і нацыянальнага руху. Польскія войскі пачалі наступ на ўсход з мэтай адраджэння Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Беларусы нібы апынуліся паміж савецкім молатам і польскім кавадлам. На працягу вясны-лета 1919 г. польскія войскі займалі шматлікія беларускія тэрыторыі, а 8 жніўня імі быў захоплены Менск. Частка беларускіх актывістаў вырашыла знайсці паразуменне з новымі акупацыйнымі ўладамі з надзеяй дамагчыся ад іх прызнання незалежнасці Беларусі. Ужо праз два дні ў горадзе быў утвораны Часовы беларускі нацыянальны камітэт на чале з Аляксандрам Прушынскім (публіцыст і паэт, больш вядомы пад псеўданімам Алесь Гарун), які павінен быў каардынаваць супрацоўніцтва беларускіх арганізацый і ўстаноў Меншчыны з польскімі ўладамі[285]. Прадстаўнікі камітэта імкнуліся арганізаваць беларускія школы, настаўніцкія курсы, гаспадарчыя кааператывы, выдавалі газеты «Звон» і «Беларусь». Менавіта з гэтымі перыёдыкамі пачаў супрацоўнічаць Макар Касцевіч у якасці карэктара і аўтара апавяданняў і вершаў.

Актуальным пытаннем, якое ўзнімалі беларускія актывісты перад польскімі ўладамі, была арганізацыя беларускага войска для барацьбы з бальшавікамі. 28 ліпеня 1919 г. дэлегацыя Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны на чале з Браніславам Тарашкевічам на аўдыенцыі ў Юзафа Пілсудскага перадала апошняму дэкларацыю з просьбай стварыць пры Галоўным камандаванні польскай арміі Беларускую вайсковую камісію, у функцыю якой павінны былі ўваходзіць справы арганізацыі беларускіх узброеных фарміраванняў[286]. Аднак польскія ўлады доўга затрымлівалі гэтую справу, бо, хутчэй за ўсё, баяліся даваць беларусам у рукі зброю. Толькі 22 кастрычніка 1919 г. польскі лідар падпісаў дэкрэт аб фармаванні добраахвотніцкіх беларускіх атрадаў у складзе двух батальёнаў, а таксама заснаванні Беларускай вайсковай камісіі[287]. Узрушаны гэтымі падзеямі Макар Касцевіч з надзеяй стварэння неўзабаве беларускага войска 30 кастрычніка 1919 г. у газеце «Беларусь» апублікаваў самы знакаміты свой твор — верш «Ваяцкі гымн», які пачынаўся вядомымі словамі *«Мы выйдзем шчыльнымі радамі»*[288]. Пазней публіцысты і гісторыкі назавуць гэты верш *«гімнам БНР»*, але насамрэч ён пісаўся як марш для вайскоўцаў толькі што створанай Беларускай вайсковай камісіі.

Як былы вайсковец, Касцевіч не мог застацца ўбаку ад фармавання беларускіх атрадаў польскай арміі і ў снежні 1919 г. далучыўся да Беларускай вайсковай камісіі ў званні падпаручніка[289]. У камісіі ён узначальваў культурна-асветніцкі аддзел, арганізоўваў, у прыватнасці, трохтыднёвыя курсы беларускай мовы і беларусазнаўства. Пры ўдзеле Касцевіча былі перакладзены на беларускую мову польскія вайсковыя статуты і выдадзены асобнымі брашурамі[290]. Аднак унутраная грызня паміж рознымі кіраўнікамі камісіі з-за падзелу сферы ўплываў, а таксама недавер польскага камандавання да самой ідэі стварэння беларускай арміі фактычна паралізавалі дзейнасць камісіі і не далі ёй разгарнуцца напоўніцу. Даходзіла да таго, што палякі самі перашкаджалі вярбовачным афіцэрам камісіі набіраць беларускіх добраахвотнікаў у войска.

[284] Gierowska-Kałłaur, J. Białoruska Komisja Wojskowa w świetle materiałów przechowywanych w Fondzie Trofiejnym w Moskwie. S. 200.

[285] Ляхоўскі, У. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919–1920 гг. // Спадчына. № 6. Мінск, 1994. С. 55.

[286] Instytut Józefa Piłsudskiego w Ameryce (IJP). Adiutantura Generalna Naczelnego Wódza. Teczka 701/2/18. L. 75–76.

[287] Латышонак, А. Жаўнеры БНР. Беласток—Вільня, 2009. С. 114.

[288] Махнач, Т. Бібліяграфія Макара Краўцова. С. 417.

[289] Gierowska-Kałłaur, J. Białoruska Komisja Wojskowa w świetle materiałów przechowywanych w Fondzie Trofiejnym w Moskwie. S. 161.

[290] Латышонак, А. Жаўнеры БНР. С. 126.

Застаючыся амаль недзеяздольнай, у ліпені 1920 г. Беларуская вайсковая камісія разам з іншымі польскім войскамі падчас савецкага наступу была вымушана пакінуць Менск і эвакуявацца ўглыб Польшчы, спачатку ў Варшаву, а затым у Лодзь. Разам з ёй па тэрыторыі Польшчы вандраваў і Макар Касцевіч, які, дарэчы, не губляў часу і ўладкаваў прынамсі сваё асабістае жыццё. У гэты перыяд ён ажаніўся з этнічнай полькай, Ганнай Пшыбыловіч, з якой пазнаёміўся ў Варшаве[291]. З гэтай жанчынай ён пражыў усё жыццё, аднак у пары ніколі не было дзяцей. Паказальна, што Касцевіч навучыў сваю жонку беларускай мове, якой яны карысталіся штодзённа[292].



✦ *Макар Касцевіч з жонкай Ганнай. 1930-я гг. Здымак з прыватнага архіва Любові Кароткінай*

[291] Gierowska-Kałłaur, J. Białoruska Komisja Wojskowa w świetle materiałów przechowywanych w Fondzie Trofiejnym w Moskwie. S. 200.

[292] Верас, Зоська. Я помню ўсё: успаміны, лісты. Гародня—Уроцлаў, 2013. С. 119.



У літаратуры сустракаюцца згадкі, што ў канцы 1920 г. Макар Касцевіч спрабаваў прабрацца да слуцкіх паўстанцаў і, не здолеўшы гэтага зрабіць, арганізаваў пры дапамозе палякаў друкарню ў Слоніме, дзе выпускаў адозвы для случчакоў[293]. Гэтая інфармацыя, аднак, не адпавядае рэчаіснасці. Уладзімір Пракулевіч, адзін з кіраўнікоў паўстання, пазней згадваў, што Касцевіч хоць і быў камандзіраваны Беларускай вайсковай камісіяй у Слонім, але так туды і не дабраўся з асабістых прычын[294]. Тое, што пісьменнік у снежні 1920 г. знаходзіўся яшчэ ў Лодзі, пацвярджае і яго ліст да Антона Луцкевіча, у якім ён, сярод іншага, скардзіцца на адсутнасць «натхнення» ў чужым этнічным асяроддзі[295].

Выглядае, у 1921 г. Макар Касцевіч пакінуў Лодзь і пераехаў з жонкай у Вільню. У гэтым горадзе ён хутка зблізіўся з беларускім асяродкам і пачаў супрацоўнічаць у якасці аўтара з газетай «Беларускі звон», рэдактарам якой быў Францішак Аляхновіч. Сярод іншага, у гэтым выданні былі надрукаваны яго грунтоўныя ўспаміны аб дзейнасці Рады БНР у 1918 г.

Шукаючы сродкі для існавання, недзе пры канцы 1922 г. Макар Касцевіч уладкаваўся на адносна малааплатную, але сталую працу інкасатара ў віленскую Касу хворых. Гэтая арганізацыя ў міжваеннай Польшчы займалася медыцынскім страхаваннем, з'яўлялася важнай часткай органаў мясцовага самакіравання і прафесійных саюзаў. Паказальна, што выбары ў мясцовыя кіраўнічыя структуры Касы хворых у розных рэгіёнах Польшчы лічыліся значнымі палітычнымі кампаніямі, у якіх бралі ўдзел розныя палітычныя сілы, і асабліва сацыялісты. Якраз у пачатку 1920-х гг. у кіраўніцтве віленскай Касы хворых вялі рэй прадстаўнікі сацыялістычных партый, што, хутчэй за ўсё, дапамагло Касцевічу ўладкавацца ў гэ-

[293] Латышонак, А. Жаўнеры БНР. С. 198.

[294] Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. Мінск, 2006. С. 246.

[295] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы. Ф. 21. Спр. 239.

тую ўстанову як носьбіту марксісцкіх ідэй. Аднак менавіта з Касай хворых звязана новая старонка ў яго «заходнебеларускай» біяграфіі, напоўненая бліскучымі авантурамі і рэбусамі. Вясной 1923 г. Касцевіч, маючы доступ да вялікіх грошай, нібы «пазычыў» (а хутчэй за ўсё, проста прысвоіў) у сваёй арганізацыі некалькі мільёнаў польскіх марак[296]. Гэта была адносна невялікая сума на той час, бо ў Польшчы была моцная інфляцыя — для прыкладу, звычайная кніга ў віленскай кнігарні каштавала каля 300 000 польскіх марак. Але сам факт прысваення грошай Касы хворых выклікаў вялікі скандал, які стаў прычынай звальнення Касцевіча са службы і нават прыцягнення яго да кароткатэрміновага арышту[297].

Навошта Макару Касцевічу спатрэбіліся такія сумы, калі ў Касе хворых ён меў невялікі, але дастатковы заробак, каб утрымаць сям'ю з двух чалавек — сябе і жонкі? Адказ на гэтае пытанне можна знайсці ў тагачасных віленскіх газетах, якія сачылі за сітуацыяй вакол страхавой арганізацыі. Як пісалі польскія публіцысты, сацыялістычнае кіраўніцтва віленскай Касы хворых падобным чынам магло фінансаваць беларускі рух праз пасярэдніцтва Касцевіча[298]. Хутчэй за ўсё, грошы, якія літаратар «пазычыў», пайшлі на беларускую справу, а дакладней — на беларускае выданне. Якраз у гэты час, 18 красавіка 1923 г., свет пабачыў першы нумар газеты «Саха», рэдактарам якой і стаў Касцевіч. Газета была своеасаблівым дайджэстам, дзе адлюстроўваліся сусветныя і агульнапольскія палітычныя і эканамічныя праблемы, а ўласна беларускую тэматыку закранала толькі невялікая частка матэрыялаў. Рэдактар пазіцыяніраваў выданне як штотыднёвік з пэўнай левай сацыялістычнай рыторыкай. У рэдакцыйным артыкуле, між іншым, падкрэслівалася: *«Тыднёвік «Саха» зьяўляецца органам працоўных масаў вёсак і гарадоў Заходняй Беларусі — парабкоў, малазямельных, фабрычных і рамесьленых рабочых і усіх родаў служачых»*[299]. Аднак далей першага нумару гэты выдавецкі праект Касцевіча не зайшоў, бо, напэўна, былі вычарпаны магчымасці Касы хворых.

Пасля звальнення са страхавой арганізацыі беларускі літаратар застаўся не толькі без працы, але і з сапсаванай рэпутацыяй, бо ў беларускім асяроддзі Вільні грашовая авантура Касцевіча мела пэўны рэзананс. Таму, дзякуючы кантактам з былым рэдактарам «Нашай Нівы» і сенатарам польскага парламента Аляксандрам Уласавым, восенню 1923 г. пісьменнік зрабіў спробу ўладкавацца настаўнікам у Радашковіцкую беларускую гімназію. Аднак яго кандыдатура на гэтую пасаду не была зацверджана кіраўніком Віленскай вучэбнай акругі нібыта з-за адсутнасці патрэбнай прафесійнай кваліфікацыі, хаця Касцевіч меў педагагічную адукацыю. Хутчэй за ўсё, сапраўднай прычынай адмовы была палітычная ангажаванасць Касцевіча, яго ўдзел у беларускім руху і дрэнная рэпутацыя пасля справы са страхавымі грашыма. Аляксандр Уласаў, карыстаючыся сваім статусам сенатара, звярнуўся нават да міністра народнай асветы і веравызнаняў Польшчы з просьбай перагледзець гэтае рашэнне, але вердыкт застаўся тым жа[300].

Жаданне Макара Касцевіча выдаваць уласную газету, дзеля чаго ён і скраў страхавыя грошы, было абумоўлена яшчэ адной важнай асаблівасцю палітычнай сцэны ў Заходняй Беларусі. З'яўленне дзеяча ў Вільні ў пачатку 1920-х гг. выклікала вельмі негатыўную рэакцыю былога паплечніка і добрага знаёмага Антона Луцкевіча, яшчэ раз пацвярджаючы той незразумелы рок унутранай грызні, які вісеў над беларускім нацыянальным рухам праз усё XX стагоддзе. У 1920-х гг. у Вільні Антон

[296] Kownacki, P. Kto winien? // Dziennik Wileński. № 219. Wilno, 1923. S. 3.
[297] «Дуэт» (выступленьне Алексюка і Косьцевіча) // Беларуская доля. № 4. Вільня, 1925. С. 3.
[298] Kownacki, P. Kto winien? S. 3.
[299] Ад рэдакцыі // Саха. № 1. Вільня, 1923. С. 1.
[300] Хроніка. «Амністыя» Косьцевічу // Праўда. Аднаднёўка. Вільня, 18 сьнежня 1924. С. 3.

Луцкевіч лічыўся негалосным лідарам беларускага руху, гуру беларускай публіцыстыкі — практычна ўсе тагачасныя беларускія перыядычныя выданні выходзілі пры яго ўдзеле і рэдактарскім кантролі. Касцевіч, таксама маючы значны вопыт рэдактарства і літаратурнай дзейнасці, выступаў як патэнцыйны канкурэнт і асоба, якая можа пахіснуць аўтарытэт Луцкевіча ў беларускім асяроддзі. Неўзабаве канфлікт паміж двума інтэлектуаламі перайшоў ад завочнай непрыязні да адкрытых скандалаў. У сакавіку 1922 г. Антон Луцкевіч публічна абразіў свайго апанента, а той у адказ выклікаў яго на дуэль і нават накіраваў сваіх секундантаў[301]. Хутчэй за ўсё, перамог здаровы розум і двубой не адбыўся, аднак абодва дзеячы працягвалі плесці інтрыгі адзін супраць аднаго. Намаганнямі Луцкевіча Макару Касцевічу як аўтару быў закрыты доступ да віленскай беларускай перыёдыкі: у прыватнасці, яго артыкулы не прымаліся да друку ў заходнебеларускую газету «Змаганьне»[302]. 25 сакавіка 1924 г. у залі Віленскай беларускай гімназіі мясцовы беларускі актыў, як звычайна, урачыста святкаваў угодкі абвяшчэння незалежнасці БНР. На запрашэнне дырэктара гімназіі Радаслава Астроўскага на мерапрыемства прыбыў Касцевіч, што выклікала абурэнне Антона Луцкевіча. На знак пратэсту ён разам з жонкай дэманстратыўна пакінуў гімназію, а Астроўскі вымушаны быў на наступны дзень асабіста прынесці яму выбачэнні[303].

Акрамя ўнутраных канфліктаў, нацыянальны рух у Заходняй Беларусі знаходзіўся пад значным ціскам польскіх уладаў, якія пераследавалі беларускіх актывістаў, схілялі іх да супрацоўніцтва і ў поўным аб'ёме выкарыстоўвалі палітыку *«падзяляй і ўладар»*. Радыкалізацыя руху ў пачатку 1920-х гг., што была адказам на ўзмацненне паланізацыі і нявырашанасць эканамічных праблем, прымусіла польскія ўлады шукаць у беларускіх колах людзей, здольных паслядоўна праводзіць праўрадавую палітыку, не адмаўляючыся пры гэтым ад сваёй беларускасці. Позірк палякаў быў кінуты ў бок Макара Касцевіча, які на той час не меў сталага заробку і падвяргаўся астракізму з боку былых паплечнікаў, што перашкаджала рэалізоўваць яго журналісцкія здольнасці. Прыблізна вясной 1924 г. яму было прапанавана стаць рэдактарам беларускай праўрадавай газеты, але ён адмовіўся. Далейшыя падзеі, аднак, прымусілі яго змяніць гэтае рашэнне. У ноч з 30 красавіка па 1 мая 1924 г. у Вільні адбыліся ператрусы і прэвентыўныя арышты беларускіх дзеячаў левараддыкальнай і нацыянальна-дэмакратычнай арыентацый. Улады спрабавалі такім чынам запалохаць беларусаў і зменшыць напружанасць у горадзе падчас першамайскага свята. Сярод арыштаваных быў і Макар Касцевіч, які трапіў у Лукішскую турму[304]. Там, магчыма, яму яшчэ раз агучылі згаданую прапанову. Для такой дзейнай асобы, як Касцевіч, ізаляцыя ў турэмным астрогу была сапраўднай катаргай, таму ўлады атрымалі на гэты раз згоду. Іншай прычынай прыняць урадавую прапанову было жаданне Касцевіча мець моцны журналісцкі рэсурс дзеля помсты Антону Луцкевічу.

Дачыненні Макара Касцевіча з польскімі ўладамі ў цэлым мелі даволі супярэчлівы характар, і гэтая старонка біяграфіі пісьменніка патрабуе больш грунтоўнага навуковага аналізу. У 1928 г. кіраўнік аддзела бяспекі Віленскага ваяводства Александровіч падрыхтаваў для ваяводы ліст пад грыфам *«тайна»* з характарыстыкамі некаторых беларускіх дзеячаў, у тым ліку і Макара Касцевіча. Між іншага, польскі чыноўнік, абапіраючыся на канфідэнцыяльную інфармацыю, пазначыў, што Касцевіч у 1923–1924 гг., калі жыў у в. Баброўня, супрацоўнічаў з II аддзелам польскага Генштабу — польскай

---

[301] Lietuvos centrinis valstybės archyvas (LCVA). F. 281. Ap. 2. B. 32. L. 67.
[302] Архівы БНР. Т. 1. Кн. 2. С. 1505.
[303] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 270. Л. 5–6.
[304] Водгукі 1-га мая. У Вільні // Сын Беларуса. № 1. Вільня, 1924. С. 1.

ваеннай выведкай[305]. Магчыма, ён як былы афіцэр польскага войска мог падаваць інфармацыю аб дзейнасці ў Гродзенскім павеце пракамуністычных структур. Прыведзеныя сведчанні Александровіча, безумоўна, патрабуюць дадатковай верыфікацыі, бо ў іншых частках характарыстыкі Касцевіча ён дапускаў некаторыя біяграфічныя недакладнасці. Тым не менш ангажаванасць пісьменніка ў беларускі паланафільскі рух, ангажаванасць, хутчэй за ўсё, не зусім шчырая — факт на сёння ўжо даказаны.

У 1924 г. у Заходняй Беларусі прапольскую ці паланафільскую дзейнасць сярод беларусаў пачала праводзіць культурна-асветніцкая структура пад назвай Беларускі грамадзянскі сход (арыгінальная назва — Беларускае грамадзянскае сабраньне, далей — БГС). Гэтая арганізацыя была створаная ў Вільні яшчэ ў 1911 г. як інтэлігенцкі клуб. Да 1924 г. яна правяла даволі значную працу: зладзіла каля 50 спектакляў, беларускія канцэрты, вечарыны, выдала шэраг беларускіх кніг[306]. У гэты перыяд дзеячы БГС не выяўлялі сімпатый да паланафільства, а наадварот, актыўна супрацоўнічалі з беларускімі групамі нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі. Аднак у красавіку 1924 г. унутры Беларускага грамадзянскага сходу ўзнікла г. зв. *«польская партыя»*, на чале якой стаяў Станіслаў Валейша. Згодна з паведамленнямі віленскай паліцыі, ён прапанаваў уладам пачаць паланафільскую акцыю сярод беларускага насельніцтва і арганізаваць выданне беларускай прапольскай газеты, на што атрымаў згоду і фінансавую падтрымку[307]. У чэрвені 1924 г. пад эгідай БГС пачала выходзіць газета «Грамадскі голас», якая выяўляла сваю прыхільнасць да польскай дзяржаўнасці. Менавіта для яе рэдагавання і быў пакліканы дасведчаны журналіст Макар Касцевіч, які стаў фактычным

[305] LCVA. F. 53. Ap. 23. B. 1784. L. 21.
[306] Беларускае Грамадзянскае Сабраньне // Беларускі каляндар на 1925 г. Вільня, 1925. С. 84.
[307] LCVA. F. 89. Ap. 5. B. 46. L. 41.



рэдактарам выдання і адным з яго галоўных аўтараў. Намінальным рэдактарам «Грамадскага голасу» быў стары беларускі актывіст Язэп Салавей[308]. Газета выступала за нацыянальную і класавую згоду жыхароў «усходніх крэсаў», крытыкавала дзейнасць Беларускага пасольскага клуба ў польскім парламенце, іншых леварадыкальных і нацыянальна-дэмакратычных беларускіх арганізацый, якія выступалі ў апазіцыі да польскіх уладаў; асабліва на яе старонках даставалася Антону Луцкевічу. У гэтым рэчышчы Касцевіч таксама ў жніўні 1924 г. выдаў аднаднёўку «Абух», дзе назваў Луцкевіча *«чысцейшым аферыстам, які засыпаны бальшавіцкімі грашыма, кідае ў народ дзікую класавую нянавісць»*[309].

Макара Касцевіча, чалавека, які прыйшоў у беларускі нацыянальны рух на хвалі Лютаўскай рэвалюцыі і быў часткай *«пакалення 1917 года»* з яго сацыялістычным і народніцкім пафасам, наўрад ці можна было назваць перакананым прыхільнікам паланафільскіх ідэй. У 1923 г. віленская паліцыя ў сваім рапарце называла Касцевіча *«дзеячам вядомым як цвёрды беларускі незалежнік… па перакананнях — левы»*[310]. Хутчэй асабістыя рахункі з Луцкевічам, які фактычна выкінуў пісьменніка на ўзбочыну грамадскага жыцця, а таксама пошук заробку прывялі дзеяча ў паланафільскі лагер. У сваю чаргу, беларускія паланафілы не карысталіся асаблівай падтрымкай заходнебеларускага насельніцтва, а наадварот, выклікалі небеспадстаўныя падазрэнні ў супрацоўніцтве з польскімі ўладамі і абвінавачанні ў здрадзе ідэалам беларускага нацыянальнага руху. Падобныя адносіны пачалі выяўляцца і ў дачыненні да Касцевіча, асабліва тады, калі ён стаў не толькі рэдактарам паланафільскага выдання, але і арганізацыйна ўключыўся ў паланафільскую дзейнасць. У лістападзе 1924 г. намаганнямі

[308] LCVA. F. 15. Ap. 2. B. 380. L. 100.
[309] Годзі маўчаць! // Абух. Вільня, 20 жніўня 1924. С. 1.
[310] Буднік, І. Імя яго паўстае з забыцця. С. 173–174.

прыхільнай палякам Часовай беларускай рады ў Вільні было створана культурна-асветніцкае таварыства «Прасвета», старшынёй якога абраны Макар Касцевіч[311]. Паводле статуту, таварыства мелася ажыццяўляць шырокую адукацыйную і асветніцкую дзейнасць: закладаць і ўтрымліваць школы розных узроўняў, курсы для настаўнікаў, прытулкі, адкрываць бібліятэкі, распаўсюджваць вучэбную літаратуру, ладзіць лекцыі і аматарскія пастаноўкі[312]. Аднак уся гэтая актыўнасць павінна была адбывацца ў межах лаяльнасці да польскай дзяржавы. Заснавальнікі таварыства разглядалі яго як своеасаблівую альтэрнатыву Таварыству беларускай школы, дзейнасць якога, на думку паланафілаў, была занадта радыкальнай[313]. Але ў структурным плане «Прасвета» вельмі значна саступала ТБШ, бо не здолела стварыць разгалінаваную сетку сваіх гурткоў на правінцыі.

Неўзабаве 1 студзеня 1925 г. кіраўнік новай арганізацыі адправіўся ў Варшаву, каб дамагчыся некаторых саступак для беларускага насельніцтва ў галіне асветы. У польскай сталіцы Касцевіч меў сустрэчу з шэрагам высокапастаўленых польскіх чыноўнікаў, у тым ліку з намеснікам старшыні польскага ўраду Станіславам Тугутам і міністрам публічнай асветы і веравызнанняў. Падчас аўдыенцый абмяркоўвалася праблема арганізацыі ў Вільні беларускіх настаўніцкіх курсаў, якія ўлады планавалі адкрыць на польскай этнічнай тэрыторыі — у горадзе Быдгашч[314]. Паездка Касцевіча ў Варшаву выклікала адмоўную рэакцыю беларускіх незалежніцкіх колаў, што адразу адлюстравалася на старонках прэсы[315]. Тым не менш яму ўдалося дамагчыся пераводу беларускіх

[311] Тутэйшая хроніка. Т-ва «Прасьвета» // Грамадзкі голас. № 53. Вільня, 1924. С. 4.
[312] Статут Беларускага Таварыства «Прасьвета». Вільня, 1927. С. 3–4.
[313] LCVA. F. 51. Ap. 17. B. 7. L. 5.
[314] Дэлегацыя ад Т-ва «Прасьвета» ў Варшаве // Грамадзкі голас. № 1. 1925. С. 2–3.
[315] «Дуэт» (выступленьне Алексюка і Косьцевіча). С. 3.



настаўніцкіх курсаў у Вільню, і яны адкрыліся паводле загаду міністэрства народнай асветы ў чэрвені 1925 г. для 40 слухачоў[316].

Праўрадавая рыторыка, якую агучвалі прадстаўнікі беларускіх паланафілаў, лічылася непрымальнай і нават варожай для беларускіх левардыкальных і нацыянальна-дэмакратычных сіл. Беларускі пасольскі клуб у польскім парламенце і блізкі да яго віленскі Беларускі нацыянальны камітэт крытыкавалі паланафільства не толькі на словах, але і рабілі некаторыя практычныя меры ў барацьбе са сваімі канкурэнтамі. У 1925 г. у асяроддзі беларускіх парламентарыяў узнікла ідэя раскалоць беларускі паланафільскі рух і, такім чынам, цалкам яго дэзарганізаваць. Меркавалася, што частка прыхільнага палякам актыву павінна была выйсці са сваіх арганізацыі, пераехаць у Гродна і стварыць «Беларускую Раду», якая знаходзілася б у блізкіх дачыненнях з Беларускім пасольскім клубам. У Гродна планавалася таксама распачаць выданне беларускай газеты, апазіцыйнай да польскіх уладаў, рэдактарам якой павінен быў стаць Макар Касцевіч[317]. Рэалізацыяй плана і стварэннем новай палітычнай структуры павінен быў займацца беларускі дэпутат польскага сойму, сябра Беларускага пасольскага клуба Антон Аўсянік. З гэтай нагоды ён правёў некалькі перамоў з Касцевічам, якому абяцаў фінансавую падтрымку і гарантыю аднаўлення добрай рэпутацыі ў беларускім нацыянальна-дэмакратычным асяроддзі, калі той выйдзе з паланафільскіх арганізацый. Па словах Аўсяніка, беларускія паслы сойму гатовы былі дараваць Касцевічу яго ранейшыя «грахі» і супрацоўніцтва з паланафіламі[318].

Аднак «місія Аўсяніка» па расколе беларускага паланафільства не дасягнула канчатковай мэты, хаця Макар Касцевіч са свайго боку выканаў пункты дамовы.

[316] Беларускія курсы для вучыцялёў // Іскра. № 6. Вільня, 1925. С. 4.
[317] LCVA. F. 15. Ap. 2. B. 232. L. 75.
[318] LCVA. F. 15. Ap. 2. B. 232. L. 76.

У чэрвені 1925 г. ён пакінуў пасаду старшыні таварыства «Прасвета» і перастаў супрацоўнічаць з рэдакцыяй «Грамадскага голасу»[319]. Пры гэтым стаць рэдактарам апазіцыйнай газеты ў Гродна яму не было наканавана — зноў у гэтым кірунку пачаў рабіць перашкоды Антон Луцкевіч. Больш за тое, у канцы чэрвеня 1925 г. адбыўся раскол у самім Беларускім пасольскім клубе, са складу якога выйшлі левыя і левaрадыкальныя дзеячы на чале з Браніславам Тарашкевічам. У гэтых умовах ідэя стварыць новы цэнтр беларускага руху ў Гродна на чале з Касцевічам не была ўжо актуальнай. Ён зноў застаўся без сталай працы, а дзверы ў рэдакцыі беларускіх газет для яго былі зачыненыя. Цікава, што польскія ўлады, якія мелі свае крыніцы ў беларускім руху, лічылі «місію Аўсяніка» не чым іншым, як спецыяльна спланаванай акцыяй па абясшкоджванні Касцевіча і вывадзе яго з палітычнай гульні, за якой стаяў уласна Луцкевіч. *«У выніку Касцевіч апынуўся на вуліцы, бо прапанаваныя яму пасады… ў філіі Беларускага нацыянальнага камітэту ў Гродна былі толькі манеўрам»*, — падкрэслівалася ў рапарце польскіх спецслужбаў[320].

Каб пазбегнуць залежнасці ад палітычных густаў рэдакцый газет і друкаваць свае творы незалежна ад палітычнай кан'юнктуры і асабістых непрыязняў, Макар Касцевіч прыдумаў хітры ход. З 1924 г. літаратар пачаў з віленскай беларускай прэсай гульню ў псеўданімы. Менавіта ў гэтым годзе ў беларускіх выданнях рознай палітычнай арыентацыі сталі з'яўляцца артыкулы на літаратурна-крытычныя тэмы, падпісаныя *«Светазарам»* ці *«Язэпам Светазарам»*[321]. Прыналежнасць гэтага псеўданіма Касцевічу не выклікае сумненняў, бо, па-першае, Светазар часта закранаў у сваіх тэкстах праблемы перакладу замежнай літаратуры на беларускую мову і сам гэта практыкаваў, што было ўласціва менавіта для творчасці Касцевіча, а па-другое, у тэкстах Светазара было шмат рэкламы твораў Касцевіча, у тым ліку падпісаных іншым псеўданімам — Краўцоў[322]. Дзякуючы гэтаму літаратар змог без перашкод друкаваць свае артыкулы і нататкі ў розных беларускіх перыядычных выданнях на працягу 1924–1927 гг. — у паланафільскіх газетах «Беларускае слова», «Беларуская хата», нацыянальна-дэмакратычных — «Сялянская ніва», «Крыніца» і нават у левых выданнях, напрыклад у газеце «Змаганне»[323]. А каб яшчэ больш заблытаць рэдакцыі газет і *«замясці сляды»*, Касцевіч пад адным псеўданімам стаў крытыкаваць самога ж сябе пад іншым псеўданімам. Напрыклад, у апублікаваным у «Беларускім слове» ў сакавіку 1927 г. лісце ў рэдакцыю Касцевіч-Светазар абураўся публіцыстычнай дзейнасцю Касцевіча-Краўцова і прыніжаў яго перакладчыцкія здольнасці[324]. Рэдактарам заходнебеларускіх газет так і не прыйшло ў галаву, што Язэп Светазар і Макар Краўцоў — адна і тая ж асоба.

Акрамя публікацый амаль ва ўсіх заходнебеларускіх газетах, Макар Касцевіч з 1926 г. пачаў супрацоўнічаць з рэдакцыяй левага сатырычнага беларускага часопіса «Маланка». Ён выконваў функцыі карэктара часопіса, а таксама публікаваў на яго старонках некаторыя свае творы[325]. Збольшага пісьменнік друкаваў у часопісе з'едлівыя фельетоны, падпісаныя псеўданімамі *«Звончык»* ці *«Picolo»*, у якіх, напрыклад, высмейваліся былыя паплечнікі Касцевіча па паланафільскім руху.

Сітуацыя выглядала зноў сюррэалістычна: Касцевіч-Звончык пісаў у «Маланцы» гнеўны фельетон пра

[319] LCVA. F. 15. Ap. 2. B. 232. L. 76–77.

[320] Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Мінск, 2009. С. 307.

[321] Гл. напр.: Сьветазар. Што перакладаць на беларускую мову? // Змаганьне. № 2. Вільня, 1924. С. 2-3.

[322] Гл. напр.: Сьветарар Язэп. Што чытаць па беларуску? // Студэнцкая думка. № 1. Вільня, 1924. С. 27.

[323] Махнач, Т. Бібліяграфія Макара Краўцова. С. 417.

[324] Сьветазар, Я. Пісьмо ў рэдакцыю // Беларускае слова. № 8. Вільня, 1927. С. 4.

[325] Kościewicz, M. List do redakcji // Kurjer Wileński. № 138. Wilno, 1926. S. 4.



✦ *Карыкатура на Макара Касцевіча ў беларускім сатырычным часопісе «Маланка». 1927 г. Мастак Язэп Горыд*

рэдактара паланафільскай газеты «Беларускае слова» Тодара Вернікоўскага і паралельна Касцевіч-Светазар публікаваў у гэтай жа газеце свой літаратурны твор[326]. Разам з фельетонамі ў «Маланцы» таксама друкаваліся вершы літаратара даволі радыкальнага пасылу. У прыватнасці, за верш «Смейся, браце!», падпісаны псеўданімам *Макар Краўцоў,* нумар часопіса быў канфіскаваны польскімі ўладамі[327]. Супрацоўніцтва з гэтым левым выданнем, хутчэй за ўсё, стала прычынай арышту Касцевіча і нядоўгага ўтрымання ў Лукішскай турме ў канцы 1926 г., што якраз супала з пераследаваннем беларускіх дзеячаў, арганізацыйна звязаных з дзейнасцю Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ)[328]. Пакуль пісьменнік знаходзіўся ў турме, яго жонку Ганну матэрыяльна і маральна падтрымлівала Зоська Верас на просьбу беларускага дэпутата сойму Сымона Рак-Міхайлоўскага[329].

Пасля выхаду з турмы ў 1927 г. Макар Касцевіч зноў зблізіўся з беларускім паланафільскім рухам, а дакладней, з новай групай беларускіх паланафілаў, якая ўтварылася ў гэты час. Забарона дзейнасці БСРГ у студзені 1927 г. і арышт яе лідараў выклікалі пэўнае абурэнне ў беларускім грамадстве ды прымусілі ўрад зрабіць шэраг захадаў па змяншэнні напружанасці ў асяроддзі

[326] Гл. напр.: Звончык. Спракуджаны // Маланка. № 10. Вільня, 1926. С. 4.

[327] Маланка. № 6. Вільня, 1926. С. 1.

[328] Гесь, А. Краўцоў Макар. С. 254.

[329] Верас, З. Я помню ўсё: успаміны, лісты. С. 74.



беларускай інтэлігенцыі. Адным з такіх крокаў было выданне новага праўрадавага часопіса на беларускай мове, рэдактарам якога павінен быў стаць вядомы дзеяч Францішак Умястоўскі, што стаяў ля вытокаў беларускай журналістыцы і беларускага палітычнага актывізму ў пачатку ХХ ст. У сакавіку 1927 г. свет пабачыў першы нумар штотыднёвага часопіса «Беларускі дзень», з рэдакцыяй якога і пачаў супрацоўнічаць Макар Касцевіч[330]. На старонках гэтага выдання ён, збольшага выкарыстоўваючы псеўданім *Макар Краўцоў*, апублікаваў некалькі сваіх вершаў, біяграфічныя артыкулы пра Ядвігіна Ш., Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, узяў удзел у дыскусіі наконт лацінскага ці кірылічнага шрыфтоў у беларускім правапісе. Увагі заслугоўвае верш «Майму Сінэдрыёну» — ці не адзіны літаратурны адказ Касцевіча на тую крытыку, якая выказвалася многімі беларускімі дзеячамі за яго хістанні ў розныя палітычныя бакі і групоўкі. Сярод іншага, там ёсць такія радкі: «*Пакіньце мне спакой бяз славы / Яе ад вас я не хачу — / Пішу сабе дзеля забавы / За плёткі жартам заплачу*»[331]. Гэтымі словамі аўтар падкрэсліў сваё імкненне да творчасці, да пашырэння беларускага культурнага дыскурсу любымі сродкамі, нягледзячы на тыя палітычныя ўмовы, што вымушалі многіх беларускіх інтэлектуалаў прымаць пэўныя правілы гульні.

Паказальна, што ў рэдакцыю «Беларускага дня» Макар Касцевіч прывёў таксама свайго сваяка і земляка з Баброўні Міхаіла Касцевіча, вядомага на той час паэта Міхася Васілька. Нягледзячы на тое, што малады літаратар быў прыхільнікам левper радыкальных антыпольскіх ідэй, паланафільскі «Беларускі дзень» стаў месцам публікацыі значнай колькасці яго паэтычных

[330] Partje polityczne białoruskie // Informator społeczno-polityczny Województwa Wileńskiego: opracowany przez Wydział Bezpieczeństwa Publicznego Urzędu Wojewódzkiego w Wilnie. Zeszyt 4. Rozdział 3. Wilno, 1927. S. 7–8.

[331] Краўцоў, М. Майму Сінэдрыёну // Беларускі дзень. № 11. Вільня, 1927. С. 3.

твораў, якія не закраналі палітычныя тэмы. Больш за тое, Міхась Васілёк прыняў нават удзел у *«канферэнцыі карэспандэнтаў і прыхільнікаў»* «Беларускага дня», на якой было вырашана арганізаваць на аснове рэдакцыі часопіса новую палітычную арганізацыю — праўрадавую Беларускую радыкальную народную партыю[332]. Аднак усё большае ўцягванне групы Умястоўскага ў палітычныя справы, што безумоўна мела адваротную рэакцыю беларускіх левардыкальных і нацыянальна-дэмакратычных сіл, прымусіла Васілька цалкам парваць з рэдакцыяй часопіса «Беларускі дзень», што ён зрабіў у выглядзе адкрытага ліста ў адну з беларускіх газет на пачатку 1928 г.[333] Невядома, як пасля гэтага складваліся творчыя і асабістыя дачыненні двух літаратараў — выхадцаў з вёскі Баброўня.



✦ *Макар Касцевіч сярод родных. 1930-я гг.*
*Здымак з прыватнага архіва Любові Кароткінай*

[332] В. М. Конфэрэнцыя корэспондэнтаў і актыўных прыхільнікаў «Беларускага дня» // Беларускі дзень. № 32. Вільня, 1927. С. 3–5.
[333] Канец Умястоўшчыны // Думка працы. № 9. Вільня, 1928. С. 3.



Агулам 1920-я гг. аказаліся даволі плённымі ў творчасці пісьменніка. У віленскіх беларускіх выдавецтвах асобнымі кнігамі былі выдадзены пераклады Касцевіча на беларускую мову твораў Аляксандра Купрына («Алеся»), Міхаіла Лермантава («Дэман», «Мцыры»), Уладзіміра Караленкі, Мікалая Рубакіна, Льва Талстога, Мікалая Гогаля, Генрыка Сянкевіча, Марка Твэна. Частка перакладаў твораў рускіх, польскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў была надрукавана ў заходнебеларускай прэсе, у тым ліку пераклад «Дзядоў» Адама Міцкевіча. Таксама Касцевіч быў адным з тых літаратараў, хто стаяў ля вытокаў беларускай літаратурнай крытыкі — у гэты перыяд з-пад яго пяра выйшлі шматлікія крытычныя нарысы творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Максіма Багдановіча, Ядвігіна Ш., Алеся Гаруна, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі і інш., а таксама рэцэнзіі на кніжныя навінкі ў Заходняй Беларусі. Творы пісьменніка былі ўключаны ў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры», складзеную Ігнатам Дварчаніным, публікаваліся ў іншых зборніках паэзіі і прозы тагачасных беларускіх аўтараў.

Малавядомай старонкай яго біяграфіі з'яўляецца супрацоўніцтва ў 1920-я гг. з дзвюма найбольш папулярнымі віленскімі польскамоўнымі газетамі — *«Słowo»* і *«Kurjer Wileński»*. Касцевіч пад яшчэ адным псеўданімам *«K. Smreczyński»* змяшчаў у гэтых выданнях нарысы аб тагачасным беларускім палітычным і культурным жыцці, у якіх адлюстроўвалася дзейнасць розных беларускіх арганізацый, давалася характарыстыка мерапрыемствам і асобным дзеячам нацыянальнага руху[334]. Фактычна чытач гэтых газет глядзеў на беларускі рух вачыма Касцевіча. Падобныя зацемкі давалі неблагі заробак пісьменніку, які доўгі час заставаўся беспрацоўным у Вільні.

[334] Гл. напр.: Smreczyński, K. Nowe drogi polityki białoruskiej // Słowo. № 128. Wilno, 1925. S. 2.

З 1929 г. Макар Касцевіч часова спыніў сваю літаратурна-публіцыстычную дзейнасць, прычынай чаго быў пошук заробку для пражыцця. Зоська Верас так апісвала становішча сям'і Касцевічаў у Вільні ў гэты перыяд: *«Але сапраўды Косьцевічы былі людзі нейкія нежыццёвыя. Ён рэдка калі меў сталую працу. Найчасьцей быў зарэгістраваны як безработны і даставаў невялікую дапамогу. Як ён сядзеў, то жонка жыла ў некага на куце — мела ложак, пастаўлены на кухні. Як Макар Косьцевіч выйшаў з астрогу, то ня мелі дзе дзецца, не было на што наняць кватэру. Але тут ім пашанцавала. На даўнейшай Папоўскай вуліцы нейкі стары расеец меў драўляны дом на 7 кватэраў, а пры ім садок, у панадворку — гаспадарскія будынкі… Пры гаспадарчым будынку ён агарадзіў пакойчык, паставіў печку і пліту і аддаў кватэру Косьцевічам»*[335]. Каб зарабіць на жыццё, цягам некалькі гадоў Касцевіч працаваў на падзённых работах у розных вёсках паўночнай Валыні, у прыватнасці ў Ковельскім павеце. У гэты час ён не губляў сувязяў з беларускай рэчаіснасцю — прынамсі вядома, што ва Украіне выпісваў віленскую газету «Беларускі звон»[336].

У Вільню Макар Касцевіч вяртаецца прыблізна ў 1934 г., і паралельна з гэтым адбываецца яго літаратурнае «вяртанне». Пісьменнік пачаў супрацоўнічаць з віленскім беларускім выданнем «Родны край», якое выходзіла пад кантролем т. зв. групы Луцкевіча-Астроўскага, ці *«беларускай санацыі»*. Гэтая група ўтварылася пасля ліквідацыі БСРГ у канцы 1920-х гг. і выступала за пошук пэўнага кампрамісу з санацыйнымі ўладамі Польшчы дзеля захавання розных беларускіх культурна-асветных установаў. Аднак у 1934 г. у групе адбыўся раскол і яе пакінуў Антон Луцкевіч, што дазволіла Касцевічу друкаваць свае матэрыялы ў «Родным краі». Ён дэбютаваў на старонках гэтай

[335] Верас, З. Я помню ўсё: успаміны, лісты. С. 74.

[336] Краўцоў, М. Памяць аб праф. Карскім // Родны край. № 5. Вільня, 1936. С. 2–3.



газеты з нататкай «Гаруем, але расцем», якая адлюстроўвала яго ўражанні пасля наведвання праз доўгі час роднай вёскі Баброўня[337]. У нататцы прыводзяцца цікавыя апісанні штодзённага жыцця заходнебеларускай вёскі ў сярэдзіне 1930-х гг. з п'янствам моладзі, паланізацыяй і звужэннем беларускай нацыянальнай актыўнасці. Надалей Касцевіч апублікаваў у газеце шэраг невялікіх апавяданняў і перакладаў рускіх і ўкраінскіх аўтараў, некалькі ўласных успамінаў, у тым ліку пра пісьменніка Уладзіміра Жылку і акадэміка Яўхіма Карскага, а таксама крытычныя рэцэнзіі на зборнікі вершаў Міхася Машары і заходнебеларускія часопісы «Калосьсе», «Маладая Беларусь». Дарэчы, у рэцэнзіі на апошні часопіс аўтар не прамінуў пакрытыкаваць маладога паэта Максіма Танка, падкрэсліўшы, што ў яго вершах адсутнічаюць *«граматыка»* і *«правілы рытму»*, а самі вершы перапоўнены турэмным пафасам[338]. Танк, у сваю чаргу, неўзабаве адказаў на заўвагі ў вершы «Крытык», дзе прыгадаў Касцевічу яго ранейшае супрацоўніцтва з польскімі ўладамі і беларускім паланафільскім рухам, параўнаўшы таго з сабакам, які *«хадзіў на задніх лапках»*[339].

Пры канцы лістапада 1936 г. газета «Родны край» перастала выходзіць з прычыны браку фінансавых сродкаў. Апошняй публікацыяй Касцевіча былі няскончаныя ўспаміны аб падзеях Слуцкага паўстання 1920 г.[340] Зноў пісьменнік застаўся без сродкаў для існавання і магчымасці шырокай літаратурнай дзейнасці. У другой палове 1930-х гг. беларускі друк у Заходняй Беларусі знаходзіўся ў крытычным стане, што было абумоўлена палітыкай польскіх уладаў па звужэнні беларускай актыўнасці.

[337] Краўцоў, М. Гаруем але расьцем // Родны край. № 11. Вільня, 1934. С. 2–3.

[338] Не-стары. З выдавецкае нівы // Родны край. № 4. Вільня, 1936. С. 2–3

[339] Танк, М. Крытык // Наша воля. № 7. Вільня, 1936. С. 3.

[340] Краўцоў, М. У дні Слуцкага Паўстаньня // Родны край. № 17. Вільня, 1936. С. 3.

У 1937 г. была забаронена найбольш папулярная віленская беларускамоўная газета «Беларуская крыніца», практычна зніклі паланафільскія ці левыя выданні. Беларускае друкаванае слова засталося толькі ў фарватары моладзевых ініцыятыў, рэлігійных і інтэлектуальных часопісаў кшталту «Шлях моладзі», «Калосьсе» ці «Хрысьціянская думка». У сакавіку 1937 г. Макар Касцевіч у лісце да свайго пляменніка Платона скардзіўся на цяжкія ўмовы для творчай дзейнасці: *«На жаль, я хоць прафесіяй пісьменнік, нічогам цяпер не пішу. Няма куды. Душная атмасфера дый годзе. Прыйдзецца мусі пераключыцца на іншыя мовы ды шрайбаваць артыкулы ў расейскія ці польскія штодзённікі»*[341]. Дарэчы пляменнік Платон Касцевіч, які быў заможным гаспадаром у в. Баброўня і перакананым прыхільнікам ідэй талстоўскага пацыфізму, часта дапамагаў свайму дзядзьку і яго жонцы фінансава ў канцы 1930-х гг.[342]

Напрыканцы 1930-х гг. Макар Касцевіч у Вільні трымаўся асобна ад розных беларускіх ініцыятыў, яго нельга было заўважыць на беларускіх творчых вечарынах і іншых мерапрыемствах. Адзіным яго інструментам засталася памяць, якую ён і выкарыстоўваў у сваіх нешматлікіх публікацыях у беларускім часопісе «Шлях моладзі» ў 1937–1939 гг. Беларускаму моладзеваму руху неабходна было адчуванне пераемнасці і повязі з мінулым пакаленнем барацьбітаў за беларускую ідэю, і Касцевіч выступаў у гэтым выпадку своеасаблівым аўтарытэтным ментарам, які ўдзельнічаў у знакавых для беларускага руху падзеях. Шмат якія беларускія дзеячы ў 1930-я гг. маглі пакінуць свае разгорнутыя мемуары для новага пакалення беларускіх актывістаў, аднак зрабіў гэта фактычна толькі Касцевіч. У «Шляху моладзі», сярод іншага, былі надрукаваны яго ўспаміны пра вядомага беларуска-

[341] Цыхун, А. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…». С. 16.

[342] Токць, С. Баброўня — вёска паэтаў: да пытання аб генеалогіі сялянскага роду Касцевічаў. С. 21.







✦ *Макар Касцевіч з жонкай Ганнай на вуліцах Вільні. 1937 г. Здымак з аўтографам Макара Касцевіча з прыватнага архіва Любові Кароткінай*

га палітыка перыяду БНР Пётру Крэчэўскага, а таксама некралог памяці былога старшыні Вялікай беларускай рады Вячаслава Адамовіча, які ў беднасці памёр у Вільні ў 1939 г.[343] Кульмінацыяй мемарыяльнай публіцыстыкі Касцевіча можна лічыць яго ўспаміны пра Усебеларускі з'езд 1917 г., надрукаваныя ў «Шляху моладзі» ў 1938 г., дзе апісаны трагічныя падзеі разгону. Гэтая публікацыя застаецца, бадай, адным з самых запатрабаваных эгадакументаў па гісторыі згаданага мерапрыемства і ўвогуле беларускага руху 1917–1918 гг.[344].

Важнай вехай у жыцці беларускіх інтэлектуалаў у Заходняй Беларусі стала дата 17 верасня 1939 г., калі

[343] Краўцоў, М. Пётра Антонавіч Крэчэўскі // Шлях моладзі. № 3. Вільня, 1937. С. 7–11; К. Сьмерць В. Адамовіча // Шлях моладзі. № 5. Вільня, 1939. С. 6.

[344] Краўцоў, М. 20 гадоў назад // Шлях моладзі. № 4. Вільня, 1938. С. 2–5; № 6. С. 2–4.

савецкая армія перайшла ўсходнюю мяжу Польшчы і пачала г. зв. «вызваленчы» паход з мэтай далучэння гэтых зямель да СССР. Многія беларускія нацыянальныя дзеячы, напрыклад кс. Адам Станкевіч, Аляксандр Уласаў, Антон Луцкевіч, станоўча ўспрынялі факт уз'яднання Беларусі, што, у прынцыпе, было адной з галоўных мэтаў іх палітычнай дзейнасці. І Макар Касцевіч прытрымліваўся такой пазіцыі. Больш за тое, яго журналісцкія і пісьменніцкія здольнасці сталі запатрабаванымі ў новых уладаў, аднак, як пасля выявілася, ненадоўга. Касцевіч уладкаваўся на працу карэктарам у адзіную ў Вільні беларускамоўную савецкую газету «Віленская праўда», якая пачала выходзіць з 22 верасня 1939 г.[345] 26 верасня 1939 г. у Вільні адбыўся сход беларускай інтэлігенцыі, у якім бралі ўдзел Антон Луцкевіч, Францішак Грышкевіч, Сяргей Бусел і іншыя прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху. Удзельнікі сходу падкрэслілі цяжкі лёс беларускай культуры ў былой польскай дзяржаве і засведчылі сваю лаяльнасць да новых уладаў[346]. Гэтае мерапрыемства павінна было паказаць саветам жаданне беларускай інтэлігенцыі знайсці сваё месца ў новых умовах і пачаць шырокую беларускую працу, якая раней забаранялася польскімі ўладамі. Нявыключана, што на гэтым сходзе прысутнічаў і Макар Касцевіч.

Аднак спрыяльныя адносіны савецкіх уладаў да беларускай інтэлігенцыі рэзка змяніліся ў адваротны бок. Ва ўмовах даносаў і актыўнай працы органаў НКУС на занятай тэрыторыі пачаліся арышты тых актывістаў, што мелі багатую палітычную біяграфію, асабліва ў рэвалюцыйныя дні 1917–1918 гг. 30 верасня 1939 г., сярод іншых, быў арыштаваны і Макар Касцевіч[347]. На жаль, сёння немагчыма даведацца, пры якіх умовах адбываўся арышт

[345] Клімковіч, А., Сокалаў-Воюш, С. Краўцоў Макар. С. 416.
[346] На сходзе культурна-асветных работнікаў-беларусаў // Віленская праўда. № 4. Вільня, 1939. С. 1.
[347] Касцевіч, М. Баброўня — астравок культурнага адраджэння ў Заходняй Беларусі. С. 145.



і ў чым уласна абвінавачвалі пісьменніка. Яго следчая справа, калі яна ўвогуле існавала, пакуль не выяўлена. Паводле ўскосных сведчанняў, Макар Касцевіч быў закатаваны падчас допытаў у беластоцкай турме недзе ў 1939 г.[348] Жонку пісьменніка савецкая ўлада выселіла з невялікага пакоя, дзе тая раней жыла з мужам у Вільні, пасля чаго яна бадзялася па розных знаёмых у пошуку даху над галавой. Падчас Другой сусветнай вайны Ганна Касцевіч прайшла праз нямецкі канцлагер, пасля вярнулася ў савецкую Вільню і памерла ў адзіноце[349].

Макар Касцевіч пражыў насычанае і неардынарнае жыццё, падобна многім беларускім інтэлектуалам першай паловы XX ст. Ён быў сведкам значных гістарычных падзей — Усебеларускага з'езду 1917 г., станаўлення беларускай дзяржаўнасці, партыйных спрэчак, ці, дакладней, партыйнай «грызні» міжваеннага перыяду, уз'яднання беларускіх зямель у 1939 г. Палітыка была заўсёды побач з Касцевічам, і гэта яшчэ раз пацвярджае той факт, што ў XX ст. беларускі інтэлектуал пастаянна знаходзіўся ў палітычных абдымках, якія імкнуліся заціснуць яго індывідуальнасць. Але дакладна можна сказаць, што Касцевіч-літаратар узяў верх над Касцевічам-палітыкам. Літаратура для гэтага чалавека была галоўнай магчымасцю рэалізацыі сваіх амбіцый і свайго таленту. Дзякуючы творчасці, нягледзячы на палітычныя перакананні і хістанні, ён заставаўся адданым патрыётам беларускай мовы і нацыянальнай ідэі. Вяртанне літаратурнай спадчыны Макара Касцевіча — гэта вяртанне ў першую чаргу прыгожага і моцнага беларускага слова, народжанага з нетраў народнай душы; такога слова, якое патрэбнае сучаснаму беларусу, каб вярнуцца да сваіх каранёў. Як некалі студзёнай зімой 1918 г. Касцевіч напісаў свой «Паварот да Горадна», так сёння, больш чым праз сто гадоў, адбываецца яго *«паварот да Беларусі»*.

[348] Цыхун, А. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…». С. 16.
[349] Верас, З. Я помню ўсё: успаміны, лісты. С. 74.

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК


Адамовіч, Антон 4, 5
Адамовіч, Вячаслаў 93, 146, 207
Александровіч 193, 194
Алесь, настаўнік 155, 157
Аляксееўскі, Канстанцін 88, 161
Аляксюк, Павел 93, 110, 113, 122, 146, 190, 196
Аляхновіч, Францішак 189
Апанас, хлопчык 102
Арсеннева, Наталля 33, 39, 52, 59, 60
Асмалоўскі, Ежы 139
Астрамовіч, Аляксандр (Андрэй Зязюля) 26, 151, 152
Астроўскі, Радаслаў 192, 204
Аўсянік, Антон 114, 197, 198
Багдановіч, Максім 32–34, 38, 40, 42, 52, 61, 66, 153, 201, 203
Багушэвіч, Францішак (Мацей Бурачок) 40, 77
Бадо, Жан Марыс Эміль 100
Бадунова, Палута 97, 102, 122, 135, 183
Байкоў, Мікола 164
Баліцкі, Антон 179
Бальмонт, Канстанцін 154
Баренс, Э. 102
Барычэўскі, Я. 174
Бахановіч, Аляксандр 146
Берсан, Станіслаў 86, 87, 134–136
Блок, Аляксандр 154
Браўдэ, банкір 153
Брукнер, Аляксандр 38
Брусаў, Валер 154
Буднік, І. 178, 179, 195
Буйло, Канстанцыя 33, 38, 39, 49, 50–52, 57–61, 66, 203
Буйніцкі, Ігнат 82
Булак-Балаховіч, Станіслаў 93, 146
Бурбіс, Алесь 96, 97, 114
Бусел, Сяргей 208
Быліна, Янка 40
Бядуля, Змітрок 39
Вазіла, Аляксандр 86, 96
Вальдэмарас, Аўгусцінус 136
Варонка, Язэп 88, 96, 97, 99–102, 107, 109, 112, 114, 115, 121–123, 136, 162, 182–184
Васілёк, Міхась 178, 201, 202
Верас, Зоська 188, 200, 204, 209
Вернікоўская 165
Вернікоўскі, Тодар 23, 122, 123, 165, 200
Вільгельм II 121
Войтанка-Васілеўскі, Віктар 5
Гадлеўскі, Вінцэнт 152
Гайдук, афіцэр 108
Галубовіч, Усевалад 104
Гарадзецкі, Сяргей 154
Гардзіенка, Наталля 5
Гарун, Алесь (Прушынскі, Аляксандр) 21–26, 30, 43, 84, 97, 186, 201, 203
Гаршын, Усевалад 44, 47
Гарэцкі, Максім 4, 50, 176, 177
Гесь, Аляксандра 82, 92, 177, 200
Глякоўскі, Станіслаў 67
Гогаль, Мікалай 203
Гольман, Міхаіл 89, 90
Горны, Аляксандр 176, 183
Горыд, Язэп 200
Гофман, Макс 105, 118
Грыб, Тамаш 5, 97, 99, 122
Грынблат, Якаў 110
Грышкевіч, Францішак 208
Гутман, Мойшэ 98, 103, 106, 120
Дварчанін, Ігнат 203
Дворжэц, Іокель 110
Доўбар-Мусніцкі, Юзаф 107–109, 111, 112, 114
Дубоўка, Уладзімір 33, 38–43, 203
Дудар, Алесь 33, 39
Дулін, А. 87
Дунін-Марцінкевіч, Вінцэнт 40, 44, 48
Духонін, Мікалай 101
Дыла, Язэп 97
Езавітаў, Кастусь 102, 108, 114, 123
Ждановіч, Фларыян 82
Жылка, Уладзімір 4, 31–34, 38–41, 153–159, 203, 205
Жылуновіч, Зміцер 133–135, 165, 174
Зарубовел, Якаў 98
Захарка, Васіль 102, 114, 144
Заяц, Леанард 97, 114, 123
Злобін, Павел 98, 111, 119, 120
Знамяроўскі, У. 17
Ібсэн, Генрык 37
Іваноўскі, Вацлаў 134, 135, 164
Іваноўскі, Юры (Ежы) 135
Ігнатоўскі, Усевалад 164, 167
Кавярдзінскі, Уладзімір 84
Каганец, Карусь 141
Каланіцкі, Барыс 181
Калеснік, Уладзімір 177
Калечыц, Віталь 51, 60
Калмановіч, Маісей 132
Калядка, Лукаш 90, 96
Кандратовіч, Кіпрыян 110, 125
Канчар, Яўсей 86, 89
Караленка, Уладзімір 203
Карахан, Леў 115
Кароткіна, Любоў 180, 188, 202, 207
Карскі, Яўхім 90, 159–174, 176, 204, 205
Карынфскі, Апалон 154
Касцевіч, Агата 179
Касцевіч, Ганна 188, 207, 209
Касцевіч, Макар (Краўцоў, Светазар, Звончык і інш.) 3–5, 7, 11, 91, 97, 102, 136, 176–209
Касцевіч, Мацвей 178, 179
Касцевіч, Міхаіл 178, 180
Касцевіч, Платон 206
Касцевічы, род 178, 179, 206

